


# ПОЛЫМЯ

ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

**11** (1069)

ЛІСТАПАД

**Выдаецца
са снежня 1922 года**

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»



Мінск
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова
«Выдавецкі дом «Звязда»
2018

# *ЗМЕСТ*

## *Дарагія чытачы!*

*Вы трымаеце ў руках незвычайны нумар часопіса «Полымя». Гэта спецыяльны нумар, значная частка якога прысвечаная сеціратуры. Інтэрнэт змяніў шмат якія складнікі нашага жыцця, безумоўна, паўплываў і на літаратурны працэс. Сеціва дало пісьменнікам новую магчымасць ствараць і распаўсюджваць тэксты, актыўна працаваць і аб'ядноўвацца ў адмысловую супольнасць. І гэтая з'ява — сеціратура — як значная частка сённяшняга літаратурнага жыцця не можа заставацца па-за ўвагай літаратурна-мастацкага часопіса.*

*Калі мы пачыналі рыхтаваць гэты нумар, то найперш ставілі перад сабой два пытанні: «Што ёсць беларуская сеціратура?» і «Каго з аўтараў мы прадставім чытачам?» Выбіраючы творы, вырашылі засяродзіцца на прозе і трох пісьменніках. Два з іх — Віктар Шніп і Уладзімір Сцяпан — добра вядомыя пастаянным чытачам часопіса. І ў азначаным кантэксце мы прапануем новы ракурс успрыняцця іх творчасці, новую оптыку. А ў прыватнасці: асэнсаваць, як запіс з фэйсбука пераўтвараецца ў літаратурны твор. Варта адзначыць, што прыхільнікі аднаго і таго ж мастацкага прыёму (мантаж тэксту з кароткіх запісаў, што перыядычна выкладаюцца ў інтэрнэт) Віктар Шніп і Уладзімір Сцяпан ніколі не апыналіся са сваімі сеціратурнымі творамі побач на старонках часопіса, і таму гэтым разам ёсць цудоўная магчымасць паглядзець на рознабаковасць новага жанру.*

*Яшчэ адзін аўтар — Таня Скарынкіна — новае імя для нашых чытачоў. У сеціве шырока прадстаўлена яе паэзія і проза. Адметнасць эсэ Тані Скарынкінай — непаўторны аўтарскі стыль, шмат у чым заснаваны на асаблівых стасунках пісьменніцы з будзённасцю, яе паэтызацыі ды містыфікацыі: такі сабе смаргонскі магічны рэалізм.*

*Літаратура, што паўстае ў інтэрнэце, прыцягвае ўвагу не толькі чытачоў, але і навукоўцаў, літаратуразнаўцаў, крытыкаў. Мы не маглі не звярнуцца да іх меркаванняў. У рубрыцы «Навуковыя публікацыі» Ірына Шаўлякова-Барзенка прапануе грунтоўны панарамны погляд на беларускую сеціратуру і прадстаўляе чытачам шэраг цікавых літаратурных праектаў. А малады крытык Арына Гардзей у больш адвольным фармаце спрабуе прааналізаваць «феномен Горвата».*

*Прапануючы вам, дарагія чытачы, нашую спробу асэнсавання беларускай сеціратуры, маю шчыры спадзеў, што нумар вас зацікавіць ды адкрые нешта новае.*

***Алена МАЛЬЧЭЎСКАЯ***



**Віктар ШНІП**

# ЗАЎТРА БЫЛА АДЛІГА-5

*Дзённікавы раман паэта*

## Жнівень

*

*1.08.2016.* На стале камп'ютар, які не працуе, як пустая лядоўня на кухні…

*

*2.08.2016.* З Міёнай а шостай раніцы выйшлі на шпацыр. Пахаладала. Пахне восенню. Ходзячы па Мухлі, напаткаў радкі:

у кроплях вінаграднае лазы
хаваецца шчаслівае святло
адыходзячага лета
якому стаць віном

*

*2.08.2016.* Праходзячы каля пошты, убачыў, як адтуль выйшла маладая манашка. Яна ўсміхалася і прыцiскала белы канверт да грудзей. І была яна як чорны анёлак са светлай весткай…

---

***Шніп Віктар Анатольевіч*** *нарадзіўся 26 сакавіка 1960 года ў вёсцы Пугачы Валожынскага раёна Мінскай вобласці. Скончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум (1979) і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве (1987). Працаваў у часопісе «Беларусь», у газеце «Наша слова». З 1995 па 2004 год быў намеснікам галоўнага рэдактара і галоўным рэдактарам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Цяпер — галоўны рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура».*

*Аўтар кніг паэзіі і прозы «Гронка святла» (1983), «Пошук радасці» (1987), «Шляхам ветру» (1990), «На рэштках Храма» (1994), «Выкраданне Еўропы» (1996), «Чырвоны ліхтар» (2000), «Воўчы вецер» (2001), «Інквізіцыя» (2002), «Выратаванне атрутай» (2003), «Беларускае мора» (2004), «Балада камянёў» (2006), «Страла кахання, любові крыж» (2008), «Проза і паэзія агню» (2010), «Пугачоўскі цырульнік» (2013), «Сабачыя гісторыі» (2013), «Тутэйшая туга» (2014), «Першы папяровы снег» (2014), «Заўтра была адліга» (2015), «Трава бясконцасці» (2018) і інш.*

*Лаўрэат прэміі імя Уладзіміра Маякоўскага (1987), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2007), спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у намінацыі «Мастацкая літаратура» (2008).*

*

*3.08.2016.* Сяджу, як шляхціц, у фатэлі, а побач каля ног ляжыць аўчарка. За спінай шафы з кнігамі, а перада мной на сцяне карціны. Нікуды не трэба спяшацца — я ў адпачынку. На вуліцы чуюцца вясёлыя крыкі дзяцей. Выходжу на балкон. Каля пад'езда на лаўцы сядзіць сусед Дзіма, які, убачыўшы мяне, пытаецца: «Ці ёсць жыццё на Марсе?»

*

*4.08.2016.* У сеціве з'явілася інфармацыя: «Некалькі дзясяткаў тысяч літраў віна вылілася на вуліцы горада Сэта з цыстэрнаў мясцовага гандляра віном на поўдні Францыі (дэпартамент Эро). Паліцыя мяркуе, што гэта акт сабатажу. Віно, якое лілося з цыстэрнаў, што належаць гандлёваму дому Biron S. A., затапіла набярэжную Орыен, дзе знаходзяцца склепы, а таксама суседнія вуліцы. Пасля таго, як затапіла падземныя паркоўкі, у ноч на 3 жніўня, мясцовыя жыхары выклікалі выратавальнікаў. Выратавальнікам удалося справіцца з алкагольным патопам і ачысціць праспект ад віна за паўгадзіны.

Па дадзеных тэлеканала France 3, адказнасць за інцыдэнт на сябе ўзяў Рэгіянальны камітэт вінаградарскага руху (CRAV), вядомы падобнымі акцыямі пратэсту супраць закупкі Францыяй віна з Іспаніі па заніжаных коштах». А нашы вуліцы па некалькі разоў за лета затапляюцца дажджамі…

*

*5.08.2016.* На Мухлі з самага ранку сядзяць пенсіянеры і ловяць рыбу амаль цэлы дзень, а іх жонкі сядзяць у чэргах у паліклініках…

*

*5.08.2016.* У кватэру праз расчынены балкон залятаюць мухі і камары. Многія з іх у першы і апошні раз, бо ты маеш кіпу газет, з якімі палюеш на крылатых няпрошаных гасцей. І Сабака глядзіць на цябе, як на Граждана, з якім нешта адбываецца незразумелае…

*

*8.08.2016.* З Міёнай ходзім на трэніроўкі — на кусачку і на паслушэнства. Шмат што ўжо ў нас атрымоўваецца, а самае галоўнае — Міёна на трэніроўкі бяжыць, як першакласнік у школу, які яшчэ не ведае, што яго чакае далей…

*

*9.08.2016.* Часу, як кавы ў філіжанцы, заўсёды не хапае…

*

*10.08.2016.* Прачытаў Ціхана Чарнякевіча «Пташнікаў: напачатку і напрыканцы». Напісана з любоўю да нашых класікаў-празаікаў, якія яшчэ нядаўны былі жывымі і з якімі я меў шчасце і гонар кантактаваць. Прачытаў Ціхана і закарцела перачытаць апавяданні Пташнікава, Адамчыка і Стральцова. Абавязкова перачытаю, бо пасля прачытання іхніх твораў хочацца, нягледзячы на самоту, жыць на гэтай зямлі, бо Тут тварылі Яны…

*

*10.08.2016.* Рыхтуем кніжку пра акторку Марыю Захарэвіч, якая выйдзе ў серыі «ЖЗЛБ». Укладальніца выдання Соф'я Жыбулеўская, распавядаючы

пра змест кнігі, сказала, што Захарэвіч у свой час сябравала з Уладзімірам Караткевічам, і ён прапаноўваў ёй выйсці за яго замуж, але тая адмовіла, бо не захацела звязваць свой лёс з чалавекам, які любіць выпіць…

***Ружы***

*11.08.2016.* Шукаючы творы на Нацыянальным паэтычным партале «Вершы.ru», каб іх скарыстаць для тэматычнай імпрэзы, Людміла натрапіла на мой верш «Ружа», які быў напісаны гадоў дваццаць таму і надрукаваны ў кнізе «Балада камянёў» у 2006 годзе:

Ружа застыглы выбух святла
Да якога злятаюцца пчолы
І збіраюць у ім салодкае золата
Ружа чырвоны ліхтар
На зялёнай вуліцы саду
Дзе на яблынях спее спакуса
Ружа гэта пацалунак анёла
Першы і апошні
І цвіце ружа
Як водбліск зоркі Венеры
І я праходзячы ля ружы
Праходжу як ля варотаў у рай

Пад вершам пазначана, што гэты твор напісаў Анатоль Сыс. У Сыса ёсць «Ружа», якая пачынаецца: «Маё жыццё — гняздо з калючых руж. // Не Беларусь — маё жыццё Радзіма. // О, Божа-мазахіст — і я, бы вуж, дзяру // з сябрамі скуру каля Рыма…» Словам, у кожнага з нас свае ружы і яны вельмі розныя…

*

*11.08.2016.* Вечарам прыехаў Паша, і мы разам з ім і Веранікай завезлі напоі ў кавярню «Праспект», дзе заўтра а 19 гадзіне адбудзецца вяселле. Толькі а 9 патэлефанаваў Павел Ляхновіч, які сябруе з камандзірамі пагранічнай заставы, дзе служыць наш Максім, і паведаміў, што ўсе дакументы падпісаны і наш сын апоўначы выязджае з Пінска. Крыху пазней патэлефанаваў і сам Максім. Задаволены, што едзе дадому. Пусцілі яго на трое сутак. У часць трэба вярнуцца ў нядзелю да 22 гадзін.

*

*12.08.2016.* З Міёнай на Мухлі былі а палове шостай раніцы. Доўга не гулялі, бо ў 6.02 з Пінска прыходзіць цягнік, на якім прыязджае Максім. Мы пайшлі насустрач яму, але, на жаль, не па той дарозе, кудой ён спяшаўся дадому. А палове сёмай Максім патэлефанаваў. Ён стаяў каля пад’езда і, даведаўшыся, што мы яго чакаем на аўтобусным прыпынку, скіраваўся да нас. Адразу ж пасля размовы па тэлефоне я сказаў Міёне, што прыехаў Максім. Яна тут жа сарвалася з месца і пацягнула мяне дадому. Здалёку ўбачыўшы сына, я спусціў Міёну з павадка, і малая паляцела да Максіма як на крылах…

*

*13.08.2016.* Учора ў 23.12 у фэйсбуку Ігар Гайшун запытаўся: «Назіраў толькі што ў небе касяк свяцяшчыхся аб’ектаў. Можа, хто яшчэ бачыў? Што гэта магло быць?» Адказаць на гэтае пытанне магу я. Учора наша Вераніка выйшла замуж, і на вяселлі ў гэты час, пра які згадвае спадар Ігар, мы запусцілі ў начное неба паветраныя гелевыя шары са светладыёдамі…

***Жэня і Яўген***

*14.08.2016.* На вяселлі, калі госці з боку жаніха і нявесты пачалі знаёміцца паміж сабой, да мяне падышоў хлопец гадоў трыццаці: «Мяне завуць Яўген! Я хачу сказаць вам вялікі дзякуй за беларускую мову! У школе я быў Жэнем і на ўроках беларускай мовы і літаратуры дэманстратыўна размаўляў з настаўніцай толькі па-руску і смяяўся з тых, хто вучыў мову і лічыў яе патрэбнай. Час прайшоў, і я стаў Яўгенам. Мне вельмі сорамна за Жэню. Цяпер у мяне ёсць беларускамоўныя сябры, і мне з імі добра. Я стараюся размаўляць з імі толькі на мове, бо наша не горшая, чым іншыя мовы свету…»

*

*15.08.2016.* Самае гіблае месца ў літаратуры — гэта ні паэты і празаікі графаманы, а крытыкі графаманы…

*

*15.08.2016.* Максім расказаў сёе-тое пра службу ў Пінскім памежным атрадзе. Быў выпадак прарыву мяжы на машыне. Парушальнік пасля папераджальных стрэлаў не спыніўся. Памежнікі сталі страляць па колах. Нехта трапіў у колы, а нехта і ў кабіну машыны. Адна з куль засела ў кіроўцы ззаду на ўзроўні патыліцы. Убачыўшы гэта, парушальнік спыніўся. Потым у яго запыталіся: «Чаму не спыняўся, пачуўшы стрэлы?» — «Я думаў, што ў вас халастыя патроны!» — адказаў затрыманы.

*

*16.08.2016.* У траве жоўты ліст ляжыць, нібы хаваецца, бо яшчэ не восень, а ён зляцеў з дрэва…

*

*16.08.2016.* Сястры Валянціне споўнілася 55 гадоў. Яе дзеці Надзя і Сярожа арганізавалі цудоўнае свята ў рэстаране «Амстэрдам». Віншуючы сястру, я ўзгадаў, што да пяці гадоў не ведаў, што ў мяне ёсць сястра, бо з васьмі месяцаў гадаваўся ў бабулі Ганны ў Лягезах. Валін муж Віця папрасіў мяне падрабязней распавесці пра тыя часы. Давялося ў каторы раз дзяліцца ўспамінамі. Людміла і брат Вова даўно ведаюць, што я, жывучы ў бабулі, дзядзьку Ваню і цётку Алю называў татам і мамай. І вось аднойчы, калі я чакаў іх з працы, а іх усё не было і не было, я запытаўся ў цётак, якія праходзілі міма: «А дзе мае бацькі?» Цёткі на перабой адказалі: «У цябе бацькоў няма! Гэтыя бацькі — не твае!» Я доўга плакаў, і калі вярнуліся дадому цётка Аля і дзядзька Ваня, запытаўся, ці праўда, што яны не мае бацькі. «Мы твае родныя дзядзька і цётка. І мама, і бацька ў цябе ёсць, і сястра ёсць! Ты ў наступную нядзелю нікуды з дому не хадзі. Мама і сястра прыедуць у госці!» — прытуляючы да сябе, супакоіла мяне цётка Аля. І ў наступную нядзелю ў Лягезы прыехалі на ровары мама і мая сястра Валя. Распавядаючы пра сваё дзяцінства, я амаль заўсёды чую пытанні: «Навошта цябе мама аддала ў Лягезы? Няўжо так цяжка было гадаваць двух дзяцей?» Мяркуйце самі: «Да нараджэння сястры Валі ў маіх бацькоў не было сваёй хаты. Бацькі ж майго бацькі не вельмі былі задаволеныя нявесткай, бо ў іх была іншая на прыкмеце. Бацькі працавалі, а даглядаць мяне павінны былі дзед і бабуля. Яны ж мяне асабліва не глядзелі. Я часта быў галодны і мокры. І вось восенню праведаць маю маму прыехаў з Лягез у Пугачы яе брат Ваня. Убачыўшы мяне недагледжанага і вярнуўшыся дадому,

ён расказаў сваёй маці, маёй бабулі Ганне пра мяне, сказаўшы, што я магу не перазімаваць. І было вырашана забраць мяне ў Лягезы. І мяне, васьмімесячнага, бабуля Ганна забрала да сябе...» Адным словам, у гэтым годзе споўнілася пяцьдзясят гадоў, як я пазнаёміўся са сваёй роднай сястрой Валяй, якая сёння адзначыла сваё 55-годдзе…

*

*17.08.2016.* Сёння нашай Міёне адзін год. Я некалькі разоў яе віншаваў. Міёна слухала і глядзела на мяне, спрабуючы зразумець, што я такое ёй гавару…

*

*18.08.2016.* Рукапісамі, як мохам, зарастаюць шафы і сталы. І ты корпаешся ў іх, шукаючы заўтрашні дзень нашай літаратуры…

*

*19.08.2016.* Пасля працы час ад часу ўключаю тэлевізар, каб паглядзець, як праходзіць Алімпіяда ў Рыа. У свеце неспакойна, і ў гульнях хапае палітыкі. І, гледзячы некаторыя спаборніцтвы, я ўсміхаюся, бо чамусьці ўспамінаецца фраза з фільма «Здравствуйте, я ваша тетя»: «Я тетушка Чарли из Бразилии, где много-много диких обезьян!» Але гэтая ўсмешка не тычыцца нашых спартоўцаў. Яны ў большасці малайчыны.

*

*20.08.2016.* Мухля затоплена ранішнім туманам. На дрэвах сядзяць вароны. Раса халодная, як ледзяная. Нідзе нікога. Іду з Міёнай, як першабытны чалавек на паляванне, але без зброі і апрануты…

*

*20.08.2016.* З Людмілай ездзілі ў Верхні горад, дзе праходзіў Фестываль украінскай культуры. Адразу ж на плошчы Свабоды сустрэлі Антона Рудака з Дар'яй Латышавай, потым Андрэя Дынько з Наталляй Цярэшчанкай, пазней Глеба Лабадзенку. Паслухалі песні, падзівіліся на танцораў. Акрамя ўсяго, паглядзелі фотавыставу майго земляка Міколы Лінніка «Захавальніца спадчыны», выставу вышыўкі і ручнікоў, літаратуру ўкраінскіх выдавецтваў, кірмаш майстроў народнай творчасці. Хацелі паспытаць украінскую кухню, але ўсюды былі вялікія чэргі, і мы пайшлі ў кавярню «Дэпо», што на ўзбярэжжы Свіслачы. Там у зале было некалькі наведвальнікаў. Адзін малады чалавек сядзеў каля акна, адвярнуўшыся ад залы, і нешта пісаў у блакнот. «Відаць, нейкі пісьменнік. А можа, гэта сам Андрусь Горват, які прыехаў з Прудка, каб падыхаць мінскім дымам і выпіць філіжанку кавы?» — падумаў я, праходзячы каля хлопца. Пасля кавярні мы з Людмілай вярнуліся ў Верхні горад, дзе сустрэлі напачатку мастака Алеся Пушкіна, а потым Наталку Бабіну з дзецьмі, а на адыходзе з плошчы напаткалі Валерыя Мазынскага. Вярнуўшыся дадому, з радасцю ўспаміналі ўбачанае, пачутае і асабліва сустрэчы з творцамі. Я нават сказаў: «Жывучы ў Еўропе, мы паціху ідзём у Еўропу…»

*

*20.08.2016.* Алесь Квяткоўскі, вярнуўшыся ранкам з Валожыншчыны, дзе працаваў і адпачываў з жонкай Вікторыяй Ільінскай, паклікаў мяне ў майстэрню. Месяц таму ён мне паказваў новыя карціны. На адной быў

човен з жанчынай у капелюшы. Човен плыў сярод вады і туману, нібыта сярод усяго сусвету. Я адразу сказаў, што гэта плыве Святлана Алексіевіч. Алесь не запярэчыў. І вось сёння я з Людмілай зайшоў у майстэрню. Паказваючы карціну з жанчынай у чоўне, Алесь паведаміў, што ён даў ёй назву «Святлана».

*

*21.08.2016.* На фотаздымках заўсёды мінулае…

*

*21.08.2016.* У двары пачуліся крыкі — гэта пачала сварку пажылая сямейная пара. На балконы павыходзілі людзі, і двор ператварыўся ў тэатральную сцэну…

*

*21.08.2016.* Іду і бачу, што паблізу Храма сядзіць хлопец з варонай на плячы, як з чорным анёлам. Я дастаў фотаапарат з сумкі і зрабіў некалькі здымкаў. Хлопец не звярнуў увагі на мяне, а варона каркнула, нібы сказала: «Ідзі адсюль!»

*

*22.08.2016.* Прыязджаў Міхась Казлоўскі. Падарыў каталог «Мастакі Маладзечанскага краю», у якім прадстаўлена сямнаццаць творцаў. «Калі б я ўкладаў выданне, то было б надрукавана чалавек трыццаць. Але дзякуй укладальнікам і за гэта!» — сказаў Міхась. Восем мастакоў я добра ведаю, бо яны мае сучаснікі і мы неаднаразова сустракаліся на творчых імпрэзах на Маладзечаншчыне. Разглядаючы рэпрадукцыі карцін, я думаў пра тое, што мы вельмі багатыя на таленты, але мала хто з нас цэніць іх і асабліва, калі яны жывыя. У Маладзечне мастакам было неяк абяцана, што пасля рамонту Цэнтральнай раённай бібліятэкі імя Максіма Багдановіча, будзе створана карцінная галерэя з іх работ. Бібліятэка на рамонце ўжо тры гады, але там спраў непачаты край і пра абяцанае могуць забыцца…

*

*22.08.2016.* Стаю на прыпынку. Чытаю кніжку. Людзі каля мяне праходзяць, як каля слупа, на якім прыклеена нейкая абвестка…

*

*23.08.2016.* Прыснілася Масква. На Краснай плошчы стаіць вялікі трактар «Беларус». Я іду да яго, каб займець працу, бо ў трактары бюро па працаўладкаванні. Чаргі няма. Падбег нейкі хлапчук і прапанаваў пайсці з ім будаваць новы Маўзалей. Я адмовіўся і палез у трактар. Там сядзела вабная дзеўка. Прывітаўшыся, яна спыталася: «Кім ты хочаш працаваць? Можна грузчыкам на могілках. Можна выбракоўшчыкам на макаронай фабрыцы». — «Я хачу быць падмятайлам!» — адказваю. «Добры выбар!» — «Мне трэба закончыць Літінстытут! Можа, там ёсць вакансія?» — «Ёсць! Там нядаўна Андрэй Платонаў звольніўся! Ягоная мятла валяецца без працы!» — кажа дзеўка і выпісвае накіраванне ў Літінстытут…

*

*23.08.2016.* Не па сваёй волі паехаў у Парыж…

*

*23.08.2016.* Да дзесяці гадзін больш за гадзіну з Міёнай гуляў на Мухлі. З намі былі Джэсі, Джэксан, Рокі, Шыма і Гарыныч. Побач праходзілі іншыя сабакі, але гаспадары іх да нас не пусцілі. Над намі час ад часу праляталі качкі і лёталі кажаны. Хапала камароў. Высока-высока ў небе сярод зорак я заўважыў спутнік і якраз тады, калі ён вылятаў з каўша Вялікай Мядзведзіцы. Вылятаў, як кропля вады, прасвечаная сонцам. Сабакі гулялі, а мы размаўлялі пра наша жыццё-быццё. Заўтра з Міёнай ідзём на паслушэнства. Любуючыся зоркамі, я міжволі падумаў, што, магчыма, у гэты ж час наш Максім, ахоўваючы мяжу Беларусі, таксама глядзіць у неба…

*

*24.08.2016.* Днём з паўгадзіны паспіш і дзень, нібыта два дні…

*

*25.08.2016.* Сёння 100 дзён, як нашага Максіма забралі ў войска. Цяпер у яго наперадзе яшчэ 447...

*

*25.08.2016.* Рыба не ловіцца. Грыбы не збіраюцца. Вогнішча не гарыць. І ты сядзіш каля роднай хаты, як каля Ноевага каўчэга…

*

*25.08.2016.* Ён вяртаўся з працы, як з палону…

*

*26.08.2016.* Некаторыя кандыдаты ў дэпутаты выступаюць па тэлевізары, нібыта праходзяць адбор на Еўрабачанне…

*

*27.08.2016.* Больш як месяц не былі ў роднай хаце. Гадзіннік пасля запуску тры разы спыняўся і толькі на чацвёрты ажыў. Падумалася, што яшчэ б пару тыдняў не прыязджалі, дык ён бы зусім спыніўся, як сэрца хаты. На падворку ўсё зарасло травой. Грады таксама ўтравелі. Праўда, у сёлетні сухмень у траве сёе-тое з пасаджанага вырасла і някепска. Пад яблынямі ад яблыкаў зліта. Выглядае, як брукаванка з яблыкаў. Сястра Валя з дачкой разбіраліся з агародам, швагер Віця ім дапамагаў, а я касіў. Касіў доўга. Гадзін пяць. Тэлефанаваў Максім. Ён мяне заўтра чакае ў Пінску. Вяртаючыся ў Мінск, заехалі на Ракаўскія могілкі да бацькоў. Бачылі бусла каля дарогі. Ён павінен быў учора паляцець у вырай, бо кожны год 26 жніўня беларускія буслы пакідаюць родныя мясціны. Чаму не паляцеў? Дома мяне чакала Міёна. Абнюхала ўсе торбы, абкусала мне з радасці ўсе пальцы. А Людміла ў Магілёве…

*

*28.08.2016.* Ездзіў да сына ў Пінск…

Выехаў з Дружнай а восьмай. Кіроўца маршруткі быў вельмі падобны на Андрэя Федарэнку. Такі ж вузкі твар, такі ж падбародак і такія ж негустыя валасы на галаве. Усю дарогу час ад часу ўзгадваўся Андрэй — то мы з ім і Барысам Пятровічам вандруем па родных мясцінах Пятровіча, то мы ў маіх Пугачах ловім рыбу, то рвём на полі кукурузу, а потым праз паўгадзіны дарогі ў Мінск Андрэй заўважае, што ён у кукурузе згубіў гадзіннік. Цяпер, пра-

язджаючы каля таго поля, з усмешкай успамінаю Барысава: «Калі ўжо тут нарасце гадзіннікаў, што пасеяў Федарэнка?» У гэтым годзе расло жыта…

Азярына. Туман. Сярод вады човен. Усё, як на карціне Алеся Квяткоўскага «Святлана»…

Кукуруза высокая і стройная, як на парадзе дасягненняў народнай гаспадаркі…

На полі катушкі саломы. Падумалася пра беларускі марсіянскі пейзаж…

На ўскрайку лесу грыбнік, як лясун…

Шмат сустракаецца людзей на роварах. Раней такога не было. Еўропа…

Абагналі фуру з казахстанскім нумарам. Што яна вязе і куды з такой далечы?

Каля дарогі могілкі, а перад імі два паўкапаніры…

Праехалі кіламетраў дзвесце. На лузе каля дарогі ў высокай балацянай траве белыя чаплі стаяць, як кветкі…

Рэчка Ясельда. Указальнік на Музей Яўгеніі Янішчыц. Хутка будзе трыццаць, як яна пакінула гэты свет — у сорак гадоў. Калі б жыла напачатку 90-х, магла б стаць першай народнай паэткай Беларусі…

Заехаліся ў Целяханы. У свой час у многіх з маіх вясковых сяброў былі лыжы з Целяхан. Яны лічыліся самымі лепшымі. Праўда, ламаліся часта, як і ўсе астатнія…

11 ліпеня на паўдарозе ад Целяхан да Пінска ў лесе, едучы да Максіма на прысягу, мы з Людмілай, Веранікай і Паўлам спыняліся перакусіць. Тады з адной з альтанак да нас выбеглі два сабачкі (чорны і руды). Мы ім давалі есці. Не ўзялі. Відаць, нехта, спыняючыся адпачыць, іх пакарміў ужо. Цяпер я стараўся ўгледзець сабачак з маршруткі. Ці жывыя яны? Не ўгледзеў…

Пінск. Галоўная вуліца да цэнтра горада. Адразу ж кінуўся ў вочы вялікі білборд: «Ритуальные товары. Гробы. Кресты. Венки…» Праехалі далей. Зноў «Ритуальные товары», нібыта ў Пінску людзі толькі і займаюцца тым, што хаваюць і хаваюць сваіх родных…

На Чыгуначным вакзале распытаўся, як дайсці да вайсковай часці. За хвілін дваццаць дабраўся. На прапускным пункце папрасіў паклікаць радавога Максіма Шніпа з мабільнай групы. Сын прыйшоў праз хвілін дзесяць. Спаў. Быў на начным дзяжурстве. Паразмаўлялі да гадзіны. Максім пайшоў на абед, а я па крамах, каб набыць сёе-тое для яго. Сын службай задаволены. У чацвер вярнуўся з мяжы, дзе быў тыдзень. Жылі ў вагончыку. Самі сабе рыхтавалі есці. У адным з начных дазораў на ўкраінскім баку пачулі рух і ўбачылі святло ліхтарыкаў, якія былі скіраваны ў іх бок. Паглядзеўшы ў прыбор начнога бачання, даведаліся, што там паляўнічыя. Аднойчы Максім з напарнікам, ходзячы па глухамані, заблудзіліся. Максім лазіў на дрэва, каб высветліць, дзе яны знаходзяцца і як выйсці на знаёмы шлях. А палове пятай я пайшоў на вакзал. Дадому вяртаўся на вялікім аўтобусе. Ехалі амаль пяць гадзін. Затаміўся. Аднак радасна, бо пабыў у сына і ў размове з ім заўважыў, што хлопец мяняецца — ператвараецца з камп'ютарнага хлапчука ў сапраўднага мужчыну і воіна.

*

*29.08.2016.* Тэлефанаваў Андрэй Федарэнка. Учора бачыў мяне па БТ. Я распавядаў пра кнігу «Заўтра была адліга». Здымалі даўно і гэта быў паўторны паказ. Андрэя ў размове карэспандэнткі са мной зачапіла тое, што яна замест таго, каб сказаць, што гэта была сустрэча з вядомым беларускім паэтам, сказала: «Гэта была сустрэча з вялікім беларускім паэтам Віктарам

Шніпам». Андрэй расказваў і смяяўся, а я слухаў і таксама смяяўся. Павесяліўшыся, пажартаваўшы, пагаварылі пра сур'ёзныя справы і дамовіліся ў хуткім часе сустрэцца.

*

*29.08.2016.* Чым даўжэй жывеш, тым болей бачыш мёртвых…

*

*30.08.2016.* Складаючы першыя кнігі новай серыі «100 вершаў», перачытаў цалкам Пімена Панчанку і Міхася Стральцова. У Стральцова амаль уся сотня залатая, а ў Панчанкі каля пяцідзесяці вершаў, якія можна чытаць і перачытваць, і зачытваць сябрам, каб паслухалі і разам з табой парадаваліся, што ў нашай літаратуры ёсць такія цудоўныя творы. У Стральцова няма вершаў, за якія пры саветах далі б народнага паэта, а ў Панчанкі адсоткаў дзявяноста. Стральцова можна смела ставіць побач з Багдановічам, а Панчанку з Купалам і Коласам. Праз пяцьдзясят гадоў Стральцова будуць чытаць, а Панчанку ўспамінаць… Але, магчыма, я памыляюся...

*

*31.08.2016.* На вуліцы вечар. Ты вяртаешся з працы. Стомлены, галодны і самотны. У небе поўня, як дно куфаля з півам…

### *Нажніцы*

*31.08.2016.* Іду ў школу на першавераснёўскую лінейку. Тыдзень таму бацька мяне пастрыг тупымі нажніцамі, як барана. Я плакаў, а ён стрыг. Яшчэ пару гадоў таму мяне не вельмі хваляваў мой выгляд. Цяпер жа я іду ў сёмы клас. Са мной вучыцца дзяўчына, якой я хачу спадабацца. На мяне, пастрыжанага пад барана, яна і не паглядзіць. На вуліцы сонечна і амаль горача. Я іду ў школу ў шапцы, каб ніхто не бачыў маёй прычоскі. Я не думаю пра вучобу. Я думаю пра тупыя нажніцы, якія наступным летам за некалькі дзён да стрыжкі выкіну ў сажалку. Ды ўсё роўна бацька мяне падстрыжэ, як барана, іржавымі тупымі нажніцамі, якія прынясе з паветкі, дзе яны ляжалі некалькі гадоў без справы…

*

*31.08.2016.* Дзеці ідуць у школу, а ты каля школы прайшоў. І, стоячы на аўтобусным прыпынку, ты доўга глядзеў на іх малых і прыгожых з букетамі. І кожны другі хлопчык быў нечым падобны на цябе малога. І кожная другая дзяўчынка была падобна на тваю колішнюю аднакласніцу, якая табе падабалася. Ты стаяў і глядзеў на сваё мінулае. Міма праходзілі людзі, праязджалі машыны і аўтобусы. Дзеці пайшлі ў школу, а ты каля школы прайшоў…

## Верасень

### *Колас і любоў*

*1.09.2016.* Сто дзесяць гадоў таму ў газеце «Наша доля» вершам «Наш родны край» дэбютаваў у друку Кастусь Міцкевіч, упершыню скарыстаўшы псеўданім Якуб Колас. Сёння з гэтай нагоды ў музеі Песняра адбылася святочная вечарына. Я меў гонар у ёй удзельнічаць. На жаль, людзей было няшмат.

А гадоў пятнаццаць таму 1 верасня коласаўцы дэбют Песняра ў друку адзначалі на плошчы Якуба Коласа. Я некалькі разоў удзельнічаў у тых шматлюдных святочных мерапрыемствах. Потым з плошчы святкаванне перанеслі ў парк імя Максіма Горкага, дзе некалі стаяў дом Коласа. Я там таксама выступаў. Людзей ужо было меней, але нярэдка збіралася пад некалькі соцень. А вось цяпер усё было ў музеі. Святочна, прыгожа, душэўна, з любоўю, але ў чатырох сценах.

Вяртаючыся дахаты па вуліцы Каржа, здалёку ўбачыў пад балконам чатырохпавярховіка міліцэйскі ўазік, некалькі дзясяткаў усхваляваных людзей і чырвона-белую стужку, якой было штосьці адгароджана. Падумаў: «Нехта скончыў жыццё самагубствам…» Падышоў бліжэй. На асфальце вялікая чорная пляма. Міліцыянер складае пратакол. І раптам бачу, што ўсё гэта здымаецца на кінакамеру. І не на адну. «Што за фільм?» — пытаюся ў мужчыны, які трымае ў руках кіпу папер, і чую: «Пра любоў!»

*

*2.09.2016.* На тратуары на вуліцы Каржа, дзе ўчора здымалі фільм пра любоў, засталася вялікая чорная пляма, якая выконвала ролю крыві самагубцы. Я хвілін дзесяць пастаяў непадалёку і паназіраў: старыя, людзі майго ўзросту і маладзейшыя за мяне на гадоў дзесяць пляму абыходзяць, а ўсе маладыя ідуць, нягледзячы, што ў іх пад нагамі…

*

*2.09.2016.* На праспекце Пераможцаў зацвілі бязлістыя каштаны. Прыгажосці аніякай. Кветкі белыя, як смерць…

*

*2.09.2016.* Меў размову з Валянцінам Жданко, Аляксандрам Лукашуком і Міхасём Скоблам. Міхась адразу ж пачаў: «Дык ты, Віця, і далей сцвярджаеш, што ў Панчанкі толькі пяцьдзясят добрых вершаў?!» — «Не! У Панчанкі я выбраў сотню для серыі “100 вершаў”. Можна было і болей!» — адбіўся я. Лукашук сказаў, што прачытаў маю «Заўтра была адліга». Вельмі спадабалася. Год таму ў фэйсбуку быў уражаны «Практыкай», у якой распавядаецца пра выпадак з майго студэнцкага жыцця, калі мы, шаснаццацігадовыя хлапчукі-беларусы, баранілі ў Клецкім раёне ад мясовых бандзюкоў сваіх аднакурснікаў габрэяў. «Гэта ўзровень Быкава!» — падсумаваў сваю пахвалу ў мой адрас Аляксандр. Тут жа Валянцін Жданко дабавіў: «А якія моцныя «Нажніцы» ў апошніх «100 словах»!» Аляксандр узгадаў, як стрыгся ў Празе. У яго спыталі: «Вас стрыгчы пад Гавала ці іначай?!» — «Давайце пад Гавала!» — адказаў Лукашук, думаючы пра былога прэзідэнта Чэхіі. Потым даведаўся, што ў пачатку 20-га стагоддзя ў Празе быў цырульнік Гавал, які рабіў адмысловыя фрызуры.

Міхась чытае маю «Заўтра была адліга»: «Твае запісы, а гэта паўнацэнныя мастацкія творы, нельга чытаць запар. Іх трэба засвойваць па адным кожны дзень. Нядаўна спыніўся на запісе пра Людмілу і цябе, дзе ёсць радок: “Цяпер крыжамі маіх бацькоў мы прыбіты да Ракаўскай зямлі…” Хораша сказана. Глыбока. Прачытаў і ўжо які дзень пераварваю!»

*

*3.09.2016.* Быў на свяце горада. З Дзмітрыем Пятровічам у павільёне «Белсаюздруку» рэкламавалі кнігі «Мастацкай літаратуры». Народу было шмат. Кніг мала. Шкадую, што не змог трапіць на адкрыццё скульптурнай кампазіцыі ства-

ральнікам беларускай нацыянальнай класічнай оперы кампазітару Станіславу Манюшку і драматургу Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу, якая была ўсталявана ў скверы каля ратушы на плошчы Свабоды. Без настрою зайшоў у краму абутку «Мегатоп», каб па просьбе сына набыць добрага гуталіну і праз тыдзень адвезці ў Пінск. Максіму гуталін вельмі патрэбен, бо на мяжы, якую ён ахоўвае, вельмі шмат балот. Купіў тры ўпакоўкі і сабе зімовыя боты, каб на Мухлі ў маразы выгульваць Міёну. Людміла ў Лідзе ў камандзіроўцы, а я заўтра еду ў Рагачоў. Дома сяджу, як на вакзале, з якога ўсе паехалі па сваіх справах…

*

*4.09.2016.* А шостай раніцы выйшаў з дому. З-за паўмарафона да Палаца спорту дабіраўся ад тэатра Музычнай камедыі пешшу. На святкаванне Дня беларускага пісьменства выехалі са спазненнем амаль на гадзіну. Раней у Рагачове ніколі не быў. Ехаў з мэтай паглядзець на горад, дзе неаднаразова ў свайго дзядзькі Ігара Грынкевіча гасцяваў Уладзімір Караткевіч. Тут ім было напісана шмат вершаў, паэма «Віно дажджоў», аповесць «Ладдзя роспачы», пачатак рамана «Каласы пад сярпом тваім», закончаны раман «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Прыехалі на свята ў адзінаццаць гадзін. У цэнтры Рагачова сабралася мора людзей. Музыка, танцы, вершы. Прыемна было сустрэцца з сябрамі па фэйсбуку. На жаль, не ўсіх адразу пазнаваў. Было некалькі пісьменнікаў і шмат тых, хто піша, друкуецца і атрымоўвае ўзнагароды. Некаторыя перасоўваліся, нос задзёршы, а некаторыя амаль бегалі, каб прыстроіцца да тых, каго фатаграфуюць і здымаюць для БТ. Праўда, былі і такія, што паводзілі сябе сціпла і радаваліся святу, як дзеці.

Наведаў краязнаўчы музей Рагачова. Запомніўся вялікі старадаўні човен. Ён быў дасканалы, як творы Уладзіміра Караткевіча…

Храм з залатымі цыбулінамі быў непрыстойна залаты. Брама на замку.

У горадзе, здаецца ці гэта сапраўды так, амаль няма лавак. За паўгадзіны знайшлі толькі дзве, каб прысесці паесці, і то каля бальніцы…

Вярнуўшыся ў Мінск, амаль палова нашага аўтобуса выйшла на прыпынку станцыі метро «Магілёўская». Хуценька ўсе спусціліся пад зямлю. Якраз стаяла электрычка. Зайшлі ў вагон, а ў ім у кутку сядзіць з вялікай цяжкой торбай адзін з лаўрэатаў Нацыянальнай прэміі і нейкі сумны-сумны, нібыта не ён атрымаў прэмію, а ягоны вораг…

На пытанне: «Ну як там было ў Рагачове?» адкажу, што дзякуючы святкаванням Дня беларускага пісьменства, я маю магчымасць выбірацца з дому за сотні кіламетраў і бачыць Беларусь такой, якой яна ёсць на самай справе. А Беларусь наша прыгожая і людзі працавітыя!

Шкадую, што не змог схадзіць да Дняпра…

*

*5.09.2016.* Прыязджаў Міхась Казлоўскі па кнігу «Добры дух зямлі Дняпроўскай», якую ён склаў да Дня беларускага пісьменства ў Рагачове. Выслухаўшы мой аповед пра свята, Міхась сказаў: «Мітусня! Не люблю такое!» Узгадалі памерлых пісьменнікаў. Міхась прызнаўся, што ён з жонкай на ўсялякі выпадак даўно выбраў месца, дзе хоча, каб, калі што, яго пахавалі. «Аднак я быў бы вельмі задаволены, каб мяне спалілі і мой попел прыхавалі да бацькавай магілы. У мяне да бацькі шмат пытанняў. Я б хацеў мець на іх адказы», — са слязой сказаў Міхась.

Гаворачы пра маладзечанскія могілкі, ад Міхася даведаўся, што там адвялі спецыяльнае месца, дзе хаваюць толькі начальнікаў і вядомых людзей гора-

да. Пра такі акропаль знаёмая Міхася, дзявяностагадовая Яўгенія Фамінічна пажартавала: «Гэты акропаль для сябе прыдумалі начальнікі, каб на тым свеце было прасцей партыйныя сходы збіраць!»

*

*6.09.2016.* Раніцай а шостай з Міёнай шпацыравалі па Мухлі. Раса была халодная, як ледзяная. Яе холад адчуваўся праз чаравікі. «І як гэта ў дзяцінстве хадзіў па ёй басанож?» — думаў я, і хутка адшукаў адказ: «Тады раса была жывая і бацькі былі жывыя…»

*

*7.09.2016.* Нярэдка бывае, калі прыходзяць немаладыя новыя аўтары і даводзіцца ім доўга і цярпліва тлумачыць, што выдавецтва не можа кінуць усё, што запланавана некалькі гадоў таму для выдання і цяпер рыхтуецца да друку, і заняцца прапанаваным творам, які пару дзён таму быў закончаны і які, па словах госця, прынясе нам вялікі прыбытак, а аўтару сусветную славу. Такія празаікі звычайна яшчэ нідзе не друкаваліся і ў выдавецтва прыйшлі ўпершыню, думаючы, што мы яго тут сто гадоў чакалі і нарэшце дачакаліся. Бывае і такое, калі прыходзяць удовы з творамі мужоў, што памерлі, ні разу не надрукаваўшыся. Сёння прыходзіла жанчына, муж якой некалькі месяцаў таму адышоў у лепшы свет і пакінуў рукапіс рамана, які пісаўся трыццаць пяць гадоў. Я адшнураваў вялікую, тоўстую, пашарпаную і пажаўцелую папку. На першай старонцы рукапісу чарнела назва твора — «Зіма». Усе астатнія 700 старонак былі чыстыя, як першы снег…

*

*7.09.2016.* Вяртаючыся з Дня беларускага пісьменства, я выйшаў з аўтобуса каля ГУМа. Бабулька, якая стаяла на ўваходзе ў краму, прапанавала за рубель адчыніць дзверы, якія ўжо былі на замку, і набыць па зніжках усё, што душы пажадаецца. Я не адмовіўся. Зайшоў у ГУМ і… трапіў у Яніцкі лес, што каля маіх родных Пугачоў. У лесе светла-светла, птушкі спяваюць, конікі ў траве стракочуць, матылі лятаюць. Прыгожа! На душы радасна, нібыта трапіў у рай. Іду няспешна і раптам непадалёк бачу на пяньку гадзіннік. Залаты. Бяры! Не хачу! І тут гадзіннік зазвінеў, і пасыпаліся з ялін шышкі. Адна ўпала мне на галаву і я… прачнуўся.

*

*7.09.2016.* Прыходзіў Леанід Маракоў. Ужо не той, што нядаўна быў. Сам пра сябе казаў і паўтараў: «Мне не трэба было столькі пахаць! Дактары абнадзейваюць, што з цягам часу павінна ўсё аднавіцца з мазгамі». Хвілін дваццаць Лёня хваліўся і пераконваў мяне, што ён самы лепшы пісьменнік і ў яго ажно трыццаць тамоў твораў, што ніхто столькі не мае. Я слухаў, як бацюшка ў царкве на споведзі. З усяго сказанага зразумеў, што Лёню спатрэбіліся ягоныя кнігі пра Мінск і ён пакіне 100 даляраў у заклад, а потым прыйдзе сын і прынясе беларускія грошы. Нехта патэлефанаваў. Я пацікавіўся: «Хто?» — «Наташа!» — адказаў Лёня. Я не адразу зразумеў, што гэта яго жонка, бо раней ён пра яе казаў, што яна зусім хворая. Наслухаўшыся Лёневых расповедаў пра ягоную геніяльнасць, я параіў яму ісці ў наш маркетынг і забраць свае кнігі, каб жонка не чакала на вуліцы. І Лёня пайшоў, як стрыножаны. Праз пару хвілін зноў зайшоў да мяне ў кабінет і пачаў зноў казаць пра свае трыццаць тамоў і пра 100 даляраў. І раптам адчыніліся дзверы. У прыёмную заглянула жонка

Маракова. З доўгімі распушчанымі чорнымі валасамі і белая ў твары, яна была, як мёртвая. Сказала «Добры дзень», і паклікала мужаісці дадому. Лёня развітаўся са мной і паплёўся з Наталляй па доўгім паўзмрочным выдавецкім калідоры да ліфта. Я глядзеў ім услед і мне здавалася, што да мяне прыходзілі прывіды Леаніда і Наталлі Мараковых…

*

*8.09.2016.* Прыходзіў Анатоль Вярцінскі. Ён вярнуўся ў горад з лецішча. Падпісаў дамову на публікацыю ў кнізе серыі «ЖЗЛБ», прысвечанай народнай артыстцы Беларусі Марыі Захарэвіч. Пагаварылі крыху пра жыццё-быццё. На маё пытанне «Як здароўе?», Анатоль Ільіч адказаў: «Як бачыш, яшчэ сам хаджу!» А 18 лістапада Вярцінскаму будзе 85!

*

*8.09.2016.* Калі б жыў бацька, яму сёння было б 85. Магчыма, з гэтай нагоды нашага Максіма адпусцілі б з войска ў адпачынак. Бацька быў бы задаволены, што ўнук памежнік, а не дэзерцір, як я. Дэзерцірам мяне назваў бацька, калі мне прыносілі з ваенкамата позву за позвай, а я не ішоў. А бацька адслужыў тры гады і часта распавядаў, як яму там добра было: «Коням давалі хлеб. Вялікія булкі. А нам па лустачцы. І мы кралі ў коней…» І хутка ўжо будзе чатыры гады, як бацька следам за мамай пайшоў у лепшы свет. У бацькі быў адзін клас адукацыі, а ён ведаў на памяць «Канька-гарбунка» і шмат вершаў і песень. Гадоў трыццаць пасвіў кароў. Меў каня і сабаку. А гэта значыць, мой бацька быў каўбоем. Дзякуючы бацьку я даведаўся, як называюцца птушкі, якіх мы слухалі ў лесе, збіраючы грыбы. Дзякуючы бацьку я навучыўся касіць і араць, запрагаць каня, складаць на воз сена. Словам, я ўмею ўсё, што трэба мужчыну, каб жыць у вёсцы. А самае галоўнае — дзякуючы бацьку я нарадзіўся Тут!

*

*8.09.2016.* У Малінаўцы на вуліцы Яна Чачота ёсць бібліятэка № 22. Сёння там выступаў перад вучнямі шостых і сёмых класаў СШ, якая паблізу. Імпрэза была прысвечана Дню беларускага пісьменства. Пасля майго выступу дзеці без падказкі настаўнікаў адказвалі правільна на мае пытанні па літаратуры і па гісторыі Беларусі, і гэта мяне вельмі парадавала. Настаўніцы беларускай літаратуры падпісаў кнігу «Заўтра была адліга». Некалькі вучняў папрасілі дазволу зрабіць са мной сэлфі. Дазволіў. Харошыя дзеці. Ведаюць, хто такі Ян Чачот і Скарына, а самае галоўнае — ведаюць, што яны беларусы, а ў беларусаў галоўная мова — беларуская, як у палякаў — польская, як у немцаў — нямецкая, як у французаў — французская, як у рускіх — руская…

*

*8.09.2016.* Сваё выступленне перад школьнікамі закончыў «Баладай Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча» і, прачытаўшы апошнія радкі твора:

«За вокнамі мроі і людзі,
Надзеі, бяда, спадзяванні
І белая, сумная пані,
Якая сустрэчы чакае,
Якая адна і святая
І ёй не патрэбна чужога
Ні сына, ні мовы, ні Бога,
Нічога чужога, нічога!»,

я паўтарыў, што нам нічога чужога не трэба, бо ў нас ёсць свая краіна, свая гісторыя, свая мова. І тут, недаслухаўшы да канца пераліку, з-за парты ўсхопліваецца хлопец гадоў дванаццаці і гучна кажа: «У нас нафты няма!»

*

*9.09.2016.* З карэспандэнтам газеты «Культура» спадаром Алегам Клімавым ездзіў, як герой будучага артыкула, у родныя Пугачы. Пакуль на маршрутцы дабіраліся да Ракава, Алег распытваў пра школу, бібліятэку, клуб, у якія я хадзіў, жывучы ў вёсцы. Я распавядаў для журналіста, а слухалі ўсе, хто побач сядзеў. У Ракаве нас чакала Наталля Жызнеўская, якая працуе ў Пугачоўскім Доме культуры. На машыне хутка прыехалі ў вёску. Заглянулі на месца, дзе раней быў клуб. Цяпер там жывуць людзі. Пад'ехалі да кіпы вялікіх маладых дрэў, што выраслі на ўтравелым падмурку. Тут стаяла школа. У былым школьным двары кусты, трава, дарога, нейчы агарод. Спыніліся каля вялікага куста бэзу. Тут мы фатаграфаваліся ў першым класе. У мяне захаваўся фотаздымак. Праехалі па вёсцы. Сёе-тое я ўзгадаў са свайго дзяцінства. У Доме культуры нас чакала дырэктарка спадарыня Марына. Яна падрабязна адказала на ўсе пытанні Алега. Пагрэўшыся гарбатай і падсілкаваўшыся пугачоўскімі прысмакамі, пайшлі ў школу. Сустрэла дырэктарка. Правяла невялікую экскурсію. У школе цяпер 69 вучняў. Завяла ў вольны кабінет, у якім нас чакалі адзінаццацікласнікі. У цэнтры стаяў вялікі стол, а на ім букет прыгожых кветак і мае кнігі. Я думаў, што зайду да дзяцей, падпішу для школы кніжкі, якія захапіў з сабой, і мы з Алегам праз хвілін дзесяць паедзем у Мінск. Але нас чакала літаратурная імпрэза па маіх творах. Зайшлі на дзесяць хвілін, а выйшлі праз гадзіну. Вяртаючыся з Ракава на маршрутцы, Алег параіў мне прапанаваць дырэктару школы стварыць літаратурны гурток і раз на месяц ездзіць у Пугачы і праводзіць там урокі па беларусай літаратуры. Я сказаў, што не супраць. У свой час, калі мне было дваццаць, я прапанаваў рэдакцыі раённай газеты стварыць літаб'яднанне. Стварылі. Я прыдумаў назву. «Рунь». І потым кожны месяц амаль чатыры гады ездзіў у Валожын і праводзіў пасяджэнні літаб'яднання, і ніхто мне нічога не плаціў. Для мяне тады было галоўнае — мяне чакалі кожны месяц мае землякі. І я з таго часу не змяніўся…

*

*10.09.2016.* У полі, што аж да небакраю, кукуруза, як асака на балоце, высокая. Табе хочацца зайсці ў кукурузу, але ты баішся заблудзіцца ў ёй, і таму стаіш на дарозе, як на беразе. Праехала машына і цябе абсыпала пылам, як попелам…

*

*10.09.2016.* Будучы ў Пугачах, даведаўся, што ў нашым сельсавеце застаўся адзін ветэран Вялікай Айчыннай вайны. Прозвішча ў яго — Канцавы.

*

*10.09.2016.* Думаючы пра бацькоў, раптам узгадалася, што, калі апошнім разам з сястрой наведвалі іх на Ракаўскіх могілках, каля помнікаў убачылі кветкі, невядома кім пакладзеныя…

*

*11.09.2016.* Раніца на Мухлі. Руды кот, убачыўшы, што я іду з Міёнай, схаваўся ў парудзелы куст. Затаіўся і глядзіць на мяне чорнымі вачыма, нібы

просіць: «Не выдавай!» І я не выдаў кацейку. З Міёнай прайшоў міма, нібыта нікога не бачыў. На дрэве каркнула варона, і Міёна пабегла да яе…

*

*11.09.2016.* Ападаюць спелыя каштаны. Падбіраю, як мне здаецца, самы прыгожы і нясу дадому. Следам ідзе Міёна і просіць, каб аддаў ёй. Не аддам! Гэта для Людмілы!

*

*11.09.2016.* Не кожнаму валуну наканавана ляжаць у падмурку ці стаць часцінкай замка ці Храма. А валуноў на могілках, як святароў у нашым краі, нямнога…

### *Сырадэля і сячкарня*

*11.09.2016.* Што такое сырадэля і дзе яна расце? Цяпер на гэтае пытанне, не заглядаючы ў сеціва, мала хто адкажа. Вось што там напісана: «Аднагадовыя травяністыя расліны вышынёй да 60 см. Сцёблы тонкія, галінастыя. Лісце непарнаперыстае, ланцэтнае. Кветкі дробныя, бледна-ружовыя, сабраныя ў гронкі. Плод-струк, нагадвае нагу птушкі (адсюль другая назва — птушканожка (Ornithopus)). Зялёная маса сырадэлі ідзе на корм і ўгнаенне. Меданосная расліна».

У канцы 60-х і пачатку 70-х гадоў мінулага стагоддзя наш калгас дзяліў для калгаснікаў жытнёвае поле на дзялкі. Спачатку сеялі збожжа, а потым сырадэлю. Запомнілася жніво 1968 года. Тады майму брату Валодзю было ўсяго пяць месяцаў, сястры Валі сем гадоў, а мне восем. Мама з бабуляй Параскай сярпамі жалі жыта. Я дапамагаў бацьку і дзеду Юзю вязаць снапы і ставіць іх у мэндлікі, каб прасыхалі. Брат ляжаў сярод снапоў і час ад часу на ўсё поле гучна плакаў, нібыта яго рэзалі. Валя брата калыхала і карміла. Я час ад часу падбягаў да іх, каб падсілкавацца. Ежа была ў збанах-спарышах. Усё было вельмі смачным. Дзялку жалі некалькі дзён. На зжатым месцы бацька з дзедам касілі аржонішча з сырадэляй. Я растрасаў пракосы, каб хутчэй сохла скошанае. Аднойчы бацька ў сырадэлі знайшоў гняздо дзікіх пчол. Мёд быў пахучы і густы, як смала. І мне нават сёння памятаецца той пах і смак мёду. Потым высахлае аржонішча з сырадэляй малацілі, каб здабыць насенне сырадэлі для новага пасеву. Абмалочаную сырадэлю звозілі дадому ў пуню, дзе рыхтавалі для каровы сечку. І сёння ў вёсцы ў нашай пуні стаіць сячкарня. Вялікая і, як мне ў дзяцінстве здавалася, страшная і злая. Цяпер, успамінаючы свой страх да сячкарні, я толькі ўсміхаюся. У мяне, дзякуючы нашай сячкарні, у свой час з’явіўся верш:

на ўтравелым двары сячкарня
не хаваецца пад страху
сама наводзіць страх
і кола сячкарні коціцца
між мной і табою
і застаецца на месцы
нібы ўрослае ў зямлю
і нажы іржавеюць
калі няма саломы
на ўтравелым двары сячкарня
нібы дваццатае стагоддзе

*

*12.09.2016.* У кішэні курткі знайшоў каменьчык з Палангі. Гэткі ж сумны і адзінокі, як і я быў тады, калі яго падабраў на беразе мора…

*

*12.09.2016.* Кожны вечар, гуляючы на Мухлі з Міёнай, гляджу на зоры, пад якімі пралятаюць спадарожнікі і самалёты. Гляджу не адзін, а з сябрамі-сабачнікамі. Гаворым пра жыццё на іншых планетах і пра тое, што раней было на зямлі і што будзе пасля нас. Пра сваіх суразмоўцаў я мала што ведаю. Многіх нават не ведаю, як завуць, і мяне гэта мала хвалюе. Я ведаю імёны сабак, якія гуляюць каля нас самі па сабе, пакуль мы гаворым пра космас, пра вечнасць і глядзім на зоры, да якіх разам ляцім…

*

*13.09.2016.* У выдавецкім кабінеце ў мяне за спінай вісіць карціна Міхася Будавея. На ёй пісьменнікі: Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Цётка, Максім Гарэцкі, Андрэй Александровіч, Кузьма Чорны, Эдуард Самуйлёнак і Пятро Глебка. Сёння, даючы свечку, апаленую Благадатным Агнём ад Гроба Гасподняга, пісьменніца Ніна Загорская сказала: «Ого! Сядзіш паперадзе класікаў!» — «Не! Яны ў мяне стаяць за спінай, каб мне не было куды адступаць! Перада мной жа Леў Сапега і Васіль Цяпінскі. А яны мне глядзяць у вочы, каб казаў праўду!» — удакладніў я.

*

*14.09.2016.* Восень наступіла на пяткі асінавых лістоў, і яны пачырванелі…

*

*14.09.2016.* Вечар. Цёмна. У вокнах дамоў загараецца святло. У небе зоркі. Ты ідзеш праз двор сярод кустоў і дрэў, як праз лес, у якім водзяцца адзінокія людзі…

*

*15.09.2016.* У восеньскім сонцы няма злосці. Яно стомленае, як золата…

*

*15.09.2016.* У чацвер праз пятніцу, як праз сцяну, ужо чуецца воля выхадных дзён…

*

*16.09.2016.* З Міёнай выйшаў на Мухлю а палове шостай. Над горадам на захадзе была вялікая жоўтая поўня. Праз хвілін пяць да нас далучылася Джэсі з гаспадыняй. Гаворачы пра дзень, які пачаўся, жанчына сказала: «Сёння павінен дождж абмыць поўню…»

### ***Бландзінка і вершы***

*16.09.2016.* Дабіраючыся на працу, каля тэатра Музычнай камедыі перасеў на тралейбус № 53. Далейшы шлях быў бы для мяне звычайным, калі б не ўбачыў бландзінку гадоў трыццаці пяці, якая чытала кніжку Эдуарда Асадава «Стихи о любви и дружбе». «Напэўна не замужам…» — падумаў я і паглядзеў

на ейную правую руку. Пярсцёнка няма. Не замужам. «Дзяўчыне з рамантычнай душой, якая любіць вершы, цяпер нялёгка знайсці пару. І ўсё ж верыцца, што знойдзе. А можа, ужо знайшла і таму чытае вершы пра каханне…» — разважаючы, выйшаў на наступным прыпынку, каб перасесці на аўтобус № 73. На працу прыйшоў з добрым настроем, бо сёння бачыў чалавека, які, едучы на працу, чытае вершы. Шкада, што не беларускія…

*

*16.09.2016.* Доўгі час не было бачна суседа Дзімы. На пытанне «Дзе ты прападаў?» сусед махнуў рукой і папрасіў напісаць пра яго верш. І я выканаў просьбу:

Дапіта апошняя пляшка віна
І грошай няма, каб ізноўку купіць
Атруту, якую ты любіш да дна,
Не знаючы дна, бы ў апошні раз піць.
Я грошай табе зноў апошні раз дам
Хоць ты нам, суседзям, жыцця не даеш,
Бо побач з табою не п’ём мы «Агдам».
Цвярозых не любіш, і спаліш мой верш,
Які я табе за нішто прысвяціў.
Няхай гараць вершы — сагрэюць цябе.
Галоўнае — хату б сваю не спаліў
І сам не згарэў у агдамнай журбе…

*

*16.09.2016.* У апалым лісці, як у пяску, схавалася дажджавая вада. Ты ідзеш па лісці і яно прыклейваецца да падэшваў твайго абутку, губляючы сваю прыгажосць. Заўтра было лета…

*

*16.09.2016.* Каля дарогі каштан. З яго падаюць каштаны і некаторыя коцяцца пад колы машын, як самагубцы, якія ведаюць, што ўпаўшы ў траву, яны там згніюць…

*

*17.09.2016.* Сёння была поўня, як люстэрка, у якое глядзелася восень…

*

*17.09.2016.* Учора прыходзіў майстра з Белтэлекама па замене звычайных тэлефонных дратоў на шкловалаконныя. Мяняюць ва ўсім нашым раёне, што каля Мухлі. Цяпер у нас новыя нумары тэлефона, сеціва і набор тэлеканалаў. Мужчына гадоў сарака, зрабіўшы справу, папрасіў мяне: «Паклічце сваю жонку ці дзеўчушку, няхай прыме працу!» Прыйшла Людміла і, агледзеўшы зробленае, падпісала патрэбныя паперы, што прынёс з сабой майстра. Міёна хадзіла па пакоі і час ад часу незадаволена гаўкала.

*

*17.09.2016.* У скверы ліхтар прытварыўся поўняй. Я іду, а ён свеціць і не міргае…

*

*18.09.2016.* Алесь Квяткоўскі малюе карціну па маім вершы «Валун». На палатне яшчэ цяжка зразумець, што будзе, але ўжо бачна, што ствараецца

непаўторны свет, у якім будзе жыццё, а магчыма, і не будзе. У бліжэйшых планах Алеся патрэт Рыгора Барадуліна для Чырвонага касцёла. На стале сярод фарбаў і пэндзлікаў ляжыць «Маладосць» № 8. У ёй вялікі артыкул Вітаўта Чаропкі і іншыя матэрыялы пра Анатоля Сыса. Пачытаў. Сумна. Сумна не таму, што няма Сыса сярод нас, а таму, што няма таго, што раньш было. Наша жыццё сыходзіць у паперу, як вада ў пясок…

*

*18.09.2016.* Сусед Дзіма, адобрыўшы верш, які пару дзён таму я прысвяціў яму, папрасіў: «Напішы яшчэ! Ён мне душу асвеціць!» Верш для суседа атрымаўся сумнаватым, але няхай Дзіма сам вырашае, што з ім далей рабіць.

Па збялелым лісці пад каштанам,
Быццам бы пад замерзлым фантанам,
Вецер пляшку качае ў двары,
Бы гаворыць табе: «Падбяры!»

Пляшка гэта, бы злеплена з лёду,
Саґравала нядаўна басоту,
А цяпер не патрэбна нікому.
З пляшкай гэткай не прыйдзеш дадому.

І ты міма прайшоў, не спыніўся,
Бо ты ўчора, як бэйла, напіўся
На збялелым лісці пад каштанам,
Быццам бы пад замерзлым фантанам…

*

*19.09.2016.* Амаль гадзіну правёў у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Незважаючы на тое, што многія карціны бачыў па сто разоў, а мо і болей, з цікавасцю глядзеў на іх і сёння. Я не памыліўся, назваўшы лічбу сто. Проста быў час, калі кожную суботу гадоў пяць запар вазіў дачку, а потым і сына ў музей у студыю «Цюбік». Заўсёды з сабой браў шмат паперы, бо, бывала, што малыя, зрабіўшы пару рухаў пэндзлікам па аркушы, казалі, што гэта ўжо гатовая карціна. Пакуль дзеці вучыліся быць мастакамі, дарослыя знаёміліся з пастаяннай экспазіцыяй і рознымі часовымі выставамі. Цяпер, ходзячы па залах музея, я прыпыняўся на тых месцах, дзе Вераніка і Максім, лежачы, малявалі. Разглядаючы раскладзеныя па падлозе малюнкі, я не пераступаў праз іх, я іх абыходзіў, стараючыся не пашкодзіць…

*

*20.09.2016.* Зламаны не зламаецца…

*

*20.09.2016.* Міёна не хоча вучыцца ў сабачай школе. У яе ў галаве яшчэ ўсё дзіцячыя гулі. Сёння натузаўся з ёй і цяпер левая рука баліць. Сабачы настаўнік казаў, і ўжо не першы раз, што я занадта добры, а з Міёнай трэба строга. Няўжо дабрыня і з сабакам — гэта кепска? Мне на працы ў свой час у характарыстыцы Мачульскі пісаў, што я занадта добры з людзьмі, а гэта дрэнная рыса, і добры чалавек не можа прэтэндаваць на вялікія пасады.

*

*21.09.2016.* Раніца. Холадна, як на бязлюдным востраве…

*

*21.09.2016.* Дождж. Гляджу праз акно з сёмага паверха, як з сёмага неба. На вуліцы парасоны, як кветкі, якія распускаюцца толькі ў час дажджу…

*

*21.09.2016.* У шыбах люструецца восень і вокны, як жывыя карціны на сценах дамоў…

*

*21.09.2016.* Час ад часу па пытаннях выдання кніг мне тэлефануюць рускамоўныя пісьменнікі з Амерыкі, з Германіі, з Францыі, з Ізраіля. Сёння патэлефанаваў цыган. Ён сам сказаў, што ён цыган, яму 80 гадоў і ён напісаў вялікую кнігу пра сваё жыццё ў Магадане, у Варкуце, на Кубе, у В'етнаме. На маё пытанне: «Колькі ж у вашай вялікай кнізе старонак?» аўтар адказаў: «Дваццаць…»

*

*21.09.2016.* Трапіў пад дождж без парасона і вымак, як дарога дадому…

*

*22.09.2016.* Сніўся Парыж. Непадалёку ад сабора Парыжскай Багамацеры ў Сене я лавіў рыбу. Побач каля самай вады сядзеў Віктор Гюго. Адпіўшы з чорнай пляшкі, паэт спытаўся ў мяне: «Ты даўно бачыў Караткевіча?» — «Учора!» — адказаў я. «Ён прыносіў у «Крыніцу» новы раман. Хоча, каб надрукавалі да ягонага 100-годдзя!» — «І што, надрукуеце?» — пацікавіўся Гюго. «Не! Ён жа яшчэ з Вашага «Узвышша» не выйшаў!» — сказаў незнаёмы, які побач праплываў па Сене, трымаючыся за Збор твораў у пазалочаных вокладках…

*

*22.09.2016.* Прыходзіў Адам Глобус. Падпісаў дамову на публікацыю бацькавага твора ў зборніку пра маму. Казаў, што выдавецкімі справамі больш не займаецца, бо ў людзей няма грошай на кніжкі. Збіраецца ў Парыж па нейкім гранце. Паўгода ўжо як афармляе дакументы. Паедзе маляваць. Шчаслівы чалавек Глобус — мае магчымасць жыць, не думаючы дзе і як зарабіць грошы на пражыццё, а ты тут корпайся ў чужой пісаніне і чакай выхадных, як вольную волю…

*

*22.09.2016.* Бывае часам думаеш: «Шчаслівыя тыя людзі, што памерлі…»

*

*23.09.2016.* Сённяшняй ноччу на Мухлі лістота вучылася лётаць. Цяпер шмат якая ляжыць у людзей пад нагамі…

*

*23.09.2016.* Калі ноччу доўга глядзець у зорнае неба, можна адчуць, як адзінокія аблокі заплываюць у твае вочы… І знічка, пралятаючы праз тваю душу, на міг асвечвае яе… І ты адуваеш сябе небам, якім некалі станеш, калі памрэш… Калі памрэш…

*

*23.09.2016.* Не кожны дурань сапраўдны…

*

*23.09.2016.* У метро зайшло больш людзей, чым выйшла…

*

*23.09.2016.* Паэтычны тэатр «Арт.С» у бібліятэцы імя Цёткі ў вечарыне-фарсе «Восень і іншыя коткі» прэзентаваў кнігу серыі «Беларуская аўтарская казка» «Адзін кот і адзін год», чым распачаў свой адзінаццаты сезон. Вядоўцы Яраш Малішэўскі і Аксана Спрынчан давалі слова Сержу Мінскевічу, Людміле Шчэрбе, Уладзіміру Сіўчыкаву, Юрасю Нератку, Ірыне і Максіму Клімковічам. Хараша пад гітарны акампанемент у вобразе чорнай коткі спявала Альжбэта Малішэўская-Спрынчан. Акрамя вершаў і песень была віктарына на каціную тэму. На пытанне «Колькі ў дарослага ката зубоў?», мой зямляк Мікола Ліннік выгукнуў: «Дванаццаць!» Некаторыя прысутныя, пачуўшы гэтую лічбу, задумаліся, нібыта пачалі пералічваць свае зубы. Доўга ніхто правільна не мог адказаць. Высветлілася, што ў ката трыццаць зубоў. У час свайго выступу я прачытаў верш «Кот». Ён быў напісаны шэсць гадоў таму. Новых твораў пра катоў у мяне няма, хоць цяпер кожны мой дзень на вуліцы, калі я выгульваю Міёну, пачынаецца сустрэчай з катамі. Словам, у раёне, дзе я жыву, мяне ведаюць усе Каты, Сабакі і Гражданы.

*

*24.09.2016.* Раптам прыдумаўся новы літаратурны герой — Рабінзон Кукуруза. Хвалюся Людміле. Яна тут жа вяртае мяне на зямлю: «Думаю, што Рабінзон Кукуруза не табе першаму і не апошняму прыйшоў у галаву!» Я сумна ўздыхаю і выкрэсліваю з нататніка Рабінзона Кукурузу…

*

*24.09.2016.* Пасля вечарыны пра котак а палове дзявятай вяртаўся дадому на метро. Выйшаў на вакзале. Адчыняю дзверы ў падземны пераход і бачу перад сабой тры шарэнгі па чалавек дваццаць дэсантнікаў. Многія стаяць з расшпіленымі каўнярамі, нібыта спецыяльна, каб бачыліся цяльняшкі. Самі стомленыя, у выцвілай добра паношанай форме, з заплечнікамі. Іду паўз строй і ўзгадваю, што ў нашага Максіма была перспектыва па здароўі трапіць ці ў дэсант, ці ў спецназ, ці ў памежнікі. Служыць памежнікам. Міма дэсантнікаў праходзяць хлопцы і дзяўчаты. Ніхто не спыняецца. Некаторыя людзі майго ўзросту прыцішваюць хаду, прыглядаюцца да вайскоўцаў. Магчыма, іх сыны ці пляменнікі служаць. Прамінулі суткі, як пабачыў на вакзале дэсантнікаў, а яны і цяпер стаяць у мяне перад вачыма стомленыя, у выцвілай, добра паношанай форме, з заплечнікамі, нібыта едуць з фронту...

*

*25.09.2016.* Сёлета не бачыў ніводнага жывога грыба, калі не лічыць пару суседзяў…

*

*25.09.2016.* Холадна. Змрочна. Адзінока. І куча праблем, як лістоты апалай, у якой не бачна сцяжыны. З'явіўся пачатак верша, але не буду пісаць далей, бо слова «сонца» рыфмуецца з «бясконца»:

Мы нарадзіліся з табою ў час дажджу
У гэтым свеце, дзе, як свята, сонца…

*

*25.09.2016.* У кватэры паўзмрок, як у скляпенні. На кухні па шыбіне паўзе ў неба павучок. Да сонца далёка. Відаць, і павучку хочацца бабінага лета…

*

*25.09.2016.* Дзякуючы Міёне ўжо амаль год кожную раніцу і вечар гляджу на зоркі і месяц, а таксама назіраю, як усходзіць і заходзіць сонца. У гэтыя моманты для мяне знікае горад, які вакол нас. Я адчуваю сябе шчаслівым. І мне часам здаецца, што недзе далёка-далёка на нейкай невядомай для нас планеце стаяць мае бацькі і глядзяць у неба на зоркі і адчуваюць сябе шчаслівымі…

*

*26.09.2016.* Ноччу ўсе птушкі чорныя, як кажаны…

*

*26.09.2016.* У вёсцы ў роднай хаце на гарышчы, як у этнагафічным музеі — тут і калыска, і дзежкі, і драўляная лапата, і кубелец, і куфар, і калаўрот, і розныя кошыкі, і шмат чаго яшчэ. І ўсё гэта ў свой час пры бацьках не пылілася, а жыло сваім жыццём разам з нашым…

***Мастак і кветкі***

*27.09.2016.* Калі мастака праводзілі на пенсію, адна з пенсіянерак, убачыўшы, што дырэктар уручыў яму букет, дэманстратыўна ўстала і выйшла. Яна была супраць, каб мастаку ўручаліся кветкі: «Ён жа п’яніца!» Колькі ёй ні казалі, што на пенсію адпраўляем мастака, а не п’яніцу, яна ўсё роўна стаяла на сваім: «Ніякіх кветак!» Пасля выхаду пенсіянеркі ўрачыстасць адразу ж і закончылася. У кабінеце засталіся дырэктар, мастак і я. «Што цяпер рабіць? Можа, пасля працы ў рэстаран?» — ніякавата запытаўся мастак. Мы адмовіліся. Хвіліну памаўчаўшы, ён сказаў: «Навошта кветак накуплялі? Куды мне цяпер з імі?» Падумаўшы, я прапанаваў мастаку пайсці да пенсіянеркі і падарыць ёй букет. Ён так і зрабіў. Пасля гэтага да дырэктара прыбегла пенсіянерка і паўгадзіны распавядала, які ў нас харошы мастак працаваў, а мы яго на пенсію адправілі…

*

*27.09.2016.* Заблукаў у рукапісах, як у лесе…

*

*27.09.2016.* Ляжу на канапе. Зажмурыўся. Міёна падышла да мяне і слухае, ці дыхаю я. Гэтак жа ў дзяцінстве я падыходзіў да бацькі, які спаў днём, і слухаў, ці дыхае ён…

*

*28.09.2016.* На 94-м годзе жыцця памёр экс-прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс, які нарадзіўся 2 жніўня 1923 года ў Вішневе. У 1934 годзе эмігрыраваў у Палесціну. Некалькі гадоў таму мой зямляк у адным са сваіх выступленняў

сказаў: «Мы марылі аб сваёй зямлі, але зямля, якую мы атрымалі, не была марай. Гэта быў маленькі кавалачак, адна тысячная частка Блізкага Усходу. Гэтая зямля не вельмі добра да нас паставілася. Там былі балоты, маскіты, пустыня на поўдні, камяні. Выбіраць трэба было паміж камарамі і камянямі. На ёй было два возеры — адно мёртвае, другое перасыхаючае. Была легендарная рака — але і ў ёй вады не было. Гэта значыць, вады не было ўвогуле. Ніякіх прыродных рэсурсаў таксама не было — ні золата, ні нафты. Тады казалі, што на Блізкім Усходзе ёсць два тыпы краін — краіны нафтавыя і краіны святыя. Наша была абсалютна святая, бо ў нас наогул нічога не было. Мы былі ў адзіноце там. У нас не было брата па рэлігіі, сястры па мове, суседа па гісторыі. Усё гэта адбывалася пасля Халакоста. Мы прыйшлі туды і не ведалі наогул, што рабіць. Насамрэч, не ведалі. І мы падумалі: самае вялікае багацце прыроды — гэта чалавек. Людзі ўзбагацілі зямлю, а не зямля — людзей. Мы ўсе сталі навукоўцамі. Кожны фермер у Ізраілі, кожны кібуц пачаў глядзець, як развіваць сельскую гаспадарку без вады, без зямлі. Мы пачалі развіваць яе. Гэта была першая сельская гаспадарка ў свеце, заснаваная на хай-тэку. Я сам быў тады студэнтам у сельскагаспадарчым універсітэце, мы спрабавалі праводзіць ірыгацыю — палівалі дрэвы гарачай вадой, думалі, што яны так будуць лепш расці. Да вялікага здзіўлення, высветлілася, што сельская гаспадарка, якая заснавана не толькі на зямлі, але і на хай-тэку, працуе. У нас сёння дастаткова вады. Ваду звычайна знаходзяць — яе не здабываюць. А мы сталі яе здабываць. І мы атрымалі поспех. Мы пачалі апрасняць ваду, мы адшуквалі гародніну, якая не занадта шмат «п’е», займаліся селекцыяй. Вось вам сапраўдны сакрэт: для будучага важна не тое, што вы знаходзіце, а тое, што вы робіце. У нас не было ні людзей, ні ўзбраення, мы ніколі не ваявалі, у нас было ўсяго 450 тысяч насельніцтва, не было генералаў, не было ваеннага вопыту. ААН вырашыла стварыць дзяржаву Ізраіль, але фактычна ішла вайна. Што мы маглі рабіць? Дзве рэчы. Першае — людзі павінны былі стаць мужнымі і храбрымі. Яны павінны былі зразумець, што ў нас няма выбару — мы павінны толькі перамагчы. Калі мы хоць адзін раз прайграем — усё. Другое — паколькі ў нас не было зброі, мы пачалі яе вырабляць. Каб удасканальваць армію, нам давялося развіваць IT. Ізраільскі IT-сектар працаваў на войска. Таму што мы былі адны ў варожым асяроддзі. Навошта я вам гэта распавядаю? Да гэтага часу я кажу маладым хлопцам або дзяўчатам: сябры, у вас ёсць значна больш, чым вы думаеце. Не лянуйцеся. У вас ёсць значна больш, чым зямля вам можа прапанаваць. Вы можаце вырабляць рэчы, якія не дадзеныя вам. Гэта ўрок для ўсіх. (…) Патэнцыял ва ўсіх людзей — вельмі вялікі. Але ўсе яны трошкі гультаяватыя. Калі хочаце чагосьці дамагчыся, трэба працаваць. Нічога не падае з неба. Мы ў Ізраілі вельмі шмат працавалі. Што ў гэтым дрэннага? Не ведаю… Людзі ідуць у адпачынак — гэта пустая трата часу. Мне ўжо 90, і я ніколі не быў у адпачынку. Мне кажуць: «Ты што, ненармальны? Як жа ты адпачываеш?» А я лепш буду працаваць. Я ад працы атрымліваю радасць. І не будзьце песімістамі — гэта таксама пустая трата часу, асабліва калі часы мяняюцца. Трэба ісці за навукай. У навукі няма межаў, абмежаванняў, навука не мае рэфлексіі. Не спрабуйце вырашыць праблемы мінулага, я не ведаю, ці магчыма гэта наогул. Мінулае наогул не грае ніякай ролі. Проста вывучыце яго, каб вы не паўтаралі старых памылак. У мінулым няма ні будучыні, ні надзеі. Большасць людзей хочуць памятаць, а не ўяўляць — гэта самая вялікая памылка. Што вы хочаце памятаць? Усе зробленыя вамі памылкі? На гісторыю нельга абапірацца. Гісторыкі былі вестунамі каралёў і тых, хто быў пры ўладзе — яны казалі тое, што трэба.

Людзі баяцца чагосьці… Толькі Бог ведае, што з намі будзе. Мяне пытаюцца часам: калі азірнуцца назад, якімі былі вашы самыя вялікія памылкі? Я адкажу: мы думалі, што ў нас вялікія мары. А цяпер мы разумеем, што яны былі не такімі ўжо вялікімі. Трэба марыць пра большае. Чым большая ваша мара, тым большага вы дамажацеся. Ваша маладое пакаленне — цудоўнае. Але што мяне злуе ў іх — яны пагарджаюць палітыкамі. Яны кажуць: палітыка карумпаваная, яна не для нас. Я адказваю: вы сумленныя, вы хочаце сумленнай палітыкі — ідзіце і рабіце сумленную палітыку. Гэта ўсё ўрокі, якія я сам вынес з мінулага. Яшчэ людзі пытаюць мяне, як заставацца актыўным. Гэта вельмі проста. Лічыце у розуме вашыя дасягненні і мары. Калі вашых мараў больш, чым дасягненняў — значыць, вы ўсё яшчэ маладыя. Калі наадварот — вы старыя».

***Пра чытанне і пісанне***

*28.09.2016.* У «Дзеяслове» № 81 у рубрыцы «Прачытанне» Алесь Разанаў на старонках 246—257 разважае над вершам Алеся Пісьмянкова «Мой сад у снезе па калена…» Разважанне пачынаецца з празаічнай інфармацыі: «Чытаем верш. Сваёй назвы ён не мае і сам увесь з'яўляецца назвай да таго, што кранае, што выяўляе, што вымаўляе, і называецца па першым радку «Мой сад у снезе па калена…», аўтар Алесь Пісьмянкоў. Жыццёпіс Алеся Пісьмянкова чапаць не будзем, зазначым толькі, што распачаўся ён у 1957-м, завершыўся — абарваўся — у 2004-м, верш сам старонка з яго жыццёпісу і напісаўся ў 1986-м годзе, задоўга да таго, як яго не стала…» Пра самога Алеся Разанава можна даведацца ў часопісе на старонцы 314, дзе напісана, што Алесь Сцяпанавіч жыве ў Мінску. 16 снежня мінулага года на выставе Віктара Маркаўца я сустракаўся з паэтам. У мяне ў фэйсбуку ёсць запіс: «Алесь Разанаў у «Лятучым універсітэце» чытае лекцыі. У яго было пытанне да мяне: «Ці ведаеш, калі быў напісаны верш Алеся Пісьмянкова «Мой сад у снезе па калена…»? Я студэнтам сказаў, што незадоўга да смерці паэта…» Вярнуўшыся з выставы, я знайшоў верш Пісьмянкова і паведаміў Алесю Сцяпанавічу, што твор напісаны ў 1986 годзе. «Трэба будзе выправіцца на наступнай лекцыі!» — дзякуючы за дапамогу сказаў Разанаў.

*

*29.09.2016.* Палова шостай раніцы. Цёмна. На вуліцы дождж. Ліхтары сярод дрэў, як прывіды. З Міёнай ідзём на Мухлю гуляць, абыходзячы калюгі, як шматкі неба, што сталі вадой. Час ад часу Міёна спыняецца і спрабуе лавіць у калюгах лісце, як залатых рыбак. Я адцягваю Міёну ад вады і яна неахвотна ідзе за мной, як малое дзіця, якое вядуць у садок. Параўнаўшы Міёну з дзіцем, я ўсміхаюся. Праз дзве гадзіны, ідучы на працу, буду бачыць, як маладыя мамы і таты вядуць дзяцей у садок, а дзеці будуць лезці ў калюгі, у якіх плавае лісце, як залатыя рыбкі…

*

*30.09.2016.* Даўжэе ноч. І цяпер а шостай раніцы, калі гуляю з Міёнай на Мухлі, у цемені не бачна ні людзей, ні сабак. Міёна час ад часу падбягае да мяне і халодным носам дакранаецца да рук, нібыта пытаецца: «Не баішся адзін?» — «Гуляй-гуляй!» — кажу і Міёна адбягаецца ад мяне, і я зноў не бачу ні сабак, ні людзей, але і нічога не баюся…

**Кастрычнік**

*

*1.10.2016.* Снілася ўзбярэжжа мора, куды мы з Людмілай прыехалі адпачываць. У метрах пяцідзесяці ад вады стаяў стопавярховы шкляны гатэль. Нам выдалі ключы ад пакоя на сотым паверсе. Едзем у ліфце, які прымацаваны да сцяны гмаха. Страшна, але з кожным паверхам навокал святлее і святлее. І вось мы выходзім на сотым паверсе. Перад намі пясчаны бераг мора і стопавярховы гатэль.

*

*1.10.2016.* На вуліцы заплакала дзіця. Міёна тут жа падышла да мяне і загаўкала, нібыта запатрабавала ісці на вуліцу і суцішыць малое..

*

*2.10.2016.* А шостай гадзіне раніцы на Мухлі, месцамі асветленай ліхтарамі, Міёна разбудзіла варон, і яны ўсчынілі такі гвалт, што на азярыне папрачыналіся качкі, а на лаўках бамжы. З дрэў падала лістота, і Міёна лавіла яе. Я ішоў услед і час ад часу паглядаў на захмаранае неба, спадзеючыся ўбачыць зоркі. Праз паўгадзіны шпацыру з Міёнай узышоў на ўзгорак, каб сустрэць світанне. І сонца ўзышло. Вялікае, як наша чаканне бабінага лета…

*

*2.10.2016.* Алесь Квяткоўскі рыхтуецца да выставы ў Чырвоным касцёле, дзе прадставіць карціны пчалінай тэматыкі. Думае над назвай. Я прапанаваў «Пчолы ў Храме» і да назвы верш:

у Храм заляцела пчала
а следам за ёй другая
і трэцяя і сёмая і дванаццатая
і Храм напоўніўся
пчалінымі малітвамі
як мёдам
напоўнена сонца
якое над намі як Бог

***Конскі гной***

*3.10.2016.* Мінулай зімой на каляды Алег узяў на лецішча паўтарагадовага аляскінскага маламута Алана. Сабака ўжо добра ведаў суседзяў, і таму Алег без боязі выпускаў яго пагуляць на вуліцу. І на той раз, як толькі машына спынілася каля брамы, Алан тут жа быў адпушчаны да знаёмых сабак, што хадзілі побач. Адбегшыся ад машыны, Алан спыніўся каля конскага гною і пачаў яго есці, бо ў горадзе неяк яму давалі корм, які пах падобна, сенам. Гаспадар убачыў непарадак. Паклікаў да сябе сабаку. Алан да гаспадара падышоў не адразу. Хлопец раззлаваўся і, узяўшы гадаванца на павадок, пачаў яму тлумачыць, што гной есці нельга. Алан не слухаў і ўвесь час рваўся да сяброў. Скончылася ўсё тым, што маламут пракусіў руку свайго гаспадара. Перавязаўшы рану, Алег сеў у машыну і газануў з лецішча, аж снег закурэў над палявой дарогай. Алан, убачыўшы, што гаспадар пакінуў яго, кінуўся ўслед. Алег ехаў не спыняючыся кіламетраў пяць і ўсю дарогу за ім бег Алан. Калі сабака стаміўся і спыніўся, Алег прыцішыў ход. Алан, пастаяўшы хвіліну,

павярнуўся і, апусціўшы галаву, пайшоў назад у вёску. Алег адчыніў дзверцу і даў задні ход. Праз некалькі хвілін Алан сядзеў у машыне. З таго дня Алан болей не есць конскі гной.

*

*4.10.2016.* На лаўцы кляновы ліст. Ён не даляцеў да зямлі і цяпер ведае, што такое адзінота…

*

*4.10.2016.* Каля сцяжыны раса на дроце калючым, як кроў вячэрняга туману, што сышоў лугавінай за небакрай…

*

*5.10.2016.* Калі Нехта не любіць мяне, як пісьменніка, і не паважае, як чалавека, гэта не падстава для мяне Некага за гэта не любіць і не паважаць…

*

*5.10.2016.* Сённяшні дождж не ведае, што яго многія не любяць…

*

*6.10.2016.* Пасля двухдзённага дажджу высветлілася, што золата апалай лістоты было фальшывым…

*

*6.10.2016.* Вечар. Перад маім акном на клёне лісце, як залатыя кажаны…

*

*6.10.2016.* Снілася вёска. Высока ў небе ляцелі птушкі. Я глядзеў ім услед і мне было сумна-сумна аж да слёз. «Трэба прачынацца! Я ж сплю!» — сказаў я і прачнуўся. Ізноў убачыў неба, а ў ім птушак, якія ляцелі, і мне было сумна-сумна аж да слёз. «Трэба прачынацца! Я ж сплю!» — сказаў я і прачнуўся. Ізноў убачыў неба. Чыстае, як шкло на іконе ў хаце, у якой цяпер жывуць мае бацькі…

*

*7.10.2016.* Восеньская раніца. На вуліцы ідзе нудотны дождж. Я прачнуўся ў роднай хаце. Чую, як мама пячэ бліны. Чакаю, што яна, як звычайна гэта было ў дзяцінстве, пакліча снедаць. Мінула хвілін пяць. Мама не кліча. Я ляжу далей. Мінула дваццаць. І яшчэ праляцела цэлая вечнасць. Я ўстаў з канапы і прыйшоў на кухню. Мамы няма. Я спазніўся…

*

*7.10.2016.* У скверы ў вялізарнай калюжыне каштаны, як жабурынне, з якога выведуцца апалонікі, што потым стануць прыгожымі жабкамі. Ніхто гэтага не ўбачыць акрамя цябе і мяне, бо гэта наша таямніца…

*

*7.10.2016.* Бацька газет не чытаў. Ён імі распальваў дровы ў печцы. Бацька не быў чалавекам, якому не падабалася тое, што пішыцца ў газетах. Проста ў яго быў толькі адзін клас адукацыі, які ён закончыў яшчэ пры паляках…

*

*7.10.2016.* Люблю збіраць жоўтую лістоту, якая прытварылася залатой…

*

*7.10.2016.* Ты амаль заўсёды добры для таго, хто друкуецца час ад часу, ці чый хаця б рукапіс ляжыць у рэдакцыйнай шафе. І заўсёды знойдзецца некалькі чалавек, якія ні разу да цябе на працу не заходзілі, не тэлефанавалі і рукапісаў нават па пошце не прапаноўвалі, але ты для іх дрэнны, бо ты займаеш пасаду…

*

*8.10.2016.* На жаль, у двары дзеці часцей і гучней плачуць, чым смяюцца…

*

*8.10.2016.* З Граждана можна зрабіць дубіну, а можна і абраз…

*

*8.10.2016.* Восень. Адзінокая сяліба каля пачырванелага лесу. Яшчэ нядаўна тут жылі людзі. Цяпер цішыня. Я спыніўся непадалёку і гляджу на сялібу, як на карціну, над якой працуе вечнасць.

*

*9.10.2016.* Нядаўна паказвалі чарговы сіквэл «Тэхаскай разні бензапілой». Залы былі поўныя. На гэты фільм хадзілі падлеткі. У камп'ютарных гульнях шмат «герояў» з бензапілой, якія ўсіх запар пілуюць, а потым бяруць сякеру... Учора ў сецiве з'явілася інфармацыя: «Сёння ў гандлёвым цэнтры «Еўропа» ў цэнтры Мінска 18-гадовы хлопец з бензапілой і сякерай напаў на наведвальнікаў. Адна жанчына была параненая, яшчэ адна загінула.

Малады чалавек 1998 года нараджэння прынёс сякеру ў футарале ад музычнага інструмента, а ў руцэ трымаў бензапілу.

З заведзенай бензапілой ён напаў на дзвюх работніц ГЦ каля «Тэра піцы». Адну жанчыну хлопец параніў, яна ў бальніцы. Пасля чаго нападнік накінуўся на іншую жанчыну. Ёй выратавацца не ўдалося, яна загінула».

Словам, калі ў галаве падлетка сядзіць не Робін Гуд, не рыцар Айвенга, не мушкецёры, не Алесь Загорскі з «Каласоў» Караткевіча, тады ён можа стаць працягам фільма «Тэхаская разня бензапілой».

P. S. Хто быў каля цела загінулай жанчыны, казалі, што ўвесь час у яе надрываўся тэлефон. На экране смартфона было бачна, што тэлефанаваў «Сынуля»…

*

*9.10.2016.* Вецер вырывае з неба хмары з карэннем маланак…

*

*9.10.2016.* Ізноў дождж. Іду па Мухлі пад парасонам. Клічу Міёну схавацца ад дажджу, але яна не хоча. Быў час, калі я хадзіў без парасона. Упершыню я трымаў яго ў руках у 1986 годзе недзе ў пачатку кастрычніка ў Маскве, калі Людміла прыйшла на спатканне і сыпануў дождж. Яна дала парасон, каб я раскрыў яго. Але толькі з дапамогай Людмілы я справіўся з заданнем. Потым мы ішлі па Цвярскім бульвары. Я трымаў парасон амаль на

галаве сваёй зямлячкі, бо мне думалася, што толькі так я хаваю яе ад дажджу. Наступнай вясной Людміла мне падарыла парасон, і з таго часу ў мяне перабыло іх каля дзясятка…

### *Холад*

*10.10.2016.* Холад — гэта адсутнасць цяпла. Распалі агонь і ён дасць табе цяпла столькі, колькі ты яму дасі дроў. Але дровы могуць скончыцца, а жаданне быць у цяпле не знікне. Падтрымоўвай агонь, бо холад — гэта адсутнасць цяпла. Нічога новага ў сказаным няма, але яшчэ раз паўтараю, што холад — гэта адсутнасць цяпла. Холад — гэта адсутнасць. Холад.

*

*10.10.2016.* У кніжцы, як у доміку, жылі вершы. Кніжку спалілі і вершы сталі дымам Айчыны…

*

*10.10.2016.* Пакаранне дажджом…

*

*10.10.2016.* У маім мабільным з’явіліся тэлефонныя нумары, якія пазначаны імёнамі сабак — Джэк, Джэсі, Гарыныч…

*

*11.10.2016.* Мужчына баяўся ездзіць у ліфце. Калі ліфт падымаўся з першага паверха, мужчыну здавалася, што ён не спыніцца на апошнім, дзе ён жыў, а праб’е дах і паляціць у неба. Калі ж ліфт спускаўся на першы, мужчына баяўся, што ён праб’е дол і паляціць у пекла. Мужчыну падабалася неба. Яму не хацелася ў пекла і ён усё часцей і часцей хадзіў з апошняга на першы паверх, пакуль не памёр. І паляцела душа мужчыны ў неба, а цела закапалі ў зямлю.

*

*11.10.2016.* Па выдавецкіх справах ездзіў да сына Петруся Броўкі Юрыя. Яму хутка 85. Учора патэлефанаваў, каб дамовіцца пра час візіту. «А на чым вы прыедзіце?» — пацікавіўся Юрый Пятровіч. «На аўтобусе!» — адказаў я. Дамовіліся на тры гадзіны. Прыехаў раней. Да дамафона ніхто не падыходзіць. «Відаць, дома няма. Забыўся пра сустрэчу», — хукаючы на застылыя пальцы, падумаў я. Праз хвілін пяць дзверы адчыніліся, і з пад’езда выйшла дзяўчына. Я скарыстаўся момантам зайсці. Юрый Пятровіч жыве на другім паверсе. Званю ў дзверы. Якраз тры гадзіны. Праз хвіліну гаспадар адчыніў і адразу запытаўся: «На чым вы прыехалі?» — «На аўтобусе!» — адказаў я. Далей вітальні Юрый Пятровіч мяне не пусціў, і я зразумеў, што ён не памятае мяне. Для сябе міжволі ўзгадаў, што 26 сакавіка 1980 года я быў на пахаванні Петруся Броўкі. У той дзень мне споўнілася 20 гадоў…

*

*12.10.2016.* Холадна дома. Холадна на вуліцы. Холадна на працы. Холадна. Пра холад усе гавораць і амаль усе яго не любяць. Ты няспешна п’еш гарачую гарбату. Напачатку апякаеш вусны, а самая апошняя кропля амаль халодная.

І рукі ў цябе халодныя, як ледзяныя. І толькі ў вачах цепліцца святло, як у небе, дзе жыве сонца, якое схавалася ад нас, каб мы пасумавалі па ім. Аднак мы не сумуем, бо нам холадна на працы, на вуліцы і дома. Мы хочам цяпла. І ўсё ж дома цяплей, чым на працы і на вуліцы. Ты няспешна п’еш гарбату. Напачатку апякаеш вусны, а самая апошняя кропля цёплая, як ўспамін пра нядаўняе лета...

*

*12.10.2016.* Учора вечарам Міёна, пачуўшы здалёку сваіх сяброў, тузанула мяне так, што я, паслізнуўшыся на каштанах, упаў і на левай руцэ моцна пабіў пальцы. Іх цяпер без болю не выпрастаць. Трымаю ў кулаку. Учора ж, падняўшыся, я пачаў сварыцца на Міёну. І раптам пажылая жанчына, якая не бачыла мяне ляжачым на зямлі, спынілася непадалёку і на ўсю вуліцу пачала выхоўваць мяне. Я ж моўчкі з Міёнай пайшоў далей. Пасля майго траўміравання мінулі суткі. Пальцы распухлі, а ў галаве стаіць крык пажылой жанчыны. Крык мацнейшы, чым боль пальцаў.

*

*12.10.2016.* Вобразы некаторых памерлых класікаў адны пісьменнікі, якія залічваюць сябе ў класікі, носяць перад сабой, як іконы, а другія пісьменнікі робяць з тых жа памерлых пудзілаў…

*

*12.10.2016.* Хачу ў Парыж! «Чаго?» — пытаецца восеньскі вецер. Каб на правым беразе Сены паміж садам Цюільры і царквой Сен-Жэрмэн-л’Аксеруа стаяць у чарзе ў Луўр. Стаяць і дастаяцца! І каб перад самым уваходам у музей прыбегла з парыжскіх крам Людміла і мы з ёй на цэлую вечнасць зніклі сярод сусветных шэдэўраў і забыліся хоць на некалькі гадзін пра нашу халодную дажджлівую восень, працу і пра свет, у якім няма спакою і парадку. Хачу ў Парыж! Калі нельга перанесціся ў Парыж, дык хацяб да мора ў Іспанію, дзе ў мінулым годзе мы былі. «І што там будзеш рабіць?» — пытаецца восеньскі вецер. Я маўчу, як набраўшы ў рот віна…

*

*13.10.2016.* Учора вечарам у гатэлі «Рэнесанс» адбылася цырымонія ўганаравання лаўрэатаў Літаратурнай прэміі Ежы Гедройца за 2015 год. Сядзеў за адным столікам з трыма намінантамі, таму зблізку бачыў іх рэакцыю на ўсё, што пра іх гаварылася са сцэны. На тварах, нібыта на масках, быў спакой і тое, што тварылася ў іх галовах і душах, амаль не адлюстроўвалася. Словам, прысутныя намінанты да аб’яўлення вынікаў літаратурнага марафона паводзілі сябе, як пераможцы. Праўда, твары некаторых пісьменікаў, якія прыйшлі паглядзець цырымонію, пры аб’яўленні імён лаўрэатаў перакошваліся, чырванелі, нібыта іх білі ботамі. Было шмат моладзі. Шкада, што не ўручалі прыза чытацкіх сімпатый, як у мінулы раз. Думаю, што перамог бы Альгерд Бахарэвіч. Фрагменты з кніг шорт-лістараў гучалі ў выкананні акцёраў Купалаўскага тэатра, у прыватнасці, Рамана Падалякі, дзякуючы прысутнасці якога ўся цырымонія выглядала як добры спектакль, дзе ў многіх у зале была свая імпрывізацыйная роля. Хапала і масоўкі.

*

*13.10.2016.* Пасля цырымоніі ўганаравання лаўрэатаў Літаратурнай прэміі Ежы Гедройца праз хвілін дзесяць мы з Людмілай пайшлі дахаты. У гатэлі

«Рэнесанс» на другім паверсе за святочнымі столікамі яшчэ засталося шмат людзей. Іграла музыка. Праз метраў сто ад «Рэнесанса» я азірнуўся, і мне асветлены агнямі гатэль падаўся «Тытанікам», які ўжо сутыкнуўся з айсбергам…

*

*13.10.2016.* Калі камусьці з пісьменнікаў даюць літаратурную прэмію, адразу некаторыя браты па пяры пачынаюць яго любіць, як маці родную, а некаторыя — не любіць, як ворага народа…

*

*14.10.2016.* Сёння свята. Дзень маці. Факультэт сацыяльна-педагагічных тэхналогій педагагічнага ўніверсітэта ўшаноўваў пераможцаў конкурсу творчых прац «Гімн матулі». Я ўдзельнічаў у гэтым мерапрыемстве — чытаў вершы, уручаў граматы і падарункі. Тут жа сустрэўся з намеснікам старшыні Беларускага саюза жанчын Рэгінай Давідовіч. Яна ўзгадала, як гадоў пятнаццаць таму ў Палацы Рэспублікі на рэспубліканскім святкаванні Дня маці па запрашэнні БСЖ была мая мама. І я быў з ёй. Памятаю, як я тэлефанаваў у вёску маме і баяўся, што яна адмовіцца ехаць. Мама не адмовілася. Ёй у вёсцы ўсе сказалі: «Ніна, едзь! Ты заслужыла!» І мама прыехала. Я сустрэў яе на вакзале, і мы пайшлі па праспекце да Палаца Рэспублікі. Усю дарогу я маму трымаў за руку і распавядаў пра горад. У Палацы нас чакалі. Дапамаглі маме распрануцца, правялі ў залу за столік. Памятаю, што мы сядзелі з мамай насупраць тагачаснага члена ўрада Рэспублікі Беларусь Аляксандра Казуліна. Усім давалі слова. Мама таксама выступала. Атрымала падарунак і вялікі-вялікі букет. Мама была шчаслівая. Быў шчаслівы і я. І сёння я таксама адчуваў шчасце. Ідучы дадому па апалай залатой лістоце, я ў думках дзякаваў маме, што Яна была, ёсць і будзе ў мяне…

*

*14.10.2016.* У апалым лісці, як у прыску, варона дзюбай перакочвае каштан, нібы глядзіць ці спёкся…

### *Дзіма і Дзілан*

*14.10.2016.* Сустрэў каля крамы суседа Дзіму. Паведамляю навіну: «Бобу Дзілану далі Нобелеўскую прэмію!» — «О-о-о! Пайшлі ў госці! Няхай прастаўляецца!» — радуецца сусед. «Дык гэта не нашаму Бобу!» — расчароўваю Дзіму, які тут жа кідае цыгарку і злуецца: «Дык пайшоў тады ён у баню той Боб са сваёй прэміяй!» Праз хвіліну, супакоіўшыся, сусед папрасіў у мяне пяць рублёў на аздараўленне перад халоднай зімой.

*

*14.10.2016.* Мне сямнаццаць гадоў. У інтэрнаце Мінскага архітэктурна-будаўнічага тэхнікума па «Свабодзе» (а мо і не па «Свабодзе») з сябрамі-замежнікамі слухаем Боба Дзілана. Мне не вельмі цікава, хто ён такі і пра што ён спявае. Мы п’ём таннае віно і закусваем салам з цыбуляй…

Мінула амаль сорак гадоў. Я слухаю ў Ютубе альбом песень 1975 года Нобелеўскага лаўрэата па літаратуры за 2016 год Боба Дзілана. Не п’ю і не закусваю. Мне сямнаццаць гадоў і я ўжо ведаю, хто такі Боб Дзілан і пра што ён спявае…

*

*15.10.2016.* Учора было 150 дзён, як наш Максім служыць у памежных войсках. 11 кастрычніка яму заставалася да вяртання дадому 400 дзён. Сёння, ідучы з крамы, бачыў вайскоўца ў зімовай форме. Значыць, і Максім ужо апрануты ў цёплае. А шостай раніцы было два градусы марозу. Апалае лісце хрумсцела пад нагамі, як шкляное…

*

*15.10.2016.* Быў у краме «Глоба». Бачыў вялікага прусака. Ён сядзеў на шкарпэтцы ў аддзеле зніжак. Пакуль думаў паклікаць крамніцу, прусак схаваўся. Жыццё працягваецца…

*

*15.10.2016.* Снілася вёска. Родная хата. Бацькі сядзяць на прызбе. Я з братам і сястрой збіраем яблыкі. Носім на гарышча. А яблыкаў у садзе усё не менее, а на гарышчы, як быў кошык антонаўкі, дык ён і ляжыць. А мы ўсё носім і носім. Раптам устае бацька і кажа: «Адпачніце. Я сам усё зраблю!» Падыходзіць да яблыні і націскае на нешта, і сад пусцее. Уздымаецца вецер. Робіцца холадна. Там, дзе ў траве ляжалі яблыкі, кавалкі лёду. Я падымаю лядзяк, а ён гарачы, як шкло лямпачкі, якая толькі што свяцілася…

*

*15.10.2016.* З дрэў асыпаецца лісце. Дрэвы ператварыліся ў лісцяныя гадзіннікі. На некаторых ужо скончыўся залаты лістапад, а на некаторых яшчэ зялёны жнівень.

*

*15.10.2016.* Андрусь Горват напісаў у фэйсбуку: «Калі мяне пабудзіць ноччу і запытаць:

— Горват, для чаго ты жывеш?

Я адразу адкажу, я нават думаць не буду:

— Я жыву для сваёй казы…»

У мяне складваецца падобная сітуацыя, але мяне будзіць ноччу не трэба, бо я прачынаюся сам а палове шостай, а часам і раней. І вось, калі вы ў мяне спытаеце: «Шніп, для чаго ты жывеш?» — я адразу адкажу, я нават думаць не буду: «Я жыву для сваёй сабакі Міёны…» Чаму? А таму што кармлю яе, паю, выгульваю, з працы бягу дадому, каб яна не думала, што яе кінулі… Напісаў і, падумаўшы, захацеў перакрэсліць напісанае, бо ў мяне ёсць сям’я, а потым ужо Міёна…

*

*16.10.2016.* Напачатку з каштанаў ападаюць каштаны, а потым лісцё. Амаль усе ў свой час падбіралі каштаны і прыносілі дадому і, відаць, зусім мала хто збіраў каштанавае лісце. Па ім людзі топчуцца, як па смецці. Я прынёс каштанавы лісток у кватэру і ён яшчэ больш скруціўся ў трубку, нібы схаваўся ў самім сабе…

*

*16.10.2016.* Усе вершы — гэта варыянты некалькіх твораў, якія могуць застацца пасля цябе і праз сотні гадоў, а могуць і не застацца. Ты пішаш і не ведаеш, што верш, які застанецца, можа, ужо і створаны, а магчыма ты яго ніколі і не напішаш. Ты пра гэта думаеш мала, таму і пішаш, што пішацца…

*

*16.10.2016.* Удзельнічаў у адкрыцці выставы Алеся Квяткоўскага «Пчалінае ўзнясенне» ў дольняй зале Чырвонага касцёла. Было шмат вернікаў, якія прыйшлі пасля малітвы. Святар асвяціў выставу, а касцельны хор выканаў некалькі песень. Потым доўга людзі разглядалі карціны, пілі гарбату і частаваліся мёдам. Чытаючы анатацыю да выставы, я знайшоў у ёй некалькі памылак, якія тут жа выправіў. Студэнты Алеся Квяткоўскага набіралі на камп'ютары і, не разабраўшыся ў почырку, напрыклад напісалі: «…усё пачалося з верша А. Сыса «Начаваў я ў Вулькі». А трэба было: «Начаваў я ў вуллі». Словам, цяпер у Чырвоным касцёле да Каляд будуць жыць пчолы Алеся Квяткоўскага.

***Электрычнасць***

*16.10.2016.* Паўгадзіны не было электрычнасці. Не працаваў ні інтэрнэт, ні тэлефон, не было гарачай вады (у нас электракалонка). Было адчуванне, што гэта канец свету. У дзяцінстве ў вёсцы электрычнасць прападала ў навальніцу і ў моцныя мяцеліцы. Летам святло падключалі праз паўдня, а зімой часам і праз тыдзень. Бацькі рана клаліся спаць, а я пры лямпе чытаў. Чытаў, але мне вельмі хацелася паглядзець тэлевізар. І я прасіў у Бога, каб з'явілася электрычнасць. Часам яна тут жа з'яўлялася, і я верыў, што мне дапамог Бог. Цяпер, калі знікла электрычнасць, я не звяртаўся да Бога. Я проста чакаў, калі загарацца лямпачкі.

*

*17.10.2016.* Над горадам узышла поўня і ліхтары ў скверы, як дзеці ейныя, якія яшчэ баяцца ўзлятаць у неба…

*

*17.10.2016.* Ты хочаш цяпла як шчасця. А сіноптыкі абяцаюць ужо на гэтым тыдні маразы да шасці градусаў і снег. І наогул чакаецца вельмі лютая зіма. Ты ведаеш пра гэта, і табе ўжо холадна ад думак пра маразы. Ты хочаш цяпла як шчасця.

*

*18.10.2016.* Прыбіраў працоўны стол. Рваў старыя непатрэбныя паперы, скрэмзаныя мной нейкімі цяпер незразумелымі запісамі, і кідаў у сметніцу. Спыніўся на маленькім, велічынёй з бярозавы ліст, аркушы. На ім радкі:

На небе вырасла трава,
А на зямлі аблокі.
І наша белая царква,
Як гонар наш высокі…

*

*18.10.2016.* Ідзеш праз сквер. Лістоты пад нагамі больш, чым над галавой. Што пад нагамі ўжо амаль смецце, а тая, што на дрэвах, яшчэ, як вершы, што не чыталіся крытыкамі…

***Дуб***

*20.10.2016.* Сярод поля стаіць шматвяковы дуб. Папраўдзе, яго ўжо гадоў сорак, як няма. Застаўся пень, вакол якога быльнёг. Дуб быў спілаваны па загадзе старшыні калгаса, каб узараць лугавіну і пасадзіць бульбу. Нейкі час сеялі жыта, а потым расла канюшына. І вось ужо гадоў дваццаць на полі нічога не вырошчваюць. Спыніўшыся каля пня, бачу вялікі дуб, бо памятаю дзедаўскі расповед пра тое, што гэтаму дубу пяцьсот гадоў і ён тут нарадзіўся ў часы Вялікага Княства Літоўскага, і на ім трымаецца неба над намі.

*

*20.10.2016.* Учора з Людмілай і сябрамі «Літаратурнага прадмесця» Наталкай Кучмель, Алесем Емяльянавым і Вікай Трэнас удзельнічалі ў гісторыка-культурным праекце «У гасцях у аптэкара Ёсафа» на тэму «Лекавыя расліны ў жыцці і творчасці». Ёсаф — гэта адзін з герояў аповесці Людмілы Рублеўскай «Ночы на Плябанскіх млынах», які стаў сімвалам аптэкі № 88. Мастачка Лідзія Лазоўская год таму намалявала партрэт аптэкара, які выстаўлены ў музеі фармацыі. Нядаўна з выявай Ёсафа выпушчаны дэкаратыўныя талеркі і магніцікі. Сустрэчу пісьменнікаў і фармацэўтаў арганізаваў клуб гісторыі фармацыі пад кіраўніцтвам Валянціны Сасонкінай. Сабралася каля трыццаці чалавек. Цікава было паслухаць пра лекавыя травы і піць з іх гарбату. Вольга Леанідаўна Гаўрылава, якая яшчэ ў 1960-х загадвала аптэкай № 13, распавяла, як з каляжанкамі выпраўляліся на грузавіку збіраць лекавыя травы — план аптэцы даводзілі па 200—300 кілаграмаў. Нас папярэджвалі, што трэба зёлкі піць умеру, а мы не надалі гэтаму значэння. Раніцай прачнуўся з паніжаным ціскам і з рытмам сэрца ў 52 штуршкі ў хвіліну. Цяпер буду ведаць, што такое лекавыя травы, і як імі трэба асцярожна карыстацца.

*

*21.10.2016.* З сеціва даведаўся, што памерла Святлана Мулявіна-Пенкіна — акторка, удава заснавальніка ансамбля «Песняры» Уладзіміра Мулявіна. Па словах работнікаў Белдзяржфілармоніі, у структуры якой працавала Мулявіна-Пенкіна, некалькі дзён яна не выходзіла на працу, не адказвала на тэлефонныя званкі. Калегі і сын пачалі шукаць жанчыну і выявілі яе памерлай на здымнай кватэры. Дакладная дата і прычына смерці пакуль не вядомыя». Святлане Аляксандраўне ішоў 66 год. Я з ёй пазнаёміўся 10 лютага на кніжнай выставе, калі прэзентавалі кнігу «Уладзімір Мулявін. “Сэрцам і думамі”». 18 траўня па запрашэнні спадарыні Святланы ўдзельнічаў у вечарыне памяці Уладзіміра Мулявіна ў філармоніі. А праз дзень мне патэлефанавала Людміла Крушынская і паведаміла, што яе папрасіла звязацца са мной Святлана Пенкіна, каб яшчэ раз падзякаваць за ўдзел у імпрэзе і прапанаваць мне быць сябрам клуба Мулявіна. Сёння, калі я даведаўся пра смерць Святланы Аляксандраўны, узгадаў ейнае шчырае пытанне, з якім яна звярнулася да мяне пасля майго выступлення ў філармоніі: «Няўжо гэта вы самі такі цудоўны верш напісалі?» Я тады адказаў: «Мне Мулявін дапамог!»

*

*21.10.2016.* Прыхварэў. І не змог пайсці ў бібліятэку імя Цёткі, дзе паэтычны тэатр «Арт.С» прадстаўляе паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь». Гэта дзевятнаццатая сустрэча, і яна прысвечана зялёнаму колеру. Да імпрэзы ў бібліятэцы падрыхтаваная выстава «Зялёныя кнігі» выдавецтва

«Мастацкая літаратура». Дарэчы, калі б я там быў, можна было б набыць майго «Пугачоўскага цырульніка» (кніга зялёнага колеру) і атрымаць аўтограф. Я збіраўся прачытаць верш «Зялёны і зялёнае»:

не рві зялёных яблыкаў
крычыць мне мама
і я хаваюся ад яе
за зялёных вожыкаў агрэсту
у траву да зялёных конікаў
для якіх белы свет зялёны
зялёны як воблака яблыні
з якога я злез
яшчэ зялёны зялёны зялёны
дражніцца суседская ўнучка
з зялёнымі косамі
зялёнымі бо так модна
у горадзе
з якога яна прыехала зялёная
і горад яе за зялёнымі лясамі і гарамі
за зялёным балотам
дзе жывуць зялёныя жабкі
адна з якіх зачараваная царэўна
з зялёнага царства
дзе жыве зялёны цар
якому прыслужвае зялёны змей
самы зялёны ў зялёным свеце
куды я сабраўся ўцячы
бо я зялёны
і я іду на зялёнае святло
святлафора
які на зялёнай вуліцы
бо ў горадзе лета
зялёнае зялёнае зялёнае
і аўтобусы тут зялёныя
як зялёныя вусені
поўзаюць па качане зямлі
зялёнай як вока тайфуна
які ў зялёным акіяне сусвету
і зялёнае мора травы
вакол горада
як вострава каменнага
на якім ёсць жыццё
яшчэ зялёнае зялёнае
як маладое віно
і ты глядзіш праз зялёныя акуляры
каб усё навокал было зялёным
бо ўсё зялёнае жывое
і кажа мне мама
не рві зялёных яблыкаў
і я слухаю маму
якой ужо няма
у гэтым зялёным свеце
у гэтым зялёным часе
у гэтым зялёным доме
у гэтым зялёным дыме
у гэтым зялёным
зялёным зялёным зялёным
вершы
мама жыве

*

*22.10.2016.* Людзі ўсё меней і меней чытаюць, а пісьменнікі ўсё болей і болей атрымоўваюць узнагарод.

*

*22.10.2016.* На тры дні з Пінскай пагранічнай заставы адусцілі ў адпачынак Максіма. Мы з Міёнай а палове сёмай раніцы яго чакалі на перакрыжаванні, што каля кнігарні. А Максім паехаў з вакзала на тралейбусе № 7 і дамоў прыйшоў у нас за спінай. Патэлефанаваў ад нашага пад'езда, каб даведацца, дзе мы. Міёна, убачыўшы Максіма, паляцела да яго, як угарэлая. Люда прапаноўвала сыну схадзіць у кіно ці тэатр. Максім адмовіўся: «Хачу дома пабыць у цішыні!»

*

*23.10.2016.* З дрэў падала лістота, а з неба снег, які, даляцеўшы да зямлі, тут жа раставаў. Я з Міёнай стаяў у святле ліхтара і думаў пра надыход зімы. Міёна час ад часу паглядала на мяне, чакаючы працягу вандроўкі па Мухлі. Вецер гартаў лістоту, як старонкі залатой кнігі, якую парвалі злыя вятры, што нядаўна рабілі набегі на горад. З неба падаў снег, як попел…

*

*23.10.2016.* Старыя адчуваюць зямлю пад нагамі… Сказаў і задумаўся: «Адкуль я гэта ведаю? Прыдумаў». Мне да старасці яшчэ далёка, як да леташняга снегу сённяшняму...

*

*23.10.2016.* Некалькі дзён таму ў двары дворнікі зграблі ў кучы апалае лісце. За мінулую ноч вецер амаль усё раскідаў, нібыта падрыхтаваў месца для прызямлення першага снегу. Снег выпаў і растаў, нібы загінуў…

*

*24.10.2016.* На тры дні ў адпачынак з войска прыязджаў Максім. Сёння яго праводзіў на маршрутку ў Пінск. На Дружнай усё раскапана і панастаўляна загарадак розных — будуецца станцыя метро. Прыйшлі за дваццаць хвілін да ад'езду. У розных местах стаялі ажно чатыры маршруткі на Пінск. Кругом поўна машын і аўтобусаў гарадскіх. Пачалі бегаць ад адной маршруткі да другой. Патрэбнай няма. Да ўсяго Максім прыехаў без тэлефона і мы не можам удакладніць, на якой ён едзе. Калі да ад'езду заставалася хвіліна, мы знайшлі пятую маршрутку на Пінск. Словам, мерзнуць у чаканні транспарту нам не давялося…

*

*24.10.2016.* Зноў снілася вёска. Атрымоўваецца, што днём жыву ў горадзе, а ноччу ў сне — у вёсцы. І ў вёсцы жыць лепей. Там у гэтую ноч было лета…

*

*25.10.2016.* Учора вечарам а палове дзясятай выйшлі з Міёнай на шпацыр і трапілі ў зіму. Сёння раніцай а палове шостай хацелі палюбавацца заснежаным горадам, а выйшлі з дому і ўжо не ўбачылі снегу. Ішоў дождж і па вуліцы цяклі ручаіны, па якіх плыла, нядаўна абарваная ветрам, лістота. Прыгожая і бездапаможная…

*

*25.10.2016.* Кімсьці злеплены ўчора снегавічок перажыў ранішні дождж. Сёння Міёна, убачыўшы снегавічка, пацягнула мяне да яго, як да незнаёмай жывой істоты, якой патрэбна дапамога…

*

*26.10.2016.* Гэты тыдзень вучуся ў Рэспубліканскім інстытуце вышэйшай школы. Павышаю кваліфікацыю кіруючага работніка па тэме «Забеспячэнне пажарнай бяспекі». Такіх навучэнцаў, як я, сабралася каля сямідзесяці чалавек. Большасць з раёнаў. Некалі ёсць з Астравецкай АЭС. Там, як у футболе, дзейнічаюць жоўтыя і чырвоныя карткі. Рабочыя ходзяць і працуюць аглядаючыся, каб не атрымаць жоўтую або чырвоную картку. Пры жоўтай здымаюцца прэміі, а за чырвоную могуць і звольніць. Са мной вучацца ў асноўным мужыкі ва ўзросце. Жанчын мала. Ёсць і дзяўчо гадоў дваццаці пяці. Худзенькая. Нешта ўсё кашляе і кашляе. Хто і чаму на яе ўсклаў абавязкі быць адказнай па забеспячэнні пажарнай бяспекі на працы? Не ведаю! Няпростая гэта справа ЗПБ! Асабліва, калі падрабязней знаёмішся з усім, што патрэбна табе ведаць і рабіць. У вялікіх калектывах адказны па ЗПБ атрымоўвае за гэта зарплату і больш нічога не робіць. Словам, ходзячы на заняткі ў РІВШ, зноў адчуваю сябе студэнтам…

*

*26.10.2016.* У час перапынку на занятках у РІВШ падышоў да акна і ўбачыў дзіцячую пляцоўку, засыпаную рознакаляровай лістотай. Пад бярозай, на якой яшчэ месцамі на галінах трапяталася восеньскае золата, спынілася ў кароткай чорнай спадніцы і ў блакітай куртцы, з доўгімі распушчанымі валасамі дзяўчына і курыла. Па ўзросце студэнтка. Магчыма, тут у дзяцінстве яна корпалася ў пясочніцы, збірала апалае лісце, бегала з сяброўкамі. Цяпер стаіць пад бярозай і курыць. Праз некалькі хвілін міма дзяўчыны прайшла жанчына, а яшчэ праз некалькі бабулька. Дзяўчына дакурыла цыгарэту і, кінуўшы ў калюгу, няспешна пайшла. На дзіцячай пляцоўцы зноў стала бязлюдна, як было пяць хвілін таму…

*

*27.10.2016.* На занятках у РІВШ па тэме «Забеспячэнне пажарнай бяспекі» пачуў: «Кожны год у свеце гіне 7 мільёнаў дзяцей ва ўзросце да пяці гадоў». Двух аднолькавых пажараў не бывае…

### *Северус і Міёна*

*28.10.2016.* Нашаму папугаю Северусу шэсць гадоў. Ён прыйшоў да ўлады пасля таго, як у час хатняга перавароту загінуў Маркус. Северус разумны беларускі хлопец. Паводзіць сябе прыстойна. Не страшыць мяне, як ягоны папярэднік, што ён пра ўсё, што я раблю, раскажа маме. Ранкам, калі я з Міёнай вяртаюся з Мухлі, Северус гучна патрабуе печыва. Перш, чым даць папугаю, прапаную Міёне. Яна адварочвае пысу. Нават не нюхае. Даю Северусу, які сядзіць у клетцы. Печыва заціскаю паміж пруткоў. Не паспяваю адысціся, як Міёна зубамі выцягвае з пруткоў ласунак, ад якога нядаўна адмовілася. Северус злуецца. Яму зноў даю печыва. Міёна забірае і тут жа з’ядае. «Нельга так рабіць!» — кажу Міёне. Яна падсоўвае пысу да клеткі, і Северус

дзяўбе ейны нос. І, калі я іду на працу, заўсёды прашу Міёну і Северуса, каб жылі дружна. Северус нешта крычыць мне ў адказ, а Міёна ідзе ўслед за мной і кладзецца каля парога.

*

*28.10.2016.* Хочацца нешта такое геніяльнае напісаць, каб аж дождж на вуліцы перастаў ісці!

*

*29.10.2016.* З Міёнай ідзём па вуліцы Купрыянава. Праходзім каля дзіцячага садка, куды ў свой час хадзілі Вераніка і Максім. Уздоўж агароджы стаяць вялізарныя мяшкі, напоўненыя лістотай. Сёння субота. У садку няма дзяцей. Гледзячы на мяшкі, узгадалася, як у дзяцінстве страшылі ў вёсцы малых: «Не будзеш слухацца, прыйдзе Баба Яга з вялізарным мяшком і забярэ цябе!»

*

*29.10.2016.* У скверы паблізу крамы на лаўцы цэлымі днямі сядзяць то мужыкі, то жанчыны розных узростаў і выпіваюць. Сёння, калі я праходзіў праз сквер, сядзелі дзве жанчыны з пляшкай таннага віна і курылі. На спінцы чырвонай лаўкі сіняй фарбай вялікімі літарамі было напісана: «Сорам».

*

*29.10.2016.* Яму ўжо некалькі гадоў кепска ад таго, што памерлі бацькі. І нават не прыцішвае боль тое, што яны ўжо не могуць прачытаць і ніхто ім не перакажа, як і што пра яго і ягоную сям'ю пішуць некаторыя Гражданы…

*

*30.10.2016.* Збіраюся на вечарыну выпускнікоў Пугачоўскай васьмігодкі, якую арганізавала настаўніца рускай літаратуры Ефрасіння Сяргееўна Скамарошчанка. Яна хоча, каб наша сустрэча прайшла ў форме ўрока. Трэба будзе па памяці прачытаць верш, які яна даслала па сеціве. Вучу і адначасова збіраюся ў школу. Твор сучаснага рускага паэта, для мяне невядомага, не запамінаецца. У ім шаснаццаць радкоў. Прыходжу ў вялікі клас. Па сярэдзіне стаіць стол, вакол якога крэслы. На сустрэчу прыйшлі ўсе — жывыя і памерлыя. Усе цёпла апранутыя — некаторыя ў футры, а некаторыя ў ватоўкі. Ефрасіння Сяргееўна кажа: «Не бойцеся, што я мёртвая. Я тут не адна такая. Мы ўсе тут роўныя. Мы выпускнікі Пугачоўскай школы. Раней уся школа была, як гэты прасторны клас». Я слухаю настаўніцу, а сам думаю, як мне апраўдацца перад ёй за нявывучаны верш. І вырашаю: «Скажу, што гэты верш напісаны графаманам і таму яго нельга вучыць!» Звініць званок на ўрок і я… прачынаюся. А палове шостай раніцы. На вуліцы дождж. Міёна, пачуўшы, што я прачнуўся, пачала скрэбціся ў дзверы, каб я хутчэй збіраўся на шпацыр.

*

*30.10.2016.* На Мухлі ў азярыне ад кляновай лістоты дно залатое…

*

*30.10.2016.* У гарбаце цукар, як снег, растаў. І ты п'еш гарбату, як цёплы восеньскі вечар, які павінен яшчэ быць перад тым, як прыйдзе зіма. І ты будзеш ісці па скверы па лісці, якое ўжо забылася, што яно было жывым і хацела паляцець да зорак, такіх жа залатых, як яно само. І ў цябе будзе цудоў-

ны настрой. А можа, у гэтым годзе ўжо больш ніколі не будзе цёплага вечара? І заўтра выпадзе снег белы, як цукар, які хвіліну таму ты сыпаў у гарбату. Што ж будзе заўтра? А заўтра будзе заўтра! І заўтра заўсёды будзе заўтра!

*

*30.10.2016.* Калі ты пускаеш чалавека ў жытло сагрэцца, ты саграешся і сам…

### *Рабіна*

*30.10.2016.* У гэтым годзе рабіна ў нашым двары чырвоная, як ніколі. Часам, калі бачу яе, узгадваю рабіну, што расце на ўзмежку нашых сотак у вёсцы, а іншым разам Васіля Шукшына і ягоную «Каліну (рабіну) чырвоную». І мне не сумна ад гэтых успамінаў. І я люблю рабіну, якая расце ў нашым двары. Праўда, я ніколі не спыняўся каля яе і не кранаўся ствала. Я люблю яе на адлегласці, бо ў мяне ёсць рабіна, якая расце на ўзмежку нашых сотак у вёсцы…

*

*30.10.2016.* Усё навокал прыдуманае некім. І дамы, і дарогі, і платы, і машыны, і мы… І ты нічога не можаш новага прыдумаць акрамя вершаў. Часам з рыфмамі, як з крыламі, а часам без рыфмаў. Нерыфмаваны верш, як вусень, які паўзе, вымалёўваючы тваю думку на паперы. І ты часцей рыфмуеш, бо ты сам, часам, адчуваеш сябе крылатым. Праўда, калі ўяўляеш сябе з крыламі, то тут жа твая фантазія малюе табе свінню з крыламі. Ты не хочаш быць свіннёй! І ты кідаеш выдумляць новы верш, бо і старых дастаткова, каб чарнавікамі распаліць дровы ў вясковай печы.

*

*31.10.2016.* Пайшоў на працу здаровы, а вярнуўся з тэмпературай за 38. Пакуль Людміла прыйшла, каля мяне сядзела Міёна з пытаннем у вачах: «Чым табе дапамагчы?»

*

*31.10.2016.* У Мінску моладзь Гэлаўін спраўляла, а наш Максім 40 км прайшоў з аўтаматам, ахоўваючы беларускую мяжу…

## *Лістапад*

*

*1.11.2016.* Хварэю. Ноч была бясконцай. Увесь час мне было то горача-горача, то холадна, як на лёдзе. І я то спаў, то не. Міёна на кухні за зачыненымі дзвярыма ўздыхала, як чалавек…

*

*1.11.2016.* Прыходзіла дакторка. «Ай, як добра вы па-беларуску гаворыце!» — адразу ж адзначыла жанчына. Змерала ціск. 140 на 80. Паслухала дыханне, сэрца. Распытала, як захварэў і чым лячуся. Выпісала бюлетэнь да канца тыдня і рэцэпт на лекі. Словам, гэта будзе мой першы ў жыцці бюле-

тэнь. Раней я хварэў і лячыўся без дактароў. І амаль заўсёды хадзіў на працу цалкам не выздаравеўшы. Для чаго было такое геройства? Добра, што ўсё добра канчалася.

*

*1.11.2016.* У сённяшнім снезе ёсць лістападаўская цеплыня. Ён, як першыя зімовыя кветкі, якіх хутка мінецца пара…

***Аспірын***

*2.11.2016.* Мама гадоў сорак адпрацавала даяркай. І ні разу не была ні ў адпачынку, ні на бальнічным. Няўжо не хварэла? Хварэла. Вып’е аспірыну і пайшла на працу. Вернецца з фермы, накорміць усіх і, крыху паспаўшы, зноў працаваць. Хворага бацьку, ляжачым у ложку цэлы тыдзень, не памятаю. Дзень, другі і пайшоў. Акрамя аспірыну больш ніякіх лякарстваў у нас не было. Лячыліся малінай, гарачым малаком з мёдам, часнаком, цыбуляй. Цяпер у мяне на століку цэлая аптэчка лякарстваў. Аспірыну няма. Ёсць і мёд, і маліна, і розныя травы. П’ю не першы дзень, але пакуль мала дапамагае.

*

*3.11.2016.* Тэмпература больш-менш нармалізавалася. Гэтую ноч спаў, не прачынаўся праз кожныя дваццаць хвілін. П’ючы лекі, уявіў сябе хворага ў роднай хаце ў Пугачах. Відаць, там не паправіўся б. Памёр бы. Не таму, што бацькоў няма і хата старая і недагледжаная як трэба, а проста ад адзіноты і непатрэбнасці. Колькі ўжо разоў думаў, што вось паеду ў вёску і буду там жыць, як хачу. І ніхто не будзе дурыць мне мазгі, што я заняў пасаду і нікога не друкую, хто хоча, але рукапісу не нясе. І не буду я членам нейкай міфічнай касты, якая ўладарыць у літаратуры. Мяне ўсе будуць шкадаваць: «Такі геніяльны паэт прападае ў адзіноце!» — «Ну няхай і прападае!» — нехта выкажа думку, бо мае права на яе. І я нікуды не паеду! І ніхто мне не скажа: «Ну няхай і прападае!» Я сам не прападу і не дам нікому прапасці, бо памятаю сябе, пятнаццацігадовага хлопца, які прыехаў у Мінск вучыцца, і да вучобы ў Маскве прайшоў такую дзесяцігодку, што іншым і не снілася. Я не герой, але стараюся быць справядлівым да кожнага, хто кантактуе са мной. І ў мяне няма ворагаў. Я памятаю, як дзед (я кватараваў у яго сем гадоў), які прайшоў сталінскі ГУЛАГ, казаў мне: «Не шукай ворагаў, бо сам будзеш ворагам!»

*

*3.11.2016.* Прачнуўся. Выйшаў з кватэры на Цэнтральнай плошчы. Да мяне падышоў высокі мужчына (падобны на Маякоўскага) у чорным скураным паліто і сказаў: «Вы тут не жывіцё! Пакажыце пашпарт!» Я вярнуўся ў пад’езд. Дзверы маёй кватэры прачынены. Міёны няма. Я выбег на лесвічную пляцоўку і пачаў клікаць сабаку. Лесвіца вінтавая. Вядзе ўніз. Паверхаў дзесяць. Хутка адгукнулася Міёна — вярталася з першага паверха. І я прачнуўся.

*

*4.11.2016.* У сецівe з’явілася вельмі балючая інфармацыя: «Пісьменнік і даследчык сталінскіх рэпрэсій Леанід Маракоў знаходзіцца ў хоспісе. У яго пухліна галаўнога мозгу. Пра гэта паведаміў сын пісьменніка Дзмітрый.

Па словах Дзмітрыя Маракова, пухліна была прычынай таго, што на пачатку года Леанід пераҗыў інсульт. Цяпер ягоны стан цяжкі. Пра яго клапоцяцца сын і дачка.

На знікненне Леаніда Маракова з публічнай прасторы звярнулі ўвагу ягоныя сябры ў сацыяльнай сетцы фэйсбук. Пісьменнік мае вельмі актыўны акаунт і шмат падпісчыкаў. Апошні пост на ягонай старонцы з'явіўся 21 верасня».

Да мяне ў выдавецтва Маракоў прыходзіў 7 верасня. Я ў той жа дзень запісаў у дзённіку пра ягоны прыход, але не выставіў у фэйсбуку з-за канцоўкі: «Лёня развітаўся са мной і паплёўся з Наталляй па доўгім паўзмрочным выдавецкім калідоры да ліфта. Я глядзеў ім услед і мне здавалася, што да мяне прыходзілі прывіды Леаніда і Наталлі Мараковых…»

*

*4.11.2016.* Паўтары гадзіны прабыў у паліклініцы. Людзей поўна, як на вакзале каля квітковай касы на электрычку ў час збору ўраджаю. Доктарка хацела прадоўжыць лісток непрацаздольнасці, але я папрасіў закрыць, абяцаўшы, што за тры выхадныя цалкам папраўлюся. Мая амбулаторная картка амаль пустая, таму выпісалі кіпу накіраванняў на аналізы і абследаванні. Як толькі ачуняю, у вольны час пастараюся ўсё прайсці. Пара ўжо ведаць, што і чаму ў мяне баліць. Паўгадзіны стаяў у чарзе, каб паставілі пячатку на лісток непрацаздольнасці. З дому выходзіў амаль здаровым, а вярнуўся хворым і з электроннай карткай для рэцэптаў, якую цяпер трэба будзе мець усім.

*

*4.11.2016.* Сёння ў нашай паліклініцы на прыём да дактароў было ў сярэднім на дваццаць жанчын тры мужыкі. Маўклівыя, спакойныя, няспешныя. Перада мной жанчын дзесяць. За мной сядзела бабулька. Яна час ад часу пыталася, за кім я і ці доўга буду. А дванаццатай адчыніліся дзверы кабінета № 3 і выглянула дакторка: «Хто прыйшоў закрыць лісток непрацаздольнасці? Заходзьце!» — «Я!» — адказаў я і зайшоў у кабінет. Следам пачуліся крыкі бабулькі, якая была ў чарзе за мной: «Цяпер я іду! Я за ім была!» Яшчэ хвілін пяць за дзвярыма чуліся жаночыя разборкі, хто ж цяпер будзе наступным. Мужыкі маўчалі.

*

*5.11.2016.* Гляджу з акна на вуліцу, як рыба з акварыума…

*

*5.11.2016.* На дрэве, дзе яшчэ нядаўна была лістота, гайдаецца на галінцы сініца, як лісток…

*

*5.11.2016.* Хоспіс — апошні вакзал на шляху да Бога…

*

*5.11.2016.* Наша Міёна радуецца снегу. Ён у яе сабачым жыцці ўжо другі раз. У мінулым годзе, калі яна ўпершыню ўбачыла снег, ёй было ўсяго тры месяцы. І потым паўгода быў снег і снег. Дзень кароткі і мароз. І мне ў сакавіку ўжо хацелася, каб хутчэй зазелянела трава і дрэвы. Хацелася для Міёны. І праляцеў час, як цяпер сняжынка перад акном, у якое мы глядзім з Міёнай. Што яна думае? Не ведаю. А я думаю... Не скажу пра што. Проста хачу, каб

усе былі здаровымі і пераажылі будучую зіму, пра якую пішуць у сеціве, што яна будзе марознай, як ні разу не была за апошнія 120 гадоў.

*

*5.11.2016.* Ён быў цёмны, як магілы тых, хто стаяў у яго на шляху…

*

*6.11.2016.* А палове на восьмую патэлефанаваў Максім і папрасіў пакласці грошай на мабільны. Я тут жа пайшоў да банкамата, што побач з нашым домам. Хвілін дзесяць спрабаваў пакласці грошы. Скончылася тым, што банкамат перастаў працаваць, і мая картка засталася ў ім. Заблакіраваўшы рахунак, вярнуўся дамоў і пачаў думаць, што я не так рабіў, што застаўся без карткі. Ды ёпарэсэтэ! Гэта ж я набіраў: Шніп Максім Анатольевіч! Значыць, яшчэ я не ачуняў ад хваробы. І ўсміхнуўся, узгадаўшы, як у дзяцінстве, калі ў Максіма пыталіся, як яго завуць, ён адказваў: «Шніп Максім Анатольевіч Віктаравіч Людмілавіч!»

*

*6.11.2016.* Чорны кот ідзе па першым снезе, як па сцэне малады артыст…

*

*6.11.2016.* Іду праз снегапад. Іду, як у снежным гадзінніку…

*

*6.11.2016.* Дзеці ў нашым двары зляпілі снегавіка і цяпер ён стаіць, як помнік Граждану, які пайшоў з дому і не вярнуўся…

*

*6.11.2016.* Шарая гадзіна. Дамы хрушчоўскія. Туман. Дрэвы. Снег і ў ім сцежкі, на якіх зялёна-рудая трава і растаптаная лістота. І цішыня. І неба белае і нізкае. І насупраць майго дома з акна на трэцім паверсе глядзіць жанчына, як са сцяны беларускага плачу…

*

*6.11.2016.* Лістападаўскае золата цяпер пад снегам. І стане яно чорным, як і зямля, на якой яно ляжыць. А кляновы лісток, што ў томіку вершаў Максіма Багдановіча, будзе залатым, бо ён сярод залатых твораў нашай літаратуры…

*

*7.11.2016.* За акном змрочна. Дробны нудотны дождж. Дрэвы, як мёртвыя, без лісця. Зрэдку па двары пройдзе чалавек або праедзе машына, а так цішыня. Настрой мярзотны. Няўжо толькі ў мяне? Ды не! Тэлефанаваў сябра. Скардзіўся на адзіноту. Здаецца, што гадоў дваццаць таму мы былі больш аптымістычнымі. Відаць, стаміліся ад свайго аптымізму, таму і занудзіліся. Але пройдзе і гэты мярзотны настрой, як усё праходзіць. І з’явіцца аптымізм. І з’явяцца новыя героі і творы. І ў двары засмяюцца дзеці. І ты прыйдзеш у Храм, каб падзякаваць Богу, што ён ёсць у цябе…

*

*8.11.2016.* Еду ў аўтобусе, у які зайшоў, не паглядзеўшы, ці мой гэта нумар. Заходзілі людзі, якіх я кожны ранак бачу на прыпынку ў гэты час,

таму і зайшоў. Раз яны едуць, значыць, і мне трэба ехаць у гэтым аўтобусе. А можа, ўсё-ткі гэта не мой маршрут? Спытаць? Не, не буду! Еду далей. На наступным прыпынку некалькі чалавек выйшлі з салона. Яны кожную раніцу тут выходзяць. Значыць, дакладна гэта мой аўтобус. І вось так кожны раз еду ў аўтобусе, не ведаючы, ці гэта мой маршрут ці не, калі на прыпынку думаю пра бацькоў, якіх ужо няма ў гэтым свеце…

*

*8.11.2016.* Засвяціла сонца, і з'явіліся колеры ў маім аўторку. І я ўжо радуюся жыццю, як дзіця цукерцы, якую дала маці, каб не плакаў…

*

*8.11.2016.* На вербах, што на Мухлі, яшчэ трымаецца лісцё. Яно ўжо не такое зялёнае, як было да снегу і маразоў, але яно яшчэ жывое. Яно адно, магчыма, сёлета і дацягне да сярэдзіны лістапада, а магчыма, і далей, каб, ападаючы, напомніць нам, што гэта яшчэ лістапад, а не снежань. І ў Лягезах, дзе жыве мой васьмідзесяцітрохгадовы дзядзька Віця, на вербах таксама, спадзяюся, трымаецца лісцё, якога я сёлета не бачыў, бо не быў у Лягезах. Вербы, што на Мухлі, мне яшчэ не сталі блізкімі і, магчыма, ніколі не стануць, бо ёсць вербы ў Лягезах, дзе прайшло маё дзяцінства і яшчэ там жыве мой дзядзька.

*

*9.11.2016.* Шэсць гадоў таму ў гэты дзень я занатаваў: «Сёння тры гады, як не п'ю. Адчуванне, нібыта прайшло тры гады пасля вайны, з якой я вярнуўся жывым…» Адчуванне вяртання засталося. У наступным годзе юбілей маёй перамогі над зялёным зміем. Трэба будзе падрыхтаваць святочны парад усіх пляшак, якія будуць на той час у нашай кватэры, і вечарам зладзіць салют з дзесяці пляшак шампанскага. Камандаваць парадам буду сам! А частаваць заўсёды ёсць каго!

*

*9.11.2016.* Ранкам, ідучы на Мухлю, Міёна сустрэла сваю сяброўку Джэсі, з якой з-за маёй хваробы не бачылася амаль тры тыдні. Сабакі падбеглі адна да адной, абняліся лапамі, пацалаваліся. І ў мяне сёння цэлы дзень быў добры настрой…

*

*10.11.2016.* На снезе кляновы ліст. Скукожаны, але залацісты. Праходзячы міма, я прыпыніўся на міг і пайшоў далей па снезе, як па прыску, у якім яшчэ ёсць залацістае вуголле…

*

*10.11.2016.* Са школы ў некаторых з нас у памяці сядзіць радок: «Мама мыла раму…» Чаму мыла раму? А чаму не падлогу? А чаму б не машыну? Для мяне ж найлепшы варыянт: «Мама мыла неба…»

*

*11.11.2016.* Лёд пад нагамі, як лапікі неба, што сталі лёдам. І ты ідзеш па лёдзе, як па небе. І баішся ўпасці…

*

*11.11.2016.* У бібліятэцы імя Цёткі ўдзельнічаў у імпрэзе паэтычнага тэатра «Арт.С», які прадстаўляў паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь». На гэты раз галоўнай тэмай выступаў быў шэры колер. Аксана Спрынчан і Яраш Малішэўскі з будзённай шэрасці зрабілі шматколернае свята паэзіі і музыкі. Першым выступаў Юрась Пацюпа. Ён прывёў лічбы колькі разоў, якія колеры ўжываліся ў першай кніжцы і цяпер. І мой выступ з падобнымі лічбамі ўжо быў не арыгінальным. Аднак я зрабіў аналіз сваіх твораў за апошнія дзесяць гадоў. У амаль пяцістах вершах, якія складаюцца з 69 827 слоў, мной ужыты колеры: ружовы — 2 разы, срэбны — 2 разы, блакітны — 3 разы, руды — 12 разоў, сіні — 26 разоў, зялёны — 27 разоў, белы — 43 разы, жоўты — 46 разоў, шэры — 46 разоў, чырвоны — 47 разоў, залаты — 81 раз, чорны — 91 раз. Словам, дзякуючы падрыхтоўцы да выступлення ў тэатры «Арт.С», я даведаўся, што мой любімы колер — чорны. І яшчэ цяпер ведаю, што слова «самота» за дзесяць гадоў у вершах я ўжыў толькі 24 разы. Праўда, слова «вясёлы» — 13 разоў, а «журба» — 1 раз.

*

*12.11.2016.* Быў у «Кароне». У гэтай краме, праходзячы каля араматызаваных свечак, адчуў, што хутка ўжо Новы год. Захацелася купіць торцік. І я купіў торцік. Жоўты, як сонца. Дома яго далі пакаштаваць Міёне. Няхай і ў сабакі будзе сонечны настрой!

*

*13.11.2016.* Неба глыбокае і чыстае. Снег і сонца. І той тыдзень змроку і снегападу быў часам стварэння сённяшняга светлага зімовага дня…

*

*13.11.2016.* Азярына на Мухлі зацягнулася лёдам. І без качак, якія на ёй былі да маразоў, яна выглядае мёртвай. Вакол азярыны ходзяць людзі, нібыта развітваюцца…

*

*14.11.2016.* Сёння поўня, як пусты медзяны тазік, які плыве па небе, як па вадзе сусветнага патопу…

*

*14.11.2016.* Дзякуючы паэтцы, маёй зямлячцы Кацярыне Роўдзе прымаў удзел у пасяджэнні клуба аматараў мастацкага слова «КЛУмБа», заснаванага на базе Фундаментальнай бібліятэкі БДУ. Гаварылі пра цяперашнія праблемы выдання першых кніг, пра графаманію, пра славу, пра пісьменніцкія будзённыя справы. Ідучы да маладых студэнтак-паэтак (іх была большасць), думаў, што буду адзіным госцем. Ды не! Прыйшоў Анатоль Зэкаў, які вельмі дарэчы прыйшоў, бо мне трэба было да 18 гадзін забраць у банку картку. На жаль, не з усімі пазнаёміўся, бо маладыя аматары мастацкага слова прыходзілі яшчэ і пасля таго, як я пакінуў гасцінную «КЛУмБу». Спадзяюся, што Зэкаў без мяне не папсаваў кветкі, якія растуць на «КЛУмБе».

*

*15.11.2016.* Ідучы па вуліцы Шпалернай на Юбілейную плошчу, не мог не ўспомніць, што ў гэтым раёне я кватараваў у стрыечнай сястры Ніны сорак

гадоў таму. З яе мужам Віцем па выхадных хадзіў у лазню, якая была за домам, што цяпер на вуліцы Танка, дзе жыў Васіль Быкаў. Мы выходзілі з дому якраз у той час, калі адчынялася піўнушка (цяпер там нейкі «Саквояж»). Пілі піва, куплялі пляшку гарэлкі, закусіць і ішлі ў лазню. Там з мясцовай «інтэлігенцыяй» мыліся да самага вечара. Мужыкі ўсе былі мінчане, якія нарадзіліся каля Юбілейнай плошчы, і яны шмат чаго пра горад распавядалі. Мне тады было шаснаццаць гадоў і я мала піў і мала ўнікаў у тое, што кажуць старыя. Цяпер шкадую, што нічога з пачутага не запісаў пра Мінск пасляваенны і даваенны. А слухаць расповеды было вельмі цікава!

***Леанід Маракоў***

*15.11.2016.* У сеціве напаткаў інтэрв'ю з Леанідам Мараковым за 15 красавіка 2016 года, зробленае Анастасіяй Зелянковай. Асабліва ўражваюць апошнія адказы Леаніда:

«— Знаете, написав биографии более 25 тысяч людей, живших в 20 веке (больше, наверное, никто не написал), я понял одно: память остается, только когда тобой что-то создано — например, написано или снято. Миллионы людей вкусно и красиво жили: покупали шикарнейшие дома, несколько раз в сезон отдыхали где-то на Канарах… И что? Где они сейчас? О них ничего не осталось.

Деньги — ничто, главное — память. Либо о тебе остается память, либо ничего. Я, кстати, когда зарабатывал много денег, в какой-то момент начал бояться смерти. Казалось бы, все есть, а чего нет — могу купить, но при этом меня преследовала какая-то постоянная боязнь умереть.

А когда появилась моя первая книжка о дяде и посыпалось множество положительных отзывов о ней, причем от известнейших литераторов, все изменилось. Я стал спокойнее относиться к смерти.

— Есть еще что-то, чего в своей жизни не сделал Леонид Моряков?

— Каждый день я просыпаюсь с мыслью, что есть еще одна глобальная книга, которую я никак не издам — про главную площадь Минска. Я уже начал над ней работу, но закончить не хватает средств. Мне даже пришлось продать собственный последний том «Главной улицы Минска», чтобы просто элементарно купить еды в магазине.

— Инсульт, который вы недавно перенесли, был чем-то спровоцирован?

— В последнее время я очень много работал, писал. На спор освоил Фейсбук и начал публиковать свои статьи, которые пользуются у народа популярностью. За несколько лет вышло более 700 текстов: рассказы (от любви до политики). Параллельно увлекся микробиологией, прослушал около полутысячи лекций по новейшим достижениям в этой области. В общем, перепахал.

А еще любовь. Она тоже серьезно изматывает. Но без любви в нашей жизни — никак».

У гэтых радках увесь Леанід Маракоў! Дай Бог яму ачуняць! Ягонае працагольства нам яшчэ о як вельмі патрэбна!

*

*16.11.2016.* Абедаць хаджу ў сталоўку, што ў гасцініцы «Юбілейная». Кожны дзень амаль у адзін час. Заўсёды, а гэта ўжо некалькі гадоў запар, стаю ў чарзе, а потым абедаю з аднымі і тымі ж людзьмі. І часам у сталовай, гледзячы на знаёмыя постаці, думаецца, што мы толькі і стаім у чарзе па яду і ядзім, і ядзім, і ядзім…

*

*16.11.2016.* «Гутарка як вада, а ў гутарцы адна вада…» — сказаў сябра, а я занатаваў…

*

*17.11.2016.* Некаторыя аўтары баяцца да мяне заходзіць, а калі заходзяць, дык стараюцца паменей гаварыць, бо ведаюць, што я магу пра іх напісаць у сваім дзённіку.

*

*18.11.2016.* Яшчэ на пачатку траўня, вяртаючыся з працы і падыходзячы да свайго дома, я глядзеў на акно ў сынавым пакоі і, калі там гарэла святло, не спяшаўся зайсці ў пад'езд. Гарыць святло — сын дома і наша Міёна выгуляна і накормлена, а калі ў акне было цёмна, то прыспешваў крок. І вось ужо сёння роўна паўгода, як наш Максім служыць у Пінскім памежным атрадзе. І, вяртаючыся з працы, я і сёння глядзеў на сынава акно, думаючы пра святло ў ім і пра Міёну…

*

*18.11.2016.* Удзельнічаў у святкаванні 50-годдзя бібліятэкі імя Цёткі. Усё было цудоўна. Асабліва спадабалася выступленне сямейнай пары чытачоў. Жанчына гадоў за шэсцьдзясят распавядала пра свае адносіны да кніг і бібліятэкі хвілін дзесяць. І здавалася, што муж прамямліць, што жонка ўжо ўсё сказала і ён проста далучаецца да яе слоў, але мужчына, прызнаўшыся, што да пенсіі амаль нічога не чытаў, агучыў сваё назіранне: «Раней мы жылі ў Савецкім Саюзе і мала хто з яго вылучаў Беларусь, як асобную краіну. Цяпер, дзякуючы выданням, якія мы чытаем у бібліятэцы, у нас усё больш умацоўваецца разуменне таго, што мы маем сваю краіну, у якой усё ёсць, і нам трэба нашу краіну ўмацоўваць і ўмацоўваць, каб яна была ўжо заўсёды незалежнай!»

*

*18.11.2016.* Непадалёку Мухлі ў краме ў мясным аддзеле прадаецца рыба. У вялізарным акварыуме сёння плавала пяць невялікіх карпаў. На шкле была прыклеена самадзельная рэклама: «Выбери меня! Выбери меня!»

*

*19.11.2016.* Хадзіў на пошту выпісаць газеты. Народу, як у аўтобусе. Мне выпаў у чарзе 277 нумар. Перада мной было чалавек 80. Амаль усе пенсіянеры. Ацаніўшы сітуацыю, я схадзіў у краму, занёс купленае дахаты. Мая чарга прасунулася на 23 чалавекі. У памяшканні духата. Некаторыя стаялі моўчкі, а некаторыя гаварылі, як радыё. Побач са мной старая гадоў пад восемдзесят даказвала сваё сяброўцы, што амерыканцы кепскія, бо «яны бамбуюць нашу Сірыю. Расія магла б Амерыку разбамбіць, бо ў іх ёсць такая зброя, што ўсё згарыць. Не бамбяць, бо баяцца, што потым і ў нас не будзе расці бульба». Слухаючы падобныя разважанні, праз гадзіну выпісаў патрэбныя газеты.

*

*19.11.2016.* Няма сонца і няма настрою жыць і працаваць. З'явілася сонца і настрой з'явіўся. Але сёння выхадны і ты адпачываеш, седзячы дома. Час ад часу заходзіш на кухню, каб узяць што-небудзь з'есці. Паглядзеў на гадзіннік. Мінула паўдня. І сонца схавалася. І сумна стала. І ніхто не тэлефануе, і ты

нікому не тэлефануеш. Пра што гаварыць? Пра тое, што няма настрою, як і сонца няма? Лянота. Глядзіш у акно. А там зноў завіднелася і сонца на захадзе хаваецца за дамы. Там удалечы твая родная вёска. Твая хата. Пустая. Як неба, у якім ужо няма сонца…

*

*20.11.2016.* Снег растаў, як і не было. Але нехта паспеў пакатацца з горкі на санках, нехта зляпіў снегавіка, нехта паслізнуўся і пабіўся. А я паспеў напісаць верш пра снег. Снег растаў, а верш застаўся. Магчыма, ён не лепшы за мае ранейшыя творы, але ён ёсць, як ёсць і я. І я некалі яго надрукую, і нехта прачытае, і, магчыма, у маім вершы пазнае снег, які гэтай ноччу растаў дарэшты…

*

*20.11.2016.* Які ўжо дзень шукаю патрэбны дакумент. Перабраў кучы рукапісаў, часопісаў, фотаздымкаў, малюнкаў, газетных выразак і кніг. Няма. Што ні папера, то ўспамін пра той час, калі гэтая папера трапіла да мяне ў папку, таму і пошук няспешны, як у чарапахі. Акрамя майго папяровага багацця тут жа і Людмілы, і Веранікі, і Максіма. І ўсё цікавае. Узгадаўся Сяргей Новік-Пяюн. У яго палавіна аднапакаёўкі да столі была застаўлена скрынкамі з папяровым багаццем. Дзе тое багацце цяпер? І каму яно спатрэбіцца, і калі? Можа, варта рабіць так, як Алесь Пісьмянкоў, які амаль нічога не захоўваў, і казаў: «Меней працы будзе даследчыкам, калі я ім спатрэблюся?».

*

*21.11.2016.* Вечар. Я вяртаўся дадому. Жоўты аўтобус, нібыта злеплены з апалай лістоты, асвяціў на хвіліну паўзмрочную вуліцу, на якой ліхтары яшчэ спалі. І я вярнуўся дадому з жоўтым аўтобусам у галаве.

*

*21.11.2016.* Прыходзіў пісьменнік. Ён сябе так назваў. Што ён піша? Не сказаў. Запытаўся, ці я ведаю, дзе можна знайсці жанчыну, якая запіша тое, што ў ягоных мазгах бурабаліць. Казаў, каб я не прэтэндаваў на сценагафіста, бо ён любіць толькі жанчын, якім крыху за трыццаць. На маё пытанне: «А якое ж ваша прозвішча?» адказаў: «Я Дастаеўскі!»

*

*21.11.2016.* Пішу. Падышла Міёна і патрабуе да сябе ўвагі. Я машынальна адпіхваю сабаку і кажу: «Ідзі паглядзі тэлевізар!»

*

*21.11.2016.* Зноў снілася вёска. Там былі бацькі і лета. Ляталі пчолы і матылі. Сонца было вялікім, як сланечнік Ван Гога.

*

*22.11.2016.* Сёння меў гонар удзельнічаць у першай Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Сучасная беларуская тэксталогія: актуальныя праблемы і перспектывы развіцця». Яе арганізаваў і правёў Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі і Інстытут літаратуразнаўства імя Янкі Купалы. Асабліва прыемна было паслухаць патрыярха

нацыянальнай тэксталогіі Міхася Мушынскага. З выступаў даведаўся, што рыхтуецца Збор твораў Янкі Брыля ў 10-ці тамах. Магло быць болей, але Іван Антонавіч пакінуў завяшчанне, згодна з якім шмат якія творы павінны назаўсёды застацца ў старых газетах, часопісах і зборніках. Думаю, што ён меў рацыю. Калі класічныя творы параўнаць з Храмамі, то сапраўдную каштоўнасць маюць толькі Храмы, а не тыя бітыя цагліны, камяні і рыштаванні, што былі каля Храма ў час яго будаўніцтва.

*

*22.11.2016.* Не павінна быць рамка даражэйшай за карціну! Але, на жаль, на сённяшні час за паліграфічныя паслугі і паперу, на якой надрукавана кніга, плаціцца больш, чым выплачваецца ганарару пісьменніку.

*

*22.11.2016.* Ранкам поўня, як адтуліна ў ванне, праз якую сцякае начная вада…

*

*22.11.2016.* Усе нешта робяць. Стараюцца. Як мурашкі. Як пчолы. А табе ўсё абрыдла і ты нічога не хочаш. Але жыць хочаш і хочаш добра жыць, але не як мурашкі і пчолы. І трутнем не хочаш быць. Ты хочаш быць пенсіянерам. Але ж табе ўсяго 30. І ты ідзеш на працу, як на пакаранне за тое, што ты малады і здаровы.

*

*22.11.2016.* У пакоі цішыня. За акном гудзіць горад. Па шыбе паўзе павучок, як кропка для верша, які ты пішаш…

*

*22.11.2016.* Зноў ніхто не прыйшоў. А магчыма, і ніхто і не павінен быў прыйсці. Проста ты прыдумаў, што да цябе прыйдуць. Прыдумаў, каб сядзець і чакаць. Мінула гадзіна. Сонца схавалася за дамамі. Яно хавалася так, нібыта прапаноўвала табе пагуляць з ім у хованкі. А ты не пайшоў. Ты чакаў. Каго? Не прызнаешся. Не таму, што табе сорамна прызнавацца, а таму, што ты яшчэ не перастаў чакаць. А можа, праз хвіліну яны прыйдуць?.. Двое з насілкамі і адзін з рыдлёўкай…

*

*23.11.2016.* Патэлефанавала былая супрацоўніца выдавецтва. Яна даўно на пенсіі. Пацікавіўшыся, як тут у нас справы, папрасіла: «Адшукайце ў маім былым кабінеце маю Ганаровую грамату, якую я не забрала дамоў!»

*

*23.11.2016.* Сцямнела. І здаецца, што так ужо будзе заўсёды. Ты ўключаеш святло, і ў пакоі робіцца дастаткова светла, каб цябе бачылі праз акно з вуліцы. Ты не карыстаешся фіранкамі. Твой пакой — вітрына тваёй адзіноты…

*

*23.11.2016.* У табе жывуць галасы жывых і памерлых. Ты, як ракавінка, у якой шуміць мора…

*

*23.11.2016.* Ён сказаў, што нічога не памятае. Ён сказаў гэта, каб забыцца пра ўчарашні дзень. А што было ўчора? Яму сорамна ўспамінаць, таму ён кажа: «Я нічога не памятаю!» І ён будзе паўтараць гэта, пакуль не пераканае сам сябе, што ён сапраўды нічога не памятае. Ён нічога не памятае, а я не памятаю, як яго завуць.

*

*23.11.2016.* Мама чытала газеты. З маімі надрукаванымі вершамі і складала ў шуфляду стала. Калі я прыязджаў з горада, мама казала, што ў шуфлядзе ляжаць газеты для мяне. Хутка будзе пяць гадоў, як у шуфлядзе ляжыць газета. Я не дастаю яе, нібыта чакаю, калі мама скажа. А мама ўжо даўно ўсё сказала…

*

*24.11.2016.* А восьмай раніцы. Еду на працу. Паўнюткі аўтобус людзей. Побач са мной мужык гадоў сарака пяці ціскае саракагадовую кабету і пытаецца: «Калі ты ўжо за мяне замуж пойдзеш?» — «Як зубы пастаўлю, тады і пайду!» — чуецца адказ. «Нашто зубы ставіць? Я іх табе ўсё роўна павыбіваю!» — кажа мужык і цалуе каханку.

*

*24.11.2016.* У некалькіх кіламетрах за горадам. Вечарэе. Туман. Горад, як вожык у тумане…

*

*24.11.2016.* «Выдавецтва — гэта хоспіс для рукапісаў. Тут рукапіс ці памрэ канчаткова, ці выйдзе падлечаны ў белы свет…» — сказаў пісьменнік і прапанаваў для друку новы раман.

*

*24.11.2016.* Сёння тэлефанавалі ў асноўным пісьменнікі ў вельмі паважаным узросце. «Вас турбуе паэтэса Валянціна Пчолка. У мяне ў 1976 годзе ў вашым выдавецтве выходзіла кніжка вершаў для дзяцей. Мне 87-ы год. Хутка паміраць. Хачу выдаць новую кнігу, што напісалася за апошнія сорак гадоў», — так пачала размову паэтка. Потым пачытала некалькі вершаў. Запомніўся радок: «Зайцы гуляюць у хакей уноч пад Новы год». Дамовіліся, што яна з дапамогай родных падрыхтуе рукапіс і мы паглядзім, што там атрымалася. Пасля Пчолкі патэлефанаваў Іван Муравейка. Яму нядаўна споўнілася 95. Пасля размоў з Пчолкай і Муравейкам я з усмешкай падумаў: «А цяпер павінна патэлефанаваць Стракозка ці Мушка…» Не! Патэлефанаваў Анатоль Верабей і абяцаў на наступным тыдні прынесці матэрыялы ў 15 том Уладзіміра Караткевіча.

*

*24.11.2016.* Мой бацька, калі памёр дзед, некалькі гадоў час ад часу заходзіў за хлеў, каб ніхто яго не бачыў, і плакаў. Быў бы я мастаком, дык намаляваў бы карціну «Бацькавы слёзы».

*

*25.11.2016.* Музейны дзеяч, паэт-сатырык Іван Курбека ведаў і распавядаў шмат цікавых гісторый пра пісьменнікаў. Ён памёр, і памерлі гісторыі ў

ягоным аўтарстве. У маёй памяці засела прыдуманае Курбекам пра Яўгенію Янішчыц. Іван Сцяпанавіч казаў: «У Яўгеніі Янішчыц вельмі арыгінальныя імя і прозвішча. Імі паэтка паэтычна сцвярджае: «Я — геній, я — нішчая…»

*

*26.11.2016.* Патэлефанаваў Алесь Квяткоўскі. Пачаў адразу з пытання: «Каму і што такое з мастакоў ты зрабіў, што маю карціну, дзе ты з сабакам, не пусцілі на выставу? Усіх павесілі, а мяне не. Выстава перадз'ездаўская. Лепшыя работы за два апошнія гады». І я не змог нічога канкрэтнага адказаць: «Відаць, нейкую палітыку ўбачылі…» Алесю пра тое, што яго не павесілі, паведаміў Хобатаў. У камісіі было дзевяць чалавек. Што за людзі? Алесь не ведае і не вельмі гаруе: «Бог з імі! Мяне хоць на з'езд абралі за актыўнасць! Цяпер малюю для валожынскага музея. Працую і гэта — галоўнае».

*

*26.11.2016.* Сніўся Уладзімір Караткевіч. Ён сядзеў з валізай каля Петра-Паўлаўскага сабора і раздаваў з яе грошы. Я падышоў да Караткевіча, і ён мне даў кніжку вершаў «Быў. Ёсць. Буду».

*

*26.11.2016.* На 91-м годзе жыцця памёр Фідэль Кастра. Я ў свой час у архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме вучыўся з кубінцамі. Некаторыя з іх ведалі Фідэля. Яны пра яго расказвалі, як пра героя, і часта крычалі: «Віва Кастра! Віва Куба!» Я слухаў моўчкі. У мяне ў галаве са школы былі свае героі і там месца для Фідэля не было.

*

*27.11.2016.* Ездзіў у Пінск да сына. Цяпер ён у часці працуе на камп'ютары. Нядаўна быў два тыдні на мяжы. Зноў хоча. Яму падабаецца быць на прыродзе. Для мастака гэта добра. Цяпер у часці больш як 170 навабранцаў. Рыхтуюцца да прысягі. Даведаўся, што палова службы называецца «гарой». Максіму яшчэ тры месяцы ісці пад гару. Я ўзгадаў для яго радкі Барадуліна: «Далёка бачыў на гары — Ідзі з гары спакойна». Максім усміхнуўся.

Дамоў вяртаўся ў аўтобусе, поўным студэнтаў, якія ехалі ад бацькоў на вучобу. Навокал было цёмна, як у небе. Пад колы кідаўся мокры снег. Каля мяне сядзеў хлопец і ўсю дарогу слухаў са смартфона нейкую дурную музыку. Ці будзе ён служыць у войску? Хутчэй за ўсё не. «Адкосіць» ці працягне вучыцца і вучыцца да дваццаці сямі гадоў. Хай вучыцца. Галоўнае, каб быў толк.

*

*28.11.2016.* У Музеі Янкі Купалы ўдзельнічаў у прэзентацыі кнігі «Марыя Захарэвіч. Талент, адухоўлены любоўю», якая выйшла ў «Мастацкай літаратуры» да 80-годдзя народнай артысткі Беларусі. Можна было набыць кнігу і атрымаць аўтограф. Я за аўтографамі не бегаю, і таму было для мяне нечаканасцю, калі Захарэвіч падпісала кнігу (першы аўтограф артысткі) і падарыла мне: «Светламу, сонечнаму Спадару Віктару ў знамянальную падзею, якую мы разам стварылі. Дзякуй вялікі за ўсё! Няхай нябёсы заўсёды спрыяюць Вам! Марыя Захарэвіч з удзячнасцю». Свята ў музеі доўжылася амаль тры гадзіны. Прыемна было чуць ад Марыі Георгіеўны, што яна прачытала майго «Пугачоўскага цырульніка» і ёй ён прыйшоўся па душы. Нават цытавала

радкі. Валянціна Скарынкіна, віншуючы Марыю Георгіеўну і перадаючы слова мужу, назвала свайго Уладзіміра Максімавіча Вовам. Гэта прагучала вельмі міла. Як заўсёды запамінальна выступалі Анатоль Вярцінскі і Васіль Зуёнак. Потым, ідучы да аўтобуснага прыпынку, я стаў сведкам, як Анатоль Ільіч і Васіль Васільевіч, як сапраўдныя паэты, у недазволеным месцы перайшлі вуліцу. Дай бог ім яшчэ сотні і сотні няспешных кіламетраў з дому і дадому.

*

*30.11.2016.* З неба сыплецца і сыплецца снег. І белы свет робіцца сапраўды белым. Ты ідзеш па снезе, як цень, які ўстаў на ногі і пайшоў шукаць сонца, каб не знікнуць…

*

*30.11.2016.* З Міёнай хадзілі на Мухлю гуляць. Хлопцы да нашага прыходу зляпілі вялікага снегавіка. Міёне ён, відаць, не спадабаўся, бо яна адразу на яго напала і паваліла. Пасля гэтага мы спрабавалі некалькі разоў зляпіць новага, але тут жа падбягала Міёна і разбурала яго. І толькі калі снегавічка зляпіла студэнтка Арына, Міёна каля яго прыпынілася і лізнула ў нос.

***Снежань***

*

*1.12.2016.* А палове на дванаццатую ў выдавецтва прыйшла Раіса Баравікова. Прынесла «Казкі астранаўта». Праз хвілін дзесяць за ёй прыйшоў Алесь Разанаў. Прынёс перастворанага Францыска Скарыну «Маем найбольшае самі». Раіса Андрэеўна і Алесь Сцяпанавіч землякі. З Бярозаўскага раёна. У наступным годзе ім будзе па 70 гадоў. Абняліся. Пацалаваліся. І тут жа, як сястра і брат, пачалі гаварыць пра родныя мясціны, пра землякоў, на нейкі час забыўшыся куды і чаго прыйшлі.

*

*1.12.2016.* Жалеза раз’ядае іржа, а людзей зайздрасць. Нічога тут новага няма. І я не паўтарыў бы гэтую прапісную ісціну, калі б, выносячы смецце, каля кантэйнера не пабачыў кучу іржавых цвікоў…

*

*2.12.2016.* Па дрэве скача сініца і на зямлю з галінак сыплецца снег. Прыгожа. Я гляджу на птушку і думаю: «Яна спецыяльна скача, каб сыпаўся снег, ці проста скача і снег сыплецца?» І тут жа сабе даю адказ: «Калі сініца паэтка, то яна спецыяльна скача, каб з галінак на зямлю сыпаўся снег…»

*

*2.12.2016.* У бібліятэцы імя Цёткі тэатр «Арт.С» прадстаўляў паэтычна-міфалагічны праект «Сакральная Беларусь», які на гэты раз быў прысвечаны зоркам. Сабралася шмат слухачоў. Многім давялося стаяць. Імпрэза пачалася з мяне. Маё выступленне было нечакана дапоўнена Юрам Несцярэнкам песняй з «Чырвонага ліхтара». Аказваецца, што Юра са Зміцерам Бартосікам стварылі шмат песень на вершы з маёй даўняй кнігі. На жаль, альбом яшчэ не запісаны.

Выступалі Ірына і Максім Клімковічы. Спявалі і музіцыравалі гурт «Мерада», Альжбэта Малішэўская-Спрынчан, Валер Юркевіч і Людміла Шчэрба. Дзякуючы вядоўцам імпрэзы Аксане Спрынчан і Ярашу Малішэўскаму, прысутныя пачулі шмат цікавай інфармацыі пра зоркі, а таксама пазнаёміліся з унучкай Яўгеніі Янішчыц. А на вуліцы ішоў снег. І вяртаючыся дадому, я ў сваёй галаве нёс шэсць тысяч зорак (чалавек з добрым зрокам можна іх бачыць з зямлі) і яшчэ зорку Максіма Багдановіча, якой 9 снежня будзе 125 гадоў.

*

*3.12.2016.* Снілася суседняя вёска Еленка. У хаце за гасцінным сталом Зоі Шымель сабраліся мае аднакласнікі. Немаладыя. Кожны па чарзе распавядаў пра сваё жыццё. Кім быў і кім стаў. Дайшла да мяне чарга. Я распавёў, што працую ў выдавецтве, але не прызнаўся (а хацелася вельмі), што я паэт. Прачнуўся ад задавальнення, што не пахваліўся.

*

*4.12.2016.* А палове сёмай раніцы, ідучы з Міёнай на Мухлю, знайшоў на заснежанай сцяжыне кніжыцу «О маленьких вещах…», у якой 16 старонак. У ёй ідзе размова пра шкоднасць алкаголю для цяжарных жанчын. Пераклад са шведскай мовы. У выданні нехта вырваў дзявятую і дзясятую старонкі. Відаць, там было самае карыснае для будучых мам…

*

*4.12.2016.* Па фэйсбучнай пошце Андрэй Мельнікаў даслаў тэкст, каб я адобрыў яго перад публікацыяй: «Верагодна, пад уплывам Віктара Яраца, паэтычным арыенцірам для Анатоля быў і ў немалой ступені застаўся на ўсё жыццё Алесь Разанаў. Але гомельскія сябры раілі Анатолю, каб надрукавацца, пісаць так, як піша Віктар Шніп. У Каралішчавічах адбылося асабістае знаёмства Сыса са сваім «арыенцірам практычным».

Той семінар быў часам «ззяння» на беларускім паэтычным небасхіле Уладзіміра Арлова, Алега Мінкіна, Сяргея Вераціла. Але найбольш папулярным, нягледзячы на сваю сціплую пасаду электрыка ў Клецку, быў тады Леанід Галубовіч.

Па ўспамінах Шніпа, «на той час сярод усіх гэтых імёнаў Анатоль Сыс амаль нічым не вылучаўся — яго ў Мінску не ведалі. Пара вершаў у «Чырвонай змене» і, здаецца, больш нічога надрукаванага. На семінары ў Сыса, акрамя вершаў, з сабой быў нейкі дзясятак пародый, якія вялікага ўражання ні на кога не зрабілі… І Анатоль часцей за ўсё сядзеў у сваім пакойчыку, у які неяк зазірнуў і я. Пазнаёміліся. Сыс чытаў вершы… У той жа вечар мы абмяняліся адрасамі. У Анатоля быў фатаапарат…»

Анатоль заявіў, што хоча сфатаграфавацца са Шніпом. Яны сфоткаліся. Паэты, можна сказаць, пасябравалі, пачалі перапісвацца (натуральна, тады шчэ праз звычайную пошту, што для цяперашніх пакаленняў выглядае нейкім рарытэтным дзівацтвам, ну хіба што, калі ты сядзіш за кратамі, ці за краты пасылаеш, бывае так даводзіцца пісаць). Але ад гэтага часу Анатоль ставіўся да «арыентацыі на Шніпа» з ironіяй».

Я адпісаў Андрэю: «З тэкстам згодны. Усё правільна. Арыентацыя ў Сыса была правільная і да мяне, і пасля мяне. Я быў этапам ягонай біяграфіі, а ён маёй». А наконт іроніі, то Сыс не мог без іроніі. І гэта нармальна, бо чаго ён павінен быў пісаць так, як Шніп, які толькі на год за яго маладзейшы.

*

*4.12.2016.* Па заснежаным полі, як па белым моры, рухаецца чорная машына, як човен, у якога ветрам зламала чорны ветразь…

*

*5.12.2016.* Пасля выдавецкай планёркі заходжу да сябе ў кабінет і бачу, што насупраць майго стала стаіць мужчына гадоў пад шэсцьдзясят. Выгляд інтэлігентны. Вітаюся. Саджуся за стол і бачу ў госця на штрыфелі пінжака прышпіленую ў цэлафане паперчыну памерам 10х15 см. На ёй тушшу вялікімі крывымі літарамі напісана: «ИП. Консультирую о благостности, обучая по науке Бога». Пытаюся: «З чым прыйшлі?» — «Я тут 80 вершаў за тры тыдні напісаў. Хачу выдаць!» — адказвае кансультант і падае творы. Чытаю. «А вы ведаеце што такое ямб, харэй, рыфма?» — цікаўлюся. «Калі вы скажыце, што такое, то буду ведаць!» — чую ў адказ.

*

*5.12.2016.* Сніўся аўтобусны прыпынак у родных Пугачах. Зіма. Світанне. Са мной чалавек дваццаць аднавяскоўцаў. Чакаем аўтобус, на якім павінны прыехаць нашы памерлыя бацькі. Аўтобуса ўсё няма і няма. Усе нервуюцца. Хутка будзе дзевяць гадзін. Мы ведаем, калі аўтобус не прыйдзе да дзевяці, дык ён ужо і не прыйдзе. І вось ужо дзевяць гадзін. Аўтобус з памерлымі бацькамі не прыйшоў. І я прачнуўся.

*

*5.12.2016.* Вярнуўся з працы дадому. У кранах няма вады. Патэлефанаваў у ЖЭС. Сказалі, што ў нашым раёне аварыя і ўжо рамонтнікі працуюць. Калі будзе вада — невядома. Зазірнуў у гарбатнік. Пуста. Вады чыстай у хаце нідзе не знайшоў. Адразу захацелася піць, у прыбіральню і памыць рукі.

*

*6.12.2016.* Яна была злая, як прыгажуня…

*

*6.12.2016.* На Свіслачы на вялізарнай ільдзіне некалькі соцень качак. Сядзяць, як апенькі на абледзянелым дрэве…

*

*6.12.2016.* У клубе «Графіці» прайшоў другі паўфінал паэтычнага конкурсу «Рухавік», у якім удзельнічалі маладыя беларускія і ўкраінскія паэты. Арганізатар конкурсу Дар’я Бялькевіч запрасіла мяне быць у журы. Я не адмовіўся.

У клубе «Графіці» я раней не быў, але крыху ўяўляў, як ён выглядае. У ім некалькі разоў выступала дачка Вераніка, якая была бас-гітарыстам гурта «FIBI».

Прыйшоў за паўгадзіны да пачатку конкурсу. Ужо было чалавек дваццаць моладзі. Прыстойныя хлопцы і дзяўчаты. Навогул сабралася каля ста чалавек. У клубе стала душна, як у падводнай лодцы, якая плыве ў пошуках глыбінь «Паэзіі».

У «Графіці» ўсе сцены размаляваны. На адной напісана: «Алкоголь помогает танцевать на барных стойках». Ніхто не піў і таму танцаў не было. Нават ніхто не курыў. Яшчэ года паўтара таму, калі Людміла хадзіла на канцэрты

Веранікі, то дамоў прыходзіла ўся прадымленая. Цяпер сярод моладзі стала модна не курыць.

У конкурсе ўдзельнічала дванаццаць паэтаў. У сваім выступленні я параўнаў іх з дванаццацю апосталамі. Праўда, да апосталаў ім далёка, але ў некаторых былі вершы, у якіх ёсць паэзія.

Каля мяне сядзела дзяўчына гадоў дваццаці пяці, якая час ад часу з цікавасцю зазірала ў мой спіс канкурсантаў, дзе я пазначаў свае ўражанні. Калі дайшла чарга да перадапошняга выступоўцы, дзяўчына прызналася, што гэта яе знаёмы, таму яна хоча ведаць маю думку пра ягоную творчасць. Я сказаў. І не памыліўся. Хлопец трапіў у тройку лепшых, якіх выбралі слухачы. Я ж адзначыў Уладзіміра Ступінскага з Гомеля.

Вяртаўся з «Графіці», як з падводнай лодкі, якая, наблукаўшыся ў мелкаводдзі паэзіі і час ад часу трапляючы ў глыбіні Гальфстрыма, прычаліла да берага прозы, на якім ёсць сцяжына да майго дому…

*

*7.12.2016.* Многа пішу. Многа друкуюся. Многа выступаю. Некаторых гэта вельмі хвалюе. І што? Не пісаць? Не друкавацца? Не выступаць? І вы пішыце! Друкуйцеся! Выступайце! І пра вас, знойдуцца такія, будуць гаварыць так, як вы пра мяне: «Ён многа піша! Многа друкуецца! Многа выступае!» І вы адчуеце тое, што цяпер адчуваю я. А што я адчуваю? Не скажу! Вы пішыце, друкуйцеся, выступайце! Жыццё цудоўнае!

*

*7.12.2016.* Расійская паэтка, рэлігійны філосаф і антраполаг Вольга Седакова ў інтэлектуальным клубе Святланы Алексіевіч для нас гаварыла пра Зло і Дабро, як для шэрай малаадукаванай правінцыі. А мы ўжо не правінцыя Савецкага Саюза. Мы краіна!

*

*8.12.2016.* Ездзіў у СШ № 139, што ў мікрараёне Серабранка. Мяне сюды запрасілі разам са старшакласнікамі адзначыць 125-годдзе з дня нараджэння Максіма Багдановіча. Зайшоў у вестыбюль і адразу ўбачыў плакаты з творамі і фотаздымкамі Паэта. Далей на адной са сцен вісела прыгожа аформленая інфармацыя пра Кастуся Каліноўскага, Браніслава Тарашкевіча, Васіля Быкава, Уладзіміра Караткевіча, Уладзіміра Кавалёнка і Святлану Алексіевіч. У бібліятэцы была выстава, прысвечаная юбілею Багдановіча. Я выступаў у актавай зале перад старшакласнікамі. Пасля таго, як мяне прадставілі, на сцэну выйшаў вучань, каб прачытаць верш Багдановіча. Горда ўзняўшы галаву, хлопец пачаў:

Толькі ў сэрцы трывожным пачую
За краіну радзімую жах, —
Ўспомню Вострую Браму святую
І ваякаў на грозных канях…

І далей забыўся. Яшчэ раз пачаў, і зноў не ўспомніў. Тут жа сышоў са сцэны і пачаў вучыць верш. Я прапанаваў выйсці і пачытаць з паперы. «А можна?» — запытаўся вучань. «Можна!» — адказаў я, і хлопец, вярнуўшыся на сцэну, гучна без мікрафона прачытаў «Пагоню». Потым яшчэ некалькі вучняў чыталі творы Паэта. І ў кожнага з іх атрымоўвалася вельмі добра, што мне нават захацелася, каб толькі дзеці і выступалі. Дамоў вяртаўся па галалё-

дзе. На прыпынку бачыў старога з паламанай нагой. Ён сядзеў і курыў, чакаючы «хуткую дапамогу». Стары быў падобны на маркотнага лесуна з вершаў Максіма Багдановіча, які трапіў у горад, каб папрысутнічаць на святкаванні юбілею Паэта, але з ім здарылася няшчасце…

*

*8.12.2016.* З кампазітарам Ірынай Цвятковай даводзім да ладу яе кнігу «Васіль Раінчык. Верасы». Хутка здадзім у друк. У лютым на кніжнай выставе хочам зрабіць прэзентацыю. Пытаюся: «Ці змогуць «Верасы» выступіць?» — «Не ўсе, але будуць. Я запрашу Аляксандра Ціхановіча. Я нядаўна яго сустрэла. Ён цяжка хварэў. Запаленне лёгкіх перанёс. Я абняла яго. А ён худы і мяккі, як без касцей!» — адказала спадарыня Ірына.

*

*9.12.2016.* У Храме-помніку ў гонар Усіх Святых адбылася ўрачыстая цырымонія «Вяртанне» — закладка капсулы з зямлёй з месца пахавання Максіма Багдановіча. Была ганаровая вайсковая варта. Было шмат прадстаўнікоў духавенства, дзяржаўнай улады, творчай інтэлігенцыі, навукоўцаў, супрацоўнікаў музеяў, бібліятэк, студэнтаў і проста добрых людзей. Адчувалася, што мы сёння зрабілі яшчэ адзін крок да беларускай Беларусі, пра якую марылі лепшыя прадстаўнікі нашага народа. Пасля ўрачыстасцяў у Белай зале Храма адбылася літаратурна-музычная імпрэза «Калі ўсе мы разам ляцім да зор…» Выходзячы з Храма, падумалася: «Вось так бы адзначаліся ўсе юбілеі нашых славутых людзей!». З сённяшняга дня для мяне ў Храме Усіх Святых будзе цэнтр маёй Беларусі, бо там часцінка Максіма Багдановіча.

*

*10.12.2016.* Учора ўсе дарогі вялі да Максіма Багдановіча. Хто хацеў па іх ісці, той ішоў і будзе ісці кожны дзень. Багдановіч не самотны, бо ён мае кнігу. І нам няма чаго сумаваць — мы маем Багдановіча і Беларусь.

*

*10.12.2016.* Усе не могуць разбірацца ў Паэзіі, як не могуць разбірацца ў класічнай музыцы. «Мурку давай!» — чуюцца крыкі натоўпу. Ты хочаш падабацца натоўпу і пачынаеш ствараць «Мурку», якая даўно і не табой ужо напісана…

*

*10.12.2016.* Ідучы на выступленні, паэт заўсёды браў з сабой верш на паперы і клаў яго ў кішэню, як рэвальвер…

*

*10.12.2016*. З сеціва даведаўся: «Сёння ў Мінску хаваюць Якава Радыну — беларускамоўнага матэматыка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук, прафесара Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Яму было 70 гадоў. Ён быў родам з вёскі Брылькі Валожынскага раёна. (…) Быў навуковым рэдактарам першага ў Беларусі «Руска-беларускага матэматычнага слоўніка» (1993), суаўтарам і навуковым кансультантам першай у Беларусі «Матэматычнай энцыклапедыі» (2001), аўтарам беларуска-польскага і польска-беларускага матэматычных слоўнікаў. Аўтар каля 150 навуковых прац, у тым ліку 10 манаграфій, падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў. На пачатку 90-х яго прапаноўвалі на пасаду

міністра адукацыі, але кандыдатуру не падтрымаў Вячаслаў Кебіч». Кебіч з Валожынскага раёна. Зямляк не падтрымаў земляка, але цяпер не пра гэта. Сумна. Памёр мой зямляк. Імя Якава Радыны ў Валожыне заўсёды ўспаміналі, калі гаворка ішла пра знакамітых валожынцаў, і думаю, што і надалей будуць успамінаць майго слаўнага земляка. А не ўспомняць, дык напомню.

*

*10.12.2016.* Некалькі тыдняў таму каля чацвёртага пад'езда нашага дома з'явіўся жалезны пандус. Сёння, стоячы ў двары з суседам, я пацікавіўся: «А для каго гэты пандус зрабілі?» «У нас тут на першым паверсе жыла бабулька. Для яе. Але яна ў красавіку памерла…» — адказаў сусед.

*

*11.12.2016.* Прачытаў у Андруся Горвата:

«Учора Коля сказаў такое, пра што я цяпер увесь час думаю.

Ён наліў сабе чарку і гавора:

— Твая каза шчэ жывая?

— Жывая, а што?

— Не, нічога.

Ён выпіў, і болей пра казу мы не гаварылі.

Але апошнім часам у Цёці ўпала малако. От я і думаю: гэта суседзі мне нарабілі чаго ці проста я таксама захварэў на палескую параною? «Горай не будзе», — падумаў я і панёс сёння ў хлеў разам з бітончыкам царкоўную свечку».

І я ўжо другі тыдзень думаю над сказаным маімі сябрамі-сабачнікамі: «Твая Міёна надта сытая, гладкая!» І гэта яны паўтараюць цяпер кожны раз пры сустрэчы. Баюся, каб чаго з Міёнай не здарылася. Трэба будзе на ўсякі выпадак соллю абнесці. Я ўмею. Людзям дапамагае. Можа і Міёне дапаможа, калі што. Горай не будзе.

*

*11.12.2016.* Зноў сыплецца снег на чорную падмерзлую зямлю. І той снег, што ляжаў тыдзень таму, быў, як адзін з варыянтаў зімы. Творцу той варыянт не спадабаўся. Ён быў знішчаны. Цяпер усё спачатку. Снег падае спакойна і ўпэўнена. Ты любуешся зімой, але ты яшчэ не ўпэўнены, што ў Творцы на гэты раз усё атрымаецца так, як Ён задумаў…

*

*11.12.2016.* Памёршы, бацькі далучыліся да тых мільярдаў людзей, якія цяпер жывуць на зямлі і якіх я ў жыцці ніколі не ўбачу…

*

*11.12.2016.* Зноў усё белае ад снегу. На душы светла і сумна. Узгадалася пустая родная хата ў вёсцы. На заснежанай лаўцы сядзіць кот Мурзік. Яго гадоў сорак як няма. А ён сядзіць каля хаты. Яму не холадна. Ён чакае маіх бацькоў, якія павінны хутка прыйсці з працы. Будзе абед. І Мурзіка таксама пакормяць. Але мінае паўдня. Вечарэе. Ніхто дадому не прыходзіць і не прыязджае з горада. Хата пустая. На лаўцы сядзіць Мурзік. Яго няма. А ён сядзіць. Снег падае і падае. І ўсё засыпаецца снегам. І лаўка, і хата, і дрэвы ў садзе, і ўся вёска. Навокал усё белае. А на лаўцы сярод зімы сядзіць кот. Ён стаў белым, як снег. Ён стаў снежным катом, які чакае, і якога цяпер бачу

толькі я. І ўздымаецца завіруха. І змятае ўсё на сваім шляху. І толькі на лаўцы застаецца кот. Белы-белы, як мае ўспаміны…

*

*11.12.2016.* Азярына пакрылася лёдам. Азярыну засыпала снегам. І ты ідзеш па ёй, як па заснежанай зямлі, ведаючы, што пад табой глыбокая вада. Па тваіх слядах заўтра яшчэ нехта пройдзе. Потым яшчэ і яшчэ. І твае сляды згубяцца ў сцяжыне, пад якой вада, пра якую не ўсе будуць ведаць. І прыйдзе вясна. І растане снег на лёдзе. Апошняй знікне пратаптаная сцяжына. І ты будзеш глядзець на ваду, як на неба, у якім знікла сцяжына, па якой ты ішоў з дому і вяртаўся, па якой ішлі людзі і вярталіся. А неба будзе чыстым, як вада азярыны, і будзе плыць сонца, як клубок, у якім склубіліся мільёны і мільёны сцяжын…

*

*12.12.2016.* Прыходзілі студэнткі-пяцікурсніцы з Інстытута журналістыкі. Я распавядаў ім пра шлях твора ад рукапіса да кнігі. У мастакоў быў Алесь Разанаў. Ён выбіраў афармленне да кнігі сваіх перастварэнняў Францыска Скарыны «Маем найбольшае самі» з васьмі варыянтаў, зробленых Тамарай Мельянец. Дзяўчаты паўдзельнічалі ў гэтай важнай справе. Закончыўшы знаёмства з усімі выдавецкімі службамі, мы яшчэ доўга сядзелі ў мяне ў кабінеце. Студэнтка Ганна Курак распавядала пра Лунінец і навакольныя вёскі. Дзякуючы аднавяскоўцам, яна вылічыла па творах Караткевіча, які любіў падарожнічаць па Беларусі, што ён быў у Лунінцы. У нарысе «Зямля пад белымі крыламі» Уладзімір Сямёнавіч піша пра помнік загінулым у вайну і пералічвае прозвішчы пахаваных. Прозвішчы для Ганны знаёмыя, лунінецкія. Яна зверыла кніжныя з тымі, што на помніку. Якраз супадаюць. Значыць Караткевіч быў у Лунінцы. Да ўсяго Ганна ведае, што на Лунінеччыне было Каралеўскае балота са сваімі легендамі, якое памятаюць аднагодкі пісьменніка. Магчыма, адсюль і «Дзікае паляванне караля Стаха». Студэнтка Святлана Квяткоўская нарадзілася на Камянеччыне. З ёй было цікава пагаварыць пра Камянецкую вежу. Словам, да мяне прыходзілі не проста студэнткі, а маладыя беларускі, якія ведаюць свой родны край і любяць яго.

*

*12.12.2016.* З сябрамі сабачнікамі стаім на Мухлі і глядзім у неба на поўню. Любуемся. Разважаем пра далёкія планеты і даўнія часы, калі на месцы Мінска нічога не было. Навокал усё белае ад снегу. Марозна. Нашы аўчаркі гуляюць каля нас. Часам падаецца, што гэта не аўчаркі, а ваўкі. І мы ваўкі, якія ператварыліся ў людзей.

*

*12.12.2016.* Ты кажаш: «Мары збываюцца!» Кажаш і верыш, што, сказаўшы гэта, мары збудуцца. Нічога не збываецца! Гэта ўсё самападман! Паспаць, пажраць, з’ездзіць на мора — гэта твае мары. Гэта не мары! Гэта абы-што. А пра што я мару? Мае мары нязбыўныя! Яшчэ нядаўна я марыў, каб бацькі не хварэлі і дажылі да таго дня, калі прыйдзе Бог і скажа: «Хто да сённяшняга дня дажыў, той будзе жыць пакуль не абрыдне!» Да такога дня бацькі не дажылі. Не дажылі і некаторыя мае сябры. А пра што іншае марыць? Каб ва ўсім свеце вайны не было? Харошая мара. Але яна не мной прыдуманая. Ёсць каму пра гэта марыць. Пра што ж я цяпер мару? Пра што ж я цяпер? Пра што?

Уладзімір СЦЯПАН



# САПРАЎДНЫ ЧАС

*Запісы 2005—2018 гг.*

## Назіранне

На занядбаных могілках, дзе іржавыя агароджы, сухая трава ды леташняе лісце, сярод пахіленых крыжоў і помнікаў, на якіх ледзь бачныя партрэты, а надпісы цяжка прачытаць — настрой тужлівы і нават трагічны... Думаеш пра хуткаплыннасць часу, пра непазбежнасць смерці і пра ўсё такое невытлумачальнае ды балючае... Можа таму, так радасна і парадкуеш, зграбаеш, мыеш, чысціш і фарбуеш, каб пазбавіцца таго цяжкага і непазбежнага, каб не думаць...

А калі ўсё патрэбнае паробіш, то і ўсміхнешся, чысты ручнік паправіш і ўздыхнеш... Амаль супакоена.

## Тры харысткі

Ехаў у метро пяць прыпынкаў з жанчынамі-харысткамі з царквы, што на Нямізе. Усе ў хустках, доўгіх цёмных спадніцах. Пахла ад іх ладанам, воскам, мёдам і ветрам. Галасы прыгожыя, твары ружовашчокія. Усім тром за пяцьдзясят. Але здзівіла размова. Адна з іх, голасам мяккім (сапрана), расказвала таварышкам пра вялікі андронны калайдар, пра тое, як ён дзейнічае. Гучалі такія словы, якіх я не разумею. Тры прыпынкі ішла гаворка пра паскарэнне, пучкі, кінетычную энергію і пратоны.

Калі я выходзіў, то мне падалося, што пахне ад гэтых жанчын серай і карбідам...

* * *

Падымаюся ў ліфце з чатырохгадовым Іванам і яго бабуляй, якая на ўнука сварыцца.

Хлапчанё заплюшчвае вочы і кажа: «А мяне няма!»

Усміхаюся, бо думаю пра сівабародага Валянціна Акудовіча ў цёмных акулярах.

---

*__Уладзімір Сцяпан (Сцепаненка Уладзімір Аляксандравіч)__ нарадзіўся 22 студзеня 1958 года ў гарадскім пасёлку Касцюкоўка на Гомельшчыне. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава (1977) і Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут (1983). Служыў у войску. Працаваў мастаком, рэдактарам на тэлебачанні, займаўся кніжнай графікай.*

*Аўтар кніг прозы «Вежа» (1990), «Сам-насам» (1990), «Адна капейка» (2012). Піша таксама вершы, п’есы, сцэнарыі дакументальных і мастацкіх фільмаў.*

## Гумно

Гэта ж трэба, прайшло цэлае жыццё і я ўспомніў…

Дзед гаварыў: «Якая бульба на калгасным полі, адна ў адну… І жукоў амаль няма!» А мог і так: «А на калгасным полі жыта дык жыта!» І буракі, і морква, і нават кукуруза, па дзедавых словах, на тым калгасным полі радзілі… Мне ж размовы пра калгаснае поле былі малацікавыя. Але, па восені, у сямідзясятым, калі камбайны зжалі ячмень, вядома ж, добры, адбылося вось што. Дзед завёў мяне на тое поле, якое пачыналася за нашым агародам. Прайшлі дажджы, ісці цяжка, бо ногі грузлі ў мяккай і чорнай зямлі. Мы ішлі, ішлі, а потым спыніліся і дзед сказаў: «Уся гэтая зямля, аж да вялікіх елак, аж да самай дарогі — наша…»

Потым ён паказаў, дзе стаяла гумно і свіран. Нават рукамі так зрабіў, быццам вялікія дзверы адчыніў. Увайшоў, пачаў расказваць, дзе снапы ляжалі, дзе малацілка конная стаяла…

Сыпануў дождж. Я пабег па полі ў хату, а дзед застаўся стаяць пад высокім саламяным дахам гумна, на сваёй зямлі, кепку трымаў у руцэ. А дождж часаў і часаў…

## Назіранне

Вяскоўцы, нават тыя, каму па сорак—пяцьдзясят, не садзяць яблыні, вішні, слівы… Ходзяць па чужых садах, збіраюць яблыкі з грушамі, абрываюць слівы. Карыстаюцца тым, што засталося ад папярэднікаў-аднавяскоўцаў. І гэта адбываецца не адно дзесяцігоддзе.

І краявіды, у якіх яны выраслі, сённяшнія вяскоўцы не шкадуюць — выпілоўваюць і высякаюць дрэвы па берагах рэчак і побач з дарогамі. А калі іх папракаеш — паціскаюць плячыма і пасміхаюцца, быццам ведаюць нейкую таямніцу жыцця… А таямніца тая простая. Яны, сённяшнія вяскоўцы, не сумняваюцца, што ні дзецям, ні ўнукам іхнія хаты, сады, краявіды не спатрэбяцца.

Нашчадкам не спатрэбяцца, а на сваё жыццё хопіць і таго, што ёсць. Дзякуй богу, што на могілках зямлі яшчэ багата…

## Вуліцы і людзі

Няўпэўнены снег. Паварочваю з Інтэрнацыянальнай, падымаюся побач з гімназіяй, абмінаю падстанцыю, праходжу побач са шлагбаўмам у двор. На будцы, у якой сядзяць вартаўнікі-пенсіянеры аўтамабільнай стаянкі, запальваецца і міргае match рознакаляровымі агеньчыкамі святочная гірлянда. За шклом, у самой будцы, цёмна, але я ўзмахваю рукой, вітаюся, хоць і не ведаю, ці ёсць там хто? На тонкім снезе застаюцца мае чорныя і акуратныя сляды.

— Гэй, Володзька, пастой!? — гукае Юра, ідзе з будкі да мяне. Без шапкі, але ў вайсковым бушлаце, накінутым на плечы. Вітаемся, ён прапануе пастаяць, пагаварыць, пакурыць.

Яму за семдзесят. Нагадвае рыбінку-печкура. Левае вока ў вартаўніка белае, нежывое, як у таранкі. Ён таропка закурвае і пачынае хутка расказваць пра пахаванне сляпога суседа, пра тое, што людзей на хаўтурах было зусім мала, што ён хацеў пайсці, а суседка, нябожчыкава жонка, затрымала і ён застаўся, а таму і перабраў.

— Юра, прабач, мяне чакаюць, пайду, — кажу па-дзелавому. Выцягваю з кішэні тэлефон. Там чвэрць на дзясятую.

— Добра табе… А мяне ніхто не чакае. Зусім.

— Бывай, дабранач!

Пацiскаю халодную далонь вартаўнiка. Таропка iду да пад'езда памiж прысыпанымi снегам легкавiкамi.

— Гэй, зямлячок, пачакай, паслухай?! Можа, ты ведаеш, тут мне слова трапiлася, не магу адгадаць. Шэсць лiтар, другая, здаецца «А», хто адзiн з тых мудрацоў, што першымi прыйшлi да дзiцяцi i Божай мацi.

— Гаспар! — кажу праз двор.

— Хто?

— Гаспар…

— Падыходзiць, ну ты, бляха, малайчына! Я, колькi б нi думаў, не здагадаўся… Гаспар.

Юрка стаiць пасярод двара. Падае снег. На будцы гарыць рознакаляровая гiрлянда.

## «Тэлевiзар»

На рагу вулiцы Багдана Хмяльнiцкага i праспекта — дом № 75. На першым паверсе, як i тады — кафэ.

Сёння яно называецца «Freh Cafe», а тады — «Молодежное». Вокны ад падлогi да столi. За вялiзныя вокны-сцены тое кафэ мела мянушку «Тэлевiзар». Бо наведвальнiкi за столiкамi, як у тэлевiзары.

У 1975 годзе там яшчэ стаяў музычны аўтамат. Шэрая металiчная скрыня, нечым падобная да сучасных банкаматаў. Пластыкавыя кнопкi, колеру косткi, а побач, на паперках, назвы песняў. Знакамiтая «Bésame mucho» была напiсаная ў адно слова — «Бэсамамучэ». Кiдаеш пяць капеек у шчылiну, нацiскаеш кнопку, i скрыня ажывае, шчоўкае, рыпiць i пачынае спяваць.

Там добра пiлося, курылася i сядзелася…

Ведаю шмат гiсторый, звязаных з тагачасным «Тэлевiзарам», але раскажу толькi адну.

Працавала там прыбiральшчыца сталага веку — цётка Вера, а можа, у мае дзевятнаццаць яна здавалася такой старой. Была цётка Вера звычайнай прыбiральшчыцай. Але яе ўсе баялiся, бо яна бязлiтасна, з мацюкамi i абразамi, выганяла наведвальнiкаў-п'янтосаў, калi прыходзiў час перапынку. Не было для яе розніцы, хто ты — вядомы паэт, мастак, навуковец цi доўгавалосы студэнт. Падыходзiла, глядзела ў вочы i паказвала пальцам на дзверы. Але, здаралася, калi ёй налiвалi паўшклянкi партвейна, то яна дазваляла сядзець i не сыходзiць.

Аднаго разу, вясной, я шукаў у «Тэлевiзары» сяброў. Паторгаў зачыненыя дзверы, а потым прыпаў тварам да шкла, прыставiў далонi i пачаў глядзець, цi не там сябры?

Вясновае сонца свяцiла моцна. Яркiя плямы святла нагадвалi радкi вершаў, выхапленых з тэкстаў. У гэтым святле стаяла цётка Вера з мокрай анучай у левай руцэ. З анучы цякло золата. Прыбiральшчыца стаяла ў галёшах на голыя ногi, пахiствалася пасярод залатой лужыны… Потым неяк няўпэўнена падышла да скрынi музычнага аўтамата, выцягнула з кiшэнi бруднага сiняга халата пятак, кiнула ў шчылiну. Дачакалася музыкi i пачала танцаваць. Старая цётка ў блiскучых галёшах, тапталася i круцiлася ў сонечных плямах, расплёхвала залатыя лужыны — пырскi зiхцелi. А мокрая ануча лётала, як хвост рыбiны… Потым яна села на крэсла з жалезнымi ножкамi, закрыла твар рукамi…

Музыкi я не чуў — шкло тоўстае, але думаю, што цётка Вера нацiснула тую самую кнопку, з песняй, напiсанай у адно слова.

## Пра каханне

Даўнавата было. Да нас зайшла былая суседка — баба Ева. Яны з мамай сядзелі на кухні і гаварылі пра сваё. Я падслухаў. «Што я думаю, раскажу табе, Наташа. Як падумаю пра гэта, дык заснуць неяк. Вось памру хутка, закапаюць побач с Васілём... А ён жа маладым і прыгожым памёр, усяго-та сорак і было. А я такая старая-старая, мне ж без года восемдзесят. Як сустрэнемся — не панараўлюся яму такая брыдкая. Не будзе ён мяне любіць. Ён жа малады, а я...»

Баба Ева захліпала.

Мая мама маўчала.

А я спрабаваў уявіць дзіўную сустрэчу, бо памятаў вусатага Васіля ў сінім пінжаку с адным бліскучым медалём.

## Шчасце

Мала я ведаю пра сапраўднае шчасце, але ведаю.

Яго звалі Якаў, а яе Еўга. Казалі, што ён крышку старэйшы, можа, на якіх пару гадоў. Але і дзед Якаў і баба Еўга былі сівыя, дробныя, за восемдзесят, а мне гадоў дзесяць. У іх сабака Букет, але на мяне ён не брахаў і не кідаўся. У іх маліна за хатай. І дзед Якаў і яго Еўга заўсёды самі казалі, каб я пайшоў ды нашчыкаў малін, і місачку прапаноўвалі.

Еўга захварэла і хутка памерла. Яе памылі, прыбралі, у труну паклалі. Дзед Якаў усё кулакамі вочы свае цёр, а слёзы не цяклі. Сядзеў ён і на сваю Еўгу глядзеў. А потым папрасіў сыноў Пятра з Сашкам, каб хлопцы не спяшаліся… Ні сыны, ні нявесткі не зразумелі, падумалі, што стары загаворваецца… А дзед Якаў прылёг ноччу трохі адпачыць, і больш не прачнуўся.

У той жа дзень ямку на могілках большую выкапалі, труну зрабілі, крыж яшчэ адзін… І на пахаванні, і потым усе толькі і гаварылі, што вось яно — шчасце. Жылі добра і доўга і памерлі, лічы, у адзін дзень.

А Букета з ланцуга спусцілі. А маліны яшчэ не паспелі…

## Звычайнае

Раніцай жанчына стала на вагі. Стрэлачка за шклом не варухнулася. Яна сышла на падлогу, а потым ізноў ступіла на вагі. Стрэлачка хіснулася ледзь заўважна і вярнулася на нуль. «Чорт!» — прашаптала жанчына, падскочыла, узмахнула рукамі і бязважка паляцела па кватэры, зачапіла нагой жырандолю і прачнулася.

## Настаўнік

Трафім Дзянісавіч Ігнаценка вучыў мяне маляваць. Святло, цень, паўцень, блік, рэфлекс, прапорцыі, маса, абрыс... Ён прамаўляў словы адрывіста і ясна, як медыцынскія тэрміны. Строгі немалады мужчына, здаецца, з 1916 года, педантычны, размоў, якія не тычыліся малявання, не падтрымліваў. Памятаю яго так дакладна, быццам бачу, як ён сядзіць на табурэце перад маім мальбертам і параўноўвае выяву на паперы з ярка асветленым гіпсавым акантам. Памятаю яго рукі з вузлаватымі хуткімі пальцамі... Памятаю гадзіннік на шырокім карычневым раменьчыку (цяпер такія не носяць). Гадзіннік называўся «Победа». Аднойчы настаўнік зняў гадзіннік і паклаў на мальберт. На бледным запясці левай рукі цямнела татуіроўка — пяць бэзавых лічбаў. Другая ад пачатку — сямёрка. Апошняя — пяцёрка. Спрабую ўспомніць усю лічбу. Мне здаецца, што гэта мае вялікі і пакуль незразумелы сэнс. Амаль рэлігійны...

## Настаўнікі

Настаўнікаў згадваеш не тады, калі ўсё добра і ты едзеш, а тады, калі падаеш і баліць... Мяне навучыў ездзіць на ровары бацька. Настаўнікі паміраюць, але я еду. Яны нябачныя, падтрымліваюць мяне... Дапамагаюць падняцца і перакінуць нагу з пабітым каленам праз раму. І ціха штурхаюць у спіну: «Ну, не бойся, усё атрымаецца». І гэтыя галасы прымушаюць налягаць на педалі і ехаць.

А куды я прыеду — яны не сказалі, я ж не спытаў...

## Цуд

Пісьменнікі, мастакі, акцёры, кампазітары — ілгуць, калі кажуць, што лепшая кніга, карціна, роля, сімфонія — яшчэ ненапісаная, яшчэ наперадзе. І мружаць у камеру па-старэчы бясколерныя вочы, і паперкі ў аслабелых руках калоцяцца. Мне амаль шэсцьдзясят і я ведаю, што лепшага ў будучыні не будзе, і сябе падманваць не збіраюся, і чытачоў-гледачоў абнадзейваць.

Але цуды здараюцца.

## Анатам

Пластычную анатомію ў тэатральна-мастацкім інстытуце выкладаў прафесар Амврос'еў Аляксей Пятровіч. Ён хоць і быў прафесарам, але навучыць маляваць не мог. Мужчына эксцэнтрычны, вясёлы, акуратны, рухавы. Маляваў на дошцы крэйдай кепска, хаця лічыў, што малюе добра. Аднойчы я з ім заспрачаўся, што ведаць анатамічныя тэрміны мастаку неабавязкова. Ён раззлаваўся. Выклікаў мяне да дошкі. Я ўзяў крэйду і намаляваў чалавека без скуры. Малюнак атрымаўся выразны і ў нечым жудасны... Прафесар узяў маю залікоўку і паставіў свой подпіс.

Больш ён у нашай групе на дошцы не маляваў.

Але самае дзіўнае, мяне гэта і сёння ўражвае да дрыжыкаў. Прафесар тэстамент склаў, юрыдычна аформіў, каб яго труп стаў экспанатам у анатамічным тэатры, каб студэнты вывучалі па ім анатомію.

## Стравы

Баба Паліна, ці па-вясковаму, па мужу-нябожчыку — Якіміха, дажыла да глыбокай старасці. Апошнія гады правяла ў хаце ўнучкі. У нядзелю замовіла Якіміха сабе на полудзень — клёцак. Страву прыгатавалі, паклалі ў талерку і падалі старой у ложак. Якіміха добра паела, падзякавала і заснула.

«Так і памерла ў сне — шчаслівая і задаволеная», — казалі сваякі вяскоўцам… А праз дзень ізноў давялося драць бульбу, круціць мяса, бо клёцкі на Віцебшчыне страва, без якой не абыходзяцца хаўтуры, а жалобны стол лічыцца бедным.

## Спісы

Згадвалі з жонкай сваякоў — кожны сваіх. Мае з Гомельшчыны, а яе з Віцебшчыны. Спісы імёнаў атрымаліся доўгія. Высвятлялі, колькі на вайне загінула, а колькі савецкая ўлада знішчыла. Аказалася, што прыкладна пароўну.

Сумна… І так, відаць, ва усіх беларускіх сем'ях… Ад многіх і фотаздымкаў не засталося.

### Ад прадзедаў спакон...

Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталіся яблыні…

З беларускіх яблыкаў найсмачнейшыя і найпрыгажэйшыя — штрыфель і антонаўка. Штрыфель рос у дзедавым садзе на Гомельшчыне, а васковая антонаўка на Віцебшчыне, у садзе жончынага дзеда Петрака.

Іншыя яблыкі — забаўка, сапраўднай асалоды не даюць.

### Зорка

Мне тады было гадоў пяць, да шасці заставалася пару тыдняў, і я жыў у дзеда з бабай. Студзень. Ноч. Я прачнуўся, бо дзед тупаў па хаце, апрануты і ўсхваляваны. На яго валёнках быў снег. Баба завязвала хустку і надзявала ватоўку. Яны збіраліся ісці ў хлеў. Я пачаў прасіцца, каб і мяне ўзялі. Пакуль баба выцягвала з печы вялізны чыгун з гарачай вадой, дзед мяне апрануў.

Мы ішлі праз двор. Дзед з газнічкай, я і баба. У двары было снежна і сіне-сіне, на небе зіхацелі зоры. Дзед адчыніў вароты ў хлеў і прыўзняў газнічку. Наша вялізная карова ляжала на баку, а за ёй, на жоўтай саломе мокрае даўгавухае цяля. На сценах чорныя цені: дзедаў, бабін і мой.

Добра запомніў вільготнае вока каровы і яе парэпаны васковы рог. Карова глядзела скрозь мяне абыякава і жавала.

Мы ўтрох урачыста вярнуліся ў хату. Першай ішла баба, потым я, апошнім, з газнічкай у левай руцэ — дзед. Я распрануўся і залез у ложак.

«Скора будзе малако», — сказаў дзед.

Скора будзе малако… Мала… Ма…

Цяля назвалі Зоркай. Каляды ж былі…

### Школьны настаўнік

Доўга не выходзіла з галавы, а таму запісаў.

Хадзілі з Карпейчыкам, курылі, размаўлялі пра жанчын і дзяцей. Я казаў, што дзіця — частка жанчыны, а таму яна за дзіцяня гатовая памерці і забіць. Я казаў настаўніку біялогіі, што гэта адзін з мацнейшых інстынктаў. Нават жывёлы сваіх дзяцей бароняць. Прыгадаў ваўкоў, тыграў, мядзедзіцу…

Карпейчык спыніўся і жорстка сказаў: «У мінулым годзе маладая жанчына павезла ў калясцы немаўля ў парк. Зіма была. Мінус 12… Сяброўак сустрэла. Выпіла, потым яшчэ і яшчэ. На наступны дзень каляску з дзіцянём замерзлым знайшлі ў парку...»

Ад слоў школьнага настаўніка ў мяне трахея сціснулася.

Потым мы пілі каву і гаварылі пра прозу Варлама Шаламава, але мне страшна не было.

### Не бачыў...

Да змроку гулялі з жонкай па парку. Глядзелі на дрэвы і амаль не размаўлялі. Я глядзеў на каштаны, на складаны колер восеньскага лісця... Глыбокі і лёгкі. Зразумелы і невытлумачальны. Можна бясконца ўглядацца, мружыцца і шырока расплюшчваць вочы...

Злавіў сябе на думцы, што ў маім г. п. каштанаў процьма. Але я не памятаю іх жоўтымі… Якімі заўгодна, але не восеньскімі, не… У дзяцінстве і юнацтве на восеньскія дрэвы не глядзіш, іх не бачыш… А каштаны? Вядома, збіраў і шпурляў. А дрэў — не бачыў…

## Карціны і кнігі

Мяне заўсёды здзіўляла безгустоўнасць пісьменнікаў. Такія гнюсныя карціны ў кватэрах і кабінетах вісяць, што глядзець на сцены сорамна… Тое ж і з кніжкамі ў майстэрнях і кватэрах мастакоў — быццам і бібліятэка ладная, а пачытаць і няма чаго, большасць кніжак — другарадная «лабуда».

Ведаю стаматолага. Выдатная бібліятэка і дзясятка паўтара якасных палотнаў і графічных аркушаў. Навукоўцы трапляюцца дасведчаныя, як у выяўленчым мастацтве, так і ў літаратуры…

## Пяць

— Пачак пячэння, — папрасіў салдацік прадавачку.

— І ўсё?

— А можна пяць яек?

— Не, — адказала прадавачка.

Салдацік пачаў разлічвацца, а прадавачка, пад поглядамі пакупнікоў, запакавала ў цэлафанавы мяшэчак пяць белых яек.

Салдацік выпіў іх у двары, заеў пячэннем і спрытна пераскочыў праз бетонны паркан на тэрыторыю штаба.

## Пра чароўныя рэчы

Эрнэст Хемінгуэй сядзеў за столікам парыжскай кавярні і пісаў апавяданні пра Мічыган, пра халодную і празрыстую ваду, пра вецер, пра імклівую стронгу…

Пісаў у нататнік звычайным алоўкам. Вастрыў свой аловак — тачылкай. Ёсць у гэтым нешта дзіцячае і непасрэднае. Дужы мужчына, трымае ў моцных пальцах аловак і беражліва паварочвае яго ў маленькай тачылцы. Габлюшка закручваецца ў спружынкі…

## «Hotel California» Eagles

Пальцы ў сале пацягнуліся да круцёлкі прыёмніка, які стаяў на падаконні, і графік Ігар Ліберман сказаў: «Ша! Каліфорнія!» І дадаў гучнасці. Гэта было ў снежні 1978 года, у інтэрнацкім пакоі тэатральна-мастацкага інстытута, на другім паверсе, у гадзіну ночы. Я працягваў жаваць сала з цыбуляй, а Ігар падхапіўся, пачаў хадзіць па пакоі і спяваць. Ён ведаў гэтую песню, а я пачуў першы раз. Ігар так разышоўся, што паставіў на стол бутэльку малдаўскага віна, якое хацеў зберагчы да святаў. Выпілі. Ігар усё спяваў, размахваў скальпелем, мружыў вочы і шчасліва смяяўся. Ён тады маляваў ілюстрацыі да Бабеля, а я пісаў алейнымі фарбамі Камароўку. Цёткі, гарбузы, яблыкі, бульба і чорнае неба...

Каліфорнія запомнілася.

## Вядзьмарка Домна

Мне хоць і было сем гадоў, але я ведаў, што вядзьмарка жыве ў суседняй вёсцы, амаль у лесе, на самым краі.

Ёй было, як мне здавалася, гадоў сто, а можа, і больш. Старая сядзела ў паўцёмных сенцах ля акна, на ўслончыку. Яна вялікая, у чорнай хустцы, і астатняя адзежа цёмная… Побач стаяў кош з бульбай, бэзавыя парасткі тырчаць, чорны чыгун. У руках чорны нож. Яна абірала бульбу. Светлая луш-

пініна закручвалася, закручвалася, а потым падала на цёмныя босыя ногі, а бульбіна ў чыгун. Яшчэ ў сенцах віселі венікі з рознай травы і кветак. Пахла сырой зямлёй. Звалі вядзьмарку Домна. Я тады быў упэўнены, што гэта мянушка вясковая.

Яна падняла галаву і паглядзела на мяне ўважліва, а па твары Стасіка толькі слізганула позіркам. Стасік сказаў, што баба Домна ведае будучыню і можа расказаць, што з кім здарыцца. Мы прыйшлі спытаць, ці будзе заўтра дождж, бо збіраліся пайсці на Цагельню, а гэта далекавата.

У старой празрысты позірк. Яна сказала, каб мы не хадзілі на Цагельню, а ішлі ў свой лес. Нахіліла галаву і зноў узялася церабіць парасткі і абіраць бульбу. Мы пастаялі трохі і пайшлі ў сад па ападкі. Нічога такога дзіўнага я не заўважыў і сказаў Стасіку, што вядзьмарка — звычайная баба, такая ж, як мая.

Наступнай раніцай Стасік і два яго старэйшыя браты пайшлі на Цагельню, а мяне не ўзялі. Я ўгаварыў свайго стрыечнага брата пайсці ў наш, у блізкі лес. З Цагельні грыбнікі вярнуліся з пустымі кошыкамі, а мы з братам нарэзалі баравікоў поўны кош.

Было і яшчэ тры сустрэчы з вядзьмаркай Домнай, але і тады яна абірала ў сенцах бульбу.

## Дачка вядзьмаркі Домны

Дачка вядзьмаркі Домны — кульгавая Нінка. Яна едзе на ровары па дарозе ўздоўж нерухомага вялікага лесу. Едзе хутка. На ёй цёмны мужчынскі пінжак і рабая сукенка, на шыі цёмная хустка, валасы растрапаныя. На карычневых нагах сандалі. Нінка круціць педалі і крычыць ці смяецца, а можа, галосіць. Да рамы прывязана рыдлёўка.

Дачка вядзьмаркі едзе да матчынай хаты. Гадоў пяць хата стаіць пустая, нават на хлеў, нават на дровы хату з выбітымі вокнамі ніхто не хоча купіць.

Карцінка ўрэзалася ў памяць. Цёмны восеньскі лес, светлая дарога і жанчына на ровары, якая галосіць, а можа, смяецца. Яна і не знікае, і не набліжаецца…

## Курган

Сёстры-блізняты Светка і Алка сядзелі за адной партай, а потым за адным сталом. Настаўнікі Светку з Алкай блыталі, а мы адрознівалі. Як тое рабілі — не памятаю, але лёгка.

У сёмым праходзілі «Курган» Янкі Купалы. Задалі вучыць урыўкі. Праз тыдзень адказваем. Дайшла чарга да Светкі. Стала яна каля дошкі, вочкамі сінімі палыпала і гучна пачала:

«Стол ты ўставіў ядой, гасцей шмат пад сталом, —
Гэта госці бядноты рабочай;
Пацяшаешся белым, чырвоным віном, —
Гэта слёзы нядолі сірочай…»

Дачытаць урывак не далі. Клас зайшоўся смехам… Настаўніца паправіла сказала, што не «гасцей», а «касцей шмат пад сталом…»

Светка падумала і сказала: «Паспрабаваў бы хто у нас дома косці пад стол кідаць, мамка б яму галаву адарвала».

## Начное жыццё

Шмат разоў раніцай знаходзіў у лесе маленькія баравічкі. Такія малыя, што шкадаваў зразаць. Прыкмячаў месца. Прыходзіў надвячоркам, а грыб той, як быў маленькім, так маленькім і застаўся. Нiколькі за дзень не падрос. Зноў пакідаў…

А вось наступнай раніцай мой баравічок было не пазнаць. Спраўны такі грыб-прыгажун пад кустом сядзіць. Я чырык яго ножыкам — і ў кошык.

Тады я і зразумеў, што грыбы растуць толькі ноччу… Няхітрае адкрыццё…

Скажу болей. І шчэць, як тыя грыбы, удзень — не расце. Сто разоў спраўджваў.

Шчэць расце ноччу… Тады навошта я галюся не раніцай, а перад ноччу?

## Адкрыццё

Сорак пяць гадоў пражыў у Мінску…

А толькі сёння зрабіў адкрыццё.

Безліч разоў заходзіў у гастраном на рагу вуліц Леніна з Інтэрнацыянальнай. Побач з гатэлем «Еўропа». Цяпер там рэстаран сушы, а раней месціўся гастраном, дзе можна было кавы выпіць, а пры жаданні партвейна пляшку набыць і парожняй на стойцы пакінуць. Гастраном называлі — «Пярцоўка».

Дык вось, не таму гастраном «Пярцоўка», што ў ім перцам гандлявалі, і не таму, што «пярцоўку» прадавалі, як я раней думаў. А таму, што жыў у гэтым доме акадэмік Перцаў Уладзімір Мікалаевіч. Тысячы разоў на шэрую мемарыяльную дошку глядзеў, а прачытаў уважліва толькі сёння.

Можна смяяцца…

## Безвыходнасць

Старая прахапілася пасярод ночы...

Яна стаіць у кухні з пасткай у руках і глядзіць на забітую, расціснутую бліскучай рамкай мыш, а ў рукамыйнік капае вада.

Бом-бом-бом...

«Усё табе! Смачнае было пячэнне? Гэх ты...» — шэпча старая з радасцю, і шкадаваннем.

І яшчэ доўга стаіць і не ведае, што рабіць далей.

## Дзікае паляванне

Самы звычайны шэры дваровы кот спрытна і высока падскочыў, у паветры схапіў вераб’я.

Шкада пташку.

Але за такі спрыт і майстэрства сэрца маё было на баку дваровага бадзягі.

## Статыстыка

Мама палічыла, што дома, ад таго часу як выйшла замуж, было чатыры чайнікі. Пералічыла і расказала пра кожны. За шэсцьдзясят гадоў усяго чатыры. Думае купіць пяты — маленькі, каб лягчэйшы...

## Чужыя гарады

Раней, яшчэ пры савецкай уладзе, часта марыў пра немагчымае. Хацелася паездзіць па свеце, шмат дзе пабыць, шмат чаго паглядзець… Тая ўлада скончылася. Некалькі краін наведаў. А потым ездзіў і ездзіў адно ў Іспанію. Знаёмыя дзівіліся, пыталіся, а чаму толькі ў адно месца, няхай сабе і прывабнае? Што я мог адказаць?

Там мне падабалася… А цяпер і ў Барселону не хачу…

Можа, калі забароняць ездзіць і лётаць, то зноў аджывуць савецкія мары пра замежныя і недасяжныя краіны, пра чужыя берагі і гарады, якія будуць здавацца прывабнымі і спакуслівымі…

Забароны — нараджаюць мары. Забароны — надаюць жаданням слодыч...

## Перавязанае горла

Вінсент Ван Гог адрэзаў сабе правае вуха… Калі б гэта зрабіў чалавек невядомы, то і гаварыць не было б пра што. А глупства, зробленае геніяльным мастаком, робіцца фактам мастацтва. Ён адрэзаў вуха, галаву завязаў белай тканінай, на якой і кроплі крыві няма, узяў палатно і напісаў аўтапартрэт. Карціна так і называецца — «Аўтапартрэт з адрэзаным вухам». На палатне тым адрэзанага вуха не відаць, але верыш, што яго няма. Колькі карцін з калецтвамі рознымі, а Ван Гога ніхто не пераўзышоў…

*P. S.* Гэта я да чаго? Паспрабаваў намаляваць аўтапартрэт з перавязаным горлам…

Хоць нос адхапі, хоць галаву, а Ван Гогам нарадзіцца трэба.

## Бессмяротны дух

Учора ў 21:45 заблямкаў званок. За дзвярамі стаяў незнаёмы мужчына ў капелюшы і глядзеў на мяне. Першае, што падумаў — ЖЭС.

— Есть ли у вас бессмертный дух? — на твары незнаёмца плыла ўсмешка.

— А што такое?

— Вот возьмите, — мужчына падаў каляровую паперку. — А то многие сомневаются, а здесь точно написано, что и как.

Паперку я ўзяў. Гэты позні госць мяне насцярожыў. Я доўга думаў, як ён патрапіў у зачынены пад'езд. Адкуль у яго электронны ключ?…

## Ганарар

А ці дарма спяваюць птушкі?

Я атрымліваў грошы за вялізныя пано і партрэты правадыроў, за напісаныя лозунгі, дзе чырвоныя літары былі большыя за чалавека. Атрымліваў грошы за сцэнарыі тэлеперадач, дакументальных і мастацкіх стужак, за сцэнарыі серыялаў, знятых і недазнятых... За бульварныя раманы, якія выдаваліся вялізнымі накладамі...

І мне не было сорамна.

А за маленькія малюнкі, якія крэмзаў паміж працай над «вялізнымі» творамі, за вершыкі і гісторыі, якія пісаў «для душы», я таксама часам атрымліваю грошы.

І вось што. Браць вялікія грошы мне ніколі не было сорамна, а маленькія, за вершыкі і апавяданні на чатыры старонкі — сорамна. Учора атрымаў чарговы ганарарчык у выдавецтве...

Было сорамна, бо так і не змог адказаць сабе: «А ці дарма спяваюць птушкі?»

## Ранішняе

Як не пазайздросціць незнаёмаму аднагодку? Ён бярэ літр піва і таропка нясе да суседняга століка. Першы куфаль выпівае адразу — без супынку, з прымружанымі вачамі. Другі п'е няспешна і з задавальненнем. Ён грэбліва пазірае алейным позіркам на маю маленечкую філіжанку з кавай. Ён, як і я, гэтым ранкам нікуды не спяшаецца. Але няма ў мяне да яго зайздрасці, як і ў яго да мяне.

## Цудадзейныя рэчы

На дзвярным вушаку, паміж перадпакоем і гасцёўняй, вісіць званочак з чорнай апаленай гліны. На званочку сядзіць драўляная страказа. Тулава чырвонае, а крылы, як палачкі ад марозіва. На зялёнай нітцы вісіць доўгая вузкая паперка з чорнымі іерогліфамі. Калі нехта праходзіць, то паперка хістаецца і званочак нягучна бомкае. Гэта традыцыйная японская… не магу прыдумаць слова, бо не ведаю… рэч-цацка. Японскі прафесар-славіст тлумачыў абсалютна сур'ёзна, што страказа, званочак і паперка з малітвамі стануць ратаваць маю сям'ю і дом ад непрыемнасцяў і няшчасцяў. Каму б іншаму, то і не даў веры. Атсуа Наказава дапамог мне цудадзейную рэч прыладзіць і прачытаў па-японску хайку Басё…

І цяпер, калі званочак бомкае, то і я згадваю хайку. Сапраўды — рэч цудадзейная, бо толькі цуд і можа прымусіць чалавека шаптаць, як малітву, кароценькі верш...

## Назіранне

Ёсць такі забабон: калі прыкмеціць маленькі грыб, каб праз пару дзён зрэзаць, то ён не вырасце. А вось дрэвы, пад якімі мы фатаграфуемся, не растуць — чыстая праўда.

## Сёння

У вагоне метро разглядаў рукі. Не свае, а тых мужчын і жанчын, якія сядзелі насупраць. Па руках спрабаваў уявіць, стварыць партрэты гаспадароў шасці пар непадобных рук. Увогуле, не вочы — люстэрка душы, а рукі. Мітуслівыя рукі мужчыны маладзёна, з неахайнымі пазногцямі. Кідка размаляваныя пазногці жанчыны з выродлівымі залатымі пярсцёнкамі. Бязвольныя рукі з тоўстымі і слабымі пальцамі належалі яе дарослай дачцэ. І толькі адны мужчынскія рукі аказаліся выразнымі, моцнымі, жылістымі і нават дагледжанымі. Такімі, што мне захацелася паглядзець на твар іх уладальніка…

А можа, рукі нашы гаспадары?

## Інтымнае

Ёсць у мяне відэлец і лыжка — нямецкія, трафейныя, з арлом.

Па-дызайнерску дасканалыя рэчы. Ёмкія, зручныя, але есці — ні відэльцам тым, ні лыжкай фашыстоўскай — не магу… Дзіўна.

А вось штых-нажом нямецкім карыстаўся доўга, нават, падабалася.

## Вось яно як

Адзін мужчына штораніцы глядзіць навіны «Euronews».

Другі — «Вести» РТР.

Абодва працуюць у мехкалоне Смаргонскага ДРБУ.

## Народныя песні

Гэтую гісторыю ад жончынага дзеда Сцяпана чуў двойчы. У другі раз запісаў яе ў маленькі нататнік. Дзед сядзеў у вялікім пакоі, пры круглым стале. Свяціла сонца: на чыстую падлогу, на сцены, зіхацела ў белай кафлі грубкі, а мы з жонкай сядзелі насупраць і слухалі.

Ён расказваў, як з другімі палоннымі працаваў на сталеліцейным заводзе ў горадзе Максюта. Так і казаў — Максюта. Насамрэч, той невялікі гарадок у Баварыі называецца Maxhütte-Haidhof. Працавалі там доўга, шмат і цяжка. Потым завод разбамбілі. Напрыканцы зімы 1945 года ўсіх рабочых перавезлі з завода ў лагер, які і вызвалілі амерыканцы.

Тады Сцяпан Ляйчонак упершыню ўбачыў чарнаскурых вайскоўцаў. Салдаты былі дужыя, высокія. Расказаў і такі жарт пра першыя сустрэчы з вызвалiцелямі, што калі хто пераадолее гідлівасць і пацалуе чорнага салдата, то атрымае ў падарунак залаты пярсцёнак. Гаварылася гэта весела, з усмешкай. А потым дзед спахмурнеў, падціснуў вусны, прыгладзіў сівыя валасы і доўга маўчаў, перш чым пачаць гаварыць.

Праз некалькі дзён, калі амерыканцы склалі спісы і ўсё ўдакладнілі, калі хворых і нядужых паклалі ў шпіталі, астатніх сабралі ў двары, пастроілі і афіцэр праз перакладчыка растлумачыў, што хутка ўсіх перададуць рускім… Але, калі хто не жадае вяртацца ў Савецкі Саюз, то можа паехаць у Амерыку, каб жыць і працаваць там. Хто згодны ехаць у далёкую Амерыку, той павінен зрабіць тры крокі наперад. Некалькі разоў перакладчык паўтарыў пра тры крокі. Афіцэр, са спісамі палонных, стаяў, глядзеў, чакаў. «Некалькі нашых выйшлі, а я застаўся стаяць. Мог бы, канешне, і я пайсці. Не прапаў бы ў той Амерыцы… Але застаўся на месцы. Дома ж дзве дачкі, бацькі, брат малодшы…» — казаў дзед з разгубленай усмешкай.

Потым быў фільтрацыйны лагер, а пасля некалькі месяцаў вайны.

У пакой свяціла сонца, і дзед мружыўся, вочы слязіліся.

## Вера і сіні квіток

У маім жыцці мноства фактаў, якія з'яўляюцца сведчаннем існавання Бога.

Гэтыя факты-падзеі нічым іншым вытлумачыць не магу. Іх, сапраўды, шмат!

Але мне дастаткова і таго, што гадоў у шэсць, першымі вераснёўскімі днямі, на плошчы побач з клубам ён даў мне марозіва-эскімо на палачцы — коштам адзінаццаць капеек (смачнейшага ніколі не каштаваў)… Каб жа толькі марозіва, а яшчэ сіні квіток на дзённы сеанс, на фільм пра Сіндбада-вандроўніка.

Часам здаецца, што гэта было ўчора. Я не запомніў ні твару, ні паставы, ні абставін, пры якіх марозіва і квіток аказаліся ў маіх руках…

Думаю, што ў кожнага ёсць такія доказы.

## Ягадны сон

Перадалі днямі з Ушаччыны гасцінец — вядро брусніц… Селі з жонкай перабіраць. Чырвоныя, ружовыя, барвовыя, мяккія, цвёрдзенькія, дробныя і буйныя ягады. Цэлы вечар сядзелі і выбіралі лісцікі, сасновыя і яловыя голкі, траву… Душэўна пра дзяцінства гаварылі, розныя гісторыя і ягадныя

мясціны згадвалі… Рукі пахлі лесам. Смачна неверагодна. Жывым і сапраўдным лесам.

А калі спаць лёг, то ягады не сніліся, хоць і наглядзеўся на іх за мітуслівай працай да болю ў вачах. Дзіўна? Грыбы, ягады, рыба сняцца заўсёды. Паплавок — дае нырца, грыб — з-пад куста вызірае, ягады — россыпам чырвоным на зялёнай траве… І толькі сёння пад вечар зразумеў, чаму яны ў мой сон не прыйшлі.

Не сам збіраў, не гнуўся за кожнай ягадзінай, вось і не прысніў.

## Любоў

У майго знаёмага была выдатная бібліятэка, вялікая кватэра, машына і ўспаміны пра вандроўкі па свеце. Паталагаанатам сказаў, што мой знаёмы ў свае семдзесят два, здаравейшы за саракагадовых. Жыць бы мог бесклапотна з такім здаровым арганізмам гадоў пятнаццаць, бо, нават зубы добрыя, ніводнай дзірачкі незалечанай. А чалавек не захацеў жыць… Скончыў жыццё самагубствам сярод любімых рэчаў, якія збіраў, пра валоданне якімі марыў, на якія працаваў нястомна. Не ўтрымала любоў да рэчаў чалавека на гэтым свеце. І не магла ўтрымаць. І любоў да Радзімы не ўтрымала ад жахлівага кроку... Не стала сына, не стала сабакі, не стала жонкі…

Думаю, што калі б у майго знаёмага быў плаксівы ўнук, няхай і не ў Мінску, то ўсё склалася б інакш…

## Чалавек

У аднаго майго знаёмага — сабака, а ў другога — кот. У трэцяга — выдатная амерыканская машына. У чацвёртага — шыкоўнае лецішча і машына. У пятага знаёмага — сабака, кот, машына, лецішча і каханка. Ён — самы няшчасны, прынамсі, так кажа пры кожнай выпадковай сустрэчы.

## Ван Гог

На балконе шостага паверха, высока па-над дваром і дрэвамі, растуць тры вялікія сланечнікі… Я падумаў, як гэтыя кветкі глядзяцца ў раме акна, з кватэры. На сінім, ці шэрым небе — радасна і святочна, як на карціне. Сланечнікі паварочваюць свае залатыя галовы, у адрозненне ад намаляваных, за сонцам…

Гэта прыгажэй за феерверк…

Салют, Вінсент Ван Гог!

## Прыгажосць

Сёння згадаў любімую японскую пісьменніцу Сэй Сёнагон і яе бессмяротнае назіранне, што адваротны бок прыгожай вышыўкі заўжды выклікае агіду… Зайшоў у двор па вуліцы «Карламарла». З вуліцы — столікі, сурвэткі, парасоны. Публіка прыстойная харчуецца, каву п’е, ласуецца прысмакамі living рознымі, па мабілках размаўляе, на ноўтбуках піша… Карацей, прыгажосць і гламур.

У двары ж — кухары ў брудных хвартухах афіцыянтак ціскаюць, паляць, ядуць з аднаразовых талерачак пальцамі, матам лаюцца. І смурод з кухні яшчэ той. На асфальце недапалкі, смецце, скрыні драныя з недаедкамі… Вось такая вышыўка.

А кава там — смачная.

## Неба

Кручкі нямецкія. Жылка японская. Паплавок ангельскі. Вудзільна кітайскае. Катушка шведская. Сумка галандская. Сцізорык швейцарскі. Тэрмас нямецкі. Кава бразільская. Запальнічка кітайская. Цыгарэты амерыканскія. Ліхтарык іспанскі.

А што беларускае?

Чарвякі, рака ды рыба!!!

## Му-му

Каб пра абарону Брэсцкай крэпасці напісаў сляпы Гамэр, то...

Хто б ведаў студэнта Раскольнікава, каб не Дастаеўскі?

Хто б ведаў падлеткаў: Рамэа, Джульету, прынца Гамлета?

Хто б ведаў Хрыста, каб не апосталы-пісьменнікі?

Пералік можа быць доўгім-доўгім, як жыццё чалавецтва…

Толькі тое, да чаго дакранаецца мастак, і застаецца…

Астатняе гіне, ператвараецца ў лічбы, факты… (малацікавыя і малазмястоўныя).

## Травень

У першым і другім класах я хадзіў у школу ў першую змену, а ў трэцім — у другую. Уся першая палова дня ў мяне была вольная. Я залазіў на спінку канапы пры акне. Ставіў ногі на радыятар, а на шырокім падаконні раскладаў сваё багацце. У мяне была вялікая скрыня з-пад шахмат, а там — пластылін. Не памятаю, хто і з якой нагоды аддаў мне аж некалькі пачкаў пластыліну. На той час прачытаў «Зверабоя» і «Следапыта». Адсюль і сюжэт узнік. Я вырашыў зрабіць правадыра мужных індзейцаў і яго воінаў. Вядома, што мустангі плямістыя, а індзейцы ў баявой расфрбоўцы і пры зброі. Тры дні да школы і пасля я ляпіў індзейцаў. Нікому не паказваў… Нарэшце скончыў. Бацькі не верылі, што я змагу зрабіць нешта вартае ўвагі і здзіўлення. Я зляпіў сямнаццаць чырванаскурых чалавечкаў, упрыгожаных яркімі пёрамі. Пластыліну на сямнаццаць мустангаў не хапіла, а таму пяцёра воінаў здаваліся маленькімі. Я расставіў на белым падаконні сваё індзейскае войска, задаволена агледзеў і пабег на заняткі. Вельмі хацеў, каб бацькі здзівіліся майму майстэрству.

Вярнуўся са школы, а мяне сустрэла сямнаццаць рознакаляровых гурбачак. Маё войска знікла. Я падумаў, што гэта малодшы брат пастараўся, потым…

І колькі тады ні тлумачыў бацька, колькі ні пераконваў, а я так і не паверыў, што гарачае вясновае сонца растапіла пластылін.

Цяпер — веру…

## Кантрасты

На Круглай плошчы заквітнелі дрэвы. Народ пад тымі дрэвамі фатаграфуецца. Лезуць паўдуркі пад галіны, бо думаюць, што побач з дрэвамі ў бела-ружовай квецені і яны будуць выглядаць прыгожа. Не разумеюць таго, што калі жадаеш выглядаць прыгожым — здымайся побач з пачварным... Закон кантрастаў ніхто не адмяняў...

А потым згадаў свой любімы фотаздымак, на якім трымае мяне, пяцімесячнага, мама на руках пад старой яблыняй у квецені...

І мама прыгожая, і я маленькі, як той анёлак...
І прыгажосць дрэва нам не перашкаджае... Эх, законы...

### Грошы

Старая касірка, з рукамі настаўніцы-піяністкі, непадробна абурылася, калі я сказаў банальнасць пра тое, што грошы не пахнуць. Яе твар сціснуўся, здзьмуўся, як надзіманы шарык, а пальцы перасталі рухацца. «Што вы такое кажаце. Я два разы ляжала ў бальніцы праз алергію на грошы... Яны смярдзяць, яны могуць атруціць. Я губляла прытомнасць у сховішчы і не магла зразумець ад чаго. Вярталася, садзілася лічыць, прывезеныя інкасатарамі грошы, і мне зноў рабілася кепска...» — казала касірка і складала перахопленыя аптэчнымі гумкамі пачкі банкнотаў.

Я глядзеў на грошы зачаравана і не даваў веры яе словам. Для мяне грошы пахлі свабодай і цытрынавым парфумам. Гэта адбылося восенню, дваццаць пяць гадоў таму.

### Жывёлы

У пад'ездзе завяліся ціхамірныя бамжы. Парачка — Яна і Ён. Пазбіраюць ноччу дыванкі па паверхах, пасцелюць пад кветкамі, паміж апошнім і перадапошнім паверхамі, і спяць... Пад кветкамі, пры вялікім акне. А па шкле дождж цячэ...

Я не супраць гэтых людзей, каб не цяжкі смурод. Амаль невыносны. Чатыры сабакі італьянскага дыпламата брэшуць і скуголяць, калі гаспадар выводзіць іх раніцай у двор, ірвуцца са шворак наверх. Яны б падралі і пагрызлі ціхамірных бамжоў, каб толькі гаспадар дазволіў. Чаму сабакі такія ненавісныя да бедных і няшчасных? Я гэта даўно заўважыў.

### Кнігі

Мой сябар перад самай смерцю адпісаў выпадковым людзям сваю чатырохпакаёвую кватэру ў цэнтры Мінска, гараж у двары і вялізную бібліятэку... Кніг было больш за тры тысячы тамоў. З усёй маёмасці мяне цікавіла пяць кніжак — дарэвалюцыйныя і першых паслярэвалюцыйных гадоў. Сябар ведаў, што я — адзіны з яго блізкіх, каму тыя пяць кніг цікавыя і прынясуць радасць. Ведаў, але кнігі трапілі выпадковым людзям, яго суседзям, якія іх і не раскрыюць, магчыма...

Цяпер, калі згадваю кнігі, то з крыўдай згадваю і яго.

### Свет

У Мінску дождж... Пры ўваходзе ў краму, у пад'ездзе, схаваўся смярдзючы бомж ды яшчэ з сабакам. Што такога зрабіў чорны цуцык гаспадару — не ведаю. Але бомж пачаў яго біць нагой. Сабака ўцячы не можа, бо на шворцы. Вішчыць, скуголіць, па мокрай падлозе качаецца. Я схапіў бамжару за плячо і добра шкуматнуў, адкінуў да сцяны. Бомж адразу зніякавеў, бо зразумеў, што яшчэ слова і я заеду яму ў азызлае рыла. А чорны цуцык раптам загырчэў і кінуўся на мяне. Хацеў за нагу схапіць. Каб не караткаватая шворка, то і цапнуў бы. Не сумняваюся. Бомж са сваім цуцыкам сышлі. А я раззлавана выпаліў цыгарэту... А што заставалася рабіць?

Свет несправядлівы.

## Сябар

Мужчына ў гадах, з якім я сябраваў, аднойчы скрушна пачаў наракаць на жыццё, якое прымусіла яго займацца зусім не тым, чым яму хацелася. Ён і мяне засцерагаў не паўтарыць яго памылак. Гэта было гадоў пятнаццаць таму. Я нарабіў памылак горшых, чым мой сябар. І зразумеў, што адрозніваюся ад яго адно безвыніковым імкненнем тыя памылкі выправіць.

Хоць і ведаю, што памылкі можна толькі даравацць, а выправіць немагчыма. Сумна.

## Калізей

Гэта, як у тэатры, калі акцёры далёка ўнізе, а ты на балконе. Спачатку яны спрачаліся, потым сварыліся. Потым яна заехала яму па твары, выбіла цыгарэту. Потым ён ёй. Потым зноў яна хацела ляснуць, але хлопец перахапіў яе руку, закруціў і ўдарыў па твары. У дзяўчыны пацякла з носу кроў, а ён пайшоў ад прыпынку. Яна пабегла следам. Ён спыніўся. Яна замахнулася, але ён яе апярэдзіў і ўдарыў хлёстка, наводмаш. Нешта сказаў. Спрытна пераскочыў праз чыгунную агароджу Купалаўскага сквера і падаўся да помніка. Яна крычала ўслед. Выцірала пабіты твар. Пачала пералазіць праз агароджу і ўпала. Яна бегла за ім. Ён стаяў пад дрэвам і чакаў. Ён выціраў насоўкай сваю запэцканую крывёй руку. Потым ёй твар. Потым яны сядзелі на лаве і палілі. Яна гладзіла яго руку.

Мне стала нецікава і я пайшоў дапісваць сцэнарый. Але не працавалася, і я вырашыў дарабіць рэпартаж з месца падзей. З прыпынку аўтобуса № 57, які пад вокнамі. На прыпынку было сем чалавек. Чацвёра мужчын і тры жанчыны. Каб хто скрануўся, усе сачылі за падзеямі са сваіх месцаў.

## Лічбы

Чаму ў памяці застаюцца нумар аўтамата і вайсковай часці?

Нумар тэлефона дзяўчыны, якая даўно памерла?

Нумар старонкі, на якой пяць год таму спыніў чытанне «Уліса» (сотні непатрэбных нумароў захоўвае памяць). Ну, не для гэтага ж тэксту?

## Пра мастацтва

Як хутка ператвараецца ў нішто большасць модных рэчаў — камп’ютары, відакі, бытавая тэхніка, аўтамабілі... А маленькая кніжка, якая каштавала капейкі, не старэе, перавыдаецца... І карціны Ван Гога, якія амаль нічога не каштавалі пры жыцці аўтара, сёння прадаюцца за дзясяткі мільёнаў...

Тэхніка — нішто, а мастацтва — усё.

Я набраў на камп’ютары і падзівіўся ў маніторы, якія роўныя атрымаліся радкі. Імгненне — і пяцьсот фрэндаў чытаюць...

## Вясна

Вось гісторыя, якую пачуў ад сябра-доктара.

У яго ёсць пацыентка, якой гадоў шэсцьдзясят. Актыўная цётка. Тры гады таму пахавала мужа. Мужчына быў смяротна хворы, шанцаў на папраўку нуль, жыць заставалася не больш за месяц. Але памёр не ў ложку — збіла машына побач з домам. Яна сама і выправіла яго ў двор, каб пасядзеў на лаве,

пагрэўся пад летнім сонейкам... Жанчына і сёння свята ўпэўненая, што каб яе муж не загінуў пад машынай, то ён бы абавязкова паправіўся.

Прыкладна так думаю пра некаторыя свае справы і я.

### Бойка

Масюкоўшчына. Тралейбусны прыпынак. Палова на шостую, але гэта неістотна...

Кампанія: непрэзентабельная дзявуля ў скуранцы і кепцы, трое мужыкоў, такога ж замесу. У руках дзявулі пачатая пляшка з вінам. Яна робіць глыток. Адзін з трох нешта кажа ёй ціха. І раптам дзявуля пачынае яго біць. Зло, агрэсіўна... Яе адштурхоўваць, спрабуюць хапаць за рукі, а яна вылузваецца і кідаецца зноў.

Мужык не ўтрымліваецца на нагах і падае. Дзявуля ж не дае яму падняцца і працягвае біць нагамі ў твар. Кроў, мацюкі, крык. Пры гэтым яна трымае ў правай руцэ пачатую бутэльку. Ні адна кропля не выліваецца. Скрываўленая галава матляецца, як кавун у сетцы. Двое мужыкоў бягуць праз дарогу і моўчкі заскокваюць у мой тралейбус. Дзявуля працягвае мясіць нагамі галаву нерухомага мужыка на пустым прыпынку. Не ведаю, ні хто яны, ні за што — мне іх не шкада...

Праз бруднае шкло кепска відаць, чым там скончылася, але гэта і неістотна.

### Вясна

Наталля — выкладчыцы французскай мовы. Ёй — сорак сем... Андрэю, электрыку — дваццаць сем. Ён жыве на трэцім паверсе з бацькамі. Яна жыве паверхам вышэй. Наталля замужам другі раз, але дзяцей няма ні ад першага шлюбу, ні ад другога. Калі Андрэю трэба грошы — ён ідзе да суседкі Наталлі. Глядзіць на яе вільготнымі вачамі, шчаку нявголеную шкрабе, трохдзённай шчэццю пстрыкае. Яна пазычае нават ноччу. А ён ведае сваю ўладу над жанчынай і ўсмешліва абяцае забегчы днямі. Але адно абяцае. Яшчэ і час спытае, калі жанчыне зручней. Якімі вачамі Наталля глядзіць на Андрэя. Яна б яго на шматкі падрала, такая пажаднасць і жарсць у нафарбаваных вачах. Потым жанчына доўга не можа заснуць, паліць пад выцяжкай і п’е кроплі... Грошы Андрэй звычайна аддае сівавалосаму прафесару, мужу Наталлі, які па вечарах выгульвае спаніэля. Сустракае ў двары і просіць перадаць для Наталлі Міхайлаўны. Аднойчы і кола дапамог прафесару на машыне замяніць.

### Дзіцячая біблія

Мне тады было шэсць з паловай.

Вясковыя дзеці змрочную цётку Таццяну слухаць не хацелі, а я слухаў. «А Бога салдаты схапілі і прыбілі да высокага крыжа цвікамі, а ён не плакаў і цярпеў за ўсіх нас, хоць кроў цурком бегла», — узбуджана тыцкала ўказальным пальцам у сваю далонь набожная цётка Таццяна, калі пераказвала знакаміты сюжэт.

У тое, што Бог не плакаў і цярпеў боль, я не веру, але маўчу... Бо добра памятаю, як мінулым летам прабіў нагу іржавым цвіком. Тут, каля іхняй хаты. Дзядзька Пятро майстраваў новы плот, стары штакетнік валяўся ў траве. Я наступіў на дошку — дзюбка цвіка выскачыла над пальцамі... Як тады цётка Таццяна сварылася на мужа за тое, што той не прыбраў старыя дошкі. Якімі словамі... «Паскуда» і «злыдзень» былі наймякчэйшымі.

А кроў і сапраўды цурком бегла.

## Непрыемнасці

Поўня... На згустак бела-бліскучага святла можна глядзець доўга. Спрабаваць убачыць твар, профіль, вочы і рот... Але я не гляджу доўга. Зірну — і вочы долу. Калі быў малым, то аднойчы стаяў на ганку дзедавай хаты і дзівіўся на руды і вялізны дыск, які зіхцеў над брамай. Хоць і зябка, але пайсці ў хату не было моцы. Здавалася, што ногі мае каменныя, а вочы шкляныя. Не было страху, але і радасці не было. За спінай адчыніліся дзверы, на ганак выйшла баба.

«Не глядзі на яе, чуеш?» — загадала скрушным шэптам і павяла мяне ў хату. Я спытаў, а чаму на месяц глядзець нельга? Але тады баба не патлумачыла, а толькі пазашморгвала фіранкі і загадала спаць. Амаль кожны раз, калі поўня, са мной здараюцца непрыемнасці. Самыя розныя: то згублю якую рэч, то спазнюся, то захварэю, то пасваруся, аднойчы зуб зламаў, моцна парэзаў руку — не пералічыць... Раней, калі выпіваў, то непрыемнасці здараліся абавязкова. Поўня — чакаю кепскіх навін, хоць і ведаю, што гэта ўсё забабоны і лухта... І бела-бліскучы згустак прахалоднага святла, які ўчора бачыў над рэзідэнцыяй, не пры чым. Ці не?

## Хайку

Да аперацыі — тыдзень. Ён крыху памаўчаў, а потым пажартаваў: «Святло без ценяў... Наперад нагамі выйду... Проста ў лістапад».

Пасмяяліся.

Хайку, але ні ён, ні я пра гэта не падумалі.

Ляцела павута. Быў кастрычнік 1998 года. Мастак ляжаў у бальніцы.

## Кветка

Вечар. Доўгавалосы хлопец з сяброўкай сядзелі на дыванку паміж апошнім і перадапошнім паверхамі, побач з вялікім сінім акном, пад кветкамі. Тут райскі сад, а за шклом ляцеў снег. Круціліся і мільгалі вялікія сняжынкі. Хлопец з кароткастрыжанай сяброўкай елі мандарыны і лушпіны складалі на падаконне. Яны пілі віно з рыльца, палілі, і жыццё ім не здавалася кепскім. І не было жыхароў ні шостага, ні сёмага паверхаў — моладзь не турбавалі. Хлопец прапанаваў сяброўцы заняцца каханнем. І яны заняліся. За шклом падаў снег, а ім было цёпла і горача. Потым яны апрануліся, даелі мандарыны і дапілі віно. Выпалілі па цыгарэце. Дзяўчына прапанавала зноў заняцца каханнем, але ён сказаў, што хоча спаць, што заўтра на занятkі. Яна зрабіла пакрыўджаны выгляд і паднялася. Ён падумаў і адламіў кветку амараліса. Яна здавалася бясколернай, хоць насамрэч была ярчэйшай за мандарыны. Яны не прыбралі за сабой і сышлі пад снег. Дзяўчына несла кветку, але побач з пад’ездам выкінула яе на снег. Пры чым тут кветка? А я і сам не ведаю? Але мне здаецца, што кветка ў гэтай гісторыі — асноўнае...

## Жарсць

Дзіўна, але я ніколі не быў музычным фанатам...

Абмінула мяне жарсць да музыкі. Праляцела, не зачапіла. Не лез я на сцэну, не ездзіў у іншыя гарады на канцэрты...

Учора, калі позні́м вечарам сядзеў і піў гарбату, то па радыё гучала музыка, знаёмая, чутая даўно-даўно. Я паспрабаваў згадаць, дзе і пры якіх абста-

вінах... Але не прыгадаліся ні абставіны, ні тыя, з кім слухаў... А кампазіцыя гучала неверагодна знаёмая...

Потым падумаў, як мяне, дзевяцігадовага, здзівіла смерць аднакласніка — токам забіла хлопчыка. Цяпер смерць аднагодкаў робіцца падзеяй звыклай, а таму і больш палохае, чым у пяшчотным узросце.

А гучала кампазіцыя «Я жывы», ведаеце альбом гурта «Uriah Heep», той, за 1978 год. Мне тады было дваццаць і песню пачуў з прыёмніка... VEF стаяў на падаконні, а мой сусед па інтэрнацкім пакоі Ігар Ліберман паварочваў бліскучы стрыжань антэны і спрабаваў на слых перакладаць словы...

Быццам у песнях маладосці словы маюць значэнне...

### Адукацыя

У кнігарнях сустракаюцца незвычайныя людзі.

Падыходзіць адзін да гандляркі, глядзіць у вочы і кажа: «Мне, калі ласка, тры кніжкі для вышэйшай адукацыі... Плутарх, Мао Дзэдун і “Майн Кампф...”» Гандлярка робіць вочы і перапытвае: «Усё?» Пакупнік, нават, не задумваецца: «А што, гэтага не хопіць?»

### Габлюшкі

Калі бацька майго аднакласніка — дзядзька Юзік бываў цвярозы, то з ім было цікава пагаварыць. Мне падабалася заходзіць у маленькую майстэрню. Сядаць на скрыню і глядзець, як спрытна працуе цясляр. Я браў залацістабелую габлюшку, удыхаў яе водар. Круціў у пальцах. Рабіў з габлюшкі пярсцёнак, калі ламілася, браў новую. Габлюшак на падлозе было поўна. І мяне не цікавіла, нашто пойдуць тыя дошкі. Труну замовілі цесляру, альбо дзверы, ці лаву... Мне падабалася бясконцасць маёй гульні... «Як ты думаеш, хлапец, што мне рабіць найбольш прыемна?» — паверх дошкі пацэліў пытаннем дзядзька. Я сумеўся. Спярша хацеў сказаць, што рамы на карціны, потым падумаў пра лыжкі, якія дзядзька Юзік рабіў суседкам, і якімі яны размешвалі варэнне... «Думаеш за што грошы добрыя і хуткія даюць. Не... Дамавіны рабіць не люблю», — сказаў і паставіў чысценькую доўгую дошку пад сцяну. Адсунуў нагой гурбу габлюшак. Выцягнуў са шкапка пачатую пляшку віна і выпіў. Я падняўся, каб пайсці. «Пачакай», — спыніў цясляр. Стаю ў дзвярах. «Самае прыемнае — калыскі для малечы майстраваць... Іх аддаваць лёгка, а рабіць радасна. Усёк, хлапец?»

Згадваю габлюшкі... Нябожчыка Юзіка і думаю, што можа варта плюнуць на ўсё... Сесці і кніжку напісаць. Для дзяцей, для малых...

### Сустрэча

Яна састарэла за пятнаццаць гадоў. Так моцна, што ён пазнаў яе толькі па голасе. Мужчына ведаў, што адбылося з ёй. А яна не ведала, ці ведае ён пра яе няшчасці... Яе сын — шэравокі Валерка, якога мужчына памятаў дзесяцігадовым, — гей... Нетрадыцыйную арыентацыю сына яна ледзь перажыла. Гаварылі мужчына з жанчынай пра агульных знаёмых, пра нецікавую працу... Яна раптам спытала, а ці ёсць у яго дзеці. Ён сказаў — дачка... Жанчына памаўчала, а потым прашаптала, што не зайздросціць яму, бо любіць свайго Валерку і што яе сын — самы лепшы...

Мужчына разгублена ішоў па мокрым горадзе, мружыў вочы і спрабаваў зразумець тое, што зразумець немагчыма.

## Зіма 2008

Ноч. Стаю ў Купалаўскім скверы, побач з шарамі, там, дзе летам лодкі з катамаранамі... Сэрца апошнім часам жыць не дае. Шпацырую перад тым, як легчы. Падыходзіць мужчына, цяжка мне яго ўзрост вызначыць, гадоў пад сорак. Папрасіў цыгарэту. Я сказаў, што кінуў паліць, і яму раю кідаць, бо сэрца не жалезнае... Ён здзекліва засмяяўся і пайшоў ад мяне прэч. Ён пераходзіў раку. У самым шырокім месцы. Я адразу падумаў кепскае. А ён ішоў сабе па тонкім макраватым лёдзе. І склізка яму не было. Да таго берага засталося зусім трохі — крокаў адзінаццаць. Мужчына праваліўся. Ён не крычаў. Я стаяў і глядзеў... Ён не выплыў. Каб у мяне была цыгарэта, то выпаліў бы яе няспешна. Цыгарэт не было, і я пайшоў спаць.

## Пісьменнікі

А лічыць, што Б — не пісьменнік.
Б лічыць, што А — не пісьменнік.
Калі А і Б сустракаюцца, то лічаць, што В — не пісьменнік.
Калі В сустракаецца з А, то лічаць, што Б — не пісьменнік.
Калі Б сустракаецца з В, то....
Карацей, А, Б, В — сапраўдныя пісьменнікі, якія рухаюць літаратуру.

## Начная змена

Мужчына ўмеў размяркоўваць сілы. І будоўлю саракагадовы вартаўнік ведаў, як свае чатыры пальцы. Ён быў упэўнены, што хутка зловіць злодзея-падлетка. Ён з ім забаўляўся, як кот з пакамечанай мышкай. Пераймаў на лесвіцах, гулкіх памяшканнях, у цёмных калідорах. Выскокваў са сваім доўгім ліхтарыкам, крычаў-палохаў і бег на тупат у цемру. Гэтая дзікаватая гульня цягнулася з паўгадзіны...

Падлетак выскачыў на дах недабудаванага сяміпавярховіка, а больш і не было куды. Далей-вышэй — толькі неба. Літаратура дазваляе свавольства. Можна напісаць, што падлетак паляцеў у начное неба... Адштурхнуўся ад чорнай бітумнай плямы, да якой яшчэ клеіліся падэшвы красовак... І кропелькі зорак пачалі згасаць, паказваючы накірунак павольнага палёту. Вартаўнік спалохана сеў на гурбу цэглы і пачаў церці вочы. Можна.

Але нафіга? Усё адбылося празаічна. Мужчына, які загнаў падлетка на дах, раптам дараваў непаўналетняму злодзею. І душа яго паспакайнела. Ён пакратаў далонь без вялікага пальца, паглядзеў у блізкае зорнае неба. Потым нягучна паклікаў: «Гэй, малы, пабегалі і хопіць, выходзь!» Вартаўнік згадаў войска. І сябе маладога-лысага. Падышоў да краю залітага бітумам даха. Унізе зіхцеў горад. Запаліў цыгарэту. Ізноў прапанаваў уцекачу мір, дараванне і цыгарэту. Падлетак выйшаў нячутна. Штуршок у спіну быў нямоцны. Недапалак вартаўніка не паляцеў за гаспадаром. Цыгарэта зоркай упала на чорны край даху. Падлетак зірнуў на яе і скінуў мыском красоўкі. Ён ніколі не курыў.

## Пошта

Вясковая паштарка цётка Ядзя пад’язджала да брамы дзедавай хаты на ровары. Клала газеты ў прыбітую да шулы кірзавую школьную сумку, але гэта, калі дождж, калі гаспадароў няма. Магла і паміж штакецін прэсу запхаць. Вясёлая была жанчына і разгаворлівая... Са мной сябравала, карамелькамі

частавала, а аднойчы перавадную карцінку дала. Некалькі дзён я не ведаў, на якую рэч карцінку тую перавесці. На люстэрка і перавёў. Але гэта ў вёсцы... У Касцюкоўцы паштарак, якія пошту на вул. Кастрычніцкай разносілі, я таксама ўсіх ведаў: цёткі Рая і Таццяна, а вось Анжэлу цёткай язык не паварочваецца назваць — маладая. З імі можна было пагаварыць, папрасіць. А што цяпер? Як выглядаюць паштаркі-паштальёны на TUT.BY? На іншых паштовых электронных службах... Не пахне электронная прэса друкарняй, не пахнуць дзявочыя лісты парфумам, не застаецца капэртаў, паштовак і марак. Глядзіш у манітор, ціскаеш клавішы, адкрываеш сваю скрыню, а там — спам. І думаеш, ну якая паштарка згадзілася гэтую лухту ў сумцы несці?...

## Імя героя

Гэта ўзрост — калі кожнага аднакласніка хочацца абняць. Кожную кветку ў сасцаным школьным садзе намаляваць... Хоць у маленькі нататнік, няхай і звычайным алоўкам.... А некаторыя дробныя кветачкі засушыць паміж старонкамі... Як шмат успамінаў, і як мала чорна-белых фотакартак... А каляровая — адна. Я на ёй у зялёным швэдары, побач з барвовым сцягам піянерскай дружыны імя-імя ... не магу згадаць прозвішча героя. Зрэшты, гэта не фотакартка... Каб мяне ўбачыць, то трэба падняць няважкі пластыкавы шар і прыпасці вокам да павялічальнага шкельца памерам у капейку, і глядзець на святло. Сфатаграфавалі выдатнікаў нашай школы... Кожнаму далі шар. Гэта не картка — слайд. Чароўны шар выпаў з рук аднакласніка, калі ён разглядаў сцяг за маёй спінай. Шар упаў на падлогу і раскалоўся надвая. Не, Сашка тады быў не п’яны. Мы глядзелі карткі, а гарэлка ляжала ў лядоўні. Сашка мог бы падказаць імя таго героя, у яго выключная памяць на лічбы ды імёны. Ён мог без паперкі перамнажаць вялікія лічбы, сказаць, у якім годзе нарадзіўся Марат, той, якога намаляваў Давід...

Але Сашка не падкажа — памёр. Ведаю, у каго спытаць!

Але не ведаю, навошта мне прозвішча таго героя?

## Успамін

На чатырох вялікіх менскіх краявідах было намалявана толькі тры чалавечкі.

— Такое ўражанне, што нейтронная бомба выбухнула... — кіраўнік дыплома глядзеў на мае гарадскія краявіды і незадаволена пахістваўся.

Ён прадчуваў цяжкасці абароны.

— Дзе бомба выбухнула? — шчыра, ці амаль шчыра, перапытаў я.

— У галаве тваёй! — мастак-прафесар адвярнуўся ад палотнаў. Ён разумеў, гаварыць далей — бессэнсоўна.

Яму хацелася, як лепш.

Вяскоўцы ўпэўненыя, што калі горад, то там людзей, як тых мурашак — на кожным кроку...

І мне хацелася, як лепш.

## Зіма

А палове на адзінаццатую тэлефаную на мабільны сябру. Даведваюся, што абанент часова недаступны... Паўтараю спробу праз гадзіну, потым яшчэ праз паўгадзіны, а потым не выпускаю трубку з рукі. Пад самы вечар, калі перадумаў і перабраў самыя розныя варыянты, ад зусім кепскіх да больш

мякчэйшых і бяспечных, сябар адказвае на маё тэлефанаванне. Высвятляецца, што ён спяшаўся, калі сыходзіў на працу, а таму і забыўся ўзяць са стала свой мабільны. Тэлефончык цэлы дзень праляжаў дома... Як жа ўсё проста і банальна... а колькі кепскіх думак паспела нарадзіцца ў маёй галаве...

Няўжо гэта толькі я такі, і калі што, найперш думаю пра кепскае?

### Каляднае

П'яны мужчына wываліўся з дзвярэй аўтобуса на канцавым прыпынку. Шапка пакацілася пад бардзюр, сумка з пляча звалілася. Ляжыць. Звычайна, калі праезду транспарту ляжачы чалавек не замінае, то ніхто яго не чапае. Гэты не замінаў... Але і я, і цётка ў каптуры з брылькам, і пенсіянер, з пакрышкай аўтамабільнай, кінуліся на дапамогу. Паднялі, на ногі паставілі, шапку надзелі, сумку праз шыю перакінулі. А чаму спагада і спачуванне ва ўсіх нас такіх чэрствых прачнулася? Чаму мы такімі добрымі-пяшчотнымі раптам зрабіліся? Ды колькі не думайце — не здагадацца вам. Я на сябрах спраўджваў. А ўсё проста. Упаў п'яны мужчына, а ялінку, белым шнурам апярэзаную, не кінуў, з рук — не выпусціў. За ялінку невялічкую, а не за што іншае кінуліся п'янага чалавека на ногі ставіць, накірунак паказваць.

Хто ж з нас не чакаў, калі бацька дамоў прыйдзе, ялінку прынясе? Хто? Няма такіх!

### Кава і кніжкі

У навамоднай кавярні непрывабная бармэнка чытае і «капучына» з «амерыкана» па папяровых кубачках налівае. Замовіш каву, яна кніжку разгорнутую, вокладкай дагары, адкладзе. Каву ў машыну засыпле, і пакуль напой згатуецца, зацурчыць, паспявае дзяўчына яшчэ абзац-другі прачытаць. І кава атрымліваецца смачная, і месца зручнае, але каб не тая кніга...

Класны пісьменнік Камю. І раман яго «Чума» — кніга выдатная.

### Новы год

І быў я вельмі прыгожым хлопчыкам...

Бо меў валёначкі і чорна-бліскучыя галёшы.

І рукавічкі на матузках былі. Галёшы і рукавічкі губляліся, а валёначкі ніколі.

Вось так.



Таня СКАРЫНКІНА



# КАСМАНАЎТЫ Ў ГОРАДЗЕ

*Эсэ*

Я ніколі б не пачала пра касманаўтаў, каб не Саша.

Саша агаломшыла літаральна напярэдадні Дня касманаўтыкі, што мае фотакартку Юрыя Гагарына. Не паштоўку, а менавіта здымак. Толькі не паказала, бо знайсці не можа. Саша жыве ва ўласным доме, дзе на гарышчы столькі ўсяго… Старыя ёлачныя цацкі, абрусы, кнігі, паштоўкі. Скрынка на скрынцы. І фота недзе ўнутры. Пакуль я чакала з цвёрдай верай, што Гагарын знойдзецца, незаўважна пачалі збірацца гісторыі пра космас, аб якім да гэтае пары амаль нічога не ведаю. Але кожны не ведае па-свойму. І я запыталася ў старэйшай цёці, ці адбіўся на яе жыцці палёт першага чалавека ў космас.

— Цёця Ядзя, ці адчулі вы што-небудзь асаблівае, калі Гагарын паляцеў?

— Нічога я не помню, Таня. Вова быў малы. Годзік быў яму.

Стрыечны брат Вова падказвае з услоніка, дзе паліць у адкрытую дзверцу печы:

— Восем месяцаў.

— Восем месяцаў, — паўтарае за ім цёця, — і я сядзела ва врэмянцы. Ні радзіва, нічога не было.

— Гэта значыць, што вы нават не ведалі пра першы касмічны палёт?

— Ну, можа, чула ад людзей, што паляцеў нейкі чалавек у космас. Цяпер во радзіва цэлы дзень гавора, новасці чуеш. А так жа, гавару, там сядзела. Ні радзіва, ні свету. После мы правялі. Нада было столб паставіць свой, і купіць гэтага провада, і правясці. Вот мы после зрабілі, тут столб стаяў.

— А да сталба вы жылі як, без святла?

— Керасінка. І быў жа гэты ў нас…

---

***Таня Скарынкіна (Скарынкіна Тацяна Уладзіміраўна)*** *нарадзілася ў 1969 годзе ў горадзе Смаргоні Гродзенскай вобласці. Скончыла Беларускую дзяржаўную сельскагаспадарчую акадэмію. Працавала мастаком-ілюстратарам, паштальёнам, журналістам. Творы друкаваліся ў часопісах «Маладосць», «Arche», «Крещатик» (Германія), «Лава» (Украіна), «Аналогон» (Чэхія), «Сибирские огни» (Расія) ды інш. Аўтар кніг паэзіі «Книга для чтения вне помещений и в помещениях» (2013) і «Португальские трехстишия» (2014), «Американские горки» (2018), зборніка эсэ «Шмат Чэслава Мілаша, крыху Элвіса Прэслі» (2016). Творы перакладаліся на іўрыт, польскую, чэшскую, грузінскую, італьянскую і англійскую мовы. Зборнік эсэ перакладзены на англійскую і выдадзены ў Вялікабрытаніі.*

Вова падказвае ад печы:

— Керагаз.

— Керагаз, да. І вот прачнецца Вова ночай, захоча есці. Падпалю керагаз, пастаўлю кружку. А ён жа пака ўзгарыць, я і засну. Прачнуся, малако выкіпела. Трэба мыць кружку. Другое наліваць малако. Во такое было. Таня, жутка было. А зімой мароз, вот тут напроціў дзвяры стаіць гэта краватка. І во клуб марозу ў хату, дык абкрывала ад холаду краватку сваім паліто.

— Там быў адзін пакой?

— Маленькая комнатка. Адно маленькае акошка. Занавескі ніякай не было. Неяк сяджу ночай, ужо прачнулася карміць. Тады чую сабака як забрэша. Гляджу ў акошка, нехта лезе праз плот. Я так спужалася. Гэта малое палажыла на кравать, сама схавалася, а Эдзі (*муж цёці, мамін родны старэйшы брат*) не было. Можа, запіўшы, не прыйшоў… Наверна, што запіўшы, не прыйшоў дамоў. Такое бывала. А дзіця раве. Пастаяла-пастаяла, але ціха. Наверна, сабака напужаў злодзея. І скарэй узялася зноў карміць.

— Мала радасці. А колькі вам год было?

— Так-так-так, можа, 23. Я сначала радзіла первае ў 58-м. Гэта мне быў 21. Тады два гады не было дзяцей, як первае дзіцё памярло. Тады ў шэйсятым. Скока было? 23 гады. Вову радзіла. І скораваспалілася грудзь. Нескалька дней я гаравала, тады ўжо пайшла да врача. Врач сказаў: «Як нарве ўжо настаяшча, тады прарэжам». Тады я гавару мамусі (*цёціна свякроўка, а мая бабуля*) пра аперацыю. Яна гавора: «Не нада праразаць, усё мы зробім так». І калі нарыў зрабіўся, прылажыла мёду. Гэты мёд пабыў не знаю сколькі, і прарвала мне. Цэлы стакан гною выліўся.

Гэта прыкладна ўсё, што цёці нагадала пытанне пра космас.

З бабуляй, якую я называла мамусяй, вялі мы калісьці тэалагічна-касмічную дыскусію. Неяк яна адбілася ў памяці, думаю, таму, што бабуля ўмомант адказала на самаўпэўненую акцябрацкую тыраду.

— Бабуля, а вось касманаўты лёталі ў космас і ніякага Бога там не бачылі, — кажу, не без жадання даняць. Трэба адзначыць, бабуля вельмі рэлігійная была. Нават калі ў Смаргоні савецкая ўлада зачыніла касцёл Свентэго Міхала Арханёла, ездзіла ў суседняе Вішнева маліцца. І бабуля адказала:

— Вока чалавека не здольнае Бога ўбачыць.

Сказала да такой ступені ўпэўнена, што я нават не запыталася чаму. Чаму вока не здольнае. Нават вока касманаўта. Мала пра што, акрамя касманаўтаў і Бога, памятаю з размоваў нашых. Дык наганяю з мамай. Любімыя яе тэмы падымаю: дзяцінства, святы, кавалеры, санаторыі. Кавалеры і санаторыі моцна звязаныя паміж сабой. Мама крыху бліжэй да космасу апынулася, калі ў Дзінтары ў санаторыі пазнаёмілася хаця і не зусім з касманаўтам. Мама так сказала: «Не касманаўт, але недзе блізка ля ракет завіхаўся».

— В кругу касманаўтыкі ён быў. Не лятаў у космас. Нейкі там інжынер, што-та такое. Факт, што меў атнашэнне па рабоце з касманаўцікай.

— А ён быў у форме?

— Што ён, ляцець сабіраўся? Не сабіраўся. Санаторый — эта отдых.

— Адкуль я ведаю, як апранаюцца касманаўты ў адпачынку?

— Як абычныя людзі, у гражданскую адзежду. Абычны мужчына. Патом ужо сказаў, што сям'я, жанат, рабёнак есць.

— Адкуль ён сам?

— Масква. Ну, і пашлі на танцы первы вечар. А ён прыехаў раньшэ, і ўжо жанчыны на белы танец як падляцелі. Абдымаюць, хватаюць. Ну, а я ж не

ўмею лётаць і адбіваць. Такое не раблю ніколі. Са мной дзевачкі незамужнія з комнаты былі, гаразда маложе. А мне 45, ужо после разводу. Он прымерна быў равеснік. І тока ён увайшоў — яны да яго. І кружацца, гэта ўсё. А ён мяне прыглашае. І патом кажа: «Давай пайдзём куда пагуляем, я не магу тут». Наскалька, панімаеш, жанчыны маладые не сцесняюцца ні на што. Забраць з-пад носа. Хоць за руку падзяржаць. Так не было нідзе, як на Рыжскім узмор'і. Яны казалі пра сябе, што масквічкі. А я думаю: «Божа, яшчэ падмаскоўе ці ёсць там якое».

— У вас было з касманаўтам сур'ёзна?

— Ну як… После абеда ўстрэчае, после ужына.

— Але ж ён жанаты. Вы проста, каб не сумна было, сустракаліся?

— Да. Ты проста праводзіш врэмя. Еслі ты прыехаў у санаторый, і не абраціў ніхто вніманія, тагда і отдыха ж нету, раз нету кампаніі. Ні на танцы, ні на канцэрт, ні так, еслі няма з кім. Гэта очэнь скучна. Чалавеку нада ўсё раўно праваДзіць неяк врэмя. А еслі адзін, што з гэтага тады санаторыя? Але ў мяне не было такога.

— Каб мужчыны на цябе не звярнулі ўвагі?

— Да. Каб не абрацілі вніманія, не было такого. Панімаеш, я не думаю, што красавіца была, но ўсё раўно абрашчалі вніманіе. Ліцо маё красаты не мела. Но была харошая фігура. Не сразу, але патом ужо паўзраслела і начала панімаць, як адзявацца, гэта ўсё, каб обувь харошая. Ну, і ён абраціў вніманіе.

— Касманаўт?

— Называй так, калі хочаш.

— Карацей, вы проста сябравалі?

— Да! Да!

— Вы ж не цалаваліся, не спалі?

— Я не спала, божа ўпасі!

— Ці запрашаў у рэстаран?

— Хадзілі раз.

— А кветкі дарыў?

— А кветкі… Хадзілі на луг. І там кветкі сабіралі.

Так і бачу, як мама з касманаўтам у скафандры збірае палявыя кветкі на бязмежным стракатым поплаве. Бяры і здымай фантастычнае кіно. Я хоць і ведаю, што быў ён не ў скафандры, але ўсё роўна бачу так, хоць трэсні.

Але нічога больш фантастычнага, чым галюцынацыі сяброўкі Тані, калі яна раптоўна захварэла на шызафрэнію, я не чула. Даўно гэта было. Я б, можа, і не ўспомніла, каб не гагарынскі здымак, пра які мару і пішу ў спадзяванні, што ён недзе блізка і не можа быць, каб не знайшоўся. Я, калі ўспомніла пра Таніны хваравітыя ўяўленні, толькі і чакала сустрэцца з ёй. Удакладніць дэталі. Многа год таму, адразу пасля шпіталя яна расказвала, што перад тым, як бацькі вызвалі «хуткую дапамогу», тры дні і тры ночы не падымалася з ложка, нічога не ела, а лётала ў космас. Там была такая прыгажосць, і Таня да такой ступені яскрава казала пра ўласны космас, што я па сёння ўяўляю, быццам бы сама лётала з ёй разам па чорным космасе, размахваючы рукамі, нібы крыламі, як нязграбная птушка, і бачыла блакітна-серабрыстую зямлю. Бліскучую, як ёлачны шар. Таня не да канца ўпэўнена, што гэтага палёту не было. Усё па-сапраўднаму адчувала. Яна не хацела, каб яе вылечылі. Так было добра вандраваць між зорак. Урачы меркавалі інакш. Альбо космас, альбо знясіленне. Але ці памятае Таня пра той палёт?



*Той самы фотаздымак з касманаўтамі.*

Нябачныя ў змярканні стрыжы рэжуць паветра за расчыненай форткай. Сліва за форткай цвіце. Я пасылаю сігналы праз фортку. Выйдзі насустрач мне, Таня, прашу, успомні падзеі пятнаццацігадовай даўніны.

Раптам Саша патэлефанавала: знайшла фотакартку з Гагарыным. Сігнал дайшоў не зусім па адрасе, але напрамак які трэба — касмічны. Душа заспявала. Цягнік на далёкай чыгунцы натхнёна зароў скрозь духмянае паветра і пайшоў па шпалах адбіваць матыўчык адвечны: та-та та-та-та, та-та та-та-та. Напэўна, таварняк. Бо доўга-доўга ў расчыненую фортку татакала. Гэта, каб супакоіцца, што знайшлася фотакартка, абстрагуюся на староннія гукі.

Фільм «Папяровы салдат» Алексея Германа-малодшага пра падрыхтоўку да першага касмічнага палёту, канешне, падабрала ўдала глядзець у гэтыя дні, калі пра космас пішу. Не тое што зусім выпадкова. У спісе фільмаў для тэрміновага прагляду ён стаяў на самым пачатку. Папішу пра космас, пагляджу фільм. Штучнае натхненне, але спосаб правераны. Спрацоўвае заўсёды. А падчас размовы напярэдадні 12 красавіка Гагарына з доктарам, які сочыць за станам здароўя касманаўтаў, узнікла пачуццё, што натхненне штучным быць перастае. Доктар пытаецца:

— Юра, ты зусім нічога не адчуваеш?

Пытаецца таму, што твар Юрыя ціхамірна ўсміхаецца над сінім у белую палосачку каўнерыкам спартыўнага касцюма з воўны. Юра грызе яблык:

— Канешне, лёгкае хваляванне прысутнічае, але настрой добры. Пасадзяць цябе ў каробачку, ляці! І потым, кім бы я быў, калі б нічога гэтага не было? Нікім.

Горла пераняло ад крохкасці жыцця. Ад выпадковасці падзей.

Ноччу мы гулялі з Сашай уздоўж квітнеючых садоў прыватнага сектара. Ігрушы, вішні, алыча, черомха белым карункам лезлі скрозь дрот і дошкі платоў без ніякай шкоды для сябе. Паветра горка-салодкае, шчыльнае і адначасова пяшчотнае, быццам падымала над зямлёй. Мы не адчувалі ног. Плылі ў бязважкасці. Альбо наогул нас не існавала. Быць нікім прыемна і нават неабходна, каб растварыцца ў вясне. Здавалася, гэта самае галоўнае — зліцца з самім духам вясны. А вясна дазваляла і нават настойвала.

Саша расказвала, што яе бабулі вучань падарыў гэты аматарскі здымак Гагарына. Бабуля ўсё жыццё працавала настаўніцай. Ёй 90, і яна ўжо не памятае, хто менавіта з вучняў служыў на Байкануры ў войску. Прывёз і ўручыў. Бабуля чамусьці ўпэўнена, што Гагарын на фота «п'яненькі», але фірменную ўсмешку нават на гэтым, не вельмі якасным здымку, ні з чыёй не зблытаеш. Кажуць, што Гагарын паляцеў у космас першым, менавіта дзякуючы сваёй непараўнальнай ўсмешцы.

Праз некалькі дзён трапіла на Сашыны народзіны. Мы, канешне, і фотакартку з выявай Гагарына абмяркоўвалі. Дарэчы, гэта адбывалася 10 красавіка, напярэдадні Дня касманаўтыкі, і мае пытанні пра Гагарына ўспрымаліся адэкватна. Тата Сашы расказваў пра першы касмічны палёт. Цяпер уключыла дыктафон, слухаю шум-гам застольны, пазіраючы ў акно. Воблакі стаяць пад акном вішнёвыя і воблакі над імі плывуць нябесныя. Дзе неба? Дзе зямля? Хачу да іх, пад іх, на двор, але перш тату занатую, каб з чыстым сумленнем прыбрацца, нарэшце, не ў зімовае, і выйсці. Каб ісці да поўнага стамлення па вясновай Смаргоні:

— Я помню, как прыйшоў дамой. Я ў 4-м класе быў. Мяне адправіў бацька на балота пасці кароў. Тагда па весне ўсе на балотах кароў паслі. Цёпла і сонечна. Я после першай змены прыйшоў. Чатыры ўрокі было. І ацец кажа: «Давай, зганяй на балота кароў». Ну, зганяў. Ну што. Прыйшоў дамой і сказалі: «Ужо чалавек паляцеў».

— Па радыё?

— Не. Мужыкі сказалі. І усё, і потым усе: «Юры Аляксеевіч! Юры Аляксеевіч!» Паляцеў старшым лейценантам, прыляцеў маёрам.

— Як вы думаеце, чаму менавіта Гагарына выбралі першым?

— Бо ён быў болей абшчыцельны з усіх, более прастой, камунікабельны. Чыста па чалавечаскім качаствам выбран быў.

— І што, па-вашаму, з гэтых палётаў у космас?

— Ну, як? Прэсціж страны — раз! Ваенка — два. Абарона прэвыше ўсяго для любога гасударства. Праводзяцца ж ісследовання ў космасе. Палучаюць какіе-то вешчэства новыя. Там бальшыя праграмы рабочыя. А Гагарын, як гаварыцца, пралажыў пуць. Чалавек паляцеў у неізвеснасць. Ён нават сам не ведаў, вернецца ілі не».

Між тым у фільме Германа-малодшага Юры Гагарын нічым не выдае гэтую страшную думку, што папросту можа не вярнуцца. А наадварот, просіць Германа Цітова і доктара: «Паслухайце, давайце сходзім у рэстаран. Я іх не люблю. Афіцыянтаў баюся. Але калі вярнуся, трэба будзе прывыкаць».

Уключаю зноў дыктафон, адтуль раптам жаночы голас:

— Я падыходжу да ўнівермага. Там стаяць мае калегі з музычнай школы.

Ну, зразумела, гэта старэйшая стрыечная сястра. Чую, як я ў сястры пытаюся:

— Летам?

Звычка ўжо сфарміравалася, каб уявіць карціну, якой не бачыла на ўласныя вочы, мне патрэбна ўсё дэтальна ўдакладняць.

— Да. А я з дачкой. Нармальна ўсё. Я пытаюся: «Што вы тут робіце?» Яны кажуць: «Ты ведаеш, нам падалося, ва ўнівермаг падняўся Грэчка».

— Які Грэчка?

— Касманаўт. Пайшлі правяраць, кажу. І мы такія ўчацвярох заходзім і рыскаем па ўсіх аддзелах. Знайшлі яго ў аддзеле «Сувеніры». Стаіць там вельмі сціпла. Мы яго пазналі па прычосцы. Яна эксклюзіўная. А-ля «вожык». Ніколі не змянялася. Побач з ім нейкая жанчына, выбірае пярэстую хустку ў кветкі. А ён проста стаіць. Мы такія кажам яму: «Здраствуйце! Мы вас узналі. А што вы тут дзелаеце?» — «Я во тут у радні». «Што, ходзіце па магазінах?» — «Да вот». «Можэт вы нам дадзіце аўтограф?» — «Давайце, дам». Адна з сяброўак маіх кажа: «У мяне сёння нарадзіўся ўнук». Ён падпісаў для ўнука. У дачкі маёй паперкі не было. Выцягнула кнігу на ангельскай. Ён вельмі ўразіўся, што нехта тут чытае на замежнай. Мы сказалі, бо ў Англіі жыве. Прыехала ў адпачынак. Карацей, распісаўся ўсім.

— Як ён быў апрануты? — пытаюся я ў дыктафоне.

— Не памятаю, толькі заўважыла, што ён вельмі здаровы.

— Высокі?

— Не, твар вялікі. Но апрануты дакладна па-цывільнаму быў. Не ў скафандры.

Я зноў уявіла фантастычную карцінку. Грэчка ў скафандры выходзіць з універмага. Рухі павольныя. Спыняецца на прыступках. Квяцістай махае хусткай. Мінакі пляскаюць у далоні.

І тут сястра Валя ўспамінае пра касманаўта, які менавіта махаў і якраз у Смаргоні:

— Мы яшчэ аднаго касманаўта сустракалі, калі я ў школе вучылася. Шонін, па-мойму. Мог быць такі?

Гэта, напэўна, падчас нейкага свята. Чую прыглушаныя размовай гукі сталовых прыбораў. Цётак галасы. Калі я запісала сястру? На Вялікдзень? Ці на Дзявятае мая? Не памятаю. Шукаю ў сеціве Шоніна. Касманаўт нумар 17. А Грэчка, які таксама Георгій, касманаўт нумар 34. Не ведала, што яны былі пранумараваныя. На пытанне сястры адказвае цёця Марыя:

— Быў ён у нас, я помню. Да радні прыехаў. (*Адразу два касманаўты маюць радню ў Смаргоні. Можа, і Гагарына сваякі якія жывуць у нашых мясцінах? Трэба пацікавіцца ў старажылаў і музейных работнікаў*). Ну і пазвалі выступіць у школе. Яго тут прынімалі власці смаргонскія. Сабралі міцінг. А ён так напіўся. Яго на машыне прывязлі, і выйсці не змог, — цёця таксама была там, аказваецца.

— Мужэства не хваціла, — гэта ўжо мама. І смяецца. Усе смяюцца.

— Цэлы дзень яго чакалі ўсёй школай з букетамі, каб ён прыехаў і махнуў рукой, — працягвае сястра.

— Нешта сказаў яшчэ. Вродзе бы: «Харошыя вы дзеці», — дадае цёця Марыя.

— Гэтага нам хапіла на ўсю жызнь. Нясём у сэрцы! — падсумавала Валя пад агульны рогат.

З Таняй, наадварот, было ўсё сур'ёзна. Мы нарэшце сустрэліся, калі цвіў бэз на ўсю моц. У двары вялікі куст, селі на лаву пад кустом. Бачна было, што Таня не вельмі хоча ўспамінаць. І я разумею, але ж спыніцца не магу са сваімі пытаннямі. Я так доўга чакала.

Ноччу біўся першы хрушч у шкло другога паверха. Фортка адчыненая, але ці патлумачыш яму? Моцна прасіўся, стукаючыся аб ніжнюю частку акна,

каб пусцілі ў хату, дзе святло. Ён думае, дзе святло, там лепей, наіўны. Я спачатку ўявіла, нібы маленькімі каменьчыкамі нехта заве на вуліцу. Напрыклад, малады кавалер. Але час кавалераў з каменьчыкамі даўно мінуў. Ды нават і ў юнацкія гады не памятаю, каб выклікалі на двор каменьчыкамі. Толькі аднойчы хлопчык, якому я падабалася ў дашкольным узросце, кінуў мне ў спіну кавалкам цэглы.

Падышла да акна, адшмаргнула фіранку. Хрушч. Спінкай на карнізе. І ніяк не здолее перавярнуцца. Нечакана склаў лапкі парныя і пацягнуў колькі хапала моцы ўверх. Нават шкада яго зрабілася за намаганні. Раптам хрушч перавярнуўся на жывот. Змясціў цэнтр цяжару.

Днямі слухала перадачу пра кіно, дзе казалі, што аб’ект пачынае вызываць спачуванне, калі мы назіраем, як ён змагаецца за ўласнае жыццё. Нават, калі гэта будзе шклянка, якая не даецца, каб яе скінулі са стала.

Калі па Таню прыйшлі санітары, дык яна таксама супраціўлялася. Але не жыццё адстойвала, а каб пакінулі ў космасе. Яе вынеслі ў коўдры, бо баялася ступіць на падлогу. Падлога гарэла пад Тaнінымі нагамі.

— Даўно хацела запытацца, а чаму ты думала, што падлога гарыць? — кажу я.

— У мяне тэмпература была высокая. За 40. Мне ўсё гарэла.

— Ты раней, калі расказвала пра хваробу, не казала пра тэмпературу.

— А мы пры зносінах некаторыя рэчы выпускаем. У кожным з нас занадта шмат інфармацыі.

— І ўсё ж я б хацела ўдакладніць сёе-тое. Ты казала, што лётала ў космас.

— Першы раз там было горача і цёмна. У другі раз вельмі прыгожа. Але справа не ў гэтым. Я заўсёды марыла… Як табе сказаць. Я павінна была прыйсці да Бога. Загладзіць свае нейкія пэўныя грахі. Таму Бог назначыў мне праз хваробу прыйсці да яго. Але толькі з маёй згоды. Таму што гэта вельмі цяжка ўсё і балюча. Гэта было з аднаго боку вар’яцтва. У літаральным сэнсе. А з другога боку, я павінна была прайсці гэты шлях.

— Я добра памятаю, як ты казала, што ляцела сярод зорак у цемры. І так я ўбачыла цябе, як зорку сярод зорак. Толькі большую за іх.

— Я бы сказала, што гэта мая свядомасць паднялася на іншы ўзровень. Мне патрэбныя былі ўзбагачэнне розуму і душы. Мне не хапала шырыні спазнанняў. І мой розум, дасягнуўшы пэўнай вышыні, вярнуўся назад на зямлю. Абагаціўся розум.

— Атрымліваецца, што ў той момант, калі яго не было, ты хварэла?

— Так. І я безмежна ўдзячная Богу, што са мной гэта здарылася. Няхай такім шляхам. Пры тэмпературы, якая спальвае нутро, ты не можаш ні есці, ні піць. Але грахі адпакутаць можна толькі самым цяжкім спосабам. Цяпер, калі я пабывала і тут, і там, я ўжо не ведаю, хто я.

Я бачыла, Таню гэта не вельмі палохае. У ёй цяпер такая моц звышчалавечая пасялілася. Побач з ёй я адчуваю, што можна нічога і не казаць. Яна счытвае ўсе мае думкі. Мне ад гэтага страшна і смешна. І невядома, што яшчэ. Побач з ёй я пачынаю разумець такое, аб чым і не здагадвалася ў сабе. Нібы ты стаў празрыстым, і святло праходзіць скрозь цябе, не спыняючыся.

Значыцца, бабуля мела рацыю, калі казала пра нябачнага Бога ў космасе. Ім з Таняй было б аб чым пагаварыць.

Званок у дзверы. Таня. Я ўзрадавалася. Але твар мае заклапочаны. Вочы ў падлогу:

— Таня. Не прыходзь да нас болей.

Вось так. І пасунулася ўніз па сходках, не развітаўшыся. Насамрэч, у выпадку з Таняй мной упершыню быў парушаны закон натуральнага стварэння гісторыі. Бо не дала сустрэчы нашай адбыцца выпадкова. Сама пайшла да Тані. Прыдумала штучную нагоду. Нейкі здымак дзіцячы, сумесны, дваровы знайшоўся. Аднесці, каб паскорыць рытм апавядання. Вось і атрымала пад дых.

Бацькі Таніны адразу зразумелі, калі я прыйшла, што маю шкурны інтарэс. Твары іх выказвалі адное. Страх за дачку. Але я не думала, што страх да такой ступені моцны. Няўжо Таня расказала ім пра нашу размову? Не дай бог! З іншага боку, а што тут такога злачыннага пагаварыць пра хваробу сівой даўніны? Можа, каму на карысць Танін вопыт пойдзе?

Карацей, з-за космасу згубіла прыяцельку. Тыдзень амаль не бралася за працяг. Думала нават кінуць справу касмічную. Усё ж пераадолела смутак нечаканай страты звыклых прыяцельскіх зносін. Суцішылася неяк у рэшце рэшт. І калі ва ўсю буялі півоні, сяброўка З. вярнулася з Іспаніі. З адпачынку. Як заўсёды важнае здараецца само. З., расказваючы пра тэатр-музей Сальвадора Далі ў Фігерасе, гаворыць раптам:

— А над увахадам знакаміты касманаўт.

І паказала здымак у тэлефоне. Знакаміты? Упершыню чую. Ні пра што не гаворыць маленькая фігурка на балконе ў памаранжавым скафандры. Вяртаючыся ад З., са смакам іспанскай кілбасы ў роце думаю пра касмічную фігурку. Можа, гэта нават скафандр Гагарына. Сальвадору Далі было па плячы набываць ва ўласнае карыстанне і не такое. Слановыя чарапы купляў, жывога мурашкаеда трымаў. Чаму б не ўпрыгожыць балкон сканфандрам першага касманаўта.

Дома чытаю пра музей Далі. Пра ўваход менавіта. А гэта аказаўся вадалаз! Скафандр вадалаза, дакладней. Каб не З., ніколі б не скончылася бясконцая касмічнасць. Пэўны знак, трэба пісаць пра мора. Тым больш летам. Яно, канешне, непагодлівае сёлета. Пазбівала дажджом півоніі. Але ружы ўжо пайшлі, лілії распускаюцца і шыпшына разгортвае пакамечаныя шматкі пялёсткаў…



Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА

# БЕЛАРУСКАЯ СЕЦІРАТУРА ЯК УНІКАЛЬНАЯ З'ЯВА АКТЫЎНАЙ АДСУТНАСЦІ

Сеціратура ў розных кантэкстах і дыскурсах абмяркоўваецца напрыканцы 2010-х як дадзенасць. Інакш кажучы, сама яе наяўнасць як шматслойнага феномена — інфармацыйнага, сацыякультурнага, уласна мастацкага (апошні вектар, як ні дзіўна, аказваецца ў цэнтры ўвагі нашмат радзей), — сумненняў не выклікае.

Паняцце *«беларуская сеціратура»* ўтвараецца, у пэўным сэнсе, аўтаматычна, па аналогіі: калі ёсць сусветнае мастацтва слова і нацыянальныя літаратурныя традыцыі, то пры наяўнасці сеціратуры як з'явы глабальнай інфармацыйнай прасторы павінна быць у беларускім сегменце сеціва і нацыянальная сеціратура.

Але ўсё не так проста ў айчынным хранатопе, у тым ліку інфармацыйным. Бо калі найноўшая беларуская літаратура рухаецца не столькі ў агульнай плыні літаратурнага развіцця (сусветных жанрава-стылявых тэндэнцый), колькі насустрач ёй [1], то з чаго б роднай сеціратуры быць «як у людзей»?..

## 1. Сеціратура abovo: «імя» як сутнасць з'явы

Найперш, варта вызначыцца ў рэчах базавых: паняцце *«літаратура ў сеціве»* тоеснае паняццю *«сеціратура»* ці не?

Мэтазгодна пачаць abovo, то бок з уласна імені з'явы.

Як вядома, побач з паняццем «сеціратура» на правах вельмі падобных і нават сінанімічных у сучасных даследаваннях выкарыстоўваюцца паняцці «медыяславеснасць», «гіперлітаратура», «кіберлітаратура». Найбольш рэлевантным з пункту гледжання суадносін наймення і змястоўнасці нам падаецца тэрміналагічнае найменне «сеціратура», паколькі яно ўтрымівае ўказанне на выток характалагічных рыс феномена, які ён абазначае. Да ўсяго, калі звяртацца да кантэнт-аналізу канкрэтных інтэрнэт-рэсурсаў і з'яў, становіцца відавочна, што медыяславеснасць, гіперлітаратура і кіберлітаратура суадносяцца з паняццем сеціратуры як складовыя відавыя кампаненты з родавым феноменам.

Якой бы загадкавай у сваёй няпэўнасці сённяшняму чытачу і нават даследчыку ні падавалася сеціратура, яна, вядома, не магла паўстаць з ніадкуль. Сама ўяўная канцэптуальная няўлоўнасць сеціратуры вынікае, на наш погляд, з ігнаравання відавочнасцей. Самая відавочная з іх звязана з тым, што «сучаснае інтэрмедыйнае мастацтва з'яўляецца не толькі і не столькі параджэннем інавацыйных тэхналогій, але шмат у чым наследуе мастацкія пошукі папярэдніх эпох» [2, с. 360].

Пры мінімальна ўважлівым аналізе сеціратуры як масіву тэкстаў (твораў) становіцца відавочна, што паняційна-змястоўная няўлоўнасць гэтай з'явы ў

---

***Шаўлякова-Барзенка Ірына Леанідаўна,*** *кандыдат філалагічных навук, дацэнт; літаратуразнаўца, крытык; эксперт Міжкультурнага даследчага цэнтра Універсітэта Хучжоу (КНР).*

значнай ступені ёсць вынікам расфакусаванасці («шырыні») і адначасова рознасфакусаванасці («дыфузнасці») разгляду сеціўнай мастацкай славеснасці.

У шырокім сэнсе да сецiратуры можна залічыць любы твор, змешчаны ў сеціве.

У вузкім сэнсе пад сецiратурай маюць на ўвазе такія мастацкія творы, якія нельга перанесці на паперу без страты жанрава-стылявых уласцівасцей і, па выніку, мастацка-эстэтычнай адметнасці, нават вартасці. Народжаныя ў інтэрнэце і для інтэрнэта, яны па вызначэнні магчымыя дзякуючы ўласцівасцям сеціва, таму пры пераносе на традыцыйныя носьбіты «і адметны характар, і вобраз твора моцна разбураюцца, і твор наогул абясцэньваецца» [3].

Аднак так званая новая якасць літаратуры ў інтэрнэце звязана не проста з іншым фарматам бытавання тэкстаў і рознага кшталту падзей вакол іх, але з сутнаснымі зменамі літаратурных феноменаў і працэсаў, што закранаюць розныя ўзроўні мастацкай славеснасці як складанай сістэмы, здольнай да самаарганізацыі і самаразвіцця. Адным з фактараў гэтых змен з’яўляецца сеткавая прырода інфармацыйнай прасторы і — шырэй — сучаснага грамадства. Інакш кажучы, літаратура становіцца сецiратурай не тады, калі «пераязджае» ў сеціва, а тады, калі набывае якасна новыя мастацка-эстэтычныя адметнасці.

Найперш гэта звязана з тым, што ў сеціве слова, застаючыся ўласна словам — ключавым кампанентам мовы літаратуры як віда мастацтва, асноўным будаўнічым матэрыялам мастацкага тэксту, — патэнцыяльна атрымлівае доступ да арсенала так званай дапоўненай рэальнасці. Гэта азначае, што слова набывае магчымасць візуалізавацца ў розных выглядах: не толькі ў статычным (фотавыявы, малюнкі), але і ў дынамічным фармаце (відэашэрагі, анімацыі); яно можа агучвацца, а таксама імгненна апынацца ў новых і новых кантэкстах (гіпертэкстуальнасць) і г. д. Па вялікім рахунку, у сеціве можа патэнцыяльна трансфармавацца сама «прырода» мастацкага слова, калі ўласна вербальнасць становіцца толькі кампанентам новай мультысенсорнай цэласнасці. У пэўным сэнсе, сецiратура — гэта сучасная разнавіднасць мастацкага сінкрэтызму, ускладненага магчымасцямі найноўшых інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій.

Не менш важнымі адзнакамі сецiратуры становяцца яе прынцыповая працэсуальнасць і супольны характар стварэння. У пэўным сэнсе, сецiратура — гэта праект іманентна задоўжаны, прынцыпова не завяршальны, бясконца «ліючаяся форма», калі згадаць філасофскую метафару Ігната Абдзіраловіча.

Сутнасць сецiратуры ў адным з аспектаў можа быць прадстаўленая як працэсуальны вынік (умоўна завершаны ў любы момант яго аналізу) сеткавага ўзаемадзеяння не толькі розных суб’ектаў літаратурнага працэсу, але і розных яго аб’ектаў, і нават падзей. Гэта азначае, што сеціва як новая анталагічная прастора для мастацкай славеснасці мае на ўвазе радыкальную трансфармацыю экзістэнцыйнага фармату. Гэта як ператварыцца з інтраверта ў экстраверта (даволі хутка, трэба сказаць): калі літаратура ў дасеціўную пару рухалася ад маналагічных форм культурнай камунікацыі да дыялагічных, то з перамяшчэннем літаратурнага працэсу ў сеціва яна становіцца адначасова прасторай, працэсам і дынамічна-незавяршальным вынікам няспыннага палілогу.

Набор характаралагічных прымет сецiратуры, сабраных з розных даследаванняў і акрэсленых у выніку ўласных назіранняў, мы паспрабавалі згрупаваць у некалькі блокаў:

1) *агульныя прынцыпы (сама)фарміравання*: калектыўнасць (супольнасць стварэння), ананімнасць, аднаўляльнасць, машынныя метады стварэння;

2) *функцыянальныя асаблівасці*: дынамічнасць, працэсуальнасць, хуткая распаўсюджвальнасць, інтэрактыўнасць, віртуальнасць бытавання;

3) *змястоўна-структурныя ўласцівасці тэкстаў*: гіпертэкставасць, імагінатыўнасць (тут: злітнасць рэальнага і нерэальнага), патэнцыяльна неабмежаваная галінастасць твора ў цэлым пры лаканічнасці, мінімалізме асобных складовых частак.

У межах гэтага артыкула звернем увагу на некалькі істотных — для пачатку размовы — момантаў.

Калі паглядзець на першы блок, дзе прадстаўлены агульныя прынцыпы самаарганізацыі твораў сеціратуры, то адразу кідаецца ў вочы тыпалагічнае падабенства яе да фальклору, якому, аднак, для (сама)развіцця неабходныя выгоды інфармацыйна-камунікацыйных тэхналогій. Асабліва згаданыя калектыўнасць і ананімнасць стварэння сеціратуры схіляюць некаторых даследчыкаў да разгляду яе ў якасці «постфальклору». Так, нямецкая славістка Хенрыка Шміт, аўтар манаграфіі «Руская літаратура ў інтэрнэце: паміж лічбавым фальклорам і палітычнай прапагандай» (2011) аналізуе феномен «другаснай індывідуалізацыі» літаратурнага твора ў сеціве: «Пастаянная камунікацыя ў інтэрнэце міжволі спрашчае зносіны, навязвае пэўныя клішэ; адчужэнне тэксту ад паперы аказваецца і адчужэннем яго ад індывідуальнай камунікатыўнай стратэгіі» [4].

Калектыўнасць як прынцып самастварэння сеціратуры выразна адрозніваецца ад знаёмага нам фальклорнага механізму. Калі гаварыць пра сеціратуру ў вузкім сэнсе, то яна паўстае ў выніку «калектыўнай сатворчасці карыстальнікаў» [5, с. 23], у аснове якой ляжыць новы тып (сама)развіцця твора на этапе яго рэцэпцыі: цела тэксту абрастае каментарамі, якія не проста нанізваюцца адзін на адзін, але ўступаюць у складанае ўзаемадзеянне і з тэкстам, і паміж сабой. Мы становімся сведкамі нараджэння адметнага феномена — феномена «ўплывовасці нязначнага», калі выпадковае, па вялікім рахунку, каментаванне становіцца працягам тэкстатварэння. Інакш кажучы, жыццё тэксту пасля фінальнай аўтаравай кропкі не проста пачынаецца, але штораз пасля кожнага новага каментара апынаецца ў своеасаблівай кропцы біфуркацыі, з веерам няпэўнасцей, што да магчымых вектараў далейшага руху.

Дарэчы, менавіта спосаб існавання сеціратуры як своеасаблівага хаосмасу, што можа разглядацца як сістэма ўпарадкаваных няпэўнасцей, выпадковасцей, падказвае ўжо зараз найбольш прадуктыўны канцэптуальны грунт і метадалагічны інструментарый яе вывучэння. Іх утрымлівае, на наш погляд, перадусім сінергетыка, арыентаваная, з аднаго боку, на пошук універсальных законаў эвалюцыі і самаарганізацыі складаных сістэм, якой з'яўляецца літаратура, а з другога боку, — на даследаванне феноменаў і працэсаў у іх узаемадзеянні і ўплыве. Вядома, размова ідзе не пра наўпроставую экстрапаляцыю сінергетычнага падыходу на сеціратуру як адмысловы літаратурна-мастацкі хранатоп. Мы маем на ўвазе перадусім мэтазгоднае спалучэнне адпаведных прынцыпаў (нелінейнасці, незамкнутасці (адкрытасці), дынамічнай іерархічнасці і інш.) і паняццяў (самаарганізацыі, флуктуацыі, кропкі біфуркацыі, дысіпатыўных структур і г. д.) сінергетычнай канцэпцыі з метадалагічнымі падыходамі і даследчымі практыкамі, якія ўжо сталі часткай метадалагічнай традыцыі і засведчылі прадуктыўнасць у сферы даследавання сучасных літаратурных з'яў і працэсаў (тыпалагічны, параўнальны, структурна-функцыянальны, семіятычны, фенаменалагічны, герменеўтычны і інш.).

Згаданая вышэй ананімнасць як адзін з прынцыпаў (сама)фарміравання сеціратуры таксама якасна адрозніваецца ад класічнай фальклорнай ананімнасці. Асабліва выразна гэта адчуваецца ў выпадку з сённяшнім беларускім літаратурным працэсам у сеціве, які вызначаецца, на наш погляд, высокай ступенню персаналізаванасці. Гэта ў сусветных маштабах аўтар у сеціве «містыфікуецца» і «множыцца»», пры гэтым «дыстанцыя паміж чытачом і аўтарам скарачаецца ці сціраецца зусім» [6, с. 125]. А ў нас літаратурныя містыфікацыі не толькі адзінкавыя, але і найчасцей кароткатэрміновыя (рэдкі аўтар выцерпіць нават год, каб не раскрыць усе тонкасці-нюансы ўласнага «праекта»). У дачыненні да беларускага літаратурнага сегмента сеціва больш мэтазгодным падаецца гаварыць не столькі пра ананімнасць, колькі пра сувязь паміж віртуальнай і рэальнай асобамі [5, с. 14], ступень яе адвольнасці. Аўтар у сеціве разглядаецца сёння найчасцей

як «віртуальная аўтарская асоба», то бок як адмысловы жанр літаратурнай творчасці. Пры гэтым сцвярджэнне некаторых даследчыкаў, што толькі ў інтэрнэце аўтар атрымлівае сапраўдную магчымасць ствараць сябе як знакавую постаць, якраз у выпадку з беларускімі літаратурнымі практыкамі ў сеціве мае выдатную ілюстрацыю ў асобе Андруся Горвата, дакладней, «у віртуальнай асобе аўтара» допісаў у сеціве, якія пасля ўрэчавіліся ў кнігу «Радзіва “Прудок”».

## 2. Найноўшая беларуская літаратура ў інтэрнэце: жанравыя стратэгіі «ўсеціўлення»

Сеціратура як феномен глабальнай інфармацыйнай прасторы падаецца даволі дынамічнай: тое, што напрыканцы 1990-х — пачатку 2000-х гадоў падавалася прадуктам эксклюзіўным, ужо да сярэдзіны 2010-х набывае выразныя адзнакі індустрыяльнай вытворчасці. Праўда, у беларускім літаратурным сегменце інтэрнэта ўсё інакш.

Беларуская літаратура ў сеціве як адносная культурная і мастацкая еднасць напрыканцы другога дзесяцігоддзя XXI стагоддзя мае, на наш погляд, як мінімум дзве спецыфічныя рысы: прэцэдэнтнасць і працэсуальнасць.

Першая адзнака звязана з адзінкавасцю ўласна сеціратурных мастацкіх твораў-праектаў. Другая мае на ўвазе перавагу падзейнасці над вынікам: літаратурны дыскурс тут утвараецца пераважна за кошт featureзнага кшталту калялітаратурных падзей, а не за кошт уласна ўзораў сеціратуры. Пры гэтым цэнтр уласна літаратурнай падзейнасці паступова перамяшчаецца ў сеціва. Як напісаў у сацыяльнай сетцы facebook у адным з лютаўскіх допісаў 2018 года Віктар Шніп, «паціху перасяляемся ў сеціва. Тут у нас свае пісьменнікі, мастакі, музыкі, грамадскія дзеячы… І ты сядзіш перад маніторам, як перад акном у Беларусь…» Кантэнт-аналіз беларускага сегмента сеціва сведчыць пра тое, што ўласна ўзораў сеціратуры, у вузкім сэнсе (напрыклад, розных відаў гіпертэксту ці інтэрактыўных (калектыўных) твораў-праектаў), адшукаць можна адзінкі. У гэтым сэнсе беларуская літаратура і сёння складаецца з індывідуальных праектаў-«прэцэдэнтаў». На працягу пэўнага часу вядомая блог-платформа LiveJournal («Жывы часопіс» / «Живой журнал» / ЖЖ) утрымлівала лідарства ў сэнсе індывідуальнай літаратурнай і калектыўнай калялітаратурнай актыўнасці ў беларускім сегменце сеціва. Дарэчы, даследчыкі расійскай медыяпрасторы і рускай літаратуры ў інтэрнэце звязвалі з папулярнасцю гэтага сервісу станаўленне розных форм сеціратуры і, у прыватнасці, блогерскай паэзіі як спецыфічна сеціўнай з’явы [4]. Але і ў час росквіту ЖЖ, і пасля перамяшчэння цэнтру (каля)літаратурнай актыўнасці ў іншыя сацыяльныя сеткі беларускія праекты сеціратурнага кшталту былі і застаюцца з’явамі прэцэдэнтнымі.

Найбольш яркімі ўзорамі ўласна сеціратурных з’яў у *паэзіі* нам падаюцца «відэавершы» Валярыны Куставай, калектыўная электронная паэма «Буслан і Жабміла» (ініцыятарам яе стварэння ў 2012 годзе стаў Юрась Нераток), «паэтычна-геаграфічны» інтэрнэт-праект «Вершы без межаў» Мікіты Найдзёнава.

«Відэавершы» Валярыны Куставай, на першы погляд, падаюцца жанравым запазычаннем з добра і даўно вядомых тэлевізійных практык. Але пры больш пільнай увазе становіцца заўважнай прынцыповая адрознасць эфекту, уражання, якое яны робяць на чытача-гледача. Справа не толькі ў тым, што ў «віртуальнай асобе» Валярыны Куставай (як адмысловым жанры сеціўнай (і шырэй — медыя) прасторы) шчасліва супадаюць якасць паэтычных твораў, акцёрскі талент і яркі візуальны вобраз. «Відэавершы» ў выніковым выглядзе прад’яўляюцца чытачу — карыстальніку сеціва ў фармаце відэа-сэлфі, што стварае адмысловы сугестыўны эфект «інтымнасці для ўсіх»: кожнаму даецца магчымасць адчуць непасрэдную далучанасць да таемнасцей паэтычнай творчасці не толькі як да мастацкага сакраманту, але і як да нейкага асабістага «спосабу жыць».

Яшчэ адзін узор сеціратурнай паэзіі — «Буслан і Жабміла», калектыўная паэма-додзінсі; гэта «e-mail-праект», або праект электроннага ліставання на працягу трох месяцаў (19.06.2011—19.09.2011), ажыццёўлены па ідэйнай задуме Ірыны Карэлінай, падтрыманай і скаардынаванай паэтам Юрасём Нераткам з падключэннем яшчэ чатырох паэтаў — Міколы Кандратава, Аліны Агрэніч, Алеся Емяльянава і Наталлі Кучмель» [7]. Вытокі і мастацка-стылявыя асаблівасці гэтага ўзору інтэрактыўнай літаратуры сталіся аб'ектам даследавання ў артыкуле літаратуразнаўцы і пісьменніка Таццяны Барысюк, якая ідэнтыфікуе праект як калектыўную творчасць постмадэрніцкага кшталту — іранічную, месцамі калажна-цытатную (алюзіі на радкі А. Пушкіна, М. Багдановіча і Я. Коласа), дзе «індывідуальны почырк прыглушаны не так дэкларуемай тэарэтыкамі гэтага напрамку "смерцю аўтара", колькі неабходнасцю ўніфікацыі розных "галасоў" для стварэння адзінага ў сваёй шматстайнасці задум і творчых свядомасцей тэксту» [7].

Вершы з дэбютнага зборніка Мікіты Найдзёнава «Развітанцы» (2015), адгукаючыся на заклік аўтара, чыталі беларусы (пераважна моладзь) у розных кутках свету (у ЗША і на Гоа, у Чэхіі і В'етнаме, у Даніі і Славакіі); відэаролікі даволі хутка разышліся па інтэрнэце, іх часам можна знайсці ў абсалютна нечаканых месцах (напрыклад, на індыйскім сайце, прысвечаным новым тэхналогіям рамонту абутку). У пэўным сэнсе, праект нагадвае штосьці сярэдняе паміж флэшмобам і вірусным відэа.

У параўнанні з папярэднім «паэтычна-геаграфічным» праектам паэзія віртуальнай асобы 'Таня Скарынкина' прысутнічае, напрыклад, на facebook у фармаце больш камерным, менш дынамічным (у сэнсе візуалізацыі), але, наколькі можна меркаваць па рэакцыі чытачоў-карыстальнікаў, не менш прыцягальным. Адмысловы сугестыўны эфект ствараецца не толькі за кошт «злітнага» ўспрымання паэтычнага твора і, напрыклад, фотаздымка, што ўзаемаперацякаюць адзін у адзін — і адзін у адным адгукаюцца сэнсамі. Менавіта такое ўражанне робіць верш «Много простых людей» («Много простых людей / ходит в общий бассейн / о чём они плавают в шумной пустоте?»), спалучаны ў сакавіцкім допісе 2018 года з фатаграфіяй вядомага французскага майстра Франсуа Калара «Cours de Natation», які той зрабіў у 1930 годзе. Дадатковыя эмацыйныя і сэнсавыя канатацыі ўзнікаюць таксама за кошт спалучэння ў полі зроку чытача-карыстальніка (у межах паласы пракруткі) тонка, густоўна візуалізаванага мастацкага слова і вербалізаванай міфалогіі паўсядзённасці, натуральнымі дзівосамі якой шчодра дзеліцца 'Таня Скарынкина' на сваёй старонцы ў facebook.

Была ў беларускім літаратурным сегменце інтэрнэта цікавая спроба зрабіць з паэтычнага слэма як формы літаратурнай актыўнасці своеасаблівы жанр сеціратуры. У верасні 2016 года ў facebook з'явілася група «Паэтычная бітва» (https://www.facebook.com/bitvapaetaubelarusi/#). Арганізатары групы агучылі 13 правіл, паводле якіх вершы (не менш за чатыры радкі) не абмяжоўваліся паводле тэматыкі, але павінны былі пісацца толькі па-беларуску; на кожную бітву адводзіўся тыдзень. Дэкларавалася роўнасць удзельнікаў («У бітве ўсе роўныя, як у лазні, калі Вы класік, то вас нічога не ўратуе, акрамя цікавых рыфмаў і нестандартнага мыслення») і, што паказальна, прыярытэт працэсу над вынікам: «Пераможца альбо не выяўляецца зусім (мы атрымоўваем эстэтычнае задавальнне ад самога працэсу), альбо праз трэціх асобаў (рэдактараў)». Апошняя актыўнасць назіралася ў верасні 2017 года (па стане на сакавік 2018-га). Але гэта якраз той выпадак, калі паэтычны слэм з разавай падзеі літаратурнага жыцця патэнцыяльна можа стацца неабмежаваным у часе (працэсуальным) жанрам так званай інтэрактыўнай літаратуры (як адной з форм сеціратуры).

У *прозе* найбольш яскравыя ўзоры ўласна сеціратурнага кшталту звязаны, на наш погляд, з «самаарганізацыяй» допісаў віртуальнай асобы 'Андрусь Горват' у кнігу «Радзіва "Прудок"», з «літаратурна-фатаграфічнымі» допісамі віртуальнай асобы 'Уладзімір Сціпан' і сеціўным дзённікам віртуальнай асобы 'Віктар Шніп',

а таксама са спробай «увіртуаліць» раман-інструкцыю Людмілы Рублеўскай «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію»,

Тры першыя фіґуранты гэтага кароткага спісу пры ўсёй разнастайнасці індывідуальна-творчых стыляў і пісьменніцкіх манер яднаюцца ў межах адной стратэгіі асваення сеціва як літаратурнага хранатопа. Іх тэксты, як правіла, уяўляюць сабой мініпрозу з наратывам рэфлексіўнага тыпу, выразнай экзістэнцыйна-лірычнай настраёвасцю і схільнасцю да апавядальнасці навелістычнага тыпу (апошняя асабліва ярка выражана ў творах Уладзіміра Сцяпана). Уражвае хуткасць своеасаблівага «сталення» тэкстаў гэтых аўтараў у сеціве: як правіла, амаль імгненна пасля нараджэння (з’яўлення на персанальнай старонцы ў сацыяльнай сетцы) «немаўляты» пачынаюць абрастаць каментарамі, разгаліноўвацца дадатковымі сюжэтнымі лініямі і калізіямі, з дапамогай перапостаў трапляюць у новыя кантэксты, дзе таксама працягваюць пашырацца, прырастаць новымі дэталямі і г. д.

Паказальна, што вызначаць прыналежнасць твора (літаратурнага факта) да сеціратуры толькі па месцы нараджэння (у сеціве) немэтазгодна, бо і ў нас ёсць прыклады таго, як твор, што ўпершыню з’явіўся ў традыцыйным друкаваным фармаце (у часопіснай і/ці кніжнай публікацыі), дзякуючы гіпертэкставай прыродзе сеціва набываў сутнасна іншае быццё. Так, раман Людмілы Рублеўскай «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію», датаваны 2007 годам, спачатку друкаваўся ў часопісе «Дзеяслоў», пазней увайшоў у склад зборніка прозы. Але, размешчаны на сайце «Родныя вобразы» (http://rv-blr.com/litaratura/view/2143), гэты «раман-інструкцыя», які можна было б лічыць і адзінкавым узорам рамана-квеста ў беларускай літаратуры, набыў гіпертэкставыя ўласцівасці. Героі-гульцы «фізічна» перамяшчаюцца з Мінска 2000-х гадоў у Менск 1933 года праз своеасаблівы прагал у часе. Чытач — карыстальнік сеціва — можа адным клікам мышкі скіроўваць сюжэт у абсалютна нечаканае рэчышча. Гэты твор Людмілы Рублеўскай можа быць вызначаны як разнавіднасць гіпертэксту, што прапануе чытачу вялікую колькасць розных шляхоў, алгарытмаў чытання.

Што тычыцца сутнасных адрозненняў жыцця ў сеціве беларускай прозы і паэзіі, то можна заўважыць, што проза найчасцей абірае форму гіпертэксту: так, раман-інструкцыя Людмілы Рублеўскай тыпалагічна ёсць «садам сцяжынак, якія разбягаюцца»; допісы Андруся Горвата, Уладзіміра Сцяпана, Віктара Шніпа набліжаюцца да такой разнавіднасці гіпертэксту, як «гасцявая кніга». У сваю чаргу паэзія карыстаецца арсеналам медыяславеснасці: яшчэ раз згадаем «відэавершы» Валярыны Куставай і «відэалізацыю» «Развітанцаў» Мікіты Найдзёнава, а таксама «паэтычны відэапраект» грамадскай кампаніі «Будзьма беларусамі» пад назвай «Чорна-белыя вершы», фанатэку «Літрадыё» (litradio.by).

Калі паспрабаваць тыпалагізаваць формы беларускай *літаратурна-крытычнай актыўнасці* ў інтэрнэце, можна вылучыць:

— «крытыкацэнтраваныя» праекты;

— літаратурна-крытычныя сегменты ў політэматычных электронных выданнях (рэсурсах);

— «літаратурацэнтраваныя» групы ў сацыяльных сетках;

— віртуальныя асобы крытыкаў, даследчыкаў літаратуры як адметны жанр сеціўнага крытычна-даследчага дыскурсу.

Здаецца, вясной 2015 года на рэсурсе bookster.by з’явіўся праект «Прэпарацыя: тры крытыкі пра адзін твор». Тром асобам прапаноўвалася выступіць у ролі крытыкаў-экспертаў — выказацца пра паэтычны ці празаічны твор, які змяшчаўся на гэтай жа старонцы, але спачатку ананімна, без аўтарства. Ацэнкі крытыкаў, як правіла, былі надзвычай кароткімі, але падкрэслена экспрэсіўнымі, і прыцягвалі ўвагу ўжо сваімі загалоўкамі: «Аўтар хацеў некаму адпомсціць вуду-тэкстам» (*zamirouskaya*), «Без смеласці ў чужых снах рабіць няма чаго» (*стрэльнікаў*) і інш. [8]. Імя аўтара мастацкага твора і наведвальнікі рэсурсу, і крытыкі даведваліся

праз некалькі тыдняў. Некаторыя чытачы пісалі ў каментарах, што часам выказванні крытыкаў чытаць цікавей, чым самі творы. На жаль, праект у актыўнай фазе праіснаваў нядоўга, затое стаўся насамрэч прэцэдэнтнай формай асваення літаратурнай крытыкай інтэрнэт-прасторы і адметнай формай літаратурнай падзейнасці ў сеціве.

У якасці прыкладаў калі не пашырэння, то больш ці менш сталай прысутнасці літаратурна-крытычнай рэфлексіі ў сеціве можна назваць тэксты Ціхана Чарнякевіча, Марыі Мартысевіч на так званых няпрофільных для літпрацэсу рэсурсах. Даволі звыклай зараз становіцца крытычная рэфлексія ў межах спецыяльна створаных (хоць і нешматлікіх у колькасных адносінах) груп у сацыяльных сетках. Так, у facebook, напрыклад, надзвычай паслядоўна культурна-асветніцкі і ўласна крытычны (рэфлексійна-ацэначны) кампаненты прадстаўлены (па стане на сакавік 2018 года) у групах «Толькі пра літаратуру» (адміністратар JanMaksymiuk), «Книжные новости от @Александр Федута».

Адмысловым жанрам сеціўнай крытыкі сёння з'яўляецца чат. Гэта можа быць чат у адпаведнай групе (літаратурацэнтраванай) ці на асабістай старонцы (у блогу). Карыстальнікі, у той ці іншай ступені далучаныя да беларускага літаратурнага працэсу, як правіла, не проста маюць уласнае меркаванне пра факты і падзеі літаратурнага жыцця, але і актыўна яго выказваюць. Яно і зразумела: кожны чытач сучаснай беларускай літаратуры — гэта амаль заўсёды трошкі пісьменнік (у сэнсе, літаратар, журналіст, блогер) і абсалютна заўсёды эксперт.

Найбольш цікавым жанрам, у якім выяўляецца адметнасць уласна сеціўнай беларускай крытыкі, з'яўляецца ўжо не раз згаданы жанр віртуальнай асобы.

Існуюць розныя погляды на віртуальную асобу як адмысловы жанр сецiратуры. Калі Хенрыке Шміт схільная трактаваць яе ў першую чаргу як містыфікацыю, прычым добра прадуманую містыфікацыю, то, напрыклад, расійскі даследчык Яўген Горных характарызуе віртуальную асобу як «збор тэкстаў», што «замяняюць і пашпарт, і даведкі, і пратаколы, і аўтабіяграфіі». Для яго віртуальная асоба — гэта «пэўны сінтаксіс, які можа спалучаць разнастайныя элементы». Звычайна ў якасці такіх элементаў выступаюць уласна тэксты, «кожны з якіх значны для віртуальнай асобы найперш магчымасцю працытаваць яе. <…> Віртуальная асоба жывая да таго часу, пакуль яе цытуюць менавіта ў якасці асобы, а не ў якасці безасабовых і прыналежных усім выказванняў» [4].

Спецыфіка віртуальнай асобы беларускага крытыка (даследчыка) звязана з максімальнай зблiжанасцю ўласна віртуальнай асобы і рэальнага чалавека. Узорамі (не тое што полюсавымі, але стратэгічна вельмі адрознымі) літаратурна-крытычнай і даследчай актыўнасці ў сеціве нам падаюцца віртуальныя асобы 'Ганна Севярынец'і 'Павал Абрамовіч'.

У facebook Ганна Севярынец побач з энергічнымі водгукамі на бягучае жыццё ва ўсіх яго праявах паспявае пісаць уласную гісторыю беларускай літаратуры XX стагоддзя практычна анлайн. Пры гэтым нарошчваюцца тэмпы не толькі яе літаратурнай, але і каляліттаратурнай (асветніцкай, медыя-) актыўнасці ў фармаце рэальнага (персанальнага) удзелу ў рознага кшталту публічных імпрэзах, праектах, сустрэчах і г. д.

Павал Абрамовіч таксама з неверагоднай энергічнасцю сумяшчае асветніцтва агульнакультурнае (шматлікія допісы пра кіно, фатаграфію як мастацтва, музыку, міфалогію паўсядзённасці і г. д.) з нерэальнай крытычнай актыўнасцю. Асваенне ўсё новых і новых тэрыторый ажыццяўляецца ім у рэжыме нон-стоп: з LiveJournal пераехаў у facebook, пасля была невялікая паўза, пасля зноў імпэтнае вяртанне ў facebook, паралельна з вывучэннем магчымасцей Telegram'a. Дзе б ні з'яўлялася віртуальная асоба гэтага аўтара, паўсюль літаратурная праблематыка калі не пераважае, то застаецца ў лідарах. Пры гэтым у сэнсе публічных выхадаў ён з'яўляецца абсалютным антыподам

Ганны Севярынец: наколькі можна меркаваць па ягоных жа выказваннях, ён прынцыпова не бярэ ўдзел у літаратурных і калялітаратурных імпрэзах, хаця ўвесь час аказваецца абазнаным у іх дэталях не горш (а можа быць, і лепш) за іх непасрэдных удзельнікаў.

У сярэдзіне XX стагоддзя Павал Абрамовіч мог бы заняць не апошняе месца ў плеядзе «раззлаваных маладых людзей» (калі б такая была ў тагачаснай айчыннай літаратурнай прасторы па аналогіі з адпаведнай плынню ў англійскай прозе). У літаратурнай прасторы 2010-х гадоў віртуальная асоба ‘Павал Абрамовіч’, у чыіх тэкстах глыбіня і шырокая кантэкстнасць аналізу з’яў мастацкай славеснасці спалучаецца з напружаным эмацыянальным п(е)ражыванием, бачыцца феноменам не проста адметным, але выключным. У першым набліжэнні яго можна акрэсліць яго творчасць як феномен «новай крытычнай чуллівасці», дзе падкрэсленая эмацыянальнасць як «нерв» сеціўнай камунікацыі набывае ўплывовасць, нават пэўную сугестыўнасць дзякуючы экспертнаму (прафесійнаму) характару крытычнай рэфлексіі.

Такім чынам, пералічаныя вышэй творы, праекты і віртуальныя асобы (як адметныя жанры) паводле сваіх прыкмет з найбольшай пэўнасцю могуць быць залічаны да ўласна сеціратуры. Іх відавочная прэцэдэнтнасць азначае і індывідуальна-стылявую непаўторнасць, арыгінальнасць, і адзінкавасць, нешматлікасць адначасова. Аналіз прысутнасці беларускай мастацкай славеснасці ў інтэрнэце, а таксама падзей і актыўнасці розных удзельнікаў (каля)літаратурнага жыцця дазваляе зрабіць даволі пэўную выснову: па стане на канец 2010-х гадоў беларускі літаратурны працэс у сеціве ёсць, а ўласна беларускай сеціратуры — няма. Згаданая выснова сінтэзавалася з вынікаў аналізу беларускага мастацтва слова ў сеціве ў змястоўна-функцыянальным, працэсуальным і падзейным аспектах. Гэта меркаванне не ўтрымлівае ацэначных канатацый, яно не ёсць нагодай для засмучэння ці радасці; яно, хутчэй, ёсць яшчэ адной важкай падставай гаварыць пра высокую верагоднасць нарастання спецыфічнасці (адметнасці) развіцця нацыянальнай мастацкай славеснасці як літаратуры класічнага тыпу ў прасторы інфармацыйнага грамадства.

## Спіс літаратуры:

1. Шаўлякова-Барзенка, І. Л. Проза / І. Л. Шаўлякова-Барзенка // Гісторыя беларускай літаратуры XX стагоддзя. У 4 т. Т. 4, кн. 3 / НАН Беларусі, Аддзне гуманітар. навук і мастацтваў, Цэнтр даслед. беларус. культуры, мовы і літ.; навук. рэд. У. В. Гніламёдаў, С. С. Лаўшук. — Мінск: Беларус. навука, 2014. — С. 8—35.

2. Солдаткина, Я. В. Понятие «медиасловесность» и актуальные процессы в современной культуре / Я. В. Солдаткина // Преподаватель XXI век. — 2017. — № 2. — С. 356—368.

3. Схелтйенс, В. Сетература: новое литературное движение? / В. Схелтйенс [Электронный ресурс]. — Режим доступа: http://www.netslova.ru/teoriya/werner.html. — Дата доступа: 27.10.2016.

4. Марков, А. Сетература: место сборки / А. Марков [Электронный ресурс] // Новое Литературное Обозрение. — № 118 (6/2012). — Режим доступа: http://www.nlobooks.ru/node/2879. — Дата доступа: 02.03.2018.

5. Гаджиев, А. Сетература: история, типология и поэтика русской сетевой литературы. Тезисы лекций в Бакинском славянском университете / А. Гаджиев. — Баку: Мутарджим, 2012. — 76 с.

6. Лицарева, К. С. Типологические черты сетературы. Проблема автора и читателя / К. С. Лицарева // Вестник Вятского государственного университета. — Т. 2. — 2012. — № 2. — С. 125—127.

7. Барысюк, Т. П. Калектыўныя смс- і e-mail праекты (дзённік «Рэцэпт ад песімізму» і паэма «Буслан і Жабміла») як ідэйна-жанравы феномен / Т. П. Барысюк // Карповские научные чтения: сб. науч. статей. — Вып.10. — В 2 ч. — Ч. 2. — Минск: БГУ, 2016. — С. 275 — 280.
8. Прэпарацыя: тры крытыкі пра адзін твор [Электронны рэсурс] // Bookster.by. — Рэжым доступу: http://bookster.by/pages. — Дата доступу: 20.10.2016.

Артыкул паступіў у рэдакцыю 30 сакавіка 2018 года.

## Рэзюмэ

**Ірына ШАЎЛЯКОВА-БАРЗЕНКА**

### Беларуская сеціратура як унікальная з’ява актыўнай адсутнасці

УДК 82.02
Асэнсаванне сеціратуры як феномена ў сучасным гуманітарным дыскурсе адбываецца адначасова ў некалькіх вымярэннях: сацыякультурным, мастацка-эстэтычным, інфармацыйным. Аднак прысутнасць сучаснай беларускай літаратуры ў сеціве, сутнасць і спецыфіка сеціўнага жыцця нацыянальнага мастацтва слова дагэтуль не былі аб’ектам тэарэтыка-літаратурнай увагі. У артыкуле Ірыны Шаўляковай-Барзенка, эксперта Міжкультурнага даследчага цэнтра Універсітэта Хучжоу (КНР), зроблена спроба акрэсліць тэрміналагічна-паняційныя межы сеціратуры, вызначыць асноўныя прынцыпы яе стварэння, а таксама сутнасныя характарыстыкі. У рабоце на падставе аналізу шэрагу паэтычных і празаічных твораў, літаратурна-крытычнай актыўнасці, падзей літаратурнага жыцця вызначаюцца асаблівасці функцыянавання і жанравыя стратэгіі найноўшага беларускага мастацтва слова ў інтэрнэце.

**Ключавыя словы:** беларуская літаратура, сеціва, сеціратура, літаратурны працэс, прэцэдэнтнасць, працэсуальнасць, візуальнасць, гіпертэкст, віртуальная асоба аўтара.

## Summary

**Iryna SHAULIAKOVA-BARZENKA**

### Belarusian network literature as a phenomenon of the active absence

Network literature as a complex phenomenon is considered in modern humanitarian discourse in various aspects: social andcultural, artistic and aesthetic, information, etc. However, the presence of contemporary Belarusian literature in the Internet, as well as the essence and characteristics of the national literature on the Internet have not been a subject of literary studies before. IrynaShauliakova-Barzenka, expert of the Intercultural Research Center of Huzhou University (China), analyze in the articlethe terminological and conceptual boundaries of the network literature, and the basic principles of its creation, and its essential characteristics. Here on the basis of the analysis of a number of poetry and prose texts, as well as literary-critical activity, different literary events the features of existence and genre strategies of the nowadays Belarusian literature on the Internet are defined.

**Keywords:** Belarusian literature, the Internet, network literature, literary process, precedence, processuality, visuality, hypertext, virtual identity of the author.

**Арына ГАРДЗЕЙ**

# ФЕНОМЕНЫ АНЛАЙН БЕЗ СМС І РЭГІСТРАЦЫІ

Калі прыкладна з год таму ўпершыню пачула пра «феномен Горвата», асабліва пасля прачытання «Радзіва "Прудок"», то склалася ўражанне, быццам я разумею, пра што гаворка, быццам разумела заўсёды. Толькі сэнс ніхто так і не патлумачыў. «Феномен» здаваўся нечым чароўным праз паўсюднае захапленне і аповеды пра твор нават ад тых, хто кніжкі па-беларуску апошні раз чытаў у школе. Часу, каб дайсці да ўласнага меркавання, папросту амаль не далі, забіваючы інфармацыйную прастору шумам рознага кшталту, ці гэта прэміі, ці пераважна станоўчыя водгукі. Выдатная глеба, каб ты адчуў сябе вінаватым і не такім, калі нешта не спадабаецца.

«Радзіва "Прудок"» для беларускай літаратуры — сапраўды новая з'ява (на момант напісання гэтага тэксту ўжо не) і зараз пра яго і асобу аўтара не чуў толькі лянівы, або той, хто не цікавіцца ад слова «зусім». Хаця не пачуць пра кнігу было вельмі складана. Сказана ўжо дастаткова, так што не трэба доўга думаць над аналізам кнігі і разгадваць таямнічасць асобы аўтара. Падмацоўваецца папулярнасць і нядаўняй тэатральнай пастаноўкай паводле твора, што паказвае актуальнасць ды запатрабаванасць з боку гледачоў.

Прааналізаваць з'яву варта не з пункту гледжання гісторыі былога дворніка Купалаўскага тэатра, які паехаў з Мінска ў Прудок жыць ды працаваць і тым выклікаў фурор. Увагу прыцягвае іншае — да нас вельмі блізка падышла ўжо даўно вядомая сеціўная літаратура, і ў сувязі з гэтым варта звярнуцца да непасрэдна літаратурнага боку, а іншыя пакінуць даследчыкам іншых галін. У беларускіх умовах мы сутыкаліся раней (і цяпер) з тэкстамі «фармату электронных прылад» у Адама Глобуса, дзе збор кароткіх пастоў ці нататак цудам можа ператварыцца ў збор твораў, ці своеасаблівай мадыфікацыяй — «дзённікавымі» ўстаўкамі ў «Дні Святога Патрыка» Ганны Севярынец, якія таксама падобны да пастоў, толькі вялікіх, і выглядаюць як заўгодна, але толькі не блок, які звязаны з творам.

Прыклады з беларускай літаратурнай прасторы, якія былі прадстаўлены вышэй, да з'явы сеціўнай літаратуры маюць вельмі ўскоснае дачыненне, паколькі арыентаваны на папяровыя публікацыі і канкрэтнага пакупніка-чытача. У літаратуры інтэрнэт-прасторы ёсць яркія прадстаўнікі, якія паспелі зрабіць мноства праектаў і стаць папулярнымі. Ёсць толькі адно «але»: самыя вядомыя — гэта расійскія праекты і аўтары.

Адно з першых імёнаў, якое ўзгадваецца ў сувязі з гэтым — расійская паэтка *Стэфанія Данілава*. Яна адна з тых аўтараў, якія прыходзілі ў літаратуру з сацсетак, ствараючы суполкі для прадстаўлення сваёй творчасці, ці са спецыялізаваных інтэрнэт-рэсурсаў для размяшчэння твораў (Stihi.ru, Proza.ru — самыя вядомыя). На дадзены момант на яе асабістую старонку УКантакце падпісана больш за 3,5 тысячы чалавек, а на старонкі з прозай і паэзіяй — больш за 37 тысяч. Зараз яна пазіцыянуе сябе і як грамадскі дзеяч: з 2016 года арганізоўвае Міжнародны фестываль «Сусветны Дзень Паэзіі», які, дарэчы, праводзіўся і ў некалькіх гарадах Беларусі, у тым ліку і ў Мінску. Акрамя гэтага, паэтка перыядычна выступае, выдае ўласныя кнігі і дапамагае ў гэтым іншым маладым аўтарам (дзякуючы

конкурсам і розным прапановам сумесна з выдавецтвамі), а таксама займаецца адукацыяй для пісьменнікаў (летам 2018-га быў арганізаваны SMM-марафон, скіраваны на тэхналогіі прасоўвання творчасці ў сацыяльных сетках).

Іншы прадстаўнік, таксама не менш вядомы, — паэт *Яўгеній Соя*. На яго асабістую старонку УКантакце падпісана больш за 6,5 тысячы чалавек, на суполку з творчасцю — больш за 42 тысячы. На дадзены момант ён актыўна гастралюе з прэзентацыяй новай кнігі (сёмай па ліку), выступленне запланавана і ў Мінску. Сярод іншых пляцовак у інтэрнэце, вершы Яўгенія Соі прадстаўлены на рэсурсе Stihi.ru. Папулярнасць ён набыў праз вершы пра каханне з «афарыстычнымі» запамінальнымі радкамі. Гэтая рыса, дарэчы, з'яўляецца вельмі важнай, паколькі менавіта трапны кароткі выраз у твэксце запомніцца чытачу, і ён, зрабіўшы рэпост, распаўсюдзіць твор. Напэўна, шмат хто з маладых аўтараў, асабліва паэтаў, зможа сказаць, што радкі «*здравствуй, моя хиросима. / держи чистосердечное / я буду любить тебя всю зиму, / а зимы тут бесконечные*» ён чуў. А можа, і не толькі з аўтараў.

Яшчэ адзін з даволі буйных літаратурных праектаў у сацыяльнай сетцы УКантакце, *«Живые поэты»* («ЖЫ»). Створаны ён быў у 2014 г. пісьменнікам і журналістам *Андрэем Арлоўскім* і скіраваны на развіццё сучаснай паэзіі. Змешчаная ў суполцы інфармацыя красамоўна паказвае маштабы працы: «"ЖЫ" публікуюць вершы ўдзельнікаў праекта ў сацыяльных сетках, а іх інтэрв'ю і каментарыі — у СМІ, выпускаюць кнігі, дапамагаюць з арганізацыяй і інфармацыйнай падтрымкай канцэртаў. За час існавання рэдактары атрымалі больш 20 тысяч заявак і апублікавалі незлічоную колькасць вершаў 250 аўтараў з 80 гарадоў і 15 краін». Колькасць падпісчыкаў — больш за 31 тысячу чалавек. У красавіку 2018 г. «ЖЫ» выпусцілі першы папяровы зборнік — «Живые поэты», дзе былі прадстаўлены вершы 119 аўтараў. З новых праектаў — запуск «ЖЫшколы» — «адукацыйнай платформы для маладых літаратараў, якая пройдзе ў фармаце арт-рэзідэнцыі летам 2019 г.». Нягледзячы на тое, што гэта скіравана на працу ў анлайне, першапачатковы праект паходзіць з сацыяльнай сеткі, што кажа аб павелічэнні папулярнасці і цікавасці з боку карыстальнікаў УКантакце.

Калі вам ужо надакучыла пералічэнне замежных імён замест аналізу айчынных напрацовак, то хутка будзе і гэта. Далучу напаследак яшчэ некалькі таксама яркіх прадстаўнікоў сеткавай літаратуры: *Арчет* (калі што, радкі «*Спите с теми, кто снится*» — яго, нават калі ў сацсетках аўтарам пазначаны іншы, або гэта проста цытата з карцінкай), *Знаменосец Ира*; таксама вельмі папулярны паблік з вершамі сучасных аўтараў — *«Чай со вкусом коммунальной квартиры»* (больш за 536 тысяч падпісчыкаў).

«Навошта ўвогуле пра іх і калі ўжо будзе пра феномен і Горвата?»

Расказаць пра іншых было неабходна як мінімум па той прычыне, што ў Беларусі такой з'явы, як «сеціўная літаратура», практычна, няма, і расійскія аўтары могуць даць добрае ўяўленне аб тым, як гэта павінна быць і як павінна працаваць.

Неабходна яшчэ і таму што ў беларускай літаратурнай прасторы ўсё зусім інакш. Аўтары, асабліва маладыя, вымушаны шукаць сябе па-за межамі краіны, удзельнічаць у іншых праектах, таму што ў нас гэтых умоў бракуе, таму што гэта не прадугледжана. Наўрад ці хто-небудзь ведае чым і кім, але ўдзельнікі інфармацыйнай прасторы працягваюць рабіць выгляд, быццам усё добра. І нават развіваецца. З феноменамі. Толькі куды развіваецца, калі да нас яшчэ нават не дайшло тое, што ў прасторах іншых краін цалкам нармальна? І сеткавы паэт ці празаік, малады (часцей) ці не малады, не горш за «афіцыяльнага». Вось крыху іншай статыстыкі, ужо ў беларускіх рэаліях. Самыя вядомыя беларускія сеткавыя паэты не набіраюць і тысячы падпісчыкаў і могуць быць зусім невядомымі для шырокага кола чытачоў. Напрыклад, *Горан* (удзельнік ужо ўзгаданага праекта «ЖЫ» — каля 700), *Антон Саладоўнікаў* (напэўна, адзін з нямногіх маладых паэтаў, чые творы пабачылі свет у часопісе «Нёман», колькасць падпісчыкаў — больш за 750), *Даша*

*Бялькевіч* (акрамя ўдзелу ў літаратурных фестывалях і намінацый на літаратурныя прэміі, адна з арганізатараў паэтычных вечароў «ART JAM» і паэтычнага конкурсу «Рухавік»). На яе паблік падпісана больш за 580 чалавек. Узгадаю яшчэ некалькі імёнаў з крыху меншай аўдыторыяй: *Облакогойи*, *Павел Дарохін*, *Shakunova*, *Братиславская* і інш.

«Зразумела. А пра феномен калі ўжо?»

А феномена, па сутнасці, ніякага і няма. У час, калі людзі актыўна засвойваюць функцыянал сацыяльных сетак, карыстаюцца інтэрнэтам, але глыбока не зусім шукаюць, за з'яву, можа, не заглядаюць, ім становіцца вельмі сумна скроліць стужку навін і абыходзіцца без «феноменаў, якія разарвалі сацсеткі». Атрымліваецца парадаксальнае становішча: пры вялікіх магчымасцях камунікаваць, аўтары замыкаюцца ў сваіх згуртаваннях і працуюць часцей за ўсё толькі на паперу, на прэмію, на ўласнае эга. Ёсць усе ўмовы весці дыялог з чытачом, ды і не толькі з ім. І пры ўсім гэтым яго няма. Канечне, ёсць афіцыйная статыстыка: дапусцім, колькасць прагляду на экзэмпляр. Толькі яна нічога не дае, паколькі гэта не адказ, не прапанова, не водгук, не жывая рэакцыя. Нават не лайк і не рэпост, калі ўжо так. Можа, ведаеце, навошта пісьменніцтва ў пустату?

У выпадку з Андрусём Горватам літаратурны працэс сутыкнуўся з трансфармацыяй сапраўдных допісаў у фэйсбуку ў твор, але пры рэальнай падтрымцы чытачоў. Рэч у тым, што ніякага феномена не адбылося. Ім стала тое, што павінна было быць нормай. Ва ўсіх вядомых сеткавых аўтараў, у тых жа Арлоўскага, Кузняцова (Арчет), Данілавай і інш. выходзілі кнігі. Выходзілі з такім жа попытам, калі нават не больш за той, што разглядаецца. Такім жа чынам гэтых аўтараў падтрымлівалі ў сацсетках, калі яны проста публікавалі вершы ці допісы. І з гэтага ніхто не рабіў звышнатуральнае, не вышукваў глыбінны сэнс там, дзе яго няма.

Магчыма, вельмі ўважлівы чытач паспеў ужо адзначыць, што вышэй гаворка была пра сацыяльную сетку УКантакце і аўтараў, якія прадстаўлены там.

«Але Горват жа ў фэйсбуку…»

Гэта вельмі важны момант. Вышэй размова была толькі пра УКантакце, таму што ў фэйсбуку такіх аўтараў амаль што няма. Невядома чаму «гістарычна склалася», што гэтую сацсетку, якую па ўсім свеце выкарыстоўвае найшырэйшае кола людзей, ад аўстралійскай цёці Зіны да Кім Кардаш'ян, у нас часцей выкарыстоўваюць людзі, якія аддаюць перавагу трымацца на адлегласці і лічыцца інтэлігенцыяй ці (і) прадстаўнікамі альтэрнатыўнай культуры. Зразумела, што гэта таксама група, і ёй трэба мець пэўныя сімвалы, таму рэкламуецца і робіцца нечым незвычайным тое, што такім не зусім з'яўляецца. Калі і называць феноменам, то такое ўспрыманне фэйсбука, а не тыя ці іншыя кнігі, што выйшлі апошнім часам. Па сутнасці «Радзіва "Прудок"» няблага суадносіцца з рысамі інтэрнэт-інтэлігенцыі: жаданне трымацца на адлегласці, пэўная закрытасць, часам загадкавасць. І не так важна, аўтара (як у выпадку з Горватам), ці адносна да ўсяго разам (тыя ж рысы можна знайсці ў Яўгенія Соі, а гэта толькі адзін са шматлікіх прыкладаў). Больш абагульнены выгляд усё гэта набыло ў пабліку *«Чай со вкусом коммунальной квартиры»*, дзе можна прасачыць і імідж аўтараў, і тэматыку твораў. «Феномен Горвата» ярка паказвае становішча літаратурнага працэсу ў беларускіх умовах і расказвае пра ўдзельнікаў інфармацыйнай прасторы. Тое, што да нас нарэшце дайшла сеткавая літаратура — добра. Было б яшчэ лепш не рабіць з яе звышнатуральнае і штучна хваліць таго, хто падыходзіць пад час, суполку ці што-небудзь яшчэ, а звярнуць увагу на мноства аўтараў, якія ўжо даўно працуюць як толькі могуць, каб распаўсюдзіць сваю творчасць, развівацца і развіваць. Таму што літаратура ў сетцы, якая пазней выходзіць да звычайнага чытача — цалкам нармальная з'ява, не сенсацыя. І часам перад тым, як каментаваць або пісаць пра тое, што рве ўсе магчымыя сацсеткі, варта падумаць і прааналізаваць глыбей, не арыентуючыся на ўсюдыісныя добрыя водгукі. Сваё меркаванне — гэта карысна, з ім не прыйдзецца тлумачыць, чаму штосьці называюць феноменам, а як растлумачыць — маўчок.



Мікола МЯТЛІЦКІ

# НА СКАРЫНЦЫ ЗЯМНОЙ КАРЫ...

* * *

*Міхасю Канстанцінавічу Міцкевічу*

На груд вусцянскі еду з сынам Коласа,
Сягоння дзеду дзевяноста два.
У пяты тут дзіцячыя калолася
Яму ўзбярэжжа Свіслачы жарства.

І дзе ні глянь — віецца сцежка памяці:
Вось тут рыбачыў бацька, там грыбы
Збіраў у кош, ў лісця асенняй замеці
Хадзіць падоўгу берагам любіў.

Пясняр гаіў душу жывой прыродаю,
Піў волкі дух лясістае глушы.
Сягоння «Міхасёвымі прыгодамі»
Азваўся бераг і ў маёй душы.

Суровы час стаяў над вёскі хатамі,
Не гас журбою нат з сыходам дня.

---

***Мятліцкі Мікалай Міхайлавіч*** *нарадзіўся 20 сакавіка 1954 года ў вёсцы Бабчын Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці. Пасля заканчэння філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1977) працаваў карэспандэнтам штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», з 1983 года — рэдактар выдавецтва «Мастацкая літаратура». У 2002—2014 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Полымя».*

*Аўтар зборнікаў паэзіі «Абеліск у жыце» (1980), «Мой дзень зямны» (1985), «Ружа вятроў» (1987), «Шлях чалавечы» (1989), «Палескі смутак» (1991), «Бабчын» (1996), «Жыцця глыбінныя віры» (2001), «Замкнёны дом» (2005), «На беразе маім» (2010), «Цяпло буслінага крыла» (2010), «Чалавек падымае неба» (2012) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1986), Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь імя Янкі Купалы (1998), Літаратурнай прэміі «Залаты Купідон» (2010), Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013), Міжнароднай літаратурнай прэміі «Алаш» (Казахстан, 2017).*

Крывава-набрынялымі трыццатымі
Тут шугане і зараз цішыня.

Ды вочы сына за жыццё не стомлены
І не хаваюць іскры светлых слёз
На той зямлі, дзе быў вайной надломлены
І Беразянкі, і паэта лёс.

Міхась тут з маці, з братам павітаецца,
Гучаць іх тут жывыя галасы.
Ён з часам тым далёкім пагукаецца,
Прамокне ў ім, бы ў накрапе расы.

Вусцянскі груд душу наскрозь прасвечвае
І здатны ўсе балячкі загаіць
Нат і цяпер, калі на ўскрайку Вечнасці
Герой паэмы бацькавай стаіць.

* * *

***М. Г. Захарэвіч***

Памяць мая,
Ты, як поўнае вядро вады калодзежнай,
Якую з ільдзінкамі
Матуля разлівае па чыгунках
Перад печчу;
Кірзачы, на босую нагу ўздзетыя,
З парыпваннем на заснежанай
Сцяжыне да школы,
Санцашчокі дранік
Або смажанае курынае яйка
На ледзьве ўзгарэлым полымі
Ад сырэчых, уледзянелых дроў —
Самотна-цёплая памяць мая,
Памяць майго завеянага снягамі
Маленства.
Нястача і голад
Стаялі ў хаціне нясходна.
І толькі вачамі Багародзіцы
Блішчэла надзея жыцця,
Сугрэўна і літасціва.
І будучыня сама,
Мройная,
Разгортвалася перада мной
Вышыванымі кветкамі
Матулінага ручніка.

## ТРАСЦЯНЕЦ

І сёння тут гарачы траўны дол,
Дзе з прахам неастылым чалавечым
Змяшаўся шэры выстылы падзол.
І попел той, павымецены з печы

Канцлагера, травой не раз парос
І кветчынай, што расцвіла барвяна.
І росы тут — іскрынкі вечных слёз
Дзяцей, што ў свет прыйшлі расчаравана.

Тут смерць, жыцця забойца-душагуб,
З вар'яцкаю няведамаю сілай
Усіх, хто ўраз арыйцу стаў не люб,
Бязлітасна штодня касой касіла.

З яе кастлявай прагнае рукі
Абрынуты крыві жывой патопы.
І зараз тут стогн чуецца гняткі
Людзей з усёй зняволенай Еўропы.

Тут злу дае суровы памяць бой,
Ва ўсе часы зямныя будуць чуты
І беларускі, і яўрэйскі боль,
Ў адны сягоння зліўшыся пакуты.

Дай бог, каб тут разбой спаткаў канец
І ўздрыгнулі сучасныя сатрапы,
Пачуўшы, як крывавы Трасцянец
У грудзі куляй памяці патрапіў.

* * *

Чапля белая — птушка рэдкая —
Праляцела над плынню рачной.
Быў таму сёння сведкам я:
Ранку стынь абдала белізной.

Над рачной касой пакружылася,
Знікла недзе ў прырэчным бары.
Зноўку неба наўсцяж заімглілася,
Стала змрочна і пуста ўгары.

Зноўку раніца — азалелая,
Згаслі кволыя ўсе прамяні.
Птушка рэдкая, чапля белая,
Мне пяшчоту вярні светлыні.

## СТАКУНОВА СЯДЗІБА

У садзе Стакуна, акутым лесам,
Асенняя спалошная журба.
Антонаўкі даспелыя ільсняцца,
Падпёртыя высокім травастоем.
Асыпаныя густа папяроўкі
Услалі дол; дзікі ядуць усмак,
Хады прабіўшы ў быльнягу, крапіве,
Нічыйныя, забытыя плады.
Нязменнаю прыхмуранаю вартай
Старэчы бор стаіць вакол — заступнік
Ад пошугу раз'ятраных вятруг,
Што калашмацяць яблыні гадамі…

Нішто цяпер не кажа аб былым.
І толькі ліпы рослыя дзве сведчаць,
Што некалі прагаліна-паляна
Была заможнай панскаю сядзібай,
Што тут жыццё размашыста вірыла:
Па ледзьве кметных лесавых дарогах
Каціліся вазы, фурманкі, брычкі,
Гучалі галасы дзятвы гуллівай,
А гаспадарка, жыўнасцю багатай
Рыкала, кукарэкала, іржала.
Ды каміны дымілі на дасвецці,
Стынь выстылага неба фарбавалі.
Два хлапчукі — цыбатыя падпаскі —
Штораніцу пагодай-непагодай
Ішлі за статкам, сонныя; каровы
Ступалі неахвотна і бадліва,
І цеглася за імі чарада
Бухматых, быццам воблакі, авечак.

У тое лета змеркла тут жыццё —
Сядзіба Стакунова жах зазнала,
Якога не здалела пераржыць.
Падлеткі два, віхрастыя падпаскі,
А з імі і суседскі аднагодак
У Віліі, пабліз, знайшлі спачын,
Засмоктаныя вірам ў час купання.
Ўслед за сынамі згасла хутка матка,
Залітая гаручымі слязьмі,
Няўцямная, блукала па сядзібе,
Ў руках няспынна носячы іх шапкі,
І ўмерла позным вечарам пад ліпай,
З сынамі побач легла на кладах.

Цяпер грыбнік літвянскі выпадкова
Прыдыбае сюды пароcлым лесам,
Надкусіць папяроўку — не пачуе
Гаркоты ўсёй трагедыі калішняй.

## УЮНЫ

Мне, чорныя і пузажарыя,
Яны начамі сняцца зноў.
Як у маленстве даўнім марыў я
Злавіць слізготных уюноў!

Яны ў раскопінах за вёскаю
Кішэлі ў торфе балацін,
Дзе карасі хвастамі плёскалі
Ды плюшнік шчэціўся адзін.

І вось балоціна падсохлая
Адкрыла злежанае дно,
І хлапчукі над ім завохкалі,
Дзе безліч дзірачак відно.

Тут уюны у торф зашыліся,
Цяпер галоўнае — капай,
Калі ж, слізготныя, скарыліся —
Трымай, на бераг уцякай.

Яны, як выкапні пячорныя,
Ляжалі глыбака ў вядры,
Пісклявыя і рыжа-чорныя,
Аж нешта трэслася ўнутры.

Іх нёс дадому росным поплавам
З тых перагрэтых балацін.
Гады бягуць… А сэрца цёпла як
Кранае светлы прыпамін.

І вось ужо ў запеччы меткамі
Вісяць, падсохлыя, яны —
Майго зямнога шчасця сведкамі,
Мае палескія ўюны.

* * *

Такога снегу больш не дораць зімы,
На ім сляды свае пакінуў ты.
О, снег дзяцінства, снег малой радзімы,
Глыбокі снег праменнай зіхаты!

Іскрыўся гай у інеі, бялёсы,
Раслі са снегу белыя камлі.
Бярозы, як удовы, срэбра-косы
У цішыні таемнай расплялі.

Лыжня вілася стужкаю іскрыста,
І ты па ёй, дух перавёўшы, бег.
Які ён пульхны, чысты, серабрысты
Твайго маленства даўнішняга снег.

На ім не ўзнікнуць чорныя прагалы,
Не забулькоча воднаю бруёй.
Ляжыць і сёння чысты, не падталы,
Глыбока ў нетрах памяці тваёй.

## ХЕМІНГУЭЙ

З сіберных беларускіх завей,
Белы, як лунь, сівы,
Выйшаў Эрнэст Хемінгуэй,
Прамовіў: — Я вечна жывы!

І зазваніў зноў па кімсьці звон,
Вусціш зімы крануў.
Уздрыгнуў, сівагаловы, ён:
— Мне на вайну!

Колькі льецца паўсюд крыві,
Колькі нясходных бед.
Буду і сёння, жывы, як вы,
Я ратаваць белы свет.

Можа, аднойчы пачуе мяне,
Спыніць празмерны жах.
Я на сваёй, недабітай, вайне
Летую на крыжах!

Гэтак сказаў і сышоў, барадач.
Белы адбітак сцяны.
Чуў я, як нёсся жудасны плач
З гэтай, яго, вайны.

Хто гэта быў? Прывід ці сон?
Толькі ў маёй старане
Біў несупынна Быстрыцкі звон —
Біў і па ім, і па мне.

## БЕЖАНЦЫ

Куды імкнуцца несупынным цугам
Абдзёртыя, галодныя яны?
Лепш жыць век беспрытульным валацугам,
Як згінуць ад разбою і вайны.

Канаць сасмягла ў стоўпішчы падобных,
Ўтаптанымі у хлуд жыцця і бруд,
І спадзявацца на спагаду добрых,
І ў зорку лёсу верыць, як у цуд.

Згарэлі іх да тла пад небам хаты,
І боль душы зырчыць, як вугалі.
О, як жа ім пячы павінна пяты
Зямля, каб гэтак рынуцца маглі.

Пайсці за свет няспыненым патокам,
У сотні ног пакінуць чорны след.
Бы перад новым згублівым патопам,
І ўпраўду, апынуўся белы свет.

Ім слухаць словы скаргаў і праклёнаў,
Жыццё сваёператварыўшы ў тло.
Відаць, з часоў міграцыі плямёнаў
Такіх сыходаў спешных не было.

* * *

На скарынцы зямной кары
Штармавыя шумяць вятры,
І дажджы ў цвердзь яе вякі
Уганяюць свае цвікі,
І макрэча асенніх слот
Убірае старую ў лёд,
І ў пару ледзяной пургі
Замятае яе ў снягі.
Ды прыгрэе цяплом вясна —
Страпянецца травой яна,
І на полі, што сееш ты,
Маладыя ўзаўе жыты.

* * *

Я марыў пра крылы багата гадоў,
Сачыўшы, як птушкі сяброўюць з нябёсамі.
Пакінуў на доле нямала слядоў
За век не адзін я падэшвамі босымі.

І вынайшаў крылы. І высь пакарыў.
І ўзняўся на строміну ўпоравень з векам.
І гэты парыў — звыштэхнічны прарыў —
Адбыцца мне даў на Зямлі
Чалавекам.



Уладзімір МАЗГО

# БАЛЬШАКОЎ СТАРАДАЎНІХ СКРЫЖАЛІ

* * *

На планеце абсягаў нямала,
А радзіма — за ўсё даражэй,
Дзе матуля мяне калыхала
І да сэрца свайго прыхінала,
Каб рабіўся дабрэй і дужэй.

Слухаў матчыны я калыханкі
І, на сонейка гледзячы, рос
Пад мажорныя спевы Зальвянкі
І мінорныя песні бяроз.

Бальшакоў старадаўніх скрыжалі
Нагадалі былыя часы.
Дзе калісьці мы дрэўцы саджалі,
Там сягоння гамоняць лясы.

---

*__Мазго Уладзімір Мінавіч__ нарадзіўся 5 сакавіка 1959 года ў гарадскім пасёлку Зэльва Гродзенскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1985). Служыў у Савецкай Арміі. Працаваў карэспандэнтам у шматтыражцы «Інтэграл», загадчыкам рэдакцыі ў выдавецтве «Юнацтва», вядучым рэдактарам у «Мастацкай літаратуры», намеснікам галоўнага рэдактара ў часопісах «Вясёлка», «Полымя». Цяпер — намеснік галоўнага рэдактара часопіса «Нёман».*

*Аўтар кніг паэзіі «Пад спеў крыніц» (1982), «Вершаліна» (1987), «Марафон» (1992), «Анёл нябесны» (2007), «Сакавіны» (2012), «У нябёсах вясны» (выбраныя творы, 2013), кніг для дзяцей «Калі спрачаюцца маланкі» (1989), «Суседзі па сусвеце» (1994), «Смехапад» (1999), «Прыгоды марахода» (2002), «Цуда-вуда» (2008), «Таямнічая планета» (2008), «Лепшыя сябры» (2012), «Загадкавая азбука» (2012), «Адвечныя скарбы Радзімы» (2013), «Завітала ў госці казка» (2014) і інш.*

*Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў галіне літаратуры (2005), літаратурных прэмій імя Васіля Віткі (2005), «Залаты Купідон» (2008). Узнагароджаны медалём Францыска Скарыны (2016).*

Між грыбоў і даспелых арэхаў
Заблудзілі маленства сляды.
І куды б ты адсюль ні паехаў,
А вяртаешся зноўку сюды.

* * *

Даўно змялелі рэкі,
Аселі берагі,
Але мой кут навекі
Застаўся дарагім.

Адно гукні — і з лесу,
Што рэха, кожны раз
Далёкае маленства
Галёкае ў адказ.

Каля лясной крыніцы
Світае далягляд.
Рассыпаны суніцы,
Як пацеркі дзяўчат.

А дзяцел у сінечы
Друкуе смс:
«Сягоння Дзень сустрэчы
Святкуе родны лес».

Праменіцца аблічча
У згадках маладых,
Дзе нам зязюлі лічаць
Шчаслівыя гады.

## ВЯЧЭРНІ ЭСКІЗ

Спявае песні Маладзечна —
Учора, сёння, заўтра —
Вечна.

У звечарэлае прасторы
Яны ўздымаюцца
Пад зоры,

Дзе думкі светлыя лунаюць
І... засынаюць,
Засынаюць…

## 1000-ГАДОВАМУ БРЭСТУ

Наш векапомны Брэст,
У краі светлым, жытным
Сумесны ладзіш фэст
З Бярэсцем старажытным.

Да старасці гатоў
У юным быць узросце
За тысячу гадоў
З'яўлення на бяросце.

А ты — куды старэй
Вялікай гэтай даты.
Так звонка водзіш рэй,
Як хлопец зухаваты.

Бягуць услед гады
За Мухаўцом і Бугам,
Дзе стаў навекі ты,
Ўзараны зорным плугам.

## ДАРОГАМІ АЛЕГА ЛОЙКІ

У вечнасць сплываюць аблокі
Па Шчары, што песняй гучыць.
У заўтра па вуліцы Лойкі
Спяшаюць яго чытачы.

Прасвечаны шчырасцю Слонім,
Што наш упрыгожыў маршрут,
Яшчэ неаднойчы мы ўспомнім,
Як вершам азораны кут.

— Падкінь, калі ласка, кіровец, —
Упарта вадзіле крычу, —
Да Богам абраных Жыровіц,
Каб споведзь стагоддзяў пачуць.

Жадаем душой далучыцца
Да тых спаконвечных крыніц,
Дзе час незваротна імчыцца
Шляхамі сівых таямніц…

У вечнасць сплываюць аблокі
Па Шчары, што песняй гучыць.
У заўтра па вуліцы Лойкі
Спяшаюць яго чытачы.

* * *

***Паэту і ганчару Сяргею Худзяеву***
***з вёскі Галынка Зэльвенскага раёна***

Як чарадзей, шмат зведаў чар
Сівы, нібыта дым, ганчар.

Тут не адымеш аднаго:
Ад Бога талент у яго.

Сам Бог адкрыў яму сакрэт,
Каб ён стварыў гліняны свет.

І доўжыць свой адвечны рух
Штодня яго ганчарны круг.

У злепкі птушак і людзей
Душу ўкладае чарадзей.

Даруе нам здзяйсненне мар,
Натхнёны глінаю, ганчар.

* * *

Зіма.
А снегу няма.
Ну што за зіма без снегу.
Ці хутка аблокаў гурма
Парадуе нас
З разбегу?

Стаім пасярод зімы
Ў чаканні снягоў кіліма.
Магчыма,
Змяніліся мы.
А можа,
Змяніўся клімат.





**Валянцін ШВЕДАЎ**

# МІГ НА ЧАСАВАЙ СТУЖЦЫ

## РЭХА ПАМЯЦІ

Праляцелі, бы птушкі,
Неўзаметкі гады.
Міг на часавай стужцы —
Пыл заносіць сляды.

Памяць верне карціны,
Нібы рэха ў бары.
Клічуць шчасця мясціны
І маленства сябры.

Часта Болюта сніцца –
Разлучыў сляпы лёс.
Успамінаў напіцца,
Быццам соку з бяроз.

Азярок бачыць зноўку,
Перайсці Крукаў роў.
Тут ганялі радоўку,
Сустракалі кароў.

А за Грэбляй забытай
Між балот – астравы,
Лазнякі бы ракіты,
Вечны дуб вартавы.

У сасновым балоце
Не знайсці той сасны.

---

*__Шведаў Валянцін Міхайлавіч__ нарадзіўся 28 сакавіка 1958 года ў вёсцы Вал Чашніцкага раёна Віцебскай вобласці. Скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1980). Працаваў настаўнікам на Віцебшчыне. Цяпер жыве і працуе ў горадзе Мінску.*

*Друкаваўся ў часопісах «Вожык», «Маладосць», «Роднае слова», у штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у альманаху «Літаратурны экватар».*

Першай скажа ўсім лотаць
Аб прыходзе вясны.

Паяднаў зайцаў вугал
Пералесак і яр.
Закілзай добра цуглі,
З возам тут гаспадар.

Падасінавік знойдзеш,
Зазірнуўшы ў Гайкі.
Навастры, дружа, ножык
На грыбныя дзянькі.

Там да Квецiна сцежку
Топчуць век рыбакі.
Хмыз, чарот у перамежку
Углыб балот – буякі.

Роднай вёскі ваколіц
Назвы грэюць душу.
Смагу памяці століць
Той радок, што пішу…

## ЛЕТА ПЕРШАГА КАХАННЯ

З рэчкі цягне холадам,
Спіць трава расяная.
Зоры красяць золатам
Гоні неба цьмяныя.

Салаўямі тканая,
Вышытая зоркамі,
Ноч знікае п'яная
Дзесьці за пагоркамі.

Як набрацца смеласці
Дакрануцца вуснамі?
Налівалі спеласцю
Яблыкі спакусныя.

Сонца ўстане кветкаю.
Повязь рук дрыготкая…
Выбачай, што летняя
Ночанька кароткая

Дзень чакаеш вечара,
Ў думках абдымаючы,
Як узыдзе месячык,
Вальс каханым граючы.

Шлях знаёмай сцежкаю
Растварыцца у вечнасці.
Стрэнеш зноў усмешкаю
Ля рыпучых веснічак.

Праз гады у памяці
Адгукнуцца вершамі
І сады у замеці,
І каханне першае.

## ВОСЕНІ КЕЛІХ

Адплакала росамі лета,
Тужлівых расстанняў пара.
Птушыныя песні адпеты,
Халоднаю стала зара.

Фарбуе ваколіцы восень,
Асіна вясёлкай гарыць.
Здаецца, бы хтосьці галосіць
Што восень ідзе без пары.

А я цябе стрэну з любоўю,
Самоце душу расхіну,
Журбою я келіх напоўню
І страты свае памяну.

Хай прыйдзе хутчэй залатая,
Хай сцеле туман ля вады.
Лістотай сваёй замятае
Халоднага лета сляды…

## СНЕГ РАССТАННЯ

Закружыў матылькамі
Белы снег над зямлёй.
Тут жа хутка знікае
На далоні маёй.

Пакідае надзея,
Што сустрэнемся мы.
Забяліў снег алеі,
Зацярушыў дамы.

Ён халодзіць павекі,
Растае на шчаках.
Мы казалі «навекі»,
Мы кляліся ў радках.

Ўсё калісьці праходзіць,
Пакідаючы след.
Ў ліхтарах карагодзіць
Матыльковы балет.

## НАЧНЫ ДОЖДЖ

Кроплі падаюць важка
Дзесьці там за акном.
Зноў заснуць будзе цяжка,
Быццам б'е метраном.

Ноч здаецца бясконцай,
Тоне ў рытме дажджу.
Сам чакаю я сонца,
А цябе не буджу.

Спі, мая дарагая.
Хай прысніцца табе
Саду квецень у маі,
Восень ў ціхай журбе.

Колькі згасла заранак
Ад тых першых сустрэч!
Колькі снежных буранаў
Ўжо пранеслася прэч!

Кроплі падаюць гулка.
За акном зноў вясна.
Можа, сніш ты рачулку,
Што з дзяцінства адна?

Вёска Марынцы сніцца,
На Усвейцы разліў?
Час не можа спыніцца,
Як бы ты ні маліў.

Паступова радзее
Кропляў гук у цішы.
Золак дорыць надзею,
Гоніць смутак з душы.

Спі, мая дарагая,
Адпачні ад турбот.
Ноч паціху згасае.
Дня вітаю прыход.

# АДРОДЖАНЫ БАКА

*Імя Юзафа Бакі ў Беларусі амаль невядомае. Яшчэ Пушкін наракаў: «...надзвычайныя людзі знікаюць у нас, не пакідаючы па сабе слядоў. Мы лянівыя і нецікаўныя». Што тычыцца Юзафа Бакі, гэтая скарга прымянімая і да нас на ўсе сто адсоткаў. Тым больш зневажальна і не зразумела, што на нашай зямлі жыў і тварыў вялікі паэт, які ва ўсім свеце лічыцца «славянскім Джонам Донам», чыю паэзію замежныя літаратуразнаўцы без аніякіх нацяжак называюць «вяршыняй сармацкага барока».*

*Нарадзіўся Юзаф Бака 18 сакавіка 1707 года ў Навагрудку ў шляхетнай сям'і. Яго бацька Адам Бака, герба «Масальскі», быў скарбнікам Мсціслаўскага павета і ўладальнікам вёсак Сліжань і Янушэвічы пад Барысавам. Юзаф скончыў каталіцкую школу таварыства езуітаў і ў 1735 годзе быў пасвячоны ў сан ксяндза.*

*Некаторы час ён працаваў выкладчыкам у езуіцкіх калегіях і ў Віленскім універсітэце, потым пяць год быў місіянерам у Дукштах. Аднак сапраўдным прызначэннем Бакі стала пастырская дзейнасць. У 1736 годзе ён быў накіраваны ў Мінск на пасаду рэктара езуіцкага вучылішча і настаяцеля Кальварыйскага касцёла. Тут адбылася падзея, пасля якой Бака атрымаў вядомасць ва ўсёй Рэчы Паспалітай. У верасні 1739 года ў Мінску раптоўна памёр паўнамоцны прадстаўнік караля Аўгуста III мечнік Ігнацы Завіша, які накіроўваўся на перамовы ў Санкт-Пецярбург.*

*Казанне Бакі на пахаванні надзвычайна ўзрушыла суайчыннікаў і вылучыла яго як лепшага аратара Польшчы і Літвы.*

*У той жа час бацька Юзафа прадае свае маёнткі Сліжань і Янушэвічы, а ўсе грошы перадае сыну, каб той змог заснаваць сваю парафію. Юзаф пераязджае ў сяло Блонь пад Ігуменам, дзе зараз размяшчаецца вядомы аграгарадок. Тут ён засноўвае касцёл і будынак царкоўнай школы, якія хутка становяцца найлепшымі ва ўсёй краіне.*

*Пастырскае служэнне Бакі ў Блоні доўжыцца амаль шаснаццаць гадоў. Юзаф актыўна перамяшчаецца па наваколлі з пропаведзямі і ўрокамі. Пасля гэтага з невядомай прычыны ён пакідае справы паслядоўнікам і перасяляецца ў Вільню, дзе ў 1773 годзе атрымлівае пасаду прафесара рыторыкі ў Віленскім універсітэце.*

*За ўсё жыццё Юзаф Бака ніколі не пакідаў межы ВКЛ. Толькі ў 1780 годзе ён упершыню ад'язджае на некалькі дзён у Варшаву, дзе нечакана і памірае 2 траўня. Пахаваны ён у крыпце Варшаўскага касцёла Ласкавай Боскай Маці на вуліцы Свентаянскай побач з магілай другога вялікага ліцвінскага паэта Мацея Казіміра Сарбеўскага.*

*Юзаф Бака надрукаваў некалькі зборнікаў рэлігійных прамоў і панегірыкаў, а таксама дзве кнігі вершаў: «Развагі пра смяротны стан і грахоўную злосць» і «Роздум пра непазбежную смерць».*

*І вось тут адбылося тое, што вельмі рэдка здараецца з творцамі. Калі казанні Бакі мелі ў Рэчы Паспалітай вялікі поспех ды пацвярджалі яго славу выдатнага прамоўцы, то вершы сучаснікі катэгарычна не прынялі.*

*Справа была ў тым, што Бака, па-першае, пісаў не «высокім штылем» на правільнай літаратурнай мове. Ягоная мова — густазамяшаны меланж з польскіх і старабеларускіх слоў, шчыра аздоблены лацінскімі, нямецкімі, англійскімі і французскімі ўстаўкамі. Бака, не саромеючыся, пераскоквае ў межах аднаго і таго ж верша (нават у межах адной і той жа страфы) з класіцысцкіх вяршынь да вульгарнай народнай гаворкі, з піетычнага стаў-*

*лення да Бога да натуралістычнага малявання самых непрывабных бакоў чалавечага жыцця. У той час гэта было незразумела і непрымальна.*

*Па-другое, Бака быў, хутчэй за ўсё, першым у сусветнай літаратуры аўтарам, які — наўмысна ці не — скарыстаў той прыём, што набудзе «правы грамадзянства» толькі ў пачатку XX стагоддзя і атрымае назву «плынь свядомасці». З той нагоды вершы Бакі лічыліся незразумелымі і нават вар'яцкімі. У польскую мову нават увайшоў устойлівы выраз: «вершы а-ля Бака» — што значыць «бязглуздыя вершы».*

*Абсурд у творах Бакі, безумоўна, ёсць. Але гэта той абсурд, з якога пазней павырасталі дадаізм, сюррэалізм і футурызм, а не абсурд дзеля абсурду. Для мяне як для перакладчыка гэты момант быў найбольш складаным: прыходзілася літаральна ўжывацца ў скуру аўтара, дакопваючыся паслоўна да таго сэнсу, які ён укладаў у вершы.*

*Другой асаблівасцю працы было тое, што Бака пісаў вершы на працягу ўсяго жыцця, а таму шмат якія з іх, напісаныя ў розныя гады, будучы сабраныя пад адной вокладкай, могуць стварыць уражанне, быццам у паэта вельмі сціплы рытмічны інструментарый. Бака з'яўляецца прыхільнікам чатырохстопнага харэя з паралельнымі жаночымі рыфмамі амаль у кожным радку. Такі памер характэрны для сілабічнага вершаскладання ў тых мовах, дзе, як у польскай, націск строга зафіксаваны на перадапошнім складзе.*

*Сучасная ж беларуская мова карыстаецца сілаба-танічным вершаскладаннем, і для нашага вуха сілабічная рытміка нудотная. Таму я пастараўся ў некаторых вершах пазбавіцца ад залішняй рытмічнай строгасці аўтэнтыка, карыстаючыся, тым не менш, вядомым прынцыпам: «Не нашкодзь».*

*Аднак вернемся да пасмяротнага лёсу вершаў Бакі. Пасля скону яго паэтычная спадчына была адразу ж начыста пазабытая, хаця вядома, што Адам Міцкевіч ставіўся да ягоных твораў з гумарам і сімпатыяй. Некаторыя літаратуразнаўцы нават лічаць, што вобраз яхіднага ксяндза ў паэме «Пан Тадэвуш» вырас з вершаў Бакі.*

*Толькі ў 1855 годзе Уладзіслаў Сыракомля сабраў усе яго вершы і надрукаваў у зборніку, які атрымаў назву «Адроджаны Бака». З той пары творчасць Бакі пачала вяртацца да чытачоў. Вядома, што акрамя Сыракомлі мастацкія вынаходкі Бакі актыўна скарыстоўваў Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. Нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш называў Баку сваім любімым паэтам. У Польшчы прысуджаецца літаратурная прэмія імя Юзафа Бакі. У 2003 годзе яго вершы былі ўпершыню перакладзены на літоўскую мову. Зараз да гэтага далучаецца і Беларусь.*

*Магчыма, сяму-таму чытачу некаторыя алюзіі і параўнанні Бакі здадуцца бруднымі і рызыкоўнымі, аднак не трэба забывацца, што мастацтва барока заўжды славілася сваёй «няправільнасцю» і часам збыткоўнасцю, а Бака, нягледзячы ні на што, быў шчырым святаром і вельмі рэлігійным чалавекам. Ён прынёс у нашу літаратуру і метафізічнасць Джона Дона, і натуралізм Рабле, Віёна ды Рансара, ён перасадзіў на нашу глебу гумар Яна Каханоўскага і Мікалая Рэя. І, пры ўсім тым, ён застаўся сапраўдным вернікам, які здолеў на народнай мове перадаць зладжанасць лацінскіх гімнаў і верлібраў.*

*На жаль, фармат часопіса не дазваляе надрукаваць пераклады ўсіх сарака вершаў Бакі, якія дайшлі да нас. Але маю спадзяванне, што абраныя творы са зборніка «Развагі пра смяротны стан і грахоўную злосць» змогуць прадэманстраваць чытачу адметнасць творчай манеры паэта: званне славянскага Джона Дона чаго-небудзь ды каштуе.*

***Глеб ГАНЧАРОЎ***

**Юзаф БАКА**

# ЗАЎВАГІ МЯЦЕЖНАЙ ДУШЫ

## ЗАЎВАГА ЗАСМУЧАНАГА СЭРЦА

Божа бязмежны ў ласкавай праяве,
Бег майго часу ўсё жвавей і жвавей.
Позна, вядома, але заклікаю:
«Дай мне пяшчоты, пакуль датляваю».
Побач са мной у журбе трыадзіна
Моляцца Дысмас[1], Таіс[2], Магдаліна:
«Божа, будзь шчыры!»

Мы, Твае дзеці, галосім адчайна,
Молім Цябе, як самотная чайка, —
Мы ўбудаваныя ў Боскія грудзі —
Праз міласэрнасць пытаем аб цудзе,
Праз сапсаваныя свайкамі раны,
Крыж і пакуты, грахі і заганы:
«Божа, будзь шчыры!»

На папярочках шляхоў скрыжаваных
Ты быў распяты ў краях акаянных.
Лівень крывавы і поту каскады
Змылі віну Гефсіманскага саду.
Я гэта бачыў праз тысячагоддзі
І заклікаю аб вечнай свабодзе:
«Божа, будзь шчыры!»

Страціў я неба, нягоднік ганебны.
Ты мне мацней за нябёсы патрэбны.
Як жа шкада, што для Боскай уцехі
Ў небе пакуль не расставіў я вехі!
Ты паўстаеш у бясконцай пяшчоце
Моцным шчытом усялякай істоце,
Сэрцам і думкам.

Я Цябе ганьбіў жыццём непрыстойным,
Скардзіў, як мог, ліхадзействам запойным,
Ды раскалупліваў хворыя раны,

---

[1] Дысмас — злачынец, які быў распяты на Галгофе побач з Ісусам Хрыстом; першы выратаваны з тых, хто ўвераваў у яго.

[2] Таіс Егіпецкая Фіваідская — хрысціянская святая IV веку; распусніца, якая раскаялася.

Боль падліваючы ў боль апантана.
Помсці цяпер мне ў маім пакаянні,
Помсці вялікаю сілай кахання,
Помсці без жалю!

Дай мне ў далейшым, Гасподзь міласэрны,
Тое, што здзейсніў Твой карнік мізэрны.
Супраць маёй абыякавай волі
Дай, каб пакуты мяне распаролі,
Бо я пасмеў растаптаць Тваю муку,
Чым стаў падобным на брыдкую суку!
Так я жадаю!

Вырві мяне, як камень, і з рагаткі
Стрэль, каб разбіліся лоб і лапаткі,
Сып перуны, размажджэр мае косці,
Грудзі крукамі парві на памосце,
Сэрца засмаж, хай навекі палае
Ў горане свята, які не згасае:
Вось мой ратунак!

Моўчкі трываюць мяне ў гэтым свеце
Езус з Марыяй, не змёўшы, бы смецце.
Чым заслужыў я, злачынец апальны,
Што не зваліўся ў агмень незгасальны?
З неба нядобра душа дакарае:
«Як жа ты жыў? Як ты марыў аб раі?»
І не адкажаш.

Марная п’яўка! Да вечнай заганы
Мукай Хрыстовай я прылітаваны.
Я прыпаду да Хрыстовых каленяў,
Крыж абдыму адпаведна Алене[1] —
Той, што аднойчы рупліва і чула
Крыж гэты зноў чалавецтву вярнула.
Злітуйся, Божа!

## ЗАЎВАГА ГАЛЕЧЫ ЧАЛАВЕЧАЙ

Крык чалавека — напэўнае дзіва;
Вось ён на свет нараджаецца з лона.
Крык чалавека — прадвеснік праўдзівы
Прышлых турбот, векавога праклёну!

---

[1] Алена — маецца на ўвазе маці рымскага імператара Канстанціна Вялікага, якая праславілася сваёй дзейнасцю па распаўсюджванні хрысціянства і праведзенымі раскопкамі ў Іерусаліме.

Слёзы дзіцяці, бы лівень з адлігай,
Як выхавальнік агідна за песты
Ўдосталь лупцуе што пугай, што кнігай
Рознага стану, адвольнага зместу.

Юнай вясной, на пачатку світання,
Енчыць шалёная душачка тленна,
Роспач адмовы з жаданнем кахання
Мучаць гаротніцу паперамення.

Сталасць хамут надзявае на плечы,
Цягнеш свой плуг безупынна і рупна,
Каб да багацця дабрацца з галечы…
О, чалавеча, усё недаступна!

Потым струхлееш, і роем дадому
Хворасці хціва ўварвуцца ў злагадзе:
Будзеш пакутаваць, болем ядомы,
Безліч гадзін у бясконцай асадзе.

Знікнеш ты ў царства, дзе здатныя здані
Зробяць цябе пад'ярэмнікам жарсці.
Крык чалавека — прадвеснік скanання!
Ну, і якога ражна нараджаўся?

## ЗАЎВАГА ВЯЧЭРНЯЯ

Дабранач, мой Божа, мой бацька і маці,
Дай добрага сну шабутному дзіцяці.
Няхай жа, спачыўшы ў ласкавых далонях,
З Табою ўсю ноч я бяседую сёння,
О, Божа каханы!

Дабранач, Ісусе, маё захапленне,
Вышэйшая сіла, святое сумленне!
Каб сэрца маё ад пяшчоты трымцела,
Я кожную цалю распуснага цела
Табе даручаю.

Пад ногі Твае галаву я складаю,
Вазьмі ж Ты мяне да ахоўнага раю.
Цішком апускаюся ў чыстыя раны,
Нібы на збавіцельны ложак каханы,
Дзе я засынаю.

Дабранач, мой Божа, зрабі Свайму сыну
З ягонага сэрца такую мясціну,
Каб гэтае сэрца пазбегла Эрэба
І ператварылася ў новае неба,
У светлы прытулак.

Дабранач, дабранач, святое каханне,
Мой любасны Божа, мой спадчынны Пане!
Я смагу спатоліў з салодкай крыніцы
І зараз пасну ў ціхамірнай святліцы
Пад зрокам бацькоўскім.

О, Боская Матка, Анёл-Захавальнік,
Мой цёзка святы, мой нябачны маўчальнік,
Мяне бараніце ад грэшных прымусаў,
Ад чортавых згадак, пякельных спакусаў,
Штоноч сцеражыце.

## ТЭКСТ ПРА СВЯТЫЯ ДАРЫ НА УШЭСЦЕ АЛЬБО ХРЭСНЫ ХОД

Кінем нябёсы з палкамі анёлаў
І чалавецтва ў бабінцах касцёлаў!
Лепей аздобім у яркія фарбы
Велічнасць Бога і слушнасці скарбы.
Ніцма ўпадзём перад цудам таемным,
Перад Ягоным бязмежжам надземным
З вераю сэрца.

Мітры, кароны і царскія троны,
Біце ілбамі зямныя наклоны!
Біце жывыя, і мёртвыя біце,
Зачараванне пакорна рабіце.
Ніцма ўпадзём перад цудам таемным,
Перад Ягоным бязмежжам надземным
З вераю сэрца.

Вось Ён сядзіць на ахрышчаным троне,
Песцячы нас у ласкавым улонні,
Зыркасць Сваю прытушыўшы вячэрна,
Каб не палохаць дзяцей міласэрна.
Ніцма ўпадзём перад цудам таемным,
Перад Ягоным бязмежжам надземным
З вераю сэрца.

Міласць святую святымі рукамі
Ён рассыпае над грэшнымі намі;
Мора пяшчоты калыску люляе,
Гора няцноты далоў адганяе.
Неба і ўзгоркаў цвінтарных падполле
Гучна вітаюць Айцоўскую волю,
Боскую волю.

Вока не бачыць, а сэрца даймае,
Ці сапраўды Ён зямлю абдымае?
Ці сапраўды Яго цела ў прасвіру

Пераўтварылася нам дзеля міру?
Ніцма ўпадзём перад цудам таемным,
Перад Ягоным бязмежжам надземным
З employing вераю сэрца.

Манна ў пустыні Ізраіль карміла,
Спеў вінаград на адгор’ях Карміла,
Аб залатога куміра без жалю
Ўшчэнт Маісей размажджэрыў скрыжалі,
І са скалы біў струменьчык пунсовы,
Быццам сачыліся раны Хрыстовы
Даўкай секірай.

Мы — прорва гневу, а Бог — безліч ласкі.
Як жа абрыдлі Яму свістапляскі,
Нашы злачынствы, кашмары і кары;
Мы не прынялі Ягонай ахвяры.
Мы не прынялі ні ран, ні скanання,
Нам без патрэбы Яго даравання,
Міласць Хрыстова.

Божа, Ты бацька сынам марнатраўным,
Што аб’ядаліся плодам нястраўным.
Як Ты ўзнясешся з распяцця ў бязмежжа,
Кожнаму зварыш багатую ежу,
Каб спадарамі на тым баляванні
Мы сустракалі бяспечна скананне
Дарам таемным.

Хлебам карміла нас цела Хрыстова,
Кроў, што віно, напаіла мядова.
Гэтую кроў хлапчукі і калекі
Лічаць мацнейшай за горкія лекі
І саладзейшай за смак мірабэлі,
Каб мы ад голаду не аслабелі
Ў пошуках раю.

## ТЭКСТ ДА СВЯТОГА ЖАНА-ФРАНСУА РЭЖЫ[1], СВЯТОГА ІСУСА МІСІЯНЕРА

Жан-Франсуа, сын французскай краіны,
Светач руплівасці, дбайца пчаліны,
Дай нам каханне і ўпэўненасць веры,

[1] Жан-Франсуа Рэжы (1597—1640; кананізаваны ў 1737 г.) — французскі місіянер-езуіт; праславіўся сваёй дабрачыннай дзейнасцю па стварэнні прытулкаў для распусніц і лячэнні хворых на поўдні Францыі падчас эпідэміі чумы. Юзаф Бака памыляецца, калі кажа, што Рэжы быў забіты: ён сканаў ад запалення лёгкіх, калі даглядаў хворых. З’яўляецца нябесным ахоўнікам ордэна езуітаў. Верш напісаны з нагоды кананізацыі Рэжы.

Чыстыя словы, святыя намеры.
Некалі Бог са смяротнае пашчы
Выняў Цябе, і Ты потым прапашчых
Сам выдзіраў з люцыпаравай зеўры,
Сотні аблудных збярогшы ад хеўры.
Цела Тваё за злачынствы чужыя
Змучылі ўшчэнт, паднялі на нажы і
Прагна забілі, як Бога, згубілі
Тыя, хто чорныя справы рабілі.
Хай жа хоць кропляй крыві благачыннай
Змые Ісус Тваёй смерці прычыны,
Жан-Франсуа з езуіцкае школы,
Верны прыхільнік святога Лаёлы!
Нас навучы жыць у боязі Боскай,
А не шукаць пагулянкі сяброўскай.
Ты цудатворна Ісусавым прахам
Хворых вылечваў адзіным узмахам.
Стань для журботных таварышам спраўным,
Дзецям-сіротам — заступнікам слаўным,
І жабракі да Ісуса маленні
Будуць узносіць, схіліўшы калені.

***Пераклад з польскай Глеба ГАНЧАРОВА.***



**Мікола ТРУС**

# ПЕРСАНАЛЬНЫЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫІ: ВЫДАВЕЦКІ І НАВУКОВЫ ДЫСКУРС

Удачыненні да энцыклапедый вельмі часта ўжываюцца метафарычныя вызначэнні — «пашпарт нацыі», «інтэлектуальная візітка народа» і інш. Характарыстыкі ёмістыя, не пазбаўлены некаторага пафасу, але пры гэтым відавочна, як высока яны ўздымаюць планку адказнасці за вынікі сваёй працы вялікага калектыву складальнікаў, аўтараў, выдаўцоў.

Можна сцвярджаць, што за апошняе дзесяцігоддзе ў Беларусі сфарміравалася новае пакаленне ўніверсальных выданняў. Энцыклапедычныя даведнікі «Янка Купала» (1986) і «Францыск Скарына» (1988) выйшлі яшчэ за савецкім часам, іх перавыданне ў 2017—2018 гадах у дапоўненым і перапрацаваным выглядзе прадыктавана неабходнасцю ліквідацыі многіх тэматычных лакун, пазбаўлення ад ідэалагічнай зададзенасці і цэнзуравання мінулай эпохі, уліку развіцця гуманітарыстыкі апошніх дзесяцігоддзяў. Адзначым, што даведнікі другой паловы 1980-х гадоў аб’ектыўна забяспечылі рэспубліцы пазіцыі лідара ў выданні энцыклапедый сярод рэспублік Савецкага Саюза.

Найноўшы час дэманструе беларускі намер, падмацаваны рэальнай справай, утрымліваць свой аўтарытэт на кніжным рынку і ў інфармацыйна-культурнай прасторы. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ажыццявіла выданне энцыклапедый «Максім Багдановіч» (2011), «Францыск Скарына» (2017), «Янка Купала» (т. 1, 2017; т. 2, 2018). Паколькі трэці том апошняй з названых яшчэ знаходзіцца ў працы, мы маем магчымасць узяць за аснову разгляду толькі два першыя.

Праблемы сучаснай энцыклапедыстыкі наогул вельмі часта абмяркоўваюцца кулуарна, медыйна, але вельмі рэдка становяцца прадметам сістэмнага навуковага разгляду. Актуальным становіцца суіснаванне даведачнай інфармацыі ў інтэрнэце і на папяровых носьбітах. Мы не ставілі сваёй задачай падключыцца да абмеркавання глабальных пытанняў такога кшталту. На мэце — прадставіць першую спробу ўпісання найноўшых беларускіх персанальных энцыклапедый у еўрапейскі кантэкст. Кожнае выданне вельмі маштабнае і працаёмістае, шматаўтарскае, таму наяўнасць пэўных хібаў і спрэчных момантаў — рэч неад’емная. Мы засяродзім сваю ўвагу толькі на некаторых канцэптуальных момантах.

## З існуючага вопыту

Персанальныя літаратурныя энцыклапедыі — гэта выданні энцыклапедычнага жанру, цалкам прысвечаныя аднаму пісьменніку, у якіх дэталёва прадстаўлены біяграфія, творчасць, гісторыя іх даследавання і асэнсавання. Як паказвае міжнародны вопыт, такія выданні могуць быць плёнам калектыўнай або індывідуальнай даследчыцкай працы. Персанальныя энцыклапедыі, як правіла, падводзяць рысу пад пэўным этапам вывучэння творчай спадчыны аднаго з класікаў нацыянальнай літаратуры.

На Захадзе персанальныя энцыклапедыі ўпершыню ўбачылі свет у канцы XIX ст., найбольшае іх распаўсюджанне прыйшлося на XX ст. Як падсумаванне

працы літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, гісторыкаў узніклі энцыклапедыі, энцыклапедычныя даведнікі, прысвечаныя Р. Бёрнсу, Ч. Дзікенсу, І.-В Гётэ, У. Блэйку, Ф. Кафку, У. Тэкерэю, Ф. Шылеру, У. Шэкспіру і іншым пісьменнікам.

Праца над першай персанальнай літаратурнай энцыклапедыяй — Пушкінскай — была распачата ў пачатку 1930-х гг., і да гэтага часу мы маем магчымасць азнаёміцца толькі з этапнымі вынікамі гэтага маштабнага праекта.

За савецкім часам першым літаратурным выданнем энцыклапедычнага характару стаў «Шаўчэнкаўскі слоўнік» у 2 тамах (1976—1977), падрыхтаваны Інстытутам літаратуры імя Т. Р. Шаўчэнкі АН УССР.

Адной з лепшых у гісторыі еўрапейскай энцыклапедыстыкі лічыцца «Лермантаўская энцыклапедыя» (1981), праца над якой вялася ў Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскім доме) з 1958 г. Выданне падвяло рысу пад напрацоўкамі лермантазнаўства, стала ўзорам для даведачнай літаратуры падобнага кшталту ў савецкай і постсавецкай інфармацыйна-культурнай прасторы. Тэматычныя блокі энцыклапедыі складаюць своеасаблівы зместавы канон персанальных літаратурных энцыклапедый: агульныя звесткі пра жыццё і творчасць, радавод, літаратурнае і побытавае акружэнне, паслядоўнікі, даследчыкі, асэнсаванне сюжэтаў і вобразаў у розных відах мастацтва, асаблівасці паэтыкі, сувязі М. Лермантава з замежнымі літаратурамі, лермантаўскія мясціны і інш. Кожнаму твору адведзены асобны артыкул.

Вехавымі падзеямі рэспубліканскага і агульнасаюзнага ўзроўняў стала выданне беларускіх даведнікаў: персанальнага літаратурнага «Янка Купала» (1986) і персанальнага культуралагічнага, мастацтвазнаўчага «Францыск Скарына і яго час» (1988). Адзначым парадаксальнасць адначасова зафіксаванага жанравага вызначэння гэтых фундаментальных прац: «энцыклапедычны даведнік» на вокладцы і «энцыклапедыя» ў анатацыі, уступным артыкуле.

Упершыню выхад купалаўскага выдання анансаваў Алесь Петрашкевіч, намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва «БелСЭ імя П. Броўкі». На старонках часопіса «Беларусь» (1982, № 1) ён пазнаёміў шырокую чытацкую аўдыторыю з канцэпцыяй, некаторымі нюансамі падрыхтоўчай працы: «Энцыклапедычны даведнік “Янка Купала” задуманы як усебаковае і грунтоўнае выданне пра жыццё і дзейнасць народнага паэта Беларусі, прымеркавана да 100-годдзя з дня нараджэння песняра. У даведнік увойдуць больш як 3500 артыкулаў. Размешчаныя паводле алфавітнага прынцыпу, яны будуць прысвечаны паэмам, вершам, п’есам, публіцыстычным выступленням, мясцінам, звязаным з біяграфіяй паэта, раскажуць пра аб’яднанні, арганізацыі, выдавецтвы, з якімі была звязана яго дзейнасць, пра партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў літаратары, навукі і мастацтва, з якімі знітаваўся творчы або асабісты лёс Янкі Купалы. Над стварэннем даведніка працуе спецыяльная рэдакцыя выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя П. У. Броўкі. У яе аўтарскім актыве — дзясяткі вядомых пісьменнікаў, вучоных іншых рэспублік, Масквы і Ленінграда».

З прыведзенай цытаты акцэнтуем увагу на тым, што пры падрыхтоўцы купалаўскага даведніка 1986 года (плануемы яго выхад у 1982 годзе не спраўдзіўся) быў задзейнічаны інтэлектуальны патэнцыял асноўных навукова-даследчых цэнтраў Савецкага Саюза. Сёння выдаўцы істотна абмежаваны ў такіх магчымасцях, хоць да працы над стварэннем энцыклапедый «Максім Багдановіч» і «Янка Купала» некаторыя замежныя спецыялісты ўсё ж далучаны былі. Так, час змяніўся, нешта было страчана, штосьці, пакліканае да жыцця новымі магчымасцямі, узнікла і сцвердзілася ў сваёй дзейнасці. У гэтай сувязі цалкам лагічным было б чакаць актыўнага і непасрэднага ўдзелу Міжнароднага фонду Янкі Купалы (створаны ў 1995 годзе), арганізацыі, устаўной мэтай якой з’яўляецца садзейнічанне больш дасканаламу вывучэнню жыцця і творчасці песняра, вызначэнне яго месца і ролі ў беларускай і сусветнай літаратуры. Паводле сеціўнай інфармацыі, у склад фонду ўваходзяць 7 суполак у Беларусі і 6 за мяжой — у Літве (Вільнюс), Латвіі (Рыга, Даўгаўпілс), Польшчы (Варшава), Расіі (Масква, Санкт-Пецярбург, Казань).

Універсальнае даведачнае выданне «Янка Купала» выйшла ў 1986 годзе. Маем магчымасць параўнаць праанансаванае і здзейсненае. У анатацыі чытаем: «“Янка Купала” — першая на Беларусі персанальная энцыклапедыя. Асвятляе асноўныя моманты жыцця і творчасці народнага паэта Беларусі. У ёй змешчана 3095 артыкулаў. Гэта артыкулы, прысвечаныя творам паэта, праблемныя артыкулы пра творчасць Я. Купалы, лірыку, драматургію, публіцыстыку, паасобныя жанры, вобразы, пра сувязі паэта з рускай літаратурай, літаратурамі народаў СССР і замежных краін, пра ўвасабленне купалаўскай тэмы ў выяўленчым мастацтве, музыцы, тэатры, кіно. Кніга багата ілюстравана».

Ва ўступным артыкуле да энцыклапедычнага даведніка «Францыск Скарына і яго час» адзначаецца, што гэта «другая на Беларусі персанальная энцыклапедыя (пасля Купалаўскай). <…> Даведнік фактычна з’яўляецца падрахункам развіцця скарыназнаўства ў краіне. У кнізе 728 артыкулаў. Змешчаны артыкулы пра ўсе выданні Ф. Скарыны, у якіх даецца аналіз структуры выдання і паліграфічных асаблівасцей выканання, гісторыі знаходкі і вывучэння, інфармацыя аб наяўнасці выдання ў кнігазборах краіны і за мяжой; артыкулы пра мастацкае аздабленне выданняў, іх графічную арнаментыку, а таксама пра кожную з кніжных гравюр. Шэраг артыкулаў прысвечаны гістарычным дзеячам і геаграфічным месцам, якія неаднаразова сустракаюцца ў тэкстах скарынінскіх прадмоў і пасляслоўяў. Частку матэрыялаў даведніка складаюць абагульняльныя артыкулы пра кнігавыдавецкую, асветніцкую, літаратурную дзейнасць Ф. Скарыны, у якіх разглядаецца яго філасофска-этычныя, дзяржаўна-прававыя, эстэтычныя погляды, патрыятызм».

Новае жыццё расійская практыка падрыхтоўкі і выпуску персанальных літаратурных энцыклапедый атрымала ў пачатку 1990-х гадоў. На гэты працэс накладвалі адбітак шэраг акалічнасцей найноўшай гісторыі: камерцыялізацыя кніжнай справы, неабходнасць мабільна рэагаваць на патрэбы і запыты чытача, канкурэнцыя на рынку кніжнай прадукцыі і інш.

Адзін з прыкладаў квазівыданняў новага пакалення — «Пушкінская энцыклапедыя. 1799—1999» (1999), якая выйшла да 200-гадовага юбілею паэта і ўяўляе сабой падарункавы, багата ілюстраваны варыянт даведачнай літаратуры. Выданне ўключае біяграфію А. С. Пушкіна, храналагічны агляд яго творчасці, успаміны сучаснікаў, звесткі пра акружэнне паэта, прамовы і артыкулы пісьменнікаў, прысвечаныя класіку рускай літаратуры.

Расійскую серыю аўтарскіх персанальных энцыклапедый распачала «Кароткая ахматаўская энцыклапедыя: ад А да Я» (1991) С. Умнікава. Эстафету падхапілі аўтары выданняў, прысвечаных жыццю і творчасці М. Булгакава, М. Гогаля, Ф. Дастаеўскага, В. Шукшына і інш.

У другой палове 1990-х расійская энцыклапедыстыка прадставіла новы жанр універсальнай даведачнай літаратуры — персанальна-рэгіянальныя літаратурныя энцыклапедыі. Так, у Арэнбургу ў 1997 г. убачылі свет адразу тры выданні т. зв. «Арэнбургскай трылогіі»: Пушкінская, Талстоўская і Шаўчэнкаўская энцыклапедыі, падрыхтаваныя Л. Бальшаковым. Традыцыі краязнаўства падмацаваны выданнямі — плёнам калектыўнай працы даследчыкаў «Пушкінская энцыклапедыя “Міхайлаўскае”» (Масква, 2003, «Замяцінская энцыклапедыя. Лебядзянскі кантэкст» (Ялец, Тамбоў; 2004), «Шукшынская энцыклапедыя» (т. 1—2, Барнаул, 2005). Зараз вядзецца праца па стварэнні Прышвінскай, Розанаўскай, Хлебнікаўскай, Чэхаўскай, Ясенінскай энцыклапедый.

## Тры ўрокі ад Лотманаў

Пасля выхаду «Лермантаўскай энцыклапедыі» з’явілася шмат рэцэнзій, як правіла вельмі ўхвальнага характару. Адна з найбольш цікавых і аналітычна значных, на наш погляд, належыць Юрыю і Міхаілу Лотманам. Паказальна, што крытычны матэрыял пад назвай «“Лермонтовская энциклопедия” и проблемы

построения персональных литературных энциклопедий» спачатку быў апублікаваны на эстонскай мове ў часопісе «Keel ja Kirjandus» (=Мова і літаратура) (1982, № 12), яго рускамоўная версія пабачыла свет толькі ў 1995-м.

Тартускія рэцэнзенты высока ацанілі гэтае выданне, дэталёва разгледзелі яго спецыфіку, дасягненні і недахопы. Праведзены скрупулёзны аналіз надзвычай каштоўны для стваральнікаў энцыклапедый. У 1982 годзе Лотманы вывелі наступныя ўрокі «Лермантаўскай энцыклапедыі», карысныя, на іх погляд, пры падрыхтоўцы будучых даведнікаў універсальнага тыпу:

«1. Энцыклапедыя не можа стварацца на пустым месцы або з'яўляцца пачатковым этапам работы: яна адлюстроўвае ўжо *дасягнуты* ўзровень і з'яўляецца свайго роду люстэркам навукі. Там, дзе "Лермантаўская энцыклапедыя" абапіралася на дасягненні лермантазнаўства, яна дабілася бясспрэчных поспехаў. Але яна ж прадэманстравала асноўнае слабое месца сучаснай навукі аб Лермантаве: суб'ектыўнасць у аналізе мастацкага тэксту, адсутнасць аднастайнасці пры падыходзе да такога аналізу, г. зн. распаўсюджаную хваробу сучаснай літаратуры. Гэта прывяло да таго, што вартасці тых ці іншых артыкулаў, якія датычацца эстэтычнага боку лермантаўскага тэксту, вызначаюцца інтуіцыяй, густам і талентам аўтара таго ці іншага артыкула, а не строгай методыкай аналізу.

2. Вопыт паказвае, што адным з найважнейшых бакоў справы застаецца састаўленне слоўніка. Слоўнік павінен ахопліваць без пропускаў увесь неабходны матэрыял, а гэта можа ўзнікнуць толькі тады, калі даследаванне праводзіцца па абдуманым плане.

3. Са сказанага вынікае, што энцыклапедыю могуць ствараць толькі аўтары, якія складаюць *калектыў*, працуюць па адзіным плане.

Такім чынам, падрыхтоўка энцыклапедыі падобнага тыпу не толькі падводзіць вынікі, але і з'яўляецца арганізатарам, стымулятарам навуковага жыцця. І з гэтага пункту гледжання выданне падобных энцыклапедый у нашай рэспубліцы вельмі жаданае. Яно можа з'явіцца адным са сродкаў стымулявання і аб'яднання навуковых сіл».

Найноўшая гісторыя энцыклапедыстыкі ўнесла свае карэктывы. Калі першыя два лотманаўскія ўрокі ў значнай ступенені захоўваюць сваю слушнасць, то апошні не стаў выконвацца так бескампрамісна, як быў прапісаны. Сёння мы маем прыклады, калі энцыклапедыю стварае *адзін аўтар*. У гэтым ёсць адлюстраванне спецыфікі часу, з яго паскоранасцю, дынамікай, зменай грамадскай парадыгмы, дэ(неа)міфалагізацыяй, пераносам акцэнтаў з калектыўнай на індывідуальную творчасць.

Вось ужо два дзесяцігоддзі на кнігавыдавецкім рынку Расійскай Федэрацыі знаходзіцца неаднаразова перавыдадзеная энцыклапедыя Барыса Сакалова «Булгакаў» (або «Булгакаўская энцыклапедыя»). Апошняя «Булгакаўская энцыклапедыя» (2016) мае падзагаловак «самае поўнае выданне». Перад намі выключна аўтарская кніга, якая да таго ж выйшла ў аўтарскай рэдакцыі. Барыс Сакалоў — вядомы расійскі булгаказнаўца, доктар філалагічных і кандыдат гістарычных навук. Аднаасобна ім падрыхтаваны тэксты ўсіх артыкулаў, даведачны апарат, падабрана ілюстрацыйнае афармленне. У прадмове Б. Сакалоў патлумачыў канцэпцыю і асноўныя прынцыпы адбору матэрыялу:

«Нягледзячы на вучоную назву — "энцыклапедыя", яна не занадта акадэмічная і па магчымасці папулярная (але не ў страту ісціне і не за кошт дакладнасці вывадаў і ацэнак). Мы свядома ставілі за мэту сабраць у ёй найбольш цікавыя для самай шырокай публікі звесткі аб жыцці і творчасці Булгакава. У той жа час у энцыклапедыі няма дэтальнага апісання ўсіх фельетонаў і рэпартажаў пісьменніка, многія з якіх уяўляюць цікавасць толькі для спецыялістаў-булгаказнаўцаў. Няма і артыкулаў, прысвечаных усім булгакаўскім родным і знаёмым, усім пісьменнікам і філосафам, якія паўплывалі на аўтара "Майстара і Маргарыты" (інакш прыйшлося б у некалькі разоў павялічыць

аб'ём энцыклапедыі)»; «Мы імкнуліся даць усім прыхільнікам Булгакава новыя падставы для роздумаў і адначасова з дапамогай некаторых цвёрда ўстаноўленых фактаў развеяць шэраг міфаў, звязаных з іменем і творамі гэтага найпапулярнейшага пісьменніка».

## «Максім Багдановіч» (2011): ад задумы да здзяйснення

Прыцягальнае слова класіка беларускай літаратуры больш за два дзесяцігоддзі таму паклікала да жыцця значную для беларускай культуры ініцыятыву: стварэнне і выданне энцыклапедыі паэта.

Падобны вопыт у інфармацыйна-культурнай прасторы былога Савецкага Саюза ўжо быў назапашаны дзякуючы энцыклапедычнаму даведніку «Янка Купала» ды і нядаўняя яго папярэдніца «Лермантаўская энцыклапедыя» давала на той час узор аб'яднанай працы літаратуразнаўцаў, мастацтвазнаўцаў, архівістаў, спецыялістаў музейнай справы і г. д.

У 1987 годзе па ініцыятыве загадчыка рэдакцыі «БелСЭ імя П. Броўкі» Івана Саламевіча (для навукоўцаў і шырокага кола грамадскасці вядомага па публікацыях найперш як Янка Саламевіч) пачалася праца над будучай энцыклапедыяй. Даследчыкам быў складзены слоўнік, запрошаны да супрацоўніцтва вядучыя багдановічазнаўцы.

Ініцыятыва І. Саламевіча насіла прыватны характар, не была аформлена арганізацыйна, падмацавана фінансава; да гэтага дадаваліся яшчэ шэраг неспрыяльных абставін аб'ектыўнага характару, таму ў пачатку 1990-х гг. праца над энцыклапедыяй была спынена, а падрыхтаваныя артыкулы леглі ў архіў выдавецтва.

Толькі ў 2008 годзе па ініцыятыве навукоўцаў НАН Беларусі, супрацоўнікаў Літаратурнага музея М. Багдановіча, Нацыянальнага архіва, выкладчыкаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта справу ўдалося рэанімаваць. Нарада ініцыятыўнай групы прайшла 9 красавіка 2008 года ў музеі паэта. На грамадскіх пачатках навуковым рэдактарам будучага выдання быў абраны былы дырэктар Літаратурнага музея М. Багдановіча, аўтар гэтага артыкула.

З запрашэннем вядучых навукова-даследчых арганізацый Рэспублікі Беларусь быў удакладнены слоўнік, падрыхтаваны І. Саламевічам, з улікам новых рэалій часу, стану гуманітарнай навукі, дасягненняў у галіне багдановічазнаўства. Вызначыўся бліжэйшы план дзеянняў, канстатавалася неабходнасць перагляду і дапрацоўкі раней сабраных матэрыялаў у сувязі са зменай ідэалагічнай каштоўнаснай парадыгмы ў грамадстве. Праца атрымала новы імпульс, калі выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» ўзначаліла Таццяна Бялова.

Для рэдакцыйнай калегіі, аўтарскага, рэдактарскага калектываў стала відавочна, наколькі перапынак у працы над выданнем аб'ектыўна паспрыяў назапашанню фактаграфічнай базы; за кароткі па гістарычных маштабах перыяд у нацыянальную культуру былі вернуты выбітная асобы, якія былі знаёмыя з М. Багдановічам, спрыялі папулярызацыі і навуковаму асэнсаванню яго творчасці (Іван і Антон Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі і інш).

У 1991-м у Мінску да 100-годдзя з дня нараджэння паэта былі адчынены Літаратурны музей Максіма Багдановіча і яго філіял «Беларуская хатка», якія сталі не толькі важнымі цэнтрамі экспанавання матэрыялаў, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю песняра чыстай красы, яго акружэння, а таксама ўзялі на сябе ролю лакаматываў навуковай думкі: тут праводзяцца міжнародныя навукова-практычныя канферэнцыі, выдаюцца зборнікі архіўных матэрыялаў. У пачатку XXI ст. набыў свае завершаныя абрысы філіял «Фальварак Ракуцёўшчына» ў Маладзечанскім раёне Мінскай вобласці.

Асноўныя кірункі ў галіне багдановічазнаўства ў апошнім дзесяцігоддзі XX ст. — першым дзесяцігоддзі XXI ст. былі непасрэдным чынам звязаныя з гра-

мадска-палітычнай сітуацыяй у Беларусі, набыццём і ўмацаваннем дзяржаўнага суверэнітэту. Адкрытасць архіваў, вяртанне раней забытых імёнаў нацыянальнай гісторыі, актыўны міжкультурны дыялог, далучэнне да сілавога культурнага поля краіны беларускай дыяспары адкрылі новыя далягляды для гэтай галіны айчыннага літаратуразнаўства.

Вехавай падзеяй стала выданне Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі Поўнага збору твораў Максіма Багдановіча ў 3 тамах (1992 —1995), у якім сабрана ўся вядомая спадчына паэта, зняты купюры з яго твораў. Даследаванні прысвечаны праўдзіваму і поўнаму асвятленню ўзаемадачыненняў М. Багдановіча з дзеячамі беларускага адраджэння, украінскімі пісьменнікамі пачатку ХХ ст., стварэнню дэталёвага радаводу паэта, увядзенню ў навуковы ўжытак невядомых архіўных матэрыялаў, асэнсаванню месца класіка беларускай літаратуры ў беларускай, славянскай, заходнееўрапейскай, сусветнай культурнай прасторы.

У працы над энцыклапедыяй сышліся розныя пакаленні даследчыкаў. Вялі рэй працы, заставаліся нязменнымі стырнавымі прадстаўнікі старэйшага пакалення даследчыкаў: Вячаслаў Рагойша, Міхась Мушынскі, Яўген Гарадніцкі і інш.

Са студзеньскага нумара за 2009 год навуковага і метадычнага часопіса «Роднае слова» пачала сваю дзейнасць рубрыка «У энцыклапедыю “Максім Багдановіч”», якая фактычна ўзяла на сябе ролю стымулу і масмедыйнай падтрымкі працы над выданнем, што рыхтавала выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі». Гэты факт супрацоўніцтва яшчэ не меў прэцэдэнтаў у гісторыі беларускай гуманітарнай навукі і выдавецкай практыкі.

Часопісныя апрабацыі стымулявалі актыўнасць даследчыкаў, дазвалялі падаць сціслы даведачны матэрыял у пашыраным варыянце. Такія публікацыі падказвалі новыя тэмы для энцыклапедыі: успрыманне творчасці паэта вачыма нашаніўскіх сучаснікаў, М. Багдановіч і параўнальнае літаратуразнаўства, жыццё і творчасць паэта ў інтэрнэт-прасторы і інш. Артыкулы адразу дэманстравалі як мінімум двaісты характар тэм: падводзілі пэўную рысу пад напрацаваным матэрыялам і адначасова вызначалі перспектывы для далейшых пошукаў, новых падыходаў, замацоўвалі адкрыты характар узнятых пытанняў.

Працу над выданнем падштурхнуў важны дакумент рэспубліканскага значэння: Пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь № 187 ад 14 лютага 2011 г. «Аб мерапрыемствах, прысвечаных 120-годдзю з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча».

У снежні 2011-га ўбачыла свет доўгачаканая энцыклапедыя «Максім Багдановіч» — плён калектыўнай працы, трэцяе выданне з ліку персанальных літаратурных даведнікаў у Беларусі, сімвалічнае «хрышчэнне» якога адбылося каля помніка паэту ў Мінску, у юбілейны дзень нараджэння песняра чыстай красы.

Некалькі гадоў існавання энцыклапедыі на кніжным рынку, у навуковым і чытацкім ужытку суправаджаліся рэцэнзіямі ў нашай краіне і за яе межамі. Аўтарамі выказваліся і ўхвальныя словы, і крытычныя заўвагі, што пашыраліся на стан сучаснай беларускай энцыклапедыстыкі наогул. Навуковая грамадскасць, падахвочаная практычнай рэалізацыяй праекта, выступала з ініцыятывай пачатку працы над падобнымі выданнямі, прысвечанымі іншым класікам беларускай літаратуры; гучалі галасы на карысць перавыдання (перапрацаванага і дапоўненага) энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (1986).

Як і планавалася, энцыклапедыя «Максім Багдановіч» не закрыла тэму, а падвяла пэўную рысу пад шматаспектнымі даследаваннямі, адпаведнымі часу і стану гуманітарнай навукі. Яна стала фундаментам, зыходным пунктам сістэмы каардынат перспектыўных росшукаў, дыскусійнага поля бачання жыцця і творчасці паэта, мастацкай інтэрпрэтацыі яго спадчыны, урэшце — асновай новага выдання.

Рубрыка «У энцыклапедыю “Максім Багдановіч”», запачаткаваная ў «Родным слове», выканала этапныя функцыі апрабацыі матэрыялаў, але яна далёка не вычарпала свой масмедыйны патэнцыял. Сёння гэта чарговае запрашэнне ўсіх зацікаўленых да працы над новым выданнем — з улікам крытычных заўваг, архіўных знаходак, найноўшых даследаванняў і мастацкіх інтэрпрэтацый.

Пасля выхаду энцыклапедыі «Максім Багдановіч», шматлікіх рэцэнзій і водгукаў на выданне ў СМІ наспела неабходнасць калегіяльна падвесці вынікі працы, акрэсліць перспектывы стварэння наступных кніг. У 2012 годзе рэдакцыяй газеты «Звязда» быў арганізаваны «круглы стол», прысвечаны персанальным даведачным выданням у Беларусі (мадэратар — рэдактар аддзела культуры Ларыса Цімошык). У ім бралі ўдзел намеснік дырэктара Інстытута мовы і літаратуры НАН Беларусі Сяргей Гаранін, дырэктар музея Янкі Купалы Алена Ляшковіч, загадчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ Вячаслаў Рагойша, загадчык кафедры беларускай філалогіі БДТУ Мікола Трус, прадстаўніцы выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя» Ганна Малей і Таццяна Рослік. Быў абмеркаваны шэраг існуючых праблем: актуальны стан, спецыфіка падрыхтоўчай працы над персанальнымі літаратурнымі энцыклапедыямі, набыткі энцыклапедыі «Максім Багдановіч», наспелая неабходнасць перагляду і папаўнення энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (1986) і інш. Калегіяльна сфармуляваны і агучаны наступныя прапановы, адрасаваныя зацікаўленым міністэрствам і ведамствам, профільным навуковым і адукацыйным установам:

«…у сувязі з юбілеем Янкі Купалы разгледзець магчымасць перастварэння энцыклапедычнага даведніка “Янка Купала» ў паўнавартасную энцыклапедыю, уключыць падрыхтоўку выдання ў план юбілейных мерапрыемстваў 2012 года;

у якасці дадатковага заахвочвання разгледзець магчымасць памяншэння гадавой планавай вучэбнай нагрузкі для выкладчыкаў ВНУ (на 100—200 гадзін), а таксама навуковай нагрузкі для супрацоўнікаў НАН Беларусі, якія плённа ўдзельнічаюць у падрыхтоўцы энцыклапедычных выданняў;

лічым мэтазгодным уключаць энцыклапедычныя артыкулы ў лік навуковых публікацый (паводле ВАК): гэта б зацікавіла ў працы многіх даследчыкаў, навукоўцаў, аспірантаў».

## «Янка Купала»: 1986—2018

Агульны аналіз трохтомнай энцыклапедыі «Янка Купала» мэтазгодна праводзіць пасля яе поўнага выхаду. Ужо цяпер відавочна, што гэта будзе фундаментальнае выданне, настольнае для купалазнаўцаў. Паколькі завяршальны том на момант напісання гэтага артыкула яшчэ ў працы, то ў сітуацыі магчымасці некаторых карэкціровак выкажамся вельмі тэзісна, па магчымасці канкрэтна, з прыцэлам на далейшую палеміку.

Пры ўсіх крытычных заўвагах на адрас энцыклапедычнага даведніка «Янка Купала» (1986) сёння ўсім відавочная яго класічнасць і нават непераўзыдзенасць. Гэта датычыцца найперш зместавай напоўненасці, вытрыманасці агульных падыходаў пры афармленні артыкулаў, даведачнага апарата. І галоўнае — відавочная канцэптуальнасць выдання, прысутнасць стрыжнёвай ідэі. Так, гэты моцны ідэалагічны «хрыбет» даведніка сфарміраваны часам, грамадска-палітычнымі ўмовамі, агульнапрынятымі рамкамі і канонамі, але ён робіць выданне прадуманым, калегіяльна вывераным, дысцыплінавана-строгім у афармленні.

Да энцыклапедыі «Янка Купала» гэтыя характарыстыкі, думаецца, не заўсёды прымяняльныя. Складальнікі і аўтары не маглі не адмовіцца ад былых партыйных і ідэйна-эстэтычных арыенціраў. Але часта можна заўважыць, што гэтыя арыенціры прыбраны ледзь не механічна, пры гэтым «хрыбет» выдання заўважна «памякчэў».

Думаецца, стрыжнем энцыклапедыі мог бы стаць купалазнаўчы дыскурс, сфарміраваны за апошнія тры дзесяцігоддзі. Яго складнікі (з living разнавектарнымі ўстаноўкамі на захаванне культу класікі, пазбаўленне ад стэрэатыпаў, развянчанне некаторых міфаў і г. д.) апрабаваны і прадстаўлены ў вехавых публікацыях Уладзіміра Гніламёдава, Вячаслава Рагойшы, Ірыны Багдановіч, Георгія Коласа і інш., агучаны ўдзельнікамі «Купалаўскіх чытанняў», іншых навуковых канферэнцый, растыражаваны перыёдыкай. Аўтарства ключавых ідэй, новых ракурсаў бачання належыць і прадстаўнікам традыцыйнай акадэмічнай школы, і апалагетам альтэрнатыўнага разгляду жыцця і творчай спадчыны класіка літаратуры.

На наш погляд, сучасная літаратуразнаўчая навука мае схільнасць прыняць выклік, а потым і правілы гульні журналістыкі, якая жыве па сваіх законах жанру і грамадскага ўздзеяння, а не прадставіць уласную канцэпцыю і паслядоўна яе трымацца. Для прыкладу, гісторыя выхаду шматмоўнага зборніка «А хто там ідзе?» (Мінск, 1983) была апошнім часам неаднаразова і палітызавана пераказана ў СМІ, але, як вядома, многія кнігі суправаджаюць цікавыя абставіны з’яўлення, потым міфалагізаваныя ў вусных пераказах. У гэтым выпадку эпізод з алфавітным размяшчэннем перакладаў, ліквідацыяй першага тыражу стаў адмысловым вандроўным сюжэтам, пераказаны ў асобным абзацы энцыклапедычнага артыкула «Англамоўны свет і Янка Купала».

На нашу думку, варта было б засяродзіць увагу на акцэнтах паказу 1920—1930-х гадоў, найбольш складанага перыяду айчыннай гісторыі, жыцця і творчасці Янкі Купалы. Персанальныя артыкулы, па сутнасці, прыбралі ўвесь драматызм гэтага перыяду, знівеліравалі яго фактаграфічна. У сітуацыі адлюстравання таго, хто і што пісаў пра Купалу, прымоўкла зваротная сувязь, ліквідаваны ідэалагічныя размежаванні таго часу, знікла характэрная рыторыка. Мяркуем, аналітычны штыль заканамерна ўзнік шляхам выключэння дыялагічнага фармату, ігнаравання таго, што сам Купала пісаў у дачыненні той ці іншай асобы. Спынімся толькі на двух купалаўскіх тэкстах.

У 1933 годзе класік беларускай літаратуры ў складзе дэлегацыі савецкіх пісьменнікаў быў сведкам дзеяння адладжанага механізма паняволення і выкарыстання рабскай працы. Гэта ў цяперашніх ацэнках (прычым яшчэ толькі магчымых, яшчэ належным чынам не адрэфлексаваных, як, напрыклад, у расійскай інфармацыйнай прасторы ў падобным выпадку з Максімам Горкім), у той час «Литературная газета» (1933, № 40) апублікавала натхнёны допіс Янкі Купалы «Чудо, созданное большевиками». Вось урывак з яго:

«Я очень, очень счастлив, что дожил до той поры, когда смог увидеть своими глазами великий Беломорско-Балтийский водный путь, это невиданное чудо, созданное руками большевиков-чекистов по инициативе гениального вождя пролетариата, несравненного строителя т. Сталина.

Приехав в Беларусь Советскую, я расскажу, насколько у меня хватит сил, большевистскую правду об этом героическом строительстве, которое не имеет себе равных во всем мире, о строительстве, которое свидетельствует о непобедимой поступи социалистического строя, социалистической перековке человека — былого преступника в честного советского гражданина.

Я расскажу о славных чекистах тт. Ягоде, Фирине, Успенском и др., о том, как они беззаветно и умно строили этот путь и перевоспитывали людей».

А так пісаў Янка Купала ў артыкуле «Што было сном, тое стала явай» на старонках газеты «Звязда» 17 студзеня 1934 года ў сувязі з Пастановай СНК БССР «Аб зменах і спрашчэнні беларускага правапісу»: «Мяне зусім не дзівіць тое выццё, якое падняла супраць гэтай так патрэбнай Пастановы нашага ўрада недабітая нацдэмаўшчына ў БССР і раз’юшаная зграя паслугачоў польска-нямецкага фашызму ў Заходняй Беларусі. Луцкевічы, Станкевічы і г. д. служаць адзінай мэце — адарваць Савецкую Беларусь ад Савецкага Саюза і кінуць яе ў паднявolле — сацыяльнае, нацыянальнае і культурнае — пад ногі нямецкага, польскага, беларускага жандара, памешчыка-фашыста».

І каб змяніць танальнасць нашай гаворкі — яшчэ адна заўвага. У адрозненне ад кабінетнай аналітыкі, архіўна-пошукавая праца застаецца ўдзелам нешматлікіх энтузіястаў. Даведачнае выданне істотна пабагацела фактаграфіяй купалаўскай прысутнасці ў краінах Прыбалтыкі, Чэхаславакіі 1920—1930-х гадоў. Такі стан рэчаў заканамерна пабуджае да пашырэння геаграфіі і часавых межаў прысутнасці нацыянальнай класікі ў свеце.

## Адказнасць поціску рукі

Вялікай праблемай для складальнікаў персанальных літаратурных энцыклапедый з’яўляецца адлюстраванне пераходу ад аўтарскага мінулага да сучаснасці, фіксацыя найноўшых культурных ініцыятыў па ўшанаванні памяці пісьменніка, творчае і навуковае асэнсаванне яго спадчыны, мастацкая рэцэпцыя. Варта ўлічваць, што круглыя даты (у нашым выпадку, звязаныя з канкрэтнымі персаналіямі) па традыцыі суправаджаюцца шэрагам ініцыятыў на рэспубліканскім і міждзяржаўным узроўні: праводзяцца навуковыя канферэнцыі, ладзяцца творчыя сустрэчы, выдаюцца кнігі, публікуецца шмат матэрыялаў у перыядычных выданнях, выходзяць тэматычныя радыё- і тэлеперадачы і г. д. А ўвага да нацыянальнай класікі — Купалы, Коласа, Багдановіча — наогул, заўсёдная і першачарговая. Кожная газета ці часопіс мае за гонар змясціць матэрыялы пра гэтых паэтаў да кожнага дня іх нараджэння.

Перад складальнікамі, калі яны сталі на шлях персаналізацыі сучаснасці, узнікае ледзь не экзістэнцыйная праблема выбару, вызначэння таго, што ўжо варта гістарычнай фіксацыі, а што не.

На этапе падрыхтоўкі энцыклапедыі «Максім Багдановіч» спачатку было калегіяльнае рашэнне прадставіць адзін аглядны артыкул, прысвечаны сучаснай паэзіі, ім і абмежавацца. Але ўмяшаўся так званы чалавечы фактар, якому давялося часткова саступіць, што, зрэшты, не засцерагло выданне ад пазнейшых крыўдаў, як правіла, выказаных замаскіравана, нібыта з клопатам пра іншых, незаслужана абыдзеных увагай.

Сённяшняя купаліяна дае сотні, а можа, і тысячы прыкладаў мастацкага асэнсавання нацыянальнай класікі ў розных відах мастацтва. Цяжка знайсці паэта, які б ні радка не прысвяціў «бацьку беларускага адраджэння» (А. Луцкевіч), не кажучы пра традыцыйную тэму многіх навуковых публікацый: «Купалаўскія традыцыі ў творчасці (*імя рэк*)». Такі стан рэчаў аб’ектыўна спараджае суб’ектыўнае, з незвычайна моцным эмацыйным складнікам (як правіла — незадаволенасці), стаўленне да энцыклапедыі (дакладней — прадстаўленай у ёй сучаснасці) усіх зацікаўленых асоб.

Кожны паэт — самадастатковая асоба, са сваім жыццяпісам, творчасцю, усімі індывідуальна-аўтарскімі характарыстыкамі, паплечнікамі і апанентамі, працай, вартай грунтоўнага манаграфічнага даследавання. «Штрыхпункцірны» метад сціслай падачы інфармацыі пры гэтым проста асуджаны на крытычнае стаўленне да яе і самога «аб’екта» разгляду, і староннягa чытача.

Для прыкладу спынімся толькі на адным энцыклапедычным артыкуле, прысвечаным паэту і перакладчыку Міколу Мятліцкаму. Зварот да гэтага тэксту падказаны, у першую чаргу, калегіяльнай салідарнасцю: даўні і пастаянны аўтар часопіса «Полымя» Мікола Міхайлавіч у 2002—2014 гадах ачольваў названае выданне.

Пачнём з таго, што ў пераліку ўганараванняў дапушчана памылка: Мікола Мятліцкі — лаўрэат Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва (2013), а не прэміі «За духоўнае адраджэнне» (няма сумненняў, варты і яе). На фоне высокіх узнагарод творчасць М. Мятліцкага прадстаўлена надзвычай сціпла, з ягонай купаліяны ў энцыклапедыі названы толькі адзін верш — «Янка Купала» са зборніка «Мой дзень зямны» (1985). Між тым, нават

павярхоўны прагляд напісанага ім — з уласных кніжных паліц — адразу выяўляе шэраг іншых твораў, па-мастацку дачынных да класіка: «***На дне гісторыі сівой» («Чаканне сонца», 1994); «Беларусі» («Полымя», 2012, № 7); «Купалаўская балада» («Чалавек падымае неба», 2012).

А калі ўжо зайшла гаворка аб праўдзівым і поўным узнаўленні вынікаў працы адной з творчых дынастый нашай краіны, варта ўзгадаць, што на ніве купалазнаўства ўжо каторы год плённа працуе Ганна Мікалаеўна Мятліцкая, аўтар кандыдацкай дысертацыі «Генезіс і семантыка вобразаў-сімвалаў у паэзіі Янкі Купалы нашаніўскага перыяду» (БДУ, 2006), дзясяткаў навуковых артыкулаў, прысвечаных асэнсаванню спадчыны волата беларускай літаратуры.

Традыцыйным апраўданнем сціслай падачы інфармацыі заўсёды былі абмежаваныя магчымасці аб'ёму выдання. У выпадку з другім томам энцыклапедыі «Янка Купала» такі «адступны шлях» амаль што закрыты. Чвэрць усяго аб'ёму заняў «Дадатак», у якім змешчаны — пастаронкава — пераклады верша «А хто там ідзе?» на мовы народаў свету. Гэта пры тым, што рэпрэзентацыя верша ўжо адбылася ў першым томе і зусім нядаўна выйшла асобнае выданне аднайменнага зборніка.

Паколькі ў ходзе падрыхтоўкі энцыклапедыя ўзбуйнілася да трох тамоў, вельмі хацелася б бачыць у апошнім томе паказальнікі, найперш — імянны. Наяўнасць такой навігацыі істотна аблегчыць карыстанне вынікамі праведзенай маштабнай працы.

## Некаторыя высновы

Выхад персанальных літаратурных энцыклапедый у Беларусі — важная з'ява, прытым не толькі для нацыянальнай культуры. Усяму свету класічная беларуская спадчына прадэманстравана не толькі фактаграфічна, але і аналітычна.

У сучаснай кнігавыдавецкай практыцы створаны шэраг прэцэдэнтаў: масмедыйнай падтрымкі, апрабацыі вынікаў на этапах падрыхтоўкі энцыклапедыі, наступнага іх дынамічнага ўключэння ў сілавое поле аналітычных разваг («круглыя сталы») і крытычных ацэнак і інш.

Беларуская энцыклапедыстыка здолела захаваць класічныя падыходы пры фармаванні выданняў, прапанаваць адкрыты фармат супрацоўніцтва і сучаснага асэнсавання літаратурнай класікі, запачаткаваць адмысловы энцыклапедычны дыскурс.

Ва ўзятым курсе на дынамічную падрыхтоўку наступных выданняў падобнага тыпу нам бачыцца воля і здольнасць браць на сябе гістарычную адказнасць за захаванне нацыянальнай спадчыны і яе папулярызацыю ў Беларусі і за мяжой.



Святлана КАЛЯДКА

# КРЫЛАТАЯ ПЕСНЯ ЯЎГЕНІІ ЯНІШЧЫЦ

Лірыка Яўгеніі Янішчыц — светлая, шчырая, удумлівая, а ў апошнія гады па-грамадзянску неспакойная, з публіцыстычнай напоўненасцю. У яе вершах пульсуе агонь няўрымслівага юнацтва, адзываецца меладычная матчына песня, раздаецца перакат хваль ракі Ясельды. Безаглядная адданасць паэзіі нарадзіла звышадкрытасць у самавыяўленні, гранічную шчырасць лірычнага пачуцця, яго незвычайную натуральнасць, арганічнасць паэтычнага слова, якое здзіўляе і вабіць сваёй нязмушанасцю, становіцца кардыяграмай аўтарскай душы, яе споведдзю. Гэта быў па-сапраўднаму чысты спеў самабытнага, яркага таленту.

Яўгенія Іосіфаўна Янішчыц нарадзілася 20 лістапада 1948 года ў вёсцы Рудка Пінскага раёна Брэсцкай вобласці. Аднак у 1966 годзе бацькі пераехалі ў суседнюю вёску Велясніца.

Першы муж маці Марыі Андрэеўны загінуў у час Вялікай Айчыннай вайны, ад яго Яўгеніі Іосіфаўне дасталося прозвішча (аб гэтым яна сама пісала ў вершы «Памяці Ёзаса Янішчыца»). Пра яго лёс са слоў вяскоўцаў запісаў У. Субат: «*Іосіф Янішчыц слыў адменным кавалём. Вырабляў самыя розныя прылады для сялян. Падчас нямецка-фашысцкай акупацыі неяк да іх на хутар завітаў сусед, каб паладзіць плуг. Каваль узяўся за справу. А тым часам яго жонка пайшла на Ясельду бялізну паласкаць. Раптам на хутар наляцелі фашысцкія карнікі. Нехта з мясцовых данёс акупантам, што Янішчыцы дапамагаюць партызанам. Гаспадара хутара разам з суседам схапілі і пагналі па бальшаку да ясяльдзянскага моста. Там над імі доўга здзекаваліся. Як потым расказвалі мясцовыя сяляне, якія побач працавалі і бачылі гэтае катаванне, рукі фашыстаў былі запэцканы крывёю ахвяр. Іосіф Янішчыц мужна трымаўся да апошняга дыхання. Яго і суседа закатавалі, і ніхто не ведае, дзе іх магілы*»[1].

Другі муж маці, Іосіф Сцяпанавіч Патапчук, — бацька Яўгеніі — загінуў у 1975 годзе па неасцярожнасці пры карыстанні сельскагаспадарчай тэхнікай. З другім мужам маці не была ў афіцыйным шлюбе, жыла ў так званым «грамадзянскім» да нараджэння ў 1958 годзе сына Віктара, а таму дачка атрымала прозвішча Янішчыц, на якім тады яшчэ была зарэгістравана маці. У паштоўцы да У. Калесніка паэтэса пісала: «*Што датычыцца прозвішча, то яно не такое і прыгожае, каб любавацца ім. Скажу толькі адно, што для нашай сям'і і, асабліва, для мамы, яно дастаўляе горкую, незабыўную памяць вайны*»[2]. Бацьку, безумоўна, хацелася перадаць дачцэ сваё прозвішча, але, паводле закона, ён гэтага на той час зрабіць не мог. Бацька (дарэчы, таксама Іосіф, як і першы муж маці) працаваў у саўгасе трактарыстам, быў бондарам, цесляй і, па сведчанні родных, меў залатыя рукі, мог рабіць любую працу па гаспадарцы. Акрамя таго, хораша іграў на гармоніку на ўсіх вясковых гуляннях і святах. Як пісала Янішчыц у аўтабіяграфіі, «*бацька — удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Быў паранены*»[3]. Маці працавала ў саўгасе «Палескі», мела вялікую хатнюю гаспадарку, была добрай швачкай, абшывала ўсё наваколле, і вышывала (яе вышыванкамі была ўпрыгожана кватэра Яўгеніі Янішчыц),

і паспявала рабіць шмат хатніх спраў. Стала двойчы ўдавой, перажыўшы не толькі мужоў, але і сваіх дзяцей.

Вучылася Янішчыц у трох школах: Рудкаўскай пачатковай, Мерчыцкай васьмігадовай і Парэцкай сярэдняй. У лісце да Генадзя Бураўкіна яна пісала: «*Займаюся ў 11-ым класе Парэцкай сярэдняй школы, куды хаджу за пяць кіламетраў»*[4]. Падчас гэтых штодзённых паходаў нараджаліся цікавыя задумы і пісаліся вершы.

Але творчы шлях будучай паэтэсы распачаўся ў Рудкаўскай пачатковай школе. Па ўспамінах маці, першыя паэтычныя спробы дачка здзейсніла рана: «*У чацвёртым класе яна напісала верш пра маму, прысвечаны святу Восьмага сакавіка, прынесла ў школу. Настаўнікі не паверылі, што сама сачыніла. Перарылі ўсе кніжкі, часопісы, каб знайсці, адкуль спісала. Пасля ў другую школу насілі — каб там пашукалі. Веры не давалі, што такі талент у чалавека»*[5]. Крыху пазней быў яшчэ адзін верш, прысвечаны маці, але, на жаль, ніводны з іх не захаваўся.

Безумоўна, узнікае пытанне, ад каго перадаўся творчы дар юнай Жэні. У адным з інтэрв'ю Марыя Андрэеўна распавядала пра свой род, ад якога дачцэ перайшлі ў спадчыну любоў да працы і талент адчуваць прыгажосць свету: «*Нас было пяць сёстраў. Нягледзячы на цяжкое жыццё, вайну, частую змену ўладаў, імкнуліся ў навуку. Трое з нас скончылі медыцынскі тэхнікум. Але далей навука не пайшла, быў цяжкі час. Розум наш — ад прыроды, ад выхавання. Усе былі працалюбныя. Праца і розум — вось аснова наша»*[6]. А ад бацькі-музыканта — любоў да музыкі, да спеваў, што пазней паўплывала і на з'яўленне напеўнасці, меладычнасці паэтычнага радка.

Афіцыйны адлік творчага шляху Янішчыц трэба весці з 1963 года, калі з'явіліся першыя публікацыі твораў і першыя крытычныя водгукі на яе вершы ў раённай газеце «Полесская правда». Праз год вершы Янішчыц будуць апублікаваны ў рэспубліканскіх газетах і часопісах. Менавіта 1964-м годам ва ўсіх энцыклапедыях, даследаваннях, падручніках памылкова пазначаецца пачатак яе творчай дзейнасці.

Першы верш, ад якога ідзе адлік творчасці паэтэсы і які быў напісаны яшчэ ў школьныя гады, прысвечаны Якубу Коласу. Як згадвае А. Ільін у адным з артыкулаў[7], у 1962 годзе ў рэдакцыю «Полесской правды» прыйшлі вершы вучаніцы Янішчыц, сярод якіх быў і верш «Якубу Коласу», прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння песняра, але яго ў газеце не апублікавалі. А 12 студзеня 1963 года ўбачыў свет верш «Голубь», напісаны па-руску. У гэтым жа годзе ў «Полесской правде» ад 18 красавіка з'яўляецца і першы крытычны водгук на вершы Янішчыц «Поэзия — та же добыча радия», напісаны членам бюро абласнога літаратурнага аб'яднання Зіновіем Вагерам: *«Чувство любви к родному Полесью выражает Янищиц в стихотворении «Моё Полесье». Написано оно искренне, от сердца, грамотно. Но... стихотворение не волнует. Почему? Да потому, что в нем не хватает главного — образности. Так о Полесье писали десятки поэтов и до Янищиц. Хотелось бы, чтоб автор нашел свои образы, свои слова, никем не сказанные до него, свои краски. Тогда бы и стихотворение зазвучало иначе»*[8]. У далейшым на пасяджэннях літаратурнага аб'яднання ён не аднойчы крытыкаваў Янішчыц за запазычванне вобразаў. Пазней, у 1963 годзе, 10 верасня публікуецца яшчэ адзін крытычны водгук «Разговор о поэзии» Фёдара Туманава: *«Производят хорошее впечатление некоторые стихи Е. Янищиц, ученицы Мерчицкой школы, особенно, «С первым маем», «В школу». Последнее было напечатано на страницах нашей газеты. Другие же «Валентине Терешковой», «Маё Палессе», «Жнівень» — слабые. В них много общих, риторических фраз, ненужных и даже неточных слов».* А ў 1964 годзе 11 красавіка ў «Полесской правде» з'яўляецца першы ўхвальны артыкул Васіля Каратышэўскага, прысвечаны творчасці юнай паэтэсы.

Аднак варта дадаць, што першыя публікацыі Янішчыц — гэта невялікія нататкі і замалёўкі ў раёнцы — пра жыццё калгаса, вёскі і школы. Свае карэспан-

дэнцыі яна падпісвала псеўданімамі *Ж. Заметкина*, *Е. Иосифова* (а вось лісты да сяброў, аматараў яе паэзіі, паэтаў у 1960-я гады любіла падпісваць як *Ясяльдзянка*). Самая першая нататка «Завершается строительство школы» таксама была апублікавана ў «Полесской правде» ў 1963 годзе. Гаворка ішла пра Мерчыцкую васьмігадовую школу.

За ўвесь час супрацоўніцтва з газетай «Полесская правда» было надрукавана каля дзясятка вершаў, нарыс аб настаўніцы біялогіі Паліне Іванаўне Губаравай, артыкул «Супруги-животноводы», а ў сатырычнай рубрыцы «Сквозняк» некалькі крытычных нататак. На адным з пасяджэнняў кіраўнік літаратурнага аб'яднання Каратышэўскі параіў Жэні пісаць вершы толькі па-беларуску, бо яны ў яе атрымліваюцца лепш. «Полесская правда» стала стартавай пляцоўкай для таленту Янішчыц. Творчыя сувязі з літаб'яднаннем газеты, у якім яшчэ вучаніцай стала паўнапраўным членам, яна не перарывала на працягу ўсяго жыцця.

Як пісала ў лісце да Міколы Федзюковіча, «у «Чырвонай змене» за 21 верасня (1966 г. — *С. К.*) я ўпершыню выступіла ў прозе»[9]. Адзін з тэкстаў, прадстаўленых у «Чырвонай змене», называўся «З адзінаццатага года»:

*«Неяк завялі жанкі на сенажаці размову аб сталасці. Антося змарылася, прысела адпачыць пад стажок. А суседка вазьмі ды і скажы:*

*— Вось, Антоська, ты з дваццатага года, а Кірыла твой з адзінаццатага, і ён выглядае намнога маладзей і дужэй за цябе.*

*Тая, мабыць, не ўцяміўшы, у чым справа, выпаліла:*

*— Ды што вы, бабанькі, мой Кірыла і пазалетась, і летась, і сённячы з адзінаццатага!*

*Яе нечаканае здзіўленне заглушыў дружны і пацешны рогат».*

Пісала яго, маючы 18 гадоў, а такое ўяўленне, што за аднавяскоўцамі падглядзела сталая жанчына, якая добра разумее вясковы гумар і сутнасць чалавечых адносін. Аднак спробы ў прозе на гэтых публікацыях спыніліся. Да празаічных твораў Янішчыц вернецца ў апошняе дзесяцігоддзе жыцця, нават будзе думаць пра асобную кнігу прозы, але здзейсніць гэту задуму не паспее.

Рана прыйшлі да Янішчыц поспехі, хутка разгортваўся паэтычны дар, у які найперш паверыў любімы школьны настаўнік рускай мовы і літаратуры Фёдар Фёдаравіч Цудзіла. Менавіта ён стаў першым крытыкам і ўдзячным рэцэнзентам яе твораў. Пад яго кіраўніцтвам Жэня ўдзельнічала ў стварэнні нумароў «Літаратурнай газеты» і рукапіснага альманаха «Ясельда». Фёдар Фёдаравіч адзін з першых прадказаў шчаслівую паэтычную будучыню Жэні, што зафіксавана ў яго дарчым надпісе на кнізе «Пра час і пра сябе»: «*Жене Янищиц, моей лучшей ученице, с твёрдой верой в то, что в будущих изданиях этой книги я прочитаю её биографию.* 29.08. 1966 г. Подпіс»[10].

Жэня была аматаркай школьнай самадзейнасці, разам з іншымі выступала са сваімі вершамі на канцэртах у суседніх вёсках, у Пінску і Брэсце на абласных конкурсах мастацкай самадзейнасці. Актыўнае творчае жыццё і запатрабаванасць яе вершаў на розных мерапрыемствах садзейнічалі ўзнікненню ўпэўненасці ў сваіх сілах: вучаніца Парэцкай сярэдняй школы пачала прапаноўваць свае вершы ў раённыя і рэспубліканскія перыядычныя выданні, і яе пачулі, сталі публікаваць.

Да 1963 года было напісана столькі вершаў, што юная паэтэса рыхтуе першы рукапісны зборнік «Першыя россыпы» (год 1963)[11]. Запісаны ён быў у адным з сшыткаў. Адкрываў зборнік верш «Маці», а ўсяго ў яго ўваходзіла 58 вершаў.

У 1965 годзе, 21 верасня ў газеце «Літаратура і мастацтва» з'яўляецца падборка яе вершаў з прадмовай Бураўкіна «Будзем знаёмы — Яўгенія Янішчыц»:

*«Вершы Яўгеніі Янішчыц мне спадабаліся адразу. Ды яны і не маглі не спадабацца — столькі ў іх было паэтычнасці і святла, захаплення жыццём і сваёй*

*маладосцю. Я чытаў іх адзін за другім — і радаваўся той свежасці і непасрэднасці, з якой гаварыла са мной пачынаючая паэтэса...*

*Захацелася даведацца, хто ж гэтая дзяўчына з Піншчыны, ці не выпадковыя раптам яе ўдачы? І вось перада мной яе ліст і дзясятак новых вершаў.*

*Жэні Янішчыц сямнаццаць год. Жыве яна ў вёсцы Рудка Пінскага раёна, ходзіць за пяць кіламетраў у Парэцкую сярэднюю школу, у 11-ы клас.*

*І — вершы. Паэтычныя, па-дзявочы шчырыя і непасрэдныя... Не, удачы былі не выпадковыя. Жэня Янішчыц, безумоўна, мае паэтычныя здольнасці, родная наша зямля беларуская кінула ў яе душу «іскру боскую». Толькі трэба не загубіць гэтую «іскру», не патушыць яе на нялёгкай дарозе ў літаратуру. Трэба — як гэта ні банальна гучыць — шмат працаваць. Каб пазбавіцца той літаратуршчыны, якая даволі часта гаспадарыць нават у добрых вершах. Каб набыць большай глыбіні роздуму і шырыні жыццёвых назіранняў. Каб празмерна не захапляцца сваёй маладосцю — яна ў рэшце рэшт, як гэта ні сумна, пройдзе. Каб кожны радок рабіць і звонкім, і важкім...*

*Адным словам, у Жэні Янішчыц наперадзе шмат адкрыццяў — і, акрамя ўсяго іншага, шмат працы. Дык хай гэтая праца прыносіць радасны і шчодры плён! Хай дужэюць у маладой песні крылы, бо — хочацца верыць — палёт у яе будзе высокім!..»*

У 1966 годзе Яўгенія Янішчыц скончыла сярэднюю школу і паступіла на філалагічны факультэт БДУ, аддзяленне беларускай мовы і літаратуры. Універсітэт стаў новай прыступкай і добрай школай для загартавання яе таленту. У студэнцкія гады творы Я. Янішчыц друкуюцца ў часопісах «Маладосць», «Беларусь», «Бярозка», у штогадовым зборніку «Дзень паэзіі», у калектыўным паэтычным зборніку БДУ, у анталогіі беларускай паэзіі ва Украіне, у часопісах «Молодая гвардия» і «Дружба народов», у «Литературной газете» і газеце «Правда» ў перакладзе на рускую мову і г. д. Не ў кожнага прызнанага пісьменніка такая шчаслівая гісторыя ўваходжання ў «прафесію».

У 1969 годзе прадставіла некалькі падборак вершаў на V Усесаюзную нараду маладых пісьменнікаў, якая адбылася ў Маскве. Праз год стала дыпламантам беларускага фестывалю творчасці маладых, выйшла яе першая кніга «Снежныя грамніцы». У яе ўвайшлі адзінкавыя творы, прадстаўленыя ў рукапісе «Першыя россыпы», хоць з многімі з іх на той час чытач мог пазнаёміцца ў раённых і рэспубліканскіх газетах. З многімі яна брала ўдзел у розных літаратурных конкурсах, выступала на творчых сустрэчах і на радыё. Нават песня «Веры Харужай» на музыку Ю. Семянякі не была ўключана ў «Снежныя грамніцы» (пазней песні на словы паэтэсы напішуць кампазітары Р. Давыдаў, Ю. Семяняка, М. Юрко, Д. Яўтуховіч і інш.). Прычын таму шмат, адзіную вылучыць нельга: пры адборы вершаў неабходна было лічыцца з юным узростам паэтэсы, яе нявыспелым паэтычным стылем, вялікай колькасцю «наіўных» вобразаў і метафар, непрадуманасцю кампазіцыі твораў і г. д. Дый і назва першага зборніка планавалася быць сугучнай аднайменнаму вершу «Непрыручаная птушка». Аднак, як згадвае Д. Бугаёў, *«так збіралася яна назваць сваю першую кнігу, але потым адмовілася ад гэтага намеру, бо Г. Юрчанка, заўважыўшы той верш у перыёдыцы, напісаў на яго даволі з'едлівую пародыю»*[12]. Былі і яшчэ тры пародыі Юрчанкі на вершы Янішчыц з першага зборніка «Снежныя грамніцы» — на творы «***Боль перасіліў немату», «***Хаджу па нівах, па лугах азёрных», «***Яшчэ душы маёй раздольна», «***Я дзяліць не перастану», яны былі передрукаваны паэтэсай і захоўваюцца ў сямейным архіве.

Як згадвалі і Д. Бугаёў, і В. Бечык, Янішчыц вельмі крыўдавала на крытыку, асабліва на пародыі, аднак высновы з выказаных заўваг і парад рабіла. Безумоўна, яна вучылася ў класікаў рускай і беларускай літаратуры, і ў першых вершах яшчэ моцна адчувалася запазычанне тэм і вобразаў, аддавалася даніна сацрэалізму з

яго любоўю да лозунгаў, гучных прызнанняў, але хутка вырасла і з пераймальніцтва, набыўшы ўласны голас.

Толькі цяпер стала зразумелым, чаму першая кніга не выклікала адчування, што гэта толькі вучнёўства, а сапраўдная паэзія з'явіцца пазней… Бо паэтычнае вучнёўства завяршылася разам са школьнай вучобай: амаль з пачатковых класаў Жэня набывала майстэрства пастаяннымі «трэніроўкамі» ў напісанні твораў. І як сведчаць запісы ў сшытках, асобныя аўтографы вершаў і рукапісны зборнік «Першыя россыпы», перыяд вучнёўства ўсё ж быў. Як амаль кожны пачатковец, яна прайшла праз ідэйна-тэматычныя дысанансы, стылістычныя нестыкоўкі, моўныя недарэчнасці і нават адсутнасць густу ў стварэнні паэтычных твораў. І гэта стала для яе добрай школай, якую яна працягвала праходзіць у ВНУ.

Творы Янішчыц прэзентаваў сам Генадзь Бураўкін, рэцэнзіі на першы зборнік «Снежныя грамніцы» ў 1971 годзе напісалі такія вядомыя пісьменнікі і літаратуразнаўцы, як Ніл Гілевіч, Алесь Асіпенка, Анатоль Грачанікаў, Дзмітрый Бугаёў, Рыгор Бярозкін і інш. Пазней выступілі з водгукамі Рыгор Семашкевіч і Варлен Бечык. А яшчэ былі ненадрукаванымі водзывы такіх масцітых пісьменнікаў, як Максім Лужанін (1965) і Пімен Панчанка (1970), рукапісы якіх захоўваюцца ў БДАМЛіМ[13]. Што можа быць для пачаткоўца вышэйшай пахвалой за прызнанне Лужаніна: «*Они ещё не знают, как будут называться их будущие книги, а любители поэзии уже, наверно, уплотнили поэтические полочки, чтобы поставить первые сборники Евгении Янищиц и Алеся Рязанова. По крайней мере, это сделал я сразу же после прочтения их стихов в республиканской литературной газете*». Можна сказаць, што цвет літаратуразнаўства прымаў актыўны ўдзел у фарміраванні індывідуальнасці маладой паэтэсы, кожны з пералічаных даследчыкаў лічыў патрэбным выказаць захапленне яе творчасцю, не забываючыся і аб парадах на будучыню. Як і выдатныя выкладчыкі і пісьменнікі Міхась Ларчанка, Алесь Адамовіч, Алег Лойка і інш.

Во ўніверсітэце былі іншая атмасфера, іншыя настаўнікі і іншыя ўмовы для росту таленту палескай зоркі. Не лепшыя і не горшыя ў параўнанні з папярэднім вопытам дзяўчыны, а менавіта іншыя. У студэнцкія часы, у 1969 годзе адбылася паездка ў Балгарыю, у Сафійскі ўніверсітэт імя Клімента Ахрыдскага па дамове аб садружнасці беларускага і балгарскага ўніверсітэтаў. У маі 1970 года Янішчыц пашчасціла наведаць Іенскі ўніверсітэт у былой ГДР, з якім Белдзяржуніверсітэт меў трывалае супрацоўніцтва. Кіраўніком практыкі з'яўляўся Алег Лойка, а ў склад групы ўваходзілі студэнты розных курсаў, сярод якіх і студэнты беларускага аддзялення з чацвёртага курса: Яўгенія Янішчыц, Анатоль Бутэвіч, Тэрэза Шаптуха, Таццяна Пшыркова, Генадзь Стрыжэвіч, Анатоль Верабей і інш.

Вучоба Янішчыц спалучалася з творчымі камандзіроўкамі, рознымі сустрэчамі, семінарамі маладых творцаў, а таму трэба было паспяваць пісаць вершы і з імі выступаць і здаваць своечасова ўсе кантрольныя, рэфераты, курсавыя, залікі і экзамены — і яна з гэтым спраўлялася. Нягледзячы на бясконцы ўдзел у розных мерапрыемствах універсітэта і Саюза пісьменнікаў БССР, усё ж старалася быць першай і ў вучобе. У гэтым немалую ролю адыгрывалі яе працалюбства і амбітнасць. Па згадках аднакурснікаў, яна, шчырая, абаяльная, з заўсёднай усмешкай на твары, пры гэтым была закрытым чалавекам і неахвотна дзялілася сакрэтамі асабістага жыцця. Са слоў Таццяны Шамякінай, у яе засталося адчуванне, што Жэня «нейкая невязучая»: у яе на руцэ засталіся шрамы ад траўмы — укусіла малпа (якую прыносіў на філфак муж адной са студэнтак), і Жэня нават трапіла ў бальніцу ад гэтага ўкусу. Як бачым, аднакурснікі яе ўспрымалі і затым пра яе распавядалі па-рознаму, нязменным заставалася канстатацыя відавочнага таленту[14].

Аднак пры амаль усеагульным прызнанні адоранасці паэтэсы, ёй неабходна было яшчэ адпавядаць ідэалагічным патрабаванням часу, стаць членам пісьменніцкай арганізацыі, каб быць навідавоку, мець магчымасць выступаць са сваімі

вершамі перад рознымі аўдыторыямі і публікавацца. Янішчыц была членам ВЛКСМ з 1962 года, а 9 красавіка 1971 года прынята ў Саюз пісьменнікаў. У гэтым жа годзе сталі членамі саюза Н. Мацяш, Ю. Голуб, К. Камейша, А. Пяткевіч. У 1972 годзе быў прыняты А. Разанаў. У 1970 годзе ў Саюзе было 277 чалавек, пісьменнікаў да 40 год — 63 чал. З 1971 па 1974 гг. прынята ў Саюз 39 пісьменнікаў[15]. Пісьменніцкія шэрагі папоўніліся таленавітымі прадстаўнікамі пакаленняў 1960—70-х гадоў.

Як трапна заўважыў А. Грачанікаў, «*другія паэты — нібы яблыня-першацвет, адразу зачароўваюць прыхільнікаў паэзіі ўборыстай пладавітай завяззю і гонкім ростам*»[16], так і творчасць Янішчыц адразу заўважылі і заслужана высока ацанілі, прыняўшы яе адзінагалосна (рэдкі выпадак!) у Саюз пісьменнікаў БССР.

У 1971 годзе Янішчыц завяршае вучобу ва ўніверсітэце. Застаецца ў Мінску, аднак пастаяннага жылля не мае. Жыве ў знаёмых, сяброў… Нейкі час і ў Марыі Канстанцінаўны Хайноўскай, загадчыцы бібліятэкі Саюза пісьменнікаў.

З 1968 года сустракалася з будучым мужам Сяргеем Панізнікам, які па заканчэнні факультэта журналістыкі Львоўскага вышэйшага ваенна-палітычнага вучылішча СА ВМФ у 1967 годзе быў накіраваны на службу ў Мінск у якасці ваеннага журналіста. Пазнаёміліся яны, калі Жэня была яшчэ вучаніцай. З ліста школьніцы Жэні да Міколы Федзюковіча можна ўзнавіць дату першай сустрэчы, калі Панізнік паехаў на яе радзіму: «*28 ліпеня (1965 г. — С. К.) да мяне завітаў Сяргей Панізнік (думаю, што ты з ім знаёмы па «Чырвонай змене», дзе ён часта выступае з вершамі). Рыхтуе да друку сваю першую кніжку, якой даў назву «Кастры Купалля». Пазнаёміла яго з нашымі краявідамі. (Дарэчы, вады не было ля Ясельды)*»[17]. Потым перапісваліся (два лісты Панізніка да Жэні апублікаваны ў № 8 «Маладосці» за 2008 г.). Да лістоў Жэня часта прыкладала свае вершы. У лісце быў і гэты рамантычны верш, у якім ужо адчувалася, як прачынаецца пачуццё кахання:

**Неадпісанае пісьмо**

А зараз я брыду над пожнямі,
Да ранку буду так блукаць.
І ўсё ж змагла б табе не кожная
Забыць пісьмо. Не адпісаць.
Прысесці хоць бы на хвілiначку
(Ты скажаш, мо няма калі).
Ты ведаеш мяне дзяўчынкаю,
Былінкай тонкай на зямлі.
Схіліцца б мне ад ветру моцнага.
Панікнуць. Ссохнуць, не ўзысці.
І ўсё ж хачу расці да сонца я,
І знаю, буду я расці.

*Верасень, 1965 г.*

Потым былі сустрэчы ў Мінску, пасля пераводу ў Чэхаславакію (у 1969—1973 гг. у складзе Цэнтральнай групы войск трапляе за мяжу) Панізнік не аднойчы прыязджаў у сталіцу і бываў у інтэрнаце, дзе жыла Янішчыц. Так зарадзілася каханне паміж двума таленавітымі паэтамі. Неўзабаве яна атрымлівае прапанову рукі і сэрца ад любімага чалавека (рэдкі выпадак — калі гэта здарылася праз ліставанне і пісьмо захавалася):

«*Палявая пошта*

*3 ліпеня 1971 г.*

*Дарагі мой далёкі чалавек!*

*Кожнае слова Тваё — крок усё бліжэй і бліжэй. І я — гужы і сумны, адаграваюся Тваімі радкамі. Уцешны, што гэта гужэча і маркота прападаюць, і што я належу не толькі сабе.*

*Гэтыя дні былі цяжкімі. Я ж напісаў Табе на Паркавую, павіншаваў з заканчэннем універсітэта і паведаміў, што цябе чакае ліст у СП. І вось нічога няма. Днямі паслаў пісьмо ў в. Рудка. Ці трапіць яно ў твой дом?*

*А цяпер, мая Аўгінька, галоўнае. У імя нашага кахання нам трэба быць разам, і справу нашу агульную разам рабіць. Калі прымеш мае словы, то хай неба блаславіць нас на жыццё, і каб у ім не было ані горачы, ані крыўды, ані шкадавання, ані бязвер'я. Хай хопіць мне сілы на такое жыццё, як і на рашэнне такое.*

*Калі, мая добрая, дасі сваю згоду (а іначай і нельга), то хачу сказаць, што мне год ці больш працаваць яшчэ тут. І табе будзе цікава — побач са мной. У дробязях — потым, а самая галоўная лінія: ці паспееш ты скласці кандыдацкія іспыты за два-тры будучыя месяцы, здаць у выдавецтва кніжку… І яшчэ: я прыеду ў Саюз — то трэба справіць нашу ўрачыстасць. Я мяркую пра вяселле на Ясельдзе і на Рыжскім узмор'і (там жывуць мае бацькі). Ці лепш агульная ўрачыстасць у Мінску? (але ж як пазбыцца той недарэчнай урбанізацыі?) Напішы, як мяркуеш.*

*А водпуск — той мядовы месяц — як правесці? А што, калі б здабыць маторную лодку — і ад тваёй хаты па Ясельдзе, Дняпры, потым перавал летапісны (з вараг у грэкі), потым па Дзвіне ў мора і аж да майго дому? Гэта кніга адкрыццяў была б! Ёсць другі варыянт. У мяне на аўтамашыну грошы знойдуцца, але як купіць яе за месяц? СП ці дапаможа?*

*І калі вяселле лепш за ўсё? Мо на Спас?*

*Ну вось колькі ў мяне пытальнікаў. Чакаю на ўсё адказы. І толькі як найхутчэй.*

*«Маладосць» — часопіс нешта затрымаўся, не дайшоў да мяне. А ў «Полымі» рэцэнзію я чытаў. Лічу недахопам толькі тое, што там мала стрэл у будучыню, карысных для цябе парад.*

*Я надрукаваўся ў «ЛіМе» № 26 за 25.06. Добра будзе, калі знойдзеш 15 і 16-я старонкі. А можа, Бажко лішні паасобнічак прывязе ў Прагу «Дня паэзіі»? Што, калі нагадаеш яму, як не позна?*

*Сам зараз перакладаю, і, страх, узяўся за паэму… і што атрымаецца… А яшчэ мы ўдваіх напішам адну кнігу. Як? — сваю задуму раскажу потым.*

*Добра, Аўгінька, мая маленькая. Цалую Цябе і развітваюся — і чакаю твайго ліста.*

*Твой Сяргей.*

*P. S. Пішаш, што паслала кнігі. Ці дойдуць? У такіх выпадках пішы на адрас:*

*S. Paniznik*
*Poste restante*
*Milovice n/Lab.*
*Nymburk*
*ČSSR*

*P. P. S. У пісьме на Рудку і мой фотаздымачак.*

*І яшчэ:*
*пішы авіа»*[18].

Неўзабаве ў 1971 годзе Янішчыц выходзіць замуж за Панізніка. Вяселле ладзілі тройчы: у Мінску 19 жніўня, у Велясніцы 22 жніўня і ў Каўгурах 27 жніўня. 19 жніўня 1971 года ў мінскім Палацы шлюбу зарэгістравалі маладую пару пад нумарам 2000. Вяселле адбывалася ў рэстаране «Журавінка», прысутных было больш за 100 чалавек. У БДАМЛіМ (ф. 141, воп. 3, спр. 223, арк. 15—16; ф. 482, воп.1, спр. 55, арк. 8) захоўваюцца міні-паштоўкі памерам 5х7,5 см, якія рассылаліся ў якасці запрашэння. З успамінаў запрошаных, яны былі прывезены з Прагі (на той час у нас падобныя па форме і афармленні не прадаваліся, а таму ўспрымаліся як маленькі цуд).

Як згадваў Лойка, Янішчыц *«...неспадзявана аб’явіла: «Выходжу замуж». Ды запросіны былі не толькі на вяселле, але і быць на ім сватам. Сватам трэба было ехаць у Латвію, адкуль быў родам малады, дзе бацькі яго жылі і жывуць. У Латвію я адлучыцца не мог, і так я не стаў у яе сватам...*»[19]. Затое гэту пачэсную ролю выканаў у Мінску Ніл Гілевіч, а ў Велясніцы Язэп Семяжон. А. Лойку выпала роля пасажонага бацькі.

Увага да вяселля гэтых двух таленавітых людзей набыла рэспубліканскі маштаб. Пра гэта напісалі ў газетах «Літаратура і мастацтва», «Голас Радзімы». Потым маладыя паехалі на радзіму Янішчыц. «*Каля роднага дома (у Велясніцы — С. К.) у вясельныя дні былі пасаджаны бярозка і сасонка. Бяроза ўзнялася над домам густым шатром. Зусім нядаўна яе спілавалі. А сасонка адразу загінула. Яшчэ тады я нешта нядобрае прадчула, але старалася дрэннае выкінуць з галавы»[20],* — згадвала Лідзія Антонаўна Саўчук, суседка бацькоў Жэні.

Было пагасцінства і на Ясельдзе, і на радзіме Панізніка — у пасёлку Каўгуры. Там ужо далучыліся да віншавання маладых самыя блізкія людзі, радня, сябры і г. д. Мядовы месяц яны правялі ў Юрмале. Таксама крыху павандравалі па вёсках Міёрскага раёна (Бабышкі, Даўгінава, Ліпава і інш.). Безумоўна, Янішчыц павінна была паехаць пасля 10 верасня 1971 года да мужа ў Чэхаславакію, дзе ён служыў ваенным журналістам, яна вельмі кахала мужа і не ўяўляла асобнага пражывання. Як згадвае Панізнік, *«ці не з апошніх месяцаў 1971 г. пачынаецца сямейнае жыццё ў Цэнтральнай групе войскаў — у гарадку Міловіцэ над-Лабэм»,* дзе жылі яны ў аднапакаёвай кватэры чатырохпавярховага дома ў ваенным гарадку. Янішчыц пайшла працаваць у вайсковую бібліятэку. Замежнае жыццё было спачатку зачаравальным, напоўненым знаёмствамі з прыгажосцю Прагі і яе наваколлем. Вацлаў Жыдліцкі[21] суправаджаў маладую пару ў паездках па замках, якія раскінуліся па ўсёй Чэхаславакіі, сустракаліся са знакамітым спеваком М. Забэйдам-Суміцкім і г. д. Больш за тое, менавіта Янішчыц перадрукоўвала асабістыя яго архівы, пра што згадвае ў лістах да Л. Геніюш. Сустрэчы з Жыдліцкім, Міраславам Зімам[22], Забэйдам-Суміцкім былі і да нараджэння сына, і пасля.

Вясной 1972 года адбылася паездка ў Арменію — у Дом творчасці «Цахкадзор». Пад восень 1972 года Жэня паехала да маці. 14 лістапада з’яўляецца на свет сын Андрэй, дзіця «чэхаславацкага кахання». Вяртанне ў Прагу адбылося толькі ў маі 1973 г., калі Андрэй набраўся сілы і пачаў радзей хварэць. Забіраў сям’ю ў Прагу Панізнік.

Як згадвае Сяргей Сцяпанавіч, «*на крыўду: «Ты прывёз мяне ў яму...» датэрмінова выпрасіў у Саюзе пісьменнікаў ратунак — пераехаць на службу пад Мінск*»[23]. У ліпені 1973 г. яго пераводзяць у Беларускую ваенную акругу, у 120-ю гвардзейскую Рагачоўскую дывізію. Новым адрасам пражывання стала службовая кватэра ў пасёлку Уручча, па вуліцы Паштовай. Жэня ўладкоўваецца на працу ў армейскую бібліятэку. І тут яе напаткаў сур’ёзны іспыт: па нявопытнасці яна прыняла кнігі бібліятэкі без вопісу наяўных асобнікаў і за гэта паплацілася. Пасля праведзенай рэвізіі не далічыліся шмат кніг, якія павінна была аплаціць нявопытны бібліятэкар. Так жыццё прымусіла яе быць больш абачлівай, асцярожнай. У 1974 годзе пакідае працу ў гэтай бібліятэцы па ўласным жаданні. Дый і дзіця патрабавала ўвагі. Пачаліся раз’езды паміж Мінскам, Каўгурамі і Велясніцай — у вёсцы, у бацькоў усё ж было прасцей гадаваць малога на чыстым паветры і з сялянскімі прысмакамі, кшталту малака ад уласнай каровы, а на моры ў Юрмале атрымліваць асалоду ад курортнага клімату.

Наступныя гады сталіся складанымі для маладой сям’і. Выпрабаванні побытам, няспраўджаныя чаканні, пастаянныя раз’езды, а да ўсяго ідэалагічныя рознагалоссі прывялі да двухбаковага рашэння аформіць развод. Па прызнанні Панізніка, з яго боку былі зроблены спробы захаваць сям’ю. Нават пасля таго, як падалі заяву, хацеў пайсці яе забраць, аднак Янішчыц была настроена катэгарычна. *«Разышліся...* — разважае Сяргей Сцяпанавіч. — *А калі сказаць «развялі»?*

*Якраз такім чынам, як разводзяць масты. Уключаюцца рычагі, раскручваюцца махавікі...*»[24] 14 студзеня 1976 года шлюб быў скасаваны, у гэтым жа месяцы Панізніка звальняюць з вайсковай службы. 1973—75-я гады сталі выпрабаваннем для яго, аб чым напісаў у вершы «Непаэтычныя згадкі 73-га года». С. Панізніка абвінавачваюць у антысаветызме. Шлюб двух таленавітых творчых індывідуальнасцей не прайшоў праверкі часам і людзьмі. Пазней Лойка паспрабуе вызначыць прычыны разладу: *«І стаў няшчасцем для іх той залаты пяцярык, што падарыў маладажонам любы, светлы, прыгожы дзядзька Міхась — Забэйда-Суміцкі. З таго ж пяцерыка, з нейкага ж менавіта, як я думаю цяпер, камсамольскага непрыняцця і асуджэння Жэняй Сяргея і пачаліся ўсе тыя парткомаўскія разборкі, якія пазбавілі Сяргея пагонаў, выключылі з партыі, давялі да разводу»*[25]. Называе гэту прычыну і Бугаёў: *«Ды тая прыгажосць сямейнага жыцця была даволі хутка растаптана. Па многіх прычынах. Сярод іх ёсць падставы лічыць і ўмяшанне нашых «ахоўнікаў», якія, калі ім загадаюць, умеюць пасварыць самых блізкіх людзей»*[26].

1970-я гады былі вельмі складанымі і для Янішчыц. Перад ёй паставілі задачу-план падрыхтаваць да 1974 года зборнік паэзіі. Праца над ім адбірала шмат бяссонных начэй, а на руках быў малы Андрэйка, а ў жыцці маладой сям'і ўтварыліся першыя расколіны. Новага зборніка чакалі як цуда, як замацаванне творчага поспеху на больш высокім мастацкім узроўні пасля бліскучых «Снежных грамніц», нават як яшчэ адзін прарыў… Як адзначала М. Панкова, *«…паэтэса (у многіх радках таго зборніка чулася) як бы на нейкім раздарожжы... Тэхніка пісьма і глыбіня слова, яго вышыня не заўсёды ўжываліся разам, была, трапляла слабіна, якую, няма ніякага сумнення, сёння б ні ў якім разе не ўключыла пасталелая паэтэса ў зборнік. Ці не таму і крытыка прамаўчала на «Дзень вечаровы»?.. А дарэмна. Словы ўсё ж з душы яе ў большасці, у пераважнай большасці, выляталі, «як ластаўкі з гнёздаў вясны». Адчувалася лёгкасць яе пісьма, але і, я сказала б, паспешлівасць... І каб не апошняе, песня Янішчыц у другім яе зборніку была б, безумоўна, званчэйшай, на тым аднолькава-вышынным узроўні, што і ў першым, у цудоўных "Снежных грамніцах"»*[27]. І цуду не адбылося. Падобных думак, адпаведных развагам Панковай, прытрымлівалася большасць крытыкаў і літаратуразнаўцаў, і гэтая большасць маўчала. Аж да 1978 года не было ніводнага апублікаванага артыкула ці рэцэнзіі на другую кнігу Янішчыц. І гэта пасля «абвалу» публікацый на зборнік «Снежныя грамніцы». Пра яе раптам усе забылі. З гэтага небыцця, жыццёвага, творчага, ёй дапамагла выйсці паэзія, якая клікала наперад і не давала змаркоціцца ад горычы пражытага.

Але ж вернемся да зборніка «Дзень вечаровы». Калі паглядзець аб'ектыўна на вершы з яго, то знойдуцца і ўдалыя, запамінальныя, і прахадныя, з аднолькавымі статычнымі вобразамі, як і ва ўсіх астатніх кнігах Яўгеніі, як і ў кожнага паэта[28]. Ёсць паняцце «чалавечы фактар», якое варта ўлічваць у любой справе: пісьменнік той жа чалавек, у яго жыцці могуць адбывацца розныя падзеі, якія ўплываюць на яго «прафесію» і яе вынікі. Пра некаторыя абставіны напісання вершаў для другой кнігі даведваемся з ліста Янішчыц да Генiюш ад 6 лютага 1973 г.: «…*А мы былі ўсе пахварэлі. За Андрэйкай і я злягла. Пракляты грып. Цэлых дзве нядзелі мучыў, была так аслабла, што чатыры дні з ложку не паднімалася — усё гарэла, як у пажары. Да таго ж яшчэ праняў дзікі кашаль. Нарэшце, усё прайшло. Добра, што мама здаровая, дык справа йшла на лад і Андрэйка быў дагледжаны як след.*

*Цяпер як быццам бы нарадзілася на свет. Хочацца тварыць і рабіць людзям дабро, дзесьці падспудна ўжо, хаатычна складаюцца радкі. І пісаць хочацца, а часу зусім мала: вельмі часта турбуе малы. Але ж гэта самыя светлыя, самыя ўрачыстыя хвіліны ў маім жыцці.*

*Кніжка мая мае называцца «Гукаю вясну». Працы яшчэ шмат, бо хочацца, каб яна была найлепшай*»[29]. Даследчыкі часта абыходзяць увагай вельмі істотныя

факты: калі нарадзіўся сын, маладой маці даводзілася з ім ездзіць то да маці, то да мужа ў Чэхаславакію і зноў на радзіму. А сын часта хварэў і патрабаваў падвышанай увагі. На момант выхаду зборніка (як пісала Янішчыц, ён павінен быў мець іншую назву — «Гукаю вясну») Андрэю было два гады. Таму прэмію Ленінскага камсамола Беларусі, атрыманую за кнігу паэзіі «Дзень вечаровы», я лічу ўзнагародай за сукупныя мастацкія дасягненні паэтэсы ў працы над двума зборнікамі. Шкада, што маўчанне крытыкі Янішчыц успрыняла як творчы правал і вершы з «Дня вечаровага» не ўключыла ў кнігу выбранага «У шуме жытняга святла» (1988).

Лёс падрыхтаваў паэтэсе шэраг цяжкіх выпрабаванняў. 28 мая 1975 года трагічна загінуў бацька Іосіф Сцяпанавіч Патапчук. У студзені 1976 года разводзіцца, з'язджае з кватэры ва Уруччы і застаецца без жылля. Даводзіцца туляцца па чужых кватэрах. У лютым трапляе ў аварыю ў Магілёве: вяртаючыся разам з Аляксеем Пысіным з паэтычнай вечарыны, задумаўшыся, выпадкова трапляе пад колы хуткай дапамогі. На два месяцы аказваецца прыкутай да бальнічнага ложка. Потым яшчэ месяц вучылася хадзіць — спачатку з мыліцамі, потым без іх. Яе, як калісьці спявачку Ганну Герман, «складваюць» наноў. Па ўспамінах Тамары Аўсяннікавай, на Жэні не было жывога месца. Яна ляжала ў рэанімацыі Магілёўскай гарадской бальніцы два месяцы, атрымаўшы некалькі пераломаў. Усё перажытае выклікала дэпрэсію, якая год ад году набірала моц і выпрабоўвала паэтэсу на трываласць.

У 1976 годзе з 9 лютага і да канца красавіка знаходзілася ў магілёўскай бальніцы. У красавіку яе адвозяць да маці ў Велясніцу, дзе да восені жыла з сынам. У адным з лістоў да Забэйды-Суміцкага пісала: *«Хаця б хутчэй далі кватэру ў Мінску, ды пераехаць. Бо па натуры я вельмі мяккая, а ад таго, мабыць, лёгка ранімая. Кажуць, што для поўнага шчасця паэт павінен быць неўладкаваным. Але калі гэтай неўладкаванасці праз меру, то горш не трэба...»* Па афіцыйнай інфармацыі, 15 кастрычніка 1976 года яна нарэшце ўладкавалася літкансультантам у «Сельскую газету». Уладзімір Андрыевіч згадвае, якой яму падалася Яўгенія Янішчыц падчас працы: *«Там заўсёды былі кветкі, а надвячоркам гарэла настольная лямпа. Да гэтага часу помню цеплыню яе адносінаў, да гэтага часу адчуваю добрую аўру таго невялікага рэдакцыйнага пакойчыка, у якім працавала Жэня. Здавалася, кожнаму яна хацела дапамагчы, кожнаму зычыла шчасця, прыгажосці, чалавечнасці. Таму што сама была Чалавекам шчодрай душы, валодала магутным Талентам. Адсюль, мабыць, і празмерная яе ранімасць, і нейкая непрыстасаванасць да суровых рэалій жыцця, і пастаянная трывога за будучыню. Чуйная да роднага слова, да ўсяго, што звязвала чалавека з роднай зямлёй, з Бацькаўшчынай, Яўгенія Янішчыц заўсёды ўражвала прагай сцвярджэння высокачалавечых адносінаў паміж людзьмі»*.

У 1977 годзе атрымала кватэру на вуліцы Ульянаўскай, 4, на першым паверсе, які нагадваў падвальнае памяшканне, бо вокны знаходзіліся вельмі нізка. Але тут усё роўна збіраліся людзі не абыякавыя да творчасці, беларускай літаратуры. Часта сыходзіліся вялікія кампаніі. Забягалі пагаманіць пра жыццё і пра паэзію сяброўкі-паэтэсы Раіса Баравікова, Валянціна Коўтун, Ніна Загорская, Вольга Іпатава і іншыя.

У 1978 годзе выходзіць наступная кніга Янішчыц — «Ясельда». Пасля «правалу» зборніка «Дзень вечаровы» крытыкі і літаратуразнаўцы з асаблівай цікавасцю чакалі яе. Кніга з'явілася праз чатыры гады. Гэтыя гады былі для паэтэсы самымі цяжкімі ў яе біяграфіі. Усе апісаныя вышэй падзеі павінны былі яе надламаць, пазбавіць ранейшага аптымізму, не спрыялі нараджэнню светлых, радасных вобразаў паэзіі…

Аднак яны нарадзіліся насуперак усім іспытам лёсу. Яўгенія Янішчыц ратавалася паэзіяй, дорачы паэтычным радкам свае мары пра бясхмарнае, спакойнае, гарманічнае існаванне ў такім жа свеце. У «Ясельдзе» паэтэса паўстае пранікнё-

на-трапяткім і гранічна шчырым лірыкам, натхнёным любасцю да роднага краю, перш за ўсё да беларускага Палесся, да яго сціплых, працавітых людзей і самой прыроды, якая таксама багата гаворыць уражліваму аўтарскаму сэрцу. Лёсы палешукоў, мясцовыя традыцыі, каларыт, зварот да фальклору — ва ўсім гэтым паэтэса сябя адчувала як у роднай яе душы стыхіі. У Янішчыц нібы адкрываецца другое дыханне… І раптам амаль разгромная рэцэнзія У. Калесніка «Наабапал перавалу»[30]. Паўтараю: Яўгенія Янішчыц не ўмела спакойна рэагаваць на крытыку. Вельмі балюча перажывала з-за кожнай праўкі яе аўтарскага стылю, не гаворачы пра афіцыйныя крытычныя водгукі на вершы. У БДАМЛіМ захоўваюцца паштоўкі, напісаныя ёю і адпраўленыя Калесніку. Як вынікае з адной з іх, Калеснік выказваў паэтэсе свае заўвагі і раней у перапісцы і, магчыма, вусна, пра што яна сама згадвае ў паштоўцы ад 29.12.1974 г.: «*Шчыра дзякую Вам за навагодняе віншаванне, за заўвагі, выказаныя да кнігі. Але, будучы натурай сентыментальнай, я амаль не плачу, заслужыўшы некаторыя словы па сваёй наіўнасці (а свет не такі наіўны, аказваецца!..)*»[31]. Яго заўвагі тычыліся, відаць, зборніка «Дзень вечаровы». А ў 1978 годзе Калеснік публікуе ў «ЛіМе» рэцэнзію на зборнік «Ясельда», якой перакрэслівае ўсе былыя дасягненні і набыткі паэтэсы.

Адносіны з Калеснікам пры гэтым захаваліся цёплыя, пра што сведчыць адпраўленая яму Янішчыц напярэдадні Новага 1982 года віншавальная паштоўка. Як пісала Аўсяннікава, «*Жэня была чалавекам закрытым, тонкім і далікатным у адносінах з людзьмі*»[32], а таму змагла пераступіць праз крыўды і зрабіць высновы з крытычных заўваг знанага літаратуразнаўцы. Раз-пораз кідаюць папрокі ў дачыненні да мастацкай недасканаласці некаторых яе вобразаў і тропаў у сваіх водгуках на кнігі паэтэсы тыя літаратуразнаўцы, якія раней спявалі ёй «дыфірамбы». Да паэтэсы, прызнанай у літаратурных колах, ставяцца з самымі высокімі крытэрыямі. І зборнікі Янішчыц адлюстроўваюць змены ў пабудове адносін аўтара з рэчаіснасцю. Раней паэтэса ў сваіх творах паўставала натхнёная, дзейсная, поўная надзей на казачнае шчасце. Бліжэй да 1980-х, маючы сына, працу, вялікі аўтарытэт у грамадстве і літаратурным асяродку, яна адчувае сябе самотнай, стомленай і неабароненай.

Адхіліўшыся ад афіцыйных дат і падзей жыцця Янішчыц, нельга не згадаць пра яшчэ адну трывожную старонку з яе жыцця — напалоханай маці, якая да ўсяго свету звярталася з адной малітвай: «Уратуйце мне адзінае святло!» Размова пра сына Андрэя і яго знаходжанне ў бальніцы з 14 верасня па 17 кастрычніка 1985 года, аб чым даведваемся з цыкла вершаў пад назвай «Маё адно-адзінае світанне», апублікаванага ў зборніку «Каліна зімы». Гэта той выпадак, калі і ў горы чалавек шукае паратунку ў паэзіі, праз мастацкае слова імкнецца выліць з душы жах, боль, адчай, жаль, шкадаванне… Больш за тое, яна піша не проста вершы, падпісваючы пад кожным з іх даты (рэдкі выпадак у творчай біяграфіі Янішчыц, таму што і ў рукапісе яна не ставіла даты пад вершам), а кожны дзень стварае новую вершаваную малітву, у якой нязменнай застаецца просьба-замова: «Ты будзеш жыць! Ты выжывеш, сынок!» Сын перанёс складаную аперацыю, дыягназ быў няўцешны: апендыцыт з перытанітам. За час лячэння сына яна амаль нічога не ела, мала спала, стала «раздаўленай і чэпкай, нібы звер». Усё яе існаванне было падпарадкавана адной мэце — выпрасіць, вымаліць у неба, Бога, людзей, вырваць любой цаной у бяды жыццё сына. У зборніках Янішчыц знойдзем шмат вершаў-прысвячэнняў сыну ці згадак пра яго — сапраўды, ён для яе да канца дзён заставаўся як «Заступнічак харобры, абарона, // Маёй пяшчоты песенны выток!»

16 сакавіка 1983 года Янішчыц становіцца рэдактарам аддзела паэзіі часопіса «Маладосць», дзе працуе да канца жыцця. У 1987 годзе выходзіць зборнік «Каліна зімы». Паэтэса рыхтуе кнігу выбранае «У шуме жытняга святла». Яна — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Янкі Купалы (1986 г. — за кнігу «Пара любові і жалю»), прэміі Ленінскага камсамола Беларусі (1978 г. — за кнігу «Дзень вечаровы»). І як трапна заўважыў Бугаёў, «*прэмія ёй таксама давалася не*

*за кан'юнктурнасць, не за прыстасавальніцкую дагодлівасць, якіх у яе не было, а зноў жа за сапраўдную таленавітасць яе ўсхваляванага паэтычнага слова*»[33].

Творчае і грамадскае жыццё Янішчыц у 1980-я гады было насычана мноствам падзей. У 1980 годзе яна стала членам КПСС: без гэтага членства нельга было марыць аб выездах за мяжу, а ў той час Саюз пісьменнікаў БССР арганізоўваў творчыя сустрэчы па ўсіх рэспубліках СССР і па краінах так званага сацыялістычнага лагера. Стала прымаць удзел у больш сур'ёзных мерапрыемствах — у пленумах і з'ездах пісьменнікаў, выступала і з публіцыстычнымі прамовамі перад living рознымі аўдыторыямі. Выбіралася дэпутатам раённага Савета Савецкага раёна г. Мінска; з'яўлялася членам праўлення і прэзідыума СП Беларусі; была членам Беларускага рэспубліканскага Камітэта абароны міру, членам праўлення Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. Як згадваў Генрых Далідовіч, «*з нашага пакалення ёй большая была падтрымка і ў іншым — яе першай абралі ў праўленне і прэзідыум Саюза пісьменнікаў Беларусі, дзе былі самыя масцітыя, абралі дэпутатам*». Аднак пры такой падтрымцы на яе кволыя плечы кладаліся і шматлікія даручэнні і складаныя заданні, да выканання якіх яна ставілася з падвойнай адказнасцю. Як пісала паэтэса ў адным з лістоў да Аўсяннікавай, «*кое-что написалось, в плане — одна поэма, первые строчки которой уже легли на чистую бумагу. Хочется много сделать, много успеть, пока ещё голова свежая да сила держится, хотя настоящий поэт должен оставаться Поэтом до конца всей своей жизни. Нелёгкая эта баржа, но иначе себя не представляю*»[34].

Яўгенія Янішчыц была заўсёдным удзельнікам дэкад і дзён літаратуры, святаў паэзіі, вечарын і канферэнцый, «круглых сталоў» і «паэтычных пятніц». Яна любіла бываць у бібліятэцы імя Л. Талстога — сустракалася з прыхільнікамі паэзіі. У многіх залах звінеў калісьці яе натхнёны голас: на розных мерапрыемствах яна акрылена, таленавіта, як і пісала, чытала свае вершы. Калі спявала ці чытала свае вершы, то станавілася «*…ўзнёслая, і прасветленая, і даверлівая, і прыгожая ў тыя незабыўныя хвіліны!..*»[35]

На радыё вяла літаратурную перадачу «Шчырага сэрца павевы». На секцыі паэзіі ў Саюзе пісьменнікаў удзельнічала ў абмеркаванні першых кніг маладых паэтаў. У 1970-я гады ездзіла ў Чэлябінск для выступленняў на ўдарных камсамольскіх будоўлях. У гарадах Беларусі, Расіі і Украіны ўдзельнічала ў Днях паэзіі.

Восенню 1981 года ў якасці члена дэлегацыі БССР прымала ўдзел у рабоце XXXVI сесіі Генеральнай Асамблеі ААН. Гэта асаблівая старонка ў яе лёсе. Б. Сачанка ўспамінаў: «*Жэню ўключылі ў склад дэлегацыі. Прабыла яна ў ЗША каля трох месяцаў. Вярнуўшыся ж, пазваніла мне раніцою, гадзін у сем-восем.*

*— Барыс Іванавіч, я хачу вас пабачыць. Мне цяжка, — сказала яна. І палажыла трубку.*

*Я адразу ж паехаў. І там, на кватэры ў Жэні, сутыкнуўся ўпершыню з тым, што, відаць, выяўлялася ў яе і раней і пачало выяўляцца потым, — з поўнай бездапаможнасцю, страхам перад далейшым жыццём, а дакладней, глыбокай дэпрэсіяй.*

*— Я вытрымала ўсё, — сказала Жэня. — Але далей жыць у мяне проста няма сіл…*

*Прабыў я ў Жэні амаль увесь дзень. Выклікаў па тэлефоне некаторых блізкіх ёй людзей…*»[36]

Пачэсная і адказная роля прадстаўляць БССР у капіталістычнай краіне выклікала ў Янішчыц не пачуццё гонару, а адчуванне страху. Звышнапружанае чаканне правакацый прывяло да нервовага зрыву чалавека тонкай арганізацыі, ранімага сэрца і, што самае галоўнае, адказнага не толькі за сябе, але і за краіну, якую там прадстаўляла. Пра гэта гаварыла і Ніна Мацяш: «*Да чужога не звыкліся вочы…», — пісала ты. І вочы не звыкліся (каго ж са звычайнага люду пускалі*

*тады за мяжу?), і ўспрыманне было непазбежна запраграмаванае (мэтанакіраванай ідэалагічнай «прамыўкай мазгоў»)»*[37]. Дэпрэсіўны зрыў. Янішчыц застаецца сам-насам з гэтай незразумелай і палохаючай хваробай, якая забірала апошнія сілы і не давала супакаення. Яе выслухоўвалі сябры, калегі, родныя і пакідалі адну змагацца з маніяй пераследу…

Я думаю, што першыя зерні страху былі пасеяны ў душы паэтэсы яшчэ ў 1973—1976 гг., калі адбываўся працэс над Панізнікам, і яна, як яго жонка, не аднойчы выклікалася на допыты. А размовы-домыслы сярод калег-пісьменнікаў пасля разводу дадавалі перажыванняў і крыўд. З гадамі пачуццё страху разрасталася ў свядомасці пад уздзеяннем розных прычын, і, у першую чаргу, адносін да яе людзей: хваравіта яна рэагавала на любыя правакацыйныя пытанні, у якіх ставіліся пад сумненне яе грамадзянская пазіцыя ці чалавечыя намеры.

У матэрыялах Саюза пісьменнікаў БССР прадстаўлены спісы членаў саюза, якія былі ў творчых і навуковых паездках па замежных краінах з 1986 па 1989 гг[38]. Сярод іх і Янішчыц, якая ў 1987 годзе выехала ў Фінляндыю. Пасля гэтай паездкі дэпрэсія праявілася з яшчэ большай сілай. Нам невядома, што здарылася там, пра гэты выпадак Сачанка згадвае так: «*Неяк яна паехала ў Фінляндыю. Вярнулася адтуль сумная. Не ведаючы яе характару, сёй-той паспрабаваў «пажартаваць» — правакаваць на некаторыя ўчынкі. І гэта яе хвалявала.*

*— У Амерыцы мяне сёй-той выпрабоўваў… А цяпер у Фінляндыі… Няўжо мяне не ведаюць? — пытала яна*»[39].

Пасля гэтай паездкі трапіла ў бальніцу з вострым прыступам дэпрэсіі. Па згадках калег і сяброў, паэтэса стала яшчэ больш закрытай, апраналася ва ўсё чорнае, заводзіла размовы, якіх не разумелі, з усімі развітвалася. Яе не бачылі з былой усмешкай. Песімістычныя настроі пераважалі над усімі астатнімі. Паводзіла сябе як запалоханы чалавек: зачынялася ў кватэры, глуха занавешвала вокны і не ўключала нават радыё і тэлевізар. Для яе такі стан і немагчымасць яго адолець былі як прыгавор. «*Як бачыў я на свае вочы,* — згадваў Далідовіч, — *не толькі душэўная рана, але і вялікія паэтычныя і грамадзянскія поспехі даваліся ёй нялёгка: яны вылучалі перад ёй усё новыя і новыя выпрабаванні. Яна ўсё больш і больш атрымлівала заказ «зверху» прамаўляць на розных творчых і грамадскіх форумах. Не ва ўсім яна слухалася, але ўсё ж мусіла выслухоўваць нападкі і ад асобных аднагодкаў. І часамі жорсткія, злыя, што неаднойчы даводзілі яе да слёз. У такіх выпадках А. Грачанікаў (галоўны рэдактар часопіса «Маладосць», у пэўным сэнсе яе хросны бацька, ён нават аднойчы выратаваў ёй жыццё) і я (намеснік) суцяшалі яе, разнерваваную, як маглі. У тым ліку і з-за растрывожаных скаргаў, што яе праследуюць цёмныя людзі... Асабліва цяжкі яе стан быў пасля вяртання з Фінляндыі...»*[40]

Янішчыц цалкам аддаецца дэпрэсіі, трапляючы ў яе страшныя кіпцюры. Галіна Каржанеўская згадвае: «*Мала хто з нашага кола ведаў пра душэўнае нездароўе таварышкі. (Хіба толькі Рая Баравікова, якая мела неасцярожнасць наведаць сяброўку ў Навінках.) Дапускаю, што ведалі кіраўнікі творчага саюза, калегі па рэдакцыі, але ніхто з павагі не разгалошваў. Тое-сёе прасачылася толькі праз шмат гадоў.*

*Найбольш яркі мой успамін звязаны з партыйным сходам у Доме літаратара, дзе Жэня сядзела сярод іншых у прэзідыуме. Я не адрывала позірку ад яе твару; ён быў шэры, як попелам прысыпаны, і падобны на маску. Жэня выглядала самапаглыбленай, нічога не чула, глядзела ў стол і ні на што не рэагавала. Здавалася, яна знаходзіцца не тут. Гэта было мо за тыдзень да яе страшнай смерці»*[41].

У лістападзе 1988 года, у адпаведнасці з пазнакамі ў плане работы Савета па беларускай літаратуры пры Саюзе пісьменнікаў, Янішчыц павінна была наведаць рэгіянальную нараду «Удзел жанчын у сучасным жыцці і літаратуры» разам з прадстаўніцамі з Латвіі, Літвы, Эстоніі, Украіны. Ці паспела?

У апошні год жыцця яна атрымала доўгачаканую новую трохпакаёвую кватэру на вуліцы Старажоўскай. Здавалася, гэта прыемная, нават шчаслівая падзея ў лёсе павінна была паўздзейнічаць на з'яўленне іншых настрояў, эмоцый, размоў, аднак гэтага не адбылося… Сябры, калегі, пісьменнікі збіраліся да яе на юбілей і «ўваходзіны» ў новую кватэру, але яна так нікога і не паклікала. Васіль Жуковіч трапна акрэсліў сімптомы дэпрэсіі, калі згадаў адну з апошніх сустрэч з Янішчыц у лістападзе: «*Была гаспадыня гасцінная. Але ад любові да жыцця, якая калісьці ў ёй літаральна буйнела, ад яе жыццярадаснасці не засталося і следу — ад Жэні не адступала хандра; мабыць, такі стан называецца дэпрэсіяй»*[42]. Панізнік таксама згадваў, што за тыдзень да трагедыі сустрэўся з ёю, адбылася цёплая і шчырая размова, падчас якой яна некалькі разоў паўтарыла: «Ты ж беражы Андрэя». Напярэдадні дня нараджэння Янішчыц да яе на працу зайшла сяброўка Раіса Баравікова і пачула наступнае: *«Жэня кажа: «Мне прыслалі рэквіем»... Чатыры разы яна паўтарыла гэтыя словы. А сама ўся стаіць, як камяк, сцятая, а ў вачах сляза застыла... Потым яшчэ сказала: «Пішы сваю лірыку...» У кожнага творцы, які свеціцца, як дыямент, ёсць той, хто хоча кінуць у яго звычайнае каменне... Будзе праходзіць час, і будзе разгадвацца нейкая загадка, звязаная з трагедыяй Жэні, таму што яна так і не растлумачыла, што гэта быў за рэквіем...»*[43]

А 25 лістапада 1988 года, праз пяць дзён пасля дня нараджэння (паэтэсе споўнілася 40 гадоў), Янішчыц не стала. Па афіцыйнай версіі, скончыла жыццё самагубствам, выпала з балкона ўласнай новай кватэры з 8-га паверха. Як пісала Людміла Рублеўская, «*…меня в свое время более всего впечатлил рассказ одного из близких знакомых Евгении о том, что, падая, она закрыла лицо руками. То есть хотела и после смерти выглядеть красиво…»*[44] Мастак Мікалай Селяшчук зрабіў пасмяротную гіпсавую маску паэтэсы, якая захоўваецца ў Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Прычыну самагубства акрэслілі Васіль Жуковіч: «*Уражанне такое, што адбыўся канфлікт чуйнай душы, расчараванай у фальшывым свеце, які калісьці здаваўся ёй такім чыстым, добрым, прыгожым, ледзь не беззаганным. Канфлікт здарыўся і з самой сабою — з сабой былою*»[45]; і Раіса Баравікова: *«А побач былі чалавечая жорсткасць, зайздрасць, якія ранілі яе, выклікалі пачуцці адчаю і трывогі. А яна была жанчынай безабароннай, сам-насам з жыццём і сынам-падлеткам, да таго ж душа ў яе была крыштальная, чыстая, лёгкая, ранімая...»*[46]

## Выкарыстаныя крыніцы і каментарыі:


[1] Субат, У. «З глыбінь народнага жыцця ўвысь ірвалася Янішчыц — Палесся мілае дзіця» / Уладзімір Субат // Белорусская нива. — 2013. — 21 ноября. — С. 15.

[2] БДАМЛіМ, ф. 161, воп. 2, спр. 298 — паштоўка. На штэмпелі — 29.12.74 г.

[3] «Автобиография» (на рус. мове) Яўгеніі Янішчыц ад 22.VII.1979 г. захоўваецца ў яе сямейным архіве.

[4] БДАМЛіМ, ф. 12, воп. 1, спр. 1044 — аўтографы з рэдактарскімі праўкамі. З пазнакай: Атрымана 24.X.1965 г. пад № 2135. Змешчана ў № 76. Да падборкі прыкладваўся ліст Я. Янішчыц да Генадзя Бураўкіна. Частка вершаў апублікавана ў газеце, частка закрэслена.

[5] Рублеўская, Л. Гэта быў дар божы…: інтэрв'ю з М. А. Янішчыц і А. Янішчыцам / Людміла Рублеўская // Першацвет. —1995. — № 7. — С. 132.

[6] Тамсама. — С. 129.

[7] Ильин, А. Евгения Янищиц и Василий Коротышевский (о творчестве белорусских поэтов) / Александр Ильин // Гістарычная брама. — 2010. — № 1. — С. 154—160.

[8] Тамсама. — С. 157.

[9] Федзюковіч, М. «Хочацца проста светла жыць» / Мікола Федзюковіч // Чырвоная змена. — 1994. — 11 жніўня.

[10] Кніга з дарчым надпісам захоўваецца ў музеі Яўгеніі Янішчыц.

[11] Цяпер гэты зборнік захоўваецца ў музеі Яўгеніі Янішчыц.

[12] Бугаёў, Д. Летуценніца на скразняках эпохі: Аб творчасці паэтэсы Я. Янішчыц / Дзмітрый Бугаёў // Полымя. — 1998. — № 1. — С. 62—67.

[13] Водгук М. Лужаніна — БДАМЛіМ, ф. 140, воп. 2, спр. 108, арк. 1—2, рукапіс водзыва П. Панчанкі — БДАМЛіМ, ф. 430, воп. 1, спр. 18, арк. 3.

[14] Больш падрабязна пра Яўгенію Янішчыц з успамінаў аднакурснікаў можна прачытаць у раздзеле «Успаміны аднакурснікаў» у 2-м томе выдання яе Збору твораў.

[15] БДАМЛіМ, ф. 78, воп. 1, спр. 335 — па матэрыялах Саюза пісьменнікаў БССР.

[16] Грачанікаў, А. Паэзія — яна не знае тлену… / Анатоль Грачанікаў // Літаратура і мастацтва. — 1988. — 2 снежня (№ 48). — С. 15.

[17] Федзюковіч, М. «Хочацца проста светла жыць» / Мікола Федзюковіч // Чырвоная змена. — 1994. — 11 жніўня. Пра гэтую сустрэчу згадваў і С. Панізнік у адным з інтэрв'ю, апублікаваным у «Чырвонай змене» за 19 лістапада1998 г.

[18] Ліст захоўваецца ў сямейным архіве ў Андрэя Янішчыца. Публікуецца ўпершыню.

[19] Лойка, А. Кладачка тоненька: Успаміны пра паэтэсу Я. Янішчыц / Алег Лойка // Маладосць. — 1995. — № 4. — С. 214.

[20] Субат, У. Белорусская нива. — 2013. — 21 ноября. — С. 15.

[21] Жыдліцкі Вацлаў (1931—2002) — чэшскі літаратуразнавец і перакладчык. Доктар філалогіі (1967). Ганаровы доктар БДУ (1996). Даследчык і перакладчык беларускай літаратуры, адзін з заснавальнікаў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. Пасля вайны яго сям'я перасялілася ў Чэхію. У 1955 г. скончыў Карлаў універсітэт у Празе. У 1967 г. абараніў там доктарскую дысертацыю, у 1976 г. стаў прафесарам. Побач з украінскай актыўна прапагандаваў у Чэхіі беларускую літаратуру, чытаў пра яе курс лекцый ва ўніверсітэце, заахвочваў да яе вывучэння студэнтаў.

[22] Мірaслаў Зіма працаваў у Славянскай бібліятэцы, ці Клеменцінуме, у Празе.

[23] Запісана падчас інтэрв'ю з С. Панізнікам у 2014 годзе.

[24] Панізнік, С. «Няхай збівае страта слабога і бяссільнага…» / Сяргей Панізнік // Чырвоная змена. — 1998. — 19 лістапада. — С. 3.

[25] Тамсама. — С. 231.

[26] Бугаёў, Д. Летуценніца на скразняках эпохі: Аб творчасці паэтэсы Я. Янішчыц / Дзмітрый Бугаёў // Полымя. — 1998. — № 1. — С. 62—67.

[27] Панкова, М. Разліваецца рэчанька шыр-ракою… / М. Панкова // Чырвоная змена. — 1978. — 14 снежня.

[28] Гл. артыкул Т. Аўсяннікавай «Абнадзееныя дні» (Маладосць. — 2011. — № 3. — С.133—136), у якім яна робіць аналіз вершаў зборніка «Дзень вечаровы», адстойваючы меркаванне, што «Я. Янішчыц не толькі замацавала сваю пазіцыю ў паэзіі, захавала сваю непаўторную паэтычную індывідуальнасць, але і пайшла далей».

[29] ЦНБ, рэдкая кніга, ф. 31 «Ларыса Геніюш», воп. 1, адз. зах. 640. Лісты Яўгеніі Янішчыц да Л. Геніюш (1971—1973).

[30] Калеснік, У. Наабапал перавалу / Уладзімір Калеснік // ЛіМ. — 1978. — 6 кастрычніка.

[31] БДАМЛіМ, ф. 161, воп. 2, спр. 298 — паштоўка. На штэмпелі — 29.12.74 г.

[32] Аўсяннікава, Т. «Даруй, што варушу твой боль» / Тамара Аўсяннікава // ЛіМ. — 2009. — 20 лістапада. — С. 15.

[33] Бугаёў, Д. Полымя. — 1998. — № 1. — С. 62—67.

[34] Ліст захоўваецца ў асабістым архіве Т. Аўсяннікавай.

[35] Мацяш, Н. Па сцяжынцы ручніка / Ніна Мацяш // Звязда. — 1998. — 27 кастрычніка. — С. 4.

[36] Сачанка, Б. Жэня Янішчыц / Маладзейшыя / Барыс Сачанка // Полымя. — 1991. — № 6. — С. 147—148.

[37] Мацяш, Н. Звязда. — 1998. — 27 кастрычніка. — С. 4.

[38] БДАМЛіМ, ф. 78, воп. 1, спр. 605.

[39] Сачанка, Б. Маладзейшыя: (Пра А. Сербантовіча, В. Бечыка, Я. Янішчыц, Р. Семашкевіча, І. Хадановіча) / Барыс Сачанка // Маладосць. — 1991. — № 6. — С. 143—150.

[40] Далідовіч, Г. «Палесся мілае дзіця» / Генрых Далідовіч // Краязнаўчая газета. — 2008. — Лістапад (№ 43).

[41] З успамінаў Г. Каржанеўскай, прадстаўленых для публікацыі ў Зборы твораў Я. Янішчыц.

[42] Жуковіч, В. Між двух лістападаў... / Васіль Жуковіч // Літаратура і мастацтва. — 1998. — 20 лістапада (№ 47). — С. 7.

[43] Яўгенія Янішчыц: Завязь лета з гарчынкай шчасця на губах: успаміны пра паэтэсу / запісалі Алена Ляўковіч і Валянціна Паліканіна // Народная газета. — 2008. — 21 лістап. — С. 4, 13. Аўтары: У. Андрыевіч, Р. Баравікова, М. Мятліцкі, В. Шніп.

[44] Рублевская, Л. Ее вёсны закончились в ноябре / Людмила Рублевская // Советская Белоруссия. — 2008. — 20 ноября. — С. 9.

[45] Жуковіч, В. Святло зоркі: Пра беларус. паэтэсу Я. Янішчыц / Васіль Жуковіч // Настаўніцкая газета. — 1995. — 11 студзеня.

[46] Тамсама.



# ЛІСТЫ ВЯЧАСЛАВА АДАМЧЫКА ДА МАЛОДШАГА СЫНА МІРАСЛАВА Ў ВОЙСКА

*Тата ўвесь час старанна пісаў лісты. Ён пісаў лісты пра каханне ў ціхі гарадок Скідзель да маладой бібліятэкаркі Ніны Глобус. Пісаў да бацькоў у невялічкую заходнебеларускую вёску Babакомшчыну. Пісаў з Масквы ў Мінск да мяне — тады яшчэ адзінага сына Валодзі. Пісаў і на флот да свайго малодшага брата Яна. Шмат лістоў не захавалася. Прапалі ўсе лісты, што тата пісаў з Нью-Ёрка, калі працаваў у прадстаўніцтве ААН. Іх шкада. З таго, што засталося, я стараюся выбраць цікавейшае і апублікаваць. Недзе ў перспектыве мне бачыцца выдадзены асобнай кнігаю томік лістоў Вячаслава Адамчыка. Перспектыва тая далёкая. Гэтым разам чытач можа пазнаёміцца з новай падборкай татавых лістоў, якія ляцелі з Беларусі ў Чэхію, дзе на палігоне служыў мой брат Міраслаў.*

***Уладзімір АДАМЧЫК***

* * *

*12 снежня 1984 года.*
*20 гадзін вечара.*

Міраслаў, дзень добры, сын!

Пішу табе з Масквы. Мабілізавалі мяне сюды на вучобу ў Камсамольскую школу як рэдактара піянерскага часопіса. Слухаю лекцыі, бываю ў рэдакцыях маскоўскіх газет і часопісаў. Жыву ў інтэрнаце, успамінаючы далёкія ды ўжо забытыя гады студэнцтва.

На 22 снежня заказаў білет дадому, бо 24-га снежня юбілей «Бярозкі» — 60 год з дня выхаду першага нумара.

Вечар мае быць у Доме літаратара.

Яшчэ не бачыў пераклад свайго «Года нулявога», хоць раман выйшаў у свет тры тыдні назад. Скарочаны варыянт яго надрукаваны ў «Нёмане» ў № 11 і 12 за гэты год.

Быў у лаўцы пісьменніка, дзе купіў Сляпцова, і ў «Детском мире», дзе набыў паважаныя мною за малы фармат сшыткі для запісаў слоў: яны лёгка змяшчаюцца ў кішэні.

Масква прыцярушана лёгкім сняжком. Лёгкі марозік на дварэ. Наша школа далёка ад цэнтра, але блізка ад метро, у старым прыгожым парку. Прыязджаем сюды, як у нейкі стары маёнтак.

Яшчэ раз абдымаю цябе і цісну руку.

Бацька.

* * *

*Панядзелак, 17 снежня 1984 года.*

Добры дзень, дарагі сын!

Пішу табе пад выступленне нейкага рэдактара нейкага мне невядомага часопіса.



*Вячаслаў і Міраслаў Адамчыкі. 1982 г.*

Марнуецца дарма мой час. Жыву надзеяй, што неўзабаве сяду за стол, каб нарэшце ўзяцца за раман. Я павінен быў да Новага года яго адрэдагаваць. І на табе — марнею ў Маскве.

Нават прыходзіць у галаву нешта злое — кінуць работу ў часопісе, каб скончыць «Цень ад штыха» — усе чатыры яго кніжкі. Каб застацца ў літаратуры, я павінен напісаць раман цалкам, здзейсніць сваю адзіную надзею. Спадзявацца на нешта іншае мне няма ўжо чаго. Хоць на сподзе душы жыве задума стварыць драму і ўзяцца <за> для мяне невядомы, але цікавы і жартаўлівы жанр — фантастычна-займальную аповесць, якая даўно выспела ў маіх марах і надзеях.

Але, аставайся здароў, дарагі сын.

Цісну тваю руку, Міраслаў.

Бацька твой — Вяч. Адамчык.

* * *

Добры дзень, дарагі сын!

Пішу табе астатняе пісьмо з Масквы: заўтра еду дадому. Засталося яшчэ забегчы ў Саюз пісьменнікаў, каб падаць заяву ў літфонд.

Учора быў у выдавецтве «Савецкі пісьменнік», дзе мой перакладчык І. Кірэенка падарыў мне сігнальны экзэмпляр «Года нулявога». Выданне не горшае, чым пераклад «Чужой бацькаўшчыны», але і не лепшае. Вокладка жоўтая. Вось і ўся розніца. Прыйдзе кніжка ў кнігарню пісьменніка, куплю і падару табе.

У Маскве бярэцца мароз. Кажуць, што пад Новы год будзе — 40. Не ведаю, ці спраўдзіцца гэты прагноз, але я пачынаю думаць пра наш малады садок, каб не вымерз.

Дарагі Міраслаў, віншую цябе з Годам Новым і зычу шчасця, спакою, здароўя.

Шчыра абдымаю,

Бацька.

*21 снежня 1984 года.*

*Пятніца.*

* * *

Добры вечар, дарагі сын Міраслаў!

Пішу табе гэты ліст, перажыўшы дні цяжкай і глыбокай жалобы, дні смутку, дні расстання з жывою роднаю хатай, варакомскай пагоркавай зямлёю — смерць роднага бацькі.

Я заплакаў ціха, аднымі слязьмі, калі з цемені сенцаў, цераз парог, на якім любіла сядзець, кормячы са свае міскі куранятак і вераб'ёў, нябожчыца-маці, выплыла на чужых руках яшчэ адна труна.

Майго бацьку, а твайго дзеда Ладзімера, пахавалі поруч з нябожчыцай маці, тваёй бабай Броняй у тым вечна нізкім, вечна маладым хваёвым ляску.

Быў марозлівы дзень: — 19. Застыла наша машына, прастаяўшы ноч на двары. Ледзьве ачуцілі яе наваелянскія машыны і рупныя шафёры.

Бацька памёр у хаце, седзячы на канапе. Паспеў, пэўна, перад сном у чацвер толькі скінуць верхнюю кашулю. Суседзі агледзелі ў суботу, што ў хаце гарыць электрычная лямпачка, а да калодзежа ад парогу снегам ужо зацярушана сцежка. У гэты ж дзень, 9 лютага, выламалі акно, бо дзверы былі надзейна засунуты на дзве засаўкі.

Варакомскія кабеты, седзячы на ўслонах абапал труны, і гаравалі, і адспеўвалі па вясковым звычаі малітвы, і гаварылі:

— Лёгкая смерць… Спі спакойна, спачывай!

— У сем тыдняў за сваёю сястрою (цёткаю Стэпкаю, што пражыла 90) памёр.

— Да нас у чацвер у фрэнчы прыйшоў, прыбраўшыся.

— Казаў: «Жыць аднаму не хочацца. Раскідалася гняздо».

— Акуратны кругом быў. Сам пры сабе…

Дарагі сын, зычу табе душэўнага спакою. Беражы сябе.

Абдымаю шчыра.

Твой бацька.

Вяч. Адамчык

*Нядзеля, 17 лютага 1985 года.*

* * *

Дзень добры, дарагі сын!

Учора так напрацаваўся на валоўшчынскай дачы, што сёння ледзьве сяджу за сталом: адымаецца крыж і баліць правая нага. Развярэдзіў радыкуліт. Але затое перад вуліцай насупраць нашага блакітнага дома красуе ружавата-калючая дзікая яблыня. Цэлы высокі куст.

На другое лета, у 86-м, будзем прышчапляць. Выкапаў я гэты дзіка-калючы высокі куст у старым забытым пітомніку (гадавальніку) напроці дота. Гэта ўжо, калі не лічыць пасаджаных леташняй восенню дзічак-грушак, трэцяя яблыня. Так што, калі мецьмеш ласку, то прышчэпіш адну.

У нас ужо трохі бярэцца вясна — тыдняў тры як сышоў снег. Але зямля яшчэ не адкрылася. Бо пад дзічкаю, калі я яе выкопваў, быў яшчэ ўмерзлы, як камень, грунт. У лесе, праўда, ужо акрыяла і зеляніць зайцава капуста — тры лісткі, тры зрослыя дзюбкамі «сэрцайкі». І на адзінокія магутныя дубы, што ўздымаюцца на шэрым полі, цэлаю хмараю садзяцца шчабятлівыя дразды-рабіннікі. На правадах каля чорна-смалістага слупа, што ўкопаны насупраць дачнага дома, падсвістваюць шпакі і на вільготныя грады садзяцца зяблікі (берасцянкі), ці як пішуць чэхі, pžnkava obecná. «Je však známo, že pěnkavy zpivaji v každèm kraji jinak…»

Але пара брацца за раман. Падымаюся як на Гімалаі — стаміўся дашчэнту. Але блізка вяршыня.

І з кожным крокам цяжэй — 40 старонак. Чатыры дні. Рукапіс ужо чытае Дубянецкі, дырэктар выдавецтва, што трапіў з інфарктам у бальніцу.

Дарагі дружа Міраслаў, цісну тваю руку, зычу здароўя і радасці душэўнай, добрага самапачуцця.

Твой бацька

Вяч. Адамчык.

*Нядзеля, 14 красавіка 1985 года.*

*Мінск.*

* * *

Добры дзень, сын!

Нарэшце адрамантаваў ножку інваліду-сталу, што стаіць у мяне на мансардзе, ці, па-беларуску кажучы, прадзьмутым вятрамі паддашку. Дарэчы, паддашак

ашалёваны трохі белаватай яловай дошчачкай, перагароджаны ценькай сценкай. За перагародкай маецца быць кабінецік ці асабісты пакойчык маці. Праўда, хлопцы яшчэ не скончылі шалёўку, не хапіла дошак з дваццаць. На верандзе сохне напілаваная ўжо ды прапушчаная праз станок, з рубчыкамі, вагонка на шалёўку першага паверха. Падсохне і хлопцы зноў возьмуцца за работу.

У дэталях не ўсё, як мы хацелі і жадалі з маці, але дай божа спажыць і гэта.

Ніяк пасля трэцяй, што добра намучыла мяне, кніжкі не магу дабраць ні месца, ні часу, каб нарэшце ўзяцца за працу над чацвёртай. Пра вайну пісалі бадай усе літаратары, але пра тую вайну, якую ведаю і бачыў я, здаецца яшчэ нічога не напісана. Бліжэй да вайны, да жорсткай і бязлітаснай праўды яе стаяць кніжкі дакументалістыкі ваенных і першых пасляваенных гадоў. І вядома — дакументы, якія яшчэ не выданы.

Вайна — гэта не толькі фронт, хоць ён найбольш вызначае яе сутнасць, але і акупаваныя раёны, і глыбокі тыл, і адзінокая маці, якая жджэ дадому сына, і марадзёр, які балюе, жэніцца ці гвалціць, і хітрун, які ўмее ўлісціць кожнай уладзе і прыстасавацца.

Вайна — гэта таксама «змешаны свет дабра і зла», які ўмеў і хацеў пісаць Талстой.

Пад мае думкі грукае недзе па дошках малаток ці сякера, і адзінокая бабка ў хустцы з турэцкім узорам дзяўбе кійком шарую пясчаную дарогу.

Зелянее скошанае поле, і на «гладкай высаце» стаяць тры старавечныя дубы і густа і непахісна цямнее зубчатая сцяна лесу. А пад вечнымі бела-кучаравымі зыркімі воблакамі заліваецца жаўранак, якога глушыць магутны гул самалёта.

Дарагі сын, я тут прывёз цэлы мех часопісаў «Наука и жизнь», дзе ёсць артыкулы пра гітару. Ці пакінуць іх табе? Здаецца, знайшоў тое-сёе і па мовазнаўству. Можа, таксама прыдасца.

Але бывай, дарагі Міраслаў, здароў! Канчаю пісьмо і пайду збіраць кмен. Некалі ў нас дома пад страхою, на тыльнай сцяне ў цяньку шмат сохла зёлкаў, якія маці-нябожчыца вязала пучкамі.

Цісну, дарагі сын, тваю руку і зычу табе здароўя і душэўнага спакою.

Як бачыш, пішу школьным даўнейшым пяром, макаючы яго ў чарніла. Так колісь я напісаў «Чужую бацькаўшчыну».

*Серада, 10 ліпеня 1985 года.*
*Малая Валоўшчына.*
*14.45*

* * *

*Серада, 24 ліпеня 1985 года.*

Добры дзень, дарагі сын! Дарагі Міраслаў!

Пішу табе з другога паверха (мансарды) нашага блакітнага дамка, што глядзіць на зялёнае поле, спярэшчанае выспамі белай дзяцелінкі і ўпрыгожанае трыма старавечнымі дубамі.

Зранку сеяўся нудны дождж, цяпер, у дзве гадзіны дня, вызірнула сонца і зашчабяталі ластаўкі, што ціха спачывалі на электраправадах напроці тыльнага акна.

Прыехаў у Валоўшчыну, каб нарэшце ўзяцца за чацвёртую кніжку рамана, але ўсё не дабяру сабе месца. Трэцяя, як ты, пэўна, ведаеш, ляжыць у «Полымі». Абяцаюць надрукаваць у 11 і 12 нумарах за сёлетні год, але як усё павернецца, пакажа час.

Прачытаў твае вершы, прысланыя Валодзю. Запомніліся два трохрадкоўі: пра рыжага ці рудога сабаку і пра дарогу, з якой трэба зварочваць у роснае поле. Дарэчы, успамінаю і трэці верш — зноў пра дарогу. Цікавая думка: чалавек едзе, а душа асталася далёка.

Збіраемся з маці ў Талін, хоць грошы адпускныя з’ела дача — водаправод, «сработанный рабами Рима», і мэбля — ложкі, канапы, крэслы. Твой стол, падораны нябожчыкам Караткевічам, стаіць у маім кабінеце. За ім пішу.

Абдымаю шчыра. Бацька.

* * *

Міраслаў, дзень добры, сын!

Пішу табе пад гукі трубы з вежы марыяцкага касцёла з Кракава — 12 гадзін польскага часу. У нас — дзве. Перада мною на стале стаіць, куплены месяц назад, стары VEF-201. Ён трохі капрызны і хрыплаваты, але пачуць якое надвор’е ў Польшчы ці ў нас у Мінску можна.

За маім акном па-асенняму ўжо вые густы вецер. Я прыехаў сюды на Валоўшчынскую дачу ўчора, каб сёння вечарам вярнуцца ў Мінск. Чакае работа рэдакцыйная, ды пачаты (усяго дзве старонкі) раман, што ляжыць на стале ў вучнёўскім сшытку.

Чацвёртая кніжка, здаецца, і прадумана даўно, але, можа, пісацца будзе і нялёгка. Адзінае выйсце — зрабіць хутчэй чарнавік.

Але ўсяго табе добрага.

Чую з польскага радыё, што на «тарэні Полескі акрэсамі опады дэшчу». У твой дзень нараджэння Польшчу залілі навальнічныя дажджы, у Вісле і іншых рэках на пяць метраў паднялася вада. У нас стаяла спёка. Тэрмометр паказваў +31. Але вось пачынае трохі халадаць — +18, +23.

Яшчэ раз цісну тваю руку.

Бацька

*Чацвер, 22 жніўня 1985 года.*

*Малая Валоўшчына.*

* * *

Міраслаў, дзень добры, дарагі сын!

У Мінску стаяць сухія гарачыя дні. Пэўна, астатняга восеньскага цяпла. Нанова, учуўшы ласкавае сонца, цвітуць мае закажанелыя яблынькі. Я напісаў цвітуць, хоць на самай справе пускаюць ясна-зялёныя атожылкі ў цёмным лісці. Кажуць, гэта зашкодзіць зімою, бо яны не паспеюць завязаць почкі і будуць падмярзаць.

На грушы-дзічцы я прышчапіў вочка (пупышку з чараночкам лістка — <*малюнак пупышкі*>) і яно, здаецца, прыжылося. Ты ведаеш пра гэта з майго папярэдняга пісьма. Хоць рана яшчэ гаварыць. Як прынялося яно, пакажа вясна.

У кастрычніку з маці паедзем да Яна ў Брэсцкую вобласць па агрэст і парэчкі. Думаю, што там «надыбаю» на «макінтош» — зімні канадскі сорт. Тамтэйшы саўгас абменьваўся саджанцамі з польскім пітомнікам. Варта было б пасадзіць і мелбу, таксама канадскі сорт, але ўжо потым.

Садзячы леташняй восенню нашы камароўскія і валоўшчынскія яблынькі і грушы, я, вядома, не спадзяваўся, што яны ўсе прымуцца. Але гэтаму рады дамо.

Работа на дачы засталася дробная: зашкліць вокны, прааліфіць (пакостам) шалёўку, пафарбаваць столь. Але і гэтая работа ці не зойме маю восень, на якую я спадзяваўся, што пачну пісаць чацвёртую кніжку рамана. Я нават настроіўся на творчы лад. У душы жыве і выспявае гайна. Буду пісаць пра перажытае, бачанае, чутае…

Але на ўсё божая воля.

Дарагі Міраслаў, цісну тваю салдацкую руку, жадаю здароўя, душэўнага спакою.

*P. S.* У «Бярозцы» (№ 11, 85) пад рубрыкай першага апавядання будзе друкавацца абразок Максіма Махнача. Спадзяюся і бачу па тваіх пісьмах, што з цягам часу на прозу пяройдзеш і ты.

Яшчэ раз усяго табе добрага.

Твой бацька.

*29 жніўня 1985 года*
*Мінск.*



*Вячаслаў і Мірaслаў Адамчыкі. 1984 г.*

* * *

*Субота, 7 верасня 1985 года.*

Міраслаў, дзень добры, Сын!

Пішу табе пад густы шум ветру і шапаценне дажджу. З-за грады сіняга лесу, з-за кучаравай кроны старога дуба, што стаіць на карычневым зaараным полі, сунуцца сівыя нізкія хмары, імжыць нудны асенні дождж. Сёння раптам схаладала: +8. У Польшчы, як донісуе радыё — бяляеўская «Rigonda», што стаіць у мяне на мансардзе, — +14, у Карпатах ідзе снег. Тое ж, кажуць, самае творыцца і ў Аўстрыі. Гэткага ранняга снегу Еўропа яшчэ не ведала.

Маці з Ядвігай Паўлаўнай паехала дадому. Я застаўся пасумаваць. Пішу толькі дома, толькі ў тваім пакоі, а тут магу толькі з бяздумным смуткам паглядаць на хмары, лес і роўную вышыню поля са старавечнымі дубамі.

Але і гэта патрэбна чалавеку, як і халодны дождж, што касымі кроплямі плача на шыбах акна, як мелодыя сучаснай песні, што чуваць з «Rigondy».

Учора яшчэ лёталі адзінокія ластаўкі.

Але абдымаю цябе.

Бацька.

* * *

*Нядзеля, 12 кастрычніка 1985 года.*

Міраслаў, дзень добры, сын!

Пішу табе, як заўсёды, з нашага блакітнага дамка, з Валоўшчынскай дачы.

Каторы дзень вадаспадам ліе дождж. Праўда, мяне трохі ратуе кафляная грубка, што сапе ў спіну цяплом. Мы купілі машыну дроў — асіны, бярэзніку ды яліны, — але пасекчы іх няма калі. Няма, зрэшты, і пілы, якую пазычаю ў суседзяў.

Час брацца за чацвёртую кніжку рамана, каб нарэшце падняць гэтую каменную глыбу, з якой высякаю гісторыю Заходняе Беларусі.

Падрыхтаваў нават агульныя сшыткі, напісаў пралог… і пілую на дачы дровы, гляджу на зялёную рунь, што так шчодра ўзышла пасля дажджоў, і на

жоўтае полымя бярэзніку, якім падпалены цёмна-зялёны хмуры лес.

Не відаць ужо шпакоў, толькі цэлымі зграямі лётаюць даўгахвостыя дразды-рабіннікі.

Паклон табе ад нашых зялёных долаў. Шчыра цісну тваю руку. Жадаю душэўнага спакою.

Бацька.

* * *

Міраслаў, добры вечар, сын!

Пішу табе пад месячнае зацьменне: поўня, што глядзела ў твой пакой, змеркла, свеціцца ясным краёчкам толькі знізу, а кругом як пярсцёнкам чырвоны абадок.

Наглядзеўшыся на цёмны з чырвоным абадком месяц, вярнуліся з вуліцы Валодзя з Ленай. Мы з маці і не заўважылі б, каб не падказала «Праграма Час».

Балазе неба чыстае, зорнае, хоць удзень церушыў дождж, а потым ужо і залётаў першы сняжок. У нас глыбокая восень. На валоўшчынскай дачы перад зімою нямала клопату: перакапаць грады, абвязаць прышчэпы, пакалоць дровы.

Я заняты рэдакцыяй, чытаннем часопіснай карэктуры свайго рамана і іншай штодзённай драбнотаю, нават справай кватэрнай.

Нарэшце забраў у Валодзі твае перадрукаваныя вершы, каб паказаць іх рэдактару «ЛіМа».

Нядаўна прачытаў ужо трохі забытыя ўспаміны Адама Багдановіча пра свайго сына Максіма. З нейкай гаркатою падумаў, як мала мы зрабілі для нашага бел. генія, нават не выдалі поўнага збору твораў.

Але аставайся жывы-здаровы. Зычу табе душэўнага спакою. Цісну тваю руку.

Бацька.

*Панядзелак, 28 кастрычніка 1985 года.*

*Мінск.*

* * *

Добры вечар, дарагі сын Міраслаў!

Пішу табе пад рытмічную з прыемнай халодна-касмічнай мелодыяй музыку французскага ансамбля «Спейс» («Космас»), што гучыць з тваёй «Вегі». Гадзіну, як вярнуўся з дачы, дзе ўжо зарос малады садок — пасаджана каля дваццаці прышчэпак груш і яблынь. На святы прыязджаў Ян, прывёзшы яшчэ два гонкія прыгожыя дрэўцы «Спартака» — канадскага гатунку — і 5 кусцікаў чорных і чырвоных парэчак.

Цяпер мае рукі падгарэла-ружовыя, наколатыя ельнікам, які я ахапкамі насіў з лесу, каб абвязаць свой садок ад зайцоў, што прыйдуць на дачы шукаць спажыву, калі белы снег паглыне зялёную расістую рунь за сеткай дачнай агароджы на грудаватым полі пад старавечнымі дубамі.

Заняты клопатам — малым і дробным — ніяк не дабяруся ў рэдакцыю з тваімі вершамі. Ды, можа, не клопат, а тое, што ў рэдакцыі «ЛіМа» (не разборліва) Валодзевы апавяданні. Але, мусіць, прыйдзецца плюнуць на субардынацыю і пагаварыць з рэдактарам наконт цябе. Зрэшты, Валодзева падборка падрыхтавана ў «Беларусі».

Сам я трохі маруджу з чацвёртай кніжкай рамана (умоўная назва «Зямля крыві нашай»), не пішу, набіраючы хуткасць, як даўнейшы паравоз: перш, чым зрушыць цяжкі састаў, ён здаваў назад, а потым памалу кранаўся наперад.

Але дзякуй табе за віншавальны фотаздымак да дня майго нараджэння.

Сёння ў нас пасля слоты, бясконца-нудных дажджоў стаяў высокі, ясны з зялёнай рунню пагодны дзень глыбокай восені. Мусіць, хараство яго было перад сібернаю і блізкаю зімою, асабліва замілаванае хараство…

Але абдымаю цябе і зычу, як заўсёды, душэўнага спакою.
Твой бацька
Вяч. Адамчык.
*Субота, 9 лістапада 1985 года.*
*Мінск.*

* * *

Міраслаў, добры дзень, сын!

Віншую цябе з Новым годам, зычу здароўя, душэўнага спакою і шчаслівага звароту дадому. Хай Новы год прынясе табе менш засмучэння, а больш радасці.

Нарэшце выйшаў снежаньскі нумар «Полымя» з заканчэннем майго рамана «І скажа той, хто народзіцца». Вядома, калі гаварыць пра жанр, то гэта скарэй за ўсё трэцяя кніжка аднаго твора. Бо наўрад, ці можа яна жыць самастойна. Але справа ўжо ў іншым — завяршыць, дапісаць гэты твор, які павінен дайсці з яго дзеючымі асобамі да цяжкіх дзён вайны. На чарнавы варыянт, над якім прыйдзецца яшчэ пакутаваць, мне трэба гады тры-чатыры рупнай працы. Патроху пішу…

Валодзя ўчора перадаў зборнік «Вусны» маладым літоўскім паэтам, якія былі на семінары ў Каралішчавічах. Іх найперш зацікавілі трохрадкоўі Шайбака, бо яны, літоўцы, цяпер займаюцца даследаваннем японскай, наогул усходняй паэзіі.

Але ўсяго табе найлепшага. Цісну руку.

Бацька.

*Вечар, чацвер, 19 снежня 1985 года.*

*(На адваротнай старонцы)* У нас яшчэ няма снегу, хоць цісне дужы марозік. Сёння — 14.

* * *

Міраслаў, добры вечар!

Пакуль адпраўляў, ці дакладней, збіраўся адаслаць ранішні ліст, нас усіх заспела яшчэ адна навіна — пазваніў твой, здаецца, ужо былы камандзір: ён з сям'ёю ехаў на дзень-два пагасцяваць у Слонім.

Мы з маці, а разам з намі і Лена з Ядзяй, паехалі на аўтавакзал, каб убачыцца з ім.

Вось так і застаўся неадасланы ранішні ліст.

Цяпер пішу гэты, ужо кароценькі. Навін не дадалося, хіба толькі тая, што ў аўторак збіраюся ў Каралішчавічы.

Раман, расклеіўшы палымянскі варыянт, здаў у выдавецтва. Рэдактура, пільна прагледзеўшы часопісны тэкст, падкрэсліла ўсё, што было ў новым машынапісным варыянце.

Не хачу хаваць, нервы, трэба нарэшце брацца за чацвёртую частку рамана.

Сёння ў «ЛіМе» пяецца хвала і слава дзвюм Валодзевым навелам, надрукаваным у гэтай жа газеце.

Але аставайся жыў-здароў.

Цісну тваю руку. Бацька.

*Субота, 11 студзеня 1986 года.*

*Мінск.*



Зоя МАТУСЕВІЧ

# ПАЭТ І МУЗА: ЖЫЦЦЁ СЯРОД МАЛАНАК...

*Напрыканцы мінулага сезона Беларускі музычны тэатр выпусціў незвычайны спектакль — «Жыццё і смерць Янкі Купалы», які адразу выклікаў вялікі рэзананс.*

Пра тое, што менавіта ў Музычным тэатры збіраюцца ставіць спектакль пра трагічны лёс Янкі Купалы, было вядома ўжо 2—3 гады таму. І рэакцыя на такую навіну ў тэатральным і калятэатральным асяроддзі была прадказальнай: большасць скептыкаў справядліва ўказвала на супярэчнасць паміж жанравай прыналежнасцю тэатра і тэматыкай мяркуемай пастаноўкі. Маўляў, глядач будзе ў неўразуменні, калі ў рэпертуарнай афішы побач з вядомымі аперэтамі, музычнымі камедыямі і стаўшымі ўжо звыклымі мюзікламі раптам з'явіцца спектакль неакрэсленага жанру, у якім будзе распавядацца пра жыццёвы і творчы шлях класіка беларускай літаратуры, значная частка якога прыпала на сталінскі рэжым.

Безумоўна, задумаўшы такую пастаноўку, дырэктар тэатра Аляксандр Пятровіч і мастацкі кіраўнік Адам Мурзіч ішлі на пэўную рызыку. Але імкненне ўшанаваць памяць Песняра менавіта сродкамі музычнага тэатра, прытым у зусім нечаканай і смелай форме, аказалася ўсё ж вызначальным. Яшчэ на стадыі абмеркавання праекта і кіраўніцтва тэатра, і аўтарскі калектыў былі гатовы да самых розных праяўленняў крытыкі ў свой адрас і настолькі звыкліся з гэтай думкай, што з цягам часу яна наогул перастала іх непакоіць, бо на першы план выйшла складаная і напружаная работа, аналагаў якой тэатр яшчэ не ведаў.

Музыку да спектакля прапанавалі напісаць кампазітару Алегу Хадоску. Драматургічнай асновай стала п'еса Анатоля Дзялендзіка «Сцежкамі кахання» (друкавалася таксама пад назвай «Карона з кахання»), якую аўтар пісаў паводле кнігі Паўліны Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця». Жанр п'есы пазначаны як лірычная драма, і стваралася яна для драматычнага тэатра. Але развіццё лірычнай лініі ў гэтай п'есе адбываецца на фоне вельмі выразна, а часам і рэзка акрэсленых грамадска-палітычных падзей, таму ў сваёй другой частцы п'еса ўжо нагадвае драматургічную публіцыстыку.

— Я пачаў працу над музычным матэрыялам будучай пастаноўкі, калі яшчэ не было лібрэта, — зазначае Алег Хадоска. — Мелася толькі літаратурная аснова — п'еса Анатоля Дзялендзіка і, зразумела, масіў паэзіі Купалы. Напачатку трэба было вызначыцца з жанрам, і першае, што я напісаў, гэта рэквіем, які павінен быў пранізваць усё музычнае палатно. Першапачаткова назва твора так і гучала — «Рэквіем па Купалу». Іван Дамінікавіч належаў да рымска-каталіцкага веравызнання. А на латыні рэквіем — супакой, вечны спачын. Але ў спектаклі рэквіем успрымаецца не як памінальная меса, а як напамін аб ракавых абставінах, што прывялі да гібелі Прарока. У фінале спектакля гучыць «Малітва» на словы Купалы. Усім вядома песня «Малітва» кампазітара Алега Молчана ў выкананні ансамбля «Песняры». Зразумела, у нас свой варыянт «Малітвы», у якім выкарыстаны першапачатковы, неадрэдагаваны тэкст Купалы. І ў гэту купалаўскую «Малітву» ўплятаецца каталіцкая малітва «Ave Maria».

А вось знайсці літаратара, які б напісаў адпаведнае лібрэта, было не так проста. Наогул, можна сказаць, што лібрэтыстаў, якія б прафесійна займаліся гэтай справай, у нас у Беларусі няма. Таму і кампазітарам, якія ідуць на супрацоўніцтва з музычным тэатрам, даводзіцца нялёгка.



*Сцэна са спектакля «Жыццё і смерць Янкі Купалы».*

У дадзеным выпадку для стварэння лібрэта быў запрошаны вядомы паэт Анатоль Зэкаў, які азначыў, што для яго гэта першая работа не толькі ў музычным тэатры, але і ў тэатры наогул. Вызначальным у прыняцці такой прапановы стала постаць Купалы, а таксама магчымасць пановаму даследаваць яго жыццё і творчасць.

У п'есе Дзялендзіка ёсць наступны падзагаловак: *Янка Купала і Паўліна Мядзёлка, версія.* І наяўнасць у ім слова «версія» ў пэўным сэнсе апраўдвае многія смелыя і нават вострыя моманты ў асобных сцэнах і дыялогах, дзе за аўтарскім вымыслам часам цяжка выявіць рэальныя факты не толькі з біяграфіі Паэта і яго Музы, але і з гістарычных падзей таго часу. А некаторыя сцэны наогул выглядаюць як фантасмагарычнае спляценне рэальнага з уяўным, дзе жывыя персанажы ўзаемадзейнічаюць з прывіднымі вобразамі. Да таго ж тэкст гэтай п'есы своеасаблівы: ён перадае не столькі сканцэнтраванае дзеянне, колькі паказвае яго асобныя моманты ў выглядзе даволі сціслых эпізодаў, змест якіх часта дапаўняецца рэплікамі публіцыстычнага характару. У цэлым п'еса разлічана на дасведчанага чытача, які самастойна зможа ўстанавіць сувязь паміж яе эпізадычнымі сцэнамі, разрозненымі ў часе і прасторы на працягу трыццаці гадоў. Спачатку дзеянне адбываецца ў дарэвалюцыйным Пецярбургу, потым ідзе зусім кароткая замалёўка сустрэчы Купалы і Мядзёлкі ў Полацку, пасля чаго праз шмат гадоў яны сустракаюцца ў Мінску; а ў наступных карцінах паказваецца іх сумеснае знаходжанне на дачы Горкага ў Падмаскоўі, дзе адбываюцца падзеі, звязаныя са сталінскімі рэпрэсіямі, і нарэшце — кароткая сустрэча з Купалам і яго жонкай у Маскве, куды яны эвакуіраваліся ў пачатку вайны. А гібель Паэта прадстаўляецца як шырокавядомы факт, што падвяргаецца глыбокаму філасофскаму асэнсаванню.

У лібрэта ўся гэта фабула засталася, толькі былі скарочаны найбольш спрэчныя сцэны і асобныя вострыя рэплікі, што істотна не паўплывала на першапачатковы замысел драматурга. І, зразумела, зроблены ўстаўкі музычных нумароў, для якіх у асноўным выкарыстоўваліся вершы Купалы, а таксама аўтара лібрэта (у тых месцах, дзе немагчыма было прымяніць купалаўскую паэзію). «У выніку

ў творы вылучыліся тры асноўныя тэматычныя лініі: Паэт і ўлада, Паэт і Муза, канфлікт паміж асабістым і грамадскім», — зазначае Анатоль Зэкаў.

Рэжысёр-пастаноўшчык Міхаіл Кавальчык звяртае ўвагу на тое, што гэты спектакль — музычная драма-версія, заснаваная на свабоднай трактоўцы падзей з жыцця Янкі Купалы, а не яго дакументальная біяграфія. Сёння межы музычнага тэатра абумоўліваюць шырокі жанрава-стылявы дыяпазон пастановак, і ў нашага тэатра ўжо ёсць пэўны вопыт стварэння спектакляў, заснаваных на сур'ёзнай драматургіі, напрыклад, мюзікл Алега Хадоскі «Шолам алейхем! Мір вам, людзі!».

— Аднак я добра ўсведамляў, што зварот да такой постаці, як Янка Купала, — гэта вялікая рызыка і вялікая адказнасць, — зазначае Міхаіл Станіслававіч. — Таму, рыхтуючыся да пастаноўкі, нанава адкрыў для сябе творчасць Купалы і вялікі гістарычны і літаратуразнаўчы пласт ведаў аб ім. Раіўся з навуковымі супрацоўнікамі Літаратурнага музея Янкі Купалы, знаёміўся з дакументамі… Цяжка было адразу вызначыцца з жанрам гэтага твора і знайсці яго сцэнічнае вырашэнне, бо ён ствараўся на нашых вачах пры непасрэдным узаемадзеянні аўтарскага калектыву з усёй пастановачнай групай.

І сапраўды, гэтую эксклюзіўную работу, заснаваную на адначасовым удзеле ў ёй многіх творчых асоб, немагчыма параўнаць са звычайнай пастаноўкай спектакля, калі тэатр працуе над гатовым творам. У дадзеным выпадку ўсё адбывалася амаль што наадварот: пастановачны працэс ужо ішоў, а твор знаходзіўся ў стадыі перманентнай дапрацоўкі з улікам прапаноў і пажаданняў пастаноўшчыкаў. Так, Анатолю Зэкаву давялося зрабіць дзесьці шэсць-сем варыянтаў лібрэта, не лічачы дробных перарабак. Кампазітару таксама давялося істотна перапрацаваць партытуру, нешта ў ёй скарачаць ці, наадварот, дапісваць. «Калі да работы далучыліся музычны кіраўнік спектакля, артысты, мастак, а потым і балетмайстар, то ўсе яны пачалі прыўносіць сваё бачанне падзей і сваю трактоўку вобразаў і характарных рыс персанажаў, што ў той ці іншай меры абумовіла і змены ў музычным матэрыяле, — зазначае Алег Хадоска. — Асабліва гэта датычыць развіцця балетнай лініі спектакля. Нягледзячы на тое, што балетмайстар Наталля Фурман далучылася да пастановачнай групы ўжо на заключным этапе падрыхтоўкі спектакля, яе харэаграфічная канцэпцыя надала пастаноўцы яркую метафарычнаць і філасофскую абагуленасць, што вельмі ўдала дапоўніла аўтарскую задуму. І найбольш істотныя змены ў партытуры адбыліся са з'яўленнем у спектаклі менавіта балетнай лініі».

Пастаноўшчыкі і артысты нанава адкрывалі для сябе і творчасць Купалы, і старонкі яго біяграфіі і ўжо па-іншаму ўсведамлялі маштаб яго асобы. І чым больш пазнавалі, тым больш захапляліся сваёй работай. Але ў выніку ўзнікла даволі парадаксальная сітуацыя: да шараговага гледача не дайшоў той аб'ём матэрыялу, якім валодалі стваральнікі спектакля. Не ўсе з лёгкасцю чыталі паміж радкоў сціслага лібрэта і з лёгкасцю ўстанаўлівалі сувязь паміж асобнымі сцэнамі, аддаленымі ў часе і прасторы. Адсюль і негатыўныя водгукі некаторых крытыкаў, якія свой узровень успрымання і разумення спектакля суадносяць з узроўнем падрыхтаванасці яго стваральнікаў. Самае прыкрае ў такой «крытыцы» заключаецца ў тым, што пра музычны спектакль мяркуюць толькі па кароткіх размоўных сцэнах, у прыватнасці, заяўляючы, што з гістарычным матэрыялам у лібрэта — бяда, а пастаноўка ў цэлым — просценькі вадэвільчык без прыкмет часу. Пры гэтым пра музычную драматургію твора, пра выразнасць і экспрэсіўнасць музычнай мовы кампазітара, у якой закладзены дух таго самага часу, таксама як і пра балетную лінію спектакля, дзе ён яскрава праяўляецца, у такіх водгуках не гаворыцца ні слова.

Адназначна вызначыць жанр гэтай пастаноўкі немагчыма. У афішы ён пазначаны як музычная драма-версія. Дырыжор-пастаноўшчык Юрый Галяс мяркуе, што важна было знайсці пэўны баланс, каб у спектаклі не дамінавала ні п'еса, ні

музыка, а адбывалася іх арганічнае ўзаемапранікненне. Думаецца, не было б вялікай памылкай назваць гэты спектакль мюзіклам, бо ўсе прыкметы гэтага жанру ў ім ёсць. Тым не менш, у рэпертуарнай афішы, змешчанай на сайце тэатра, з'явілася новая рубрыка: «Музычна-драматычныя спектаклі», куды і памясцілі гэтую пастаноўку.



Віктар Цыркуновіч у ролі Янкі Купалы.

Спектакль пачынаецца з кароткага пралога-напаміну аб ракавой падзеі — гібелі Купалы, дзе ўзнікае філасофская тэма рэквіема, і заканчваецца разгорнутым рэквіемным фіналам. А паміж імі — жывыя карціны з пакручастага жыццёвага шляху Паэта і яго Музы. У пралогу перад гледачом паўстае напачатку маўклівы вобраз Купалы, які ў промнях залацістага святла нібы сыходзіць з горніх высяў. Паступова гэты вобраз становіцца больш прыземленым, і з вуснаў Паэта гучыць: *«Жыццё скончана. У шэсцьдзясят год. Рана. Яшчэ столькі не паспеў зрабіць!..»*

У прэм'ерным спектаклі ў вобразе Купалы прадстаў Віктар Цыркуновіч, які нават знешне вельмі падобны на свайго героя. Прынамсі, у гэтым яшчэ раз пераконваешся, параўноўваючы створаны ім сцэнічны вобраз з вядомымі фотаздымкамі і партрэтамі Паэта. І што яшчэ больш важна — верыш, што перад табой — жывы Купала, асабліва гэта адчуваецца ў ключавых, эмацыянальна напружаных сцэнах спектакля. «Як суаднесці свой чалавечы маштаб з маштабам асобы Купалы? — менавіта гэтае пытанне больш за ўсё хвалявала артыста. — Калі я пачаў глыбока пагружацца ў свет Паэта, то зразумеў, што сапраўднага Купалу мы не ведаем, і мая работа над роляй — гэта толькі набліжэнне да яго велічнай постаці». У першай дзеі спектакля Купалу няма яшчэ і 30 гадоў, а ў другой яму пад 60. І што характэрна, артыст практычна не змяняе пры гэтым свайго аблічча — ні ўзроставага грыму, ні прыкметных змен у касцюме, з'яўляюцца толькі некаторыя дэталі, якія служаць прыкметамі часу. Узроставыя змены свайго героя артыст перадае выключна за кошт унутранага пераўвасаблення. І што яшчэ хочацца адзначыць: акрамя надзвычайнага знешняга падабенства, Цыркуновіч вельмі арганічна перадаў і прыроджаную шляхетнасць Купалы, яго ўнутраную годнасць, што знаходзіць сваё праяўленне і ў яго аблíччы.

Партнёршай Цыркуновіча на прэм'ерным спектаклі была Вікторыя Жбанкова-Стрыганкова ў ролі Паўліны Мядзёлкі. І ёй таксама трэба было паказаць гэты вобраз у развіцці: не толькі ўзроставым, але і асобасным. І самым каштоўным і

прыцягальным у акцёрскай ігры Жбанковай-Стрыганковай была яе здольнасць да пераўвасаблення.

Як ужо адзначалася, у лібрэта не закладзена лінейнае развіццё падзей, і ўстанаўліваць сувязь паміж асобнымі сцэнамі дапамагае хор, функцыя якога ў гэтым спектаклі вельмі своеасаблівая: сваімі дзеяннямі на сцэне ён нагадвае старажытнагрэчаскі хор, які быў абавязковым удзельнікам антычных трагедый і выступаў у якасці каментатара падзей, выразніка грамадскай думкі ці аўтарскай пазіцыі. Спектакль пра Янку Купалу пачынаецца з пралога з удзелам хору, і далей, па ходзе дзеяння, адбываецца чаргаванне дэкламацыі і харыстычных партый, з дапамогай якіх і пераадольваюцца скачкі ў часе і прасторы. Так што камусьці незразумелыя постаці ў аднолькавых доўгіх балахонах з насунутымі на твар капюшонамі («невядомыя інфернальныя героі»), якія быццам ніяк не ўдзельнічаюць у дзеянні, якраз гэта самае дзеянне і сцэментоўваюць. Іншая справа — наколькі гэта дапамагае гледачу ў разуменні прыхаваных сэнсаў.

Вобраз Купалы неаддзельны ад Купалля. І пасля пралога разгортваецца аднайменная харэаграфічная сцэна. Вядома, што многія вершы Купалы прасякнуты славянскай міфалогіяй і язычніцкімі матывамі, якія з яе выцякаюць. І гэта выразна адчуваецца ў музыцы і ў харэаграфічным малюнку гэтай сцэны, якая нагадвае сабой купальскія містэрыі з іх пантэістычным яднаннем з прыродай. Элементаў утылітарнага сялянскага Купалля тут няма. Так, языкі купальскіх вогнішчаў праглядваюцца ў адмысловай пабудове харэаграфічнага малюнка, чаму спрыяюць «агністыя» касцюмы танцоўшчыкаў, а таксама відэапраекцыя на задніку сцэны, дзе агонь зямнога жыцця пераплятаецца з сусветным. А вянчае гэтую маляўнічую сцэну галоўны сімвал свята — агромністы купальскі вянок, які спускаецца з каласнікоў. Сярод удзельнікаў гуляння неяк нечакана з'яўляецца рэальны Купала, якога пазнаюць шукальніцы папараць-кветкі. І аказваецца, што адну з іх завуць Паўлінай. Як заварожаны, Паэт паўтарае гэтае імя…

І вось пачынаецца першая драматычная сцэна, перад якой хор дае сціслы каментар: *«Купала пазнаёміўся з Паўлінай у Вільні, а потым быў Пецярбург».* Перад гледачамі разгортваецца відэапраекцыя інтэр'ера прасторнай залы рэстарана, куды ўваходзяць Янка Купала і Паўліна Мядзёлка. Са зместу п'есы вынікае, што гэта адбывалася ў 1912 годзе, сапраўды ў Пецярбургу, і Купала запрасіў Паўліну ў кавярню «Зялёны Штраль». Добра, што гэтая назва не перакачавала ў тэкст лібрэта і не была агучана хорам, бо папулярная сярод беларускай інтэлігенцыі цукерня «Зялёны Штраль», пра якую згадвае Мядзёлка на старонках сваёй кнігі, знаходзілася ў Вільні. (Для больш шырокай публікі там існаваў «Чырвоны Штраль».) На жаль, некаторыя іншыя фактычныя памылкі, дапушчаныя ў п'есе, усё ж прасачыліся ў спектакль, і дасведчаны глядач іх заўважае.

Але на сцэне дзеянне адбываецца ў якойсьці з падобных устаноў Пецярбурга, дзе паміж Купалам і Мядзёлкай заходзіць гаворка аб пастаноўцы «Паўлінкі». Сціслы і лаканічны дыялог хутка заканчваецца тым, што Паўліна пагаджаецца сыграць у будучым спектаклі галоўную ролю. Задаволены аўтар запрашае дзяўчыну на танец… Карціна мяняецца, і хор дае наступны каментар: *«Рэпетыцыі ішлі паспяхова, і быў хутка падрыхтаваны спектакль. Акцёры ігралі цудоўна».* На авансцэну, прымаючы віншаванні, выходзяць шчаслівыя Купала і Мядзёлка. У п'есе Дзялендзіка ў гэтым месцы ёсць рэмарка: *«Тут можна паказаць фрагмент са спектакля «Паўлінка» ці ўключыць сцэну з радыёспектакля».* І, відаць, фрагмент з «Паўлінкі» ў спектакль напачатку сапраўды быў уключаны (пра гэта сведчыць заднік з вядомай дэкарацыяй), але да гледача ён не дайшоў. А вось праекцыя дэкарацыі засталася.

…Хутка аўтар з акцёркай застаюцца адны. Купала дэманструе Паўліне шыкоўны падарунак — цудоўны кішэнны гадзіннік на ланцужку, на якім выгравіравана: «Бацьку «Паўлінкі» ад беларускіх студэнтаў». І з усёй шчырасцю

душы перадае ёй сімвал іх агульнага поспеху: *«Калі бацька «Паўлінкі» я, то ты — маці».* А потым Купала праводзіць Паўліну на кватэру, дзе і застаецца да раніцы. Тут жа робіць ёй прапанову, але атрымлівае адмову… У наступны раз яны сустрэнуцца праз некалькі гадоў, калі Купала ўжо будзе жанатым — прынамсі, так вынікае са спектакля.

Асноўныя этапы жыцця і творчасці Паэта звязаны з Вільняй, Пецярбургам, Мінскам і Масквой. Як бачым, у спектаклі дзеянне пачынаецца з Пецярбурга, а віленскі перыяд з жыцця Купалы і Мядзёлкі не закрануты наогул. А між тым, пазнаёміліся яны менавіта ў Вільні, духоўнай сталіцы Беларусі, якая на пачатку XX стагоддзя стала цэнтрам беларускага нацыянальнага адраджэння. Паўліна імкнулася да ведаў. Яшчэ ў падлеткавым узросце яна з Глыбокага, дзе ў той час жыла сям'я, паехала вучыцца ў Рыгу, а потым — у Вільню. Пра першую, зусім выпадковую сустрэчу з Купалам, якая адбылася восенню 1909 года, яна піша ў сваёй кнізе: *«Аднаго разу, раніцай, я зайшла да знаёмых. Мне адчыніў дзверы малады мужчына. Ён быў у камізэльцы, рукавы белай кашулі закасаны, высокі цвёрды каўнерык ад манішкі падпіраў падбародак, светлыя валасы, яшчэ мокрыя, гладка прычэсаны. Упусціўшы мяне, ён застаўся ў кухні. — Хто гэта такі? — пытаюся ў гаспадыні. — Янка Купала, — адказвае. — Учора прыехаў. — Ку-па-ла? — здзівілася я. — Я ж зусім інакшым сабе яго ўяўляла. — А што, не спадабаўся? — смяецца яна. Я змоўкла, бо ўжо ўвайшоў Купала прыадзеты. Светлыя невялікія вусікі тырчэлі ўверх востра закручанымі канцамі. Пазнаёміліся. Пачалася гутарка».* І далей Мядзёлка піша, што Купала гаварыў з ёй як з дзяўчынай, гатовай падтрымаць жартаўлівую размову. А яна, насупіўшыся, увесь час маўчала… Паўліне было тады 16 гадоў, а Купалу — 27, і ён быў ужо вядомым паэтам, супрацоўнічаў з «Нашай нівай», якая з'яўлялася цэнтрам беларускага літаратурнага і культурна-асветніцкага руху.

Хто ведае, магчыма, у час таго першага знаёмства і прабегла паміж імі іскрынка, з якой потым разраслося гарачае полымя кахання. І хутчэй за ўсё, менавіта дзякуючы Купалу юная Мядзёлка хутка далучылася да культурна-асветніцкай дзейнасці нашаніўцаў. Ужо 12 лютага 1910 года яна прысутнічала на Першай беларускай вечарыне, якая стала сімвалам станаўлення прафесійнага нацыянальнага мастацтва. *«Там я пазнаёмілася з усімі арганізатарамі і ўдзельнікамі спектакля і хору, з нашаніўцамі. Словам, з таго часу я стала сваім чалавекам сярод нашаніўцаў»,* — чытаем на старонках кнігі Мядзёлкі. На той вечарыне Паўліна ўпершыню пабачыла выступленне артыстаў Першай беларускай трупы Ігната Буйніцкага, якая пазней ператварылася ў прафесійны тэатр: *«...з залётным агеньчыкам у вачах выступае ў першай пары сам Ігнат Буйніцкі са сваёй дачкой. За ім Чэсь Родзевіч з Уладкай Станкевічанкай...»* Ці ж магла тады юная Паўліна падумаць, што гэта самая Уладка — надзвычай энергічная дзяўчына з выключнымі арганізатарскімі здольнасцямі — праз пэўны час будзе ўладарыць у доме Купалы, а яна сама — у яго душы…

У хуткім часе пасля знаёмства з Паўлінай Купала пераязджае ў Пецярбург, дзе вучыцца на агульнаадукацыйных курсах Аляксандра Чарняева пры Пецярбургскім універсітэце. А Мядзёлка набывае веды ў віленскай жаночай гімназіі, пасля заканчэння якой восенню 1912 года таксама едзе ў Пецярбург, дзе ўладкоўваецца на Вышэйшыя камерцыйныя курсы. Паўліне было тады ўжо 19 гадоў, а Купалу — 30. Вось з гэтага перыяду іх новых сустрэч і пачынаецца спектакль. Але не паказваецца, наколькі насычаным было жыццё зямляцтва беларускіх студэнтаў, да якога яны належалі. Своеасаблівым цэнтрам беларушчыны ў Пецярбургу была вялікая кватэра прафесара Браніслава Эпімаха-Шыпілы на 4-й лініі Васільеўскага вострава, дзе збіраліся члены навукова-літаратурнага гуртка, сярод якіх былі і студэнты, і сталыя дзеячы беларускай культуры. Там жа жыў і Янка Купала, якому прафесар аказваў усялякую падтрымку. Паўліна Мядзёлка ў сваёй кнізе прыводзіць шмат цікавых звестак пра тыя незабыўныя вечары, прасякну-

тыя духам беларускага адраджэння, на якіх, дарэчы, чытаўся тэкст «Паўлінкі» і адбывалася размеркаванне роляў. Пецярбургская прэм'ера «Паўлінкі» адбылася 9 лютага 1913 года і праходзіла яна ў межах чарговай беларускай вечарыны.

Пасля заканчэння вучобы ў Пецярбургу спачатку Паўліна, а пазней і Купала зноў вяртаюцца ў Вільню і акунаюцца ў звыклае творчае асяроддзе. Купала працуе ў Беларускім выдавецкім таварыстве, супрацоўнічае з «Нашай нівай», а пазней становіцца яе рэдактарам. З пачаткам Першай сусветнай вайны ў горадзе адчуваецца напружанне. *«Штораз часцей на старонках «Нашай нівы» белыя плямы: цэнзура лютуе. Што ні дзень Янку Купалу як рэдактара «Нашай нівы» цягаюць то ў жандармерыю, то ў суды»,* — піша Мядзёлка. З набліжэннем фронту да Вільні і пачаткам эвакуацыі ў жніўні 1915 года закрываецца «Наша ніва». Купала едзе ў Маскву, дзе паступае на вучобу ў Народны ўніверсітэт імя А. Л. Шаняўскага. Паўліна са сваімі роднымі — у эвакуацыю ў Царыцын.

Ствральнікі спектакля адзначалі, што яны імкнуліся паказаць эпоху, у якую жыў і тварыў Купала. Але гэта ў іх атрымалася толькі ў дачыненні да другой паловы жыцця Паэта — савецкай рэчаіснасці, а калі больш канкрэтна, перыяду сталінскіх рэпрэсій. А віленска-пецярбургскі перыяд, надзвычай важны для творчай і жыццёвай біяграфіі Купалы, ды і Мядзёлкі таксама, як бы выпадае са спектакля наогул. Дакладней, віленскі перыяд не паказваецца зусім, а пецярбургскі — фрагментарна, без выразных прыкмет часу і месца дзеяння.

Вышэйсказанае адносіцца ў асноўным да зместу спектакля, а што датычыць яго формы, дык першая і другая дзеі выглядаюць як бы рознымі па прынцыпе пастаноўкі. Дакладней, уступ і другая дзея, што развіваюцца па законах музычнай драматургіі, пастаўлены ў адной эстэтыцы, блізкай да мюзікла, а вось першая дзея — у другой, блізкай да вадэвіля (не ў сэнсе спрошчанасці, а ў тым, што яна выглядае як п'еса з лёгкімі музычнымі нумарамі). Але пры гэтым нельга не адзначыць, што гэтыя нумары вызначаюцца асаблівай меладычнасцю ды надзвычайнай спеўнасцю саміх купалаўскіх вершаў і ўспрымаюцца як нацыянальныя ўзоры рамансавай лірыкі. Асабліва паказальным у гэтым сэнсе з'яўляецца раманс Паўліны *«Гэткім шчырым каханнем яе атуліў...»* І на гэтым фоне чужародным выглядае падкрэслена ўстаўны цыганскі нумар у кавярні (ці рэстаране), задуманы дзеля прароцтва цыганкі, што ў Купалы не будзе шчасця ні ў жыцці, ні ў каханні. Сам па сабе гэты нумар цікавы, каларытны і пастаўлены з густам, але ніяк не ўпісваецца ў канву спектакля і тым больш не мае ніякага дачынення да характарыстыкі герояў. Ды і сам факт таго, что цыганы раптам увальваюцца ў рэстаран, выглядае дзіўным. Нават у цукерню «Зялёны Штраль» уваход быў далёка не для ўсіх, і гучала там, дарэчы, класічная інструментальная музыка.

У першай дзеі ёсць яшчэ адна кароткая сцэна з гісторыі кахання Купалы і Паўліны. Але калі і дзе гэта адбываецца — загадка для многіх гледачоў. ...У пакой да Купалы, які, лежачы ў ложку, нешта піша, раптам уваходзіць па-зімняму апранутая Паўліна са словамі пра жудасны холад на дварэ. Зусім па-свойску чмокае ў шчаку і прытуляецца да яго, каб адагрэцца… Потым ён пачынае расказваць, як не знаходзіў сабе месца пасля яе адмовы, на што Паўліна адказвае, что цяпер хоча выправіць сваю памылку. І зусім нечакана пачынаецца іх музычны дыялог: *«Давай пажэнімся з табою, Янка, // І будзем разам назаўжды. // Ты можаш быць маёй каханкай, // А жонкай быць не можаш ты».* Такія словы з вуснаў Купалы неяк адразу бянтэжаць… А ў наступных радках ужо гучыць удакладненне: *«Паўліна, я, на жаль, жаніўся // І не магу ўжо быць тваім»,* — як аб нечым зусім будзённым паведамляе ён. А калі нарэшце высвятляецца, хто ж яна — жонка Купалы, то Паўліну гэта быццам толькі здзіўляе: *«Уладка?!..»* Ні смутку, ні горычы, ні болю аб страчаным шчасці… А далей — болей: даведаўшыся, што Уладзя хутка прыйдзе з рынку, Паўліна хуценька збягае… Нейкай ненатуральнай і не зусім этычнай выглядае гэтая сцэна, якая вынікае са зместу п'есы. А тым гледачам, якія ўсё ж захочуць разабрацца, якія падзеі ёй папярэд-

нічалі, трэба будзе ўважліва пагартаць старонкі біяграфіі Купалы і Паўліны. Як ужо адзначалася, пасля закрыцця «Нашай нівы» Купала ад'язджае ў Маскву. Туды ж едзе і Уладзя Станкевічанка. І ў хуткім часе там, у Маскве, яны бяруць шлюб. Адбываецца гэта ў студзені 1916 года. У гэтым жа месяцы Купалу прызываюць у войска. А Паўліна, пабыўшы некаторы час у эвакуацыі, едзе ў Пецярбург, дзе працуе ў Беларускім камітэце дапамогі ахвярам вайны, актыўна займаецца грамадска-палітычнай дзейнасцю, шмат ездзіць па розных гарадах. І ў пачатку 1917 года яна аказваецца ў Полацку, дзе ў дарожна-будаўнічым атрадзе служыць Купала.

У наступны раз яны ўбачацца толькі праз дзевяць гадоў — ужо ў савецкі час, у доме Купалы ў Мінску, куды Паўліну запросіць яго жонка — ужо не Уладка Станкевічанка, а Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, або проста цёця Уладзя, як называюць яе маладыя паэты, якіх яна гасцінна частуе ў рэстаране «Накармі ўсіх» (так Купала дае характарыстыку яе надзвычайнай гасціннасці). У адрозненне ад п'есы, дзе Уладзіслава Францаўна выведзена самалюбівай, уладарнай жанчынай з выбуховым тэмпераментам і вялікай прыхільніцай шумных застолляў, у спектаклі яна паказана сціплай, разважлівай і добразычлівай. Праўда, напачатку гэтай сустрэчы трохі зрывае на Паўліне сваю горыч: *«Доўга не хацеў афармляць шлюб. Жыў са мной, а думаў пра цябе. Чакаў, спадзяваўся, цягнуў...»*, але ў далейшым ставіцца да яе як да блізкага ім чалавека. У гэтай ролі нечакана для многіх паўстала Кацярына Дзегцярова, якую глядач прывык бачыць у вострахарактарных, гратэскавых вобразах. І раптам — псіхалагічная і душэўная пранікнёнасць, пры тым, што ў лібрэта гэты персанаж выпісаны даволі схематычна.

Кніга Мядзёлкі заканчваецца тым перыядам, калі яна ўпершыню ступіла на зямлю Савецкай Беларусі. Аўтарка нават указвае канкрэтную дату: 20 мая 1925 года (дзесьці ў гэты час і адбываецца вышэйзгаданая сцэна). Але дзе яна знаходзілася і чым займалася на працягу дзевяці гадоў пасля апошняй сустрэчы з Купалам, да гледача не даводзіцца. І гэта дае падставы для крытычных водгукаў, што Мядзёлка нечакана то ўрываецца ў жыццё Купалы, то гэтак жа нечакана знікае.

Калі перыяд белапольскай акупацыі Купала перажыў у Мінску, дзе і застаўся надалей, то Мядзёлку ў гэты час лёс кідаў з месца на месца. Яе педагагічная і грамадска-палітычная дзейнасць хутка прыцягнула ўвагу белапольскай дэфензівы: яна была два разы арыштавана — за супрацоўніцтва з беларускім выданнем і за ўдзел у падпольным нацыянальна-вызваленчым руху, сядзела ў турмах у Варшаве і Вронках... Пасля вызвалення яе накіравалі на пражыванне ў Лодзь без права пераезду ва ўсходнім напрамку. Некаторы час знаходзілася ў Берліне, дзе ў выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве працавала над выпускам падручнікаў для беларускіх школ. Пасля па падробленых дакументах перабралася спачатку ў Вільню, потым ў Коўна... Нарэшце ў Латвіі Мядзёлка ўладкавалася на работу ў беларускую гімназію, дзе ёй удалося затрымацца на тры гады. Але зноў — арышт, суд і выдварэнне з Латвіі ў маі 1925 года. Зразумела, усе гэтыя перыпетыі не павінны былі знаходзіць сваё адлюстраванне ў спектаклі, але хоць пункцірна асноўныя з іх варта было б абазначыць, каб глядач у агульных рысах уяўляў сабе асобу галоўнай гераіні і не губляўся ў здагадках.

Пра свой лёс пасля вяртання ў Савецкую Беларусь Паўліна Мядзёлка пісала ў дадатках да кнігі «Сцежкамі жыцця», якія выходзілі пад такой жа назвай у чатырох нумарах «Полымя» за 1993 год. Трэба меркаваць, што драматург карыстаўся гэтымі матэрыяламі, але ў апісваемых ім падзеях усё ж пераважае аўтарскі вымысел ды і проста шмат фантазіі.

Першая дзея заканчваецца тым, што праз некалькі дзён пасля сустрэчы з Паўлінай у сваім доме Купала зноў бачыцца з ёй у горадзе. І зусім нечакана прапануе ёй нешта... кшталту вясельнай вандроўкі. Па выдавецкіх справах ён тыдні на два едзе ў Маскву і запрашае яе паехаць з ім — разам адпачыць на дачы Горкага ў

Падмаскоўі. Гэтая сцэна, пранікнутая светлым шчырым пачуццём, завяршаецца прыгожым дуэтам на верш Купалы *«Абнімі ты мяне, маладая...»,* які належыць да лепшых узораў любоўнай лірыкі паэта.

Другая дзея істотна адрозніваецца ад першай, як ужо адзначалася, прынцыпам пастаноўкі і выразным развіццём музычнай драматургіі. Адразу адчуваецца пераход ад лірычных інтанацый да драматычна-трагедыйных. На першы план выходзіць вострая тэма — паэт і ўлада. Перад гледачом паўстае вобраз Масквы, прасякнутай духам таталітарызму: дэманстрацыі працоўных і маршы ваенных, прапагандысцкія лозунгі, партрэты Сталіна і чырвань сцягоў, якія шугаюць, нібы языкі полымя... І паўсюль снуюць тайныя агенты, што вобразна адлюстравана ў адмысловым балетным нумары, дзе паказваецца, як спраўна нясуць службу бязлікія паслугачы рэжыму, што ў сваёй аднолькавай шэрай апратцы нагадваюць вывадак пацукоў, здольных пранікнуць у любую шчыліну. Наогул, уся другая дзея напоўнена яркім сімвалізмам і метафарычнасцю, што асабліва праяўляецца ў яе харэаграфічным і сцэнаграфічным вырашэнні. Ад першай яна адрозніваецца таксама і добрым тэмпарытмам.

Толькі невялічкая сцэна на пачатку другой дзеі сваёй пастановачнай эстэтыкай і лірычным настроем нагадвае першую: Паўліна і Купала пад раскідзістымі старымі вербамі каля вады цешацца імгненнямі кароткага шчасця. І тут Паўліна заводзіць размову пра самае патаемнае — яна збіраецца стаць маці: *«Хачу, каб са мной заўсёды быў Купала. Калі не вялікі, дык хоць маленькі». — «Сын! Ён зменіць маё жыццё!»* — радасна ўсклiквае паэт. Завяршаецца гэта ідылічная сцэнка музычным нумарам «Калыханка» на вершы Купалы. Але хутка іх размова пераходзіць у новае рэчышча і набывае зусім іншую танальнасць: *«Янка, ты збіраешся да наркама. Хачу цябе папярэдзіць, ты гуляеш з агнём. Як матылёк, ляціш на агеньчык свечкі. Навошта?» — «Хачу зразумець, якім чынам працуе пякельная машына смерці, хто раскручвае кола, Сталін ці наркам...»* Знаходзяцца яны нібыта на дачы ў Горкага, але самога Горкага там няма. Затое туды часта прыязджае наркам, з якім і збіраецца сустрэцца Купала. І ідзе да яго ў страшную непагадзь, пад маланкамі і грымотамі: *«Чаго баяцца? Усё наша жыццё — сярод маланак...»*

У творах на гістарычную тэматыку зусім не абавязкова скрупулёзнае даследаванне фактаў. Але калі яны прыводзяцца, то не павінны скажацца. Зразумела, спектакль не трэба ўспрымаць як ілюстрацыю да гістарычных падзей, галоўнае — каб у ім не было супярэчанняў фактам. І тут гаворка не ідзе пра абмежаванне мастацкага вымыслу і творчай фантазіі, наадварот, з іх дапамогай можна стварыць і каларыт эпохі, і высвеціць яе самыя характэрныя рысы. У другой дзеі гэта якраз і назіраецца: менавіта тэатральнымі сродкамі ствараецца атмасфера сталінізму і рэпрэсій 30-х гадоў (што асабліва выразна праяўляецца ў балетнай і сцэнаграфічнай лініях спектакля). Але што датычыць канкрэтных падзей той пары і вядомых фактаў з біяграфіі Купалы і Мядзёлкі, то ў п’есе яны блытаюцца. І справа зусім не ў тым, што па ходзе дзеяння паказваюцца калізіі, якіх ніколі не было, а ў тым, што не паказваюцца тыя, якія былі. Сапраўдная ж моц аўтарскага вымыслу заключаецца не ў падмене рэальных фактаў, а наадварот — у іх большай акцэнтоўцы.

І тут трэба звярнуцца да тэксту п’есы. У 1925 годзе, пасля доўгай разлукі, Паўліна бачыцца з Купалам у яго доме ў Мінску. У аўтарскіх рэмарках указваецца, што праз некалькі дзён пасля гэтага яны сустракаюцца ўжо ў горадзе. І менавіта ў час гэтай сустрэчы дамаўляюцца пра паездку ў Маскву: *«З Сарэнта вярнуўся Горкі. Я сустракаў яго ў Негарэлым...»,* — і далей Купала расказвае аб запрашэнні Горкага пагасціць у яго на дачы ў Падмаскоўі. Але ж вядома, што ў першы раз пасля працяглай эміграцыі Горкі прыехаў у СССР у маі 1928 года (указваецца не толькі дата, але і дакладны час, калі цягнік спыніўся на першай савецкай станцыі Негарэлае, дзе з вялікімі ўрачыстасцямі сустракалі пісьменніка). А далей па

тэксце п’есы надараюцца яшчэ большыя нестыкоўкі, і ў выніку атрымліваецца, што падзеі, якія здараліся ў розныя гады і ў розных месцах, адбываюцца ў час знаходжання Купалы і Мядзёлкі на дачы Горкага.

Самым драматычным для іх абаіх быў 1930 год, калі рэпрэсіі ў Беларусі набылі сістэматычны характар. У рамках барацьбы з так званай нацдэмаўшчынай была сфальсіфікавана палітычна-крымінальная справа «Саюза вызвалення Беларусі», па якой у першай палове года было арыштавана звыш ста дзеячаў беларускай навукі і культуры. Паўліна Вінцэнтаўна ў гэты час працавала на кафедры беларусазнаўства Беларускай акадэміі сельскай і лясной гаспадаркі ў Горках. Маючы вялікія праблемы са здароўем, яна адразу пасля заканчэння навучальнага года выехала на лячэнне ў Маскву, дзе і была арыштавана органамі Дзяржаўнага палітычнага ўпраўлення (ДПУ). Арышт адбыўся ноччу на кватэры сяброўкі Паўліны Вінцэнтаўны, дзе яна часова спынілася. Аб гэтым Мядзёлка падрабязна піша ў дадатках да сваёй кнігі.

У спектаклі ёсць кароткі эпізод яе арышту, які здараецца на дачы Горкага. Пабачыўшы, як небяспечна ў Маскве, Паўліна просіць Купалу вяртацца дамоў. Але ён яшчэ не закончыў свае справы і прапануе ёй ехаць адной: *«Дома неяк больш бяспечна». — «Буду з табой. Калі ўжо лёс падарыў мне гэтыя дні, хачу выпіць асалоду да кроплі. У моры шаленства мы з табой — астравок пяшчоты і цяпла».* І тут у пакой уваходзіць лейтэнант НКУС: *«Павлина Медёлка? Вы арестованы».*

А ў наступнай сцэне глядач бачыць Купалу і Мядзёлку ўжо праз гады. Паміж імі проста адбываецца дыялог, заснаваны на ўспамінах пра той страшны 1930 год. *«Раней здавалася, што самае жахлівае ў маім жыцці — польская дэфензіва. Але тое, што адбывалася ў Бутырцы, на Лубянцы! Вось там сапраўднае пекла! Кожную ноч — допыты, з вечара да раніцы!.. Канвеер следчых!.. Калі непрытомнела, аблівалі вадой. Скінула дзіця на пятым месяцы… Потым у мяне пачаліся псіхічныя парушэнні. Адправілі ў Казань, у вар’ятню».* Асабліва шчымліва ў гэтай сцэне гучыць музычны нумар на верш Купалы, які быў напісаны ім пасля арышту Паўліны: *«Снілася дзяўчыне // Квяцістае поле, // А наяве выйшла — // Палыны, гуголле…»* У спектаклі апушчана, што праз дзесяць сутак пасля арышту Паўліну перавезлі ў Мінск, дзе памясцілі ў падвале будынка ДПУ, потым перавялі ў сумна вядомую «амерыканку». А калі яна нарэшце аказалася ў агульнай камеры, то яе *«аглушылі страшнай навіной: Янка Купала спрабаваў пакончыць самагубствам — два разы ўсадзіў востры нож у сваю печань»* (так піша Мядзёлка ў сваіх успамінах). Пасля дзесяці месяцаў зняволення Паўліну з Мінска пераправілі ў Казань, дзе яе высылка сумяшчалася з лячэннем у псіхіятрычнай бальніцы.

У гэтай жа сцэне, працягваючы дыялог, Паўліна распытвае Купалу: *«Што гэта за гісторыя з нажом, ударам у жывот?..»* І ён вельмі коратка расказвае пра допыты ў ДПУ, пра абвінавачванні ў нацыяналізме і прыналежнасці да контррэвалюцыйнай арганізацыі: *«Трэсла і залівала ўсю краіну. Не пайшоў на другі допыт. Нож у жывот — гэта быў мой пратэст!..»* Далей ён упамінае пра пакаянны ліст, які вымушаны быў падпісаць, і ў скрусе прамаўляе: *«І пасля яго Купала скончыўся…»*

І тут хочацца адзначыць наступнае: галоўная прыкмета драматургіі — дзеянне, але ў гэтай сцэне яго няма і аб падзеях проста расказваецца — як у апавяданні. Таму поўнае драматызму жыццё Купалы ў гэтыя гады гледачамі ўспрымаецца як бы пункцірна, без акцэнтаў на самых значных яго момантах. У п’есе, таксама як і ў спектаклі, акцэнт робіцца на іншым — на імкненні Купалы зразумець, якім чынам працуе пякельная машына смерці і на яго спробе заступіцца за рэпрэсіраваных пісьменнікаў. І тут прымяняюцца шматлікія дапушчэнні падзей і фактаў, а бліжэй да фіналу — містычнае перапляценне сапраўднага з уяўным. Прыём сам па сабе цікавы, але, на жаль, не самадастатковы. Галоўная яго праблема заключаецца ў тым, што не знойдзены баланс паміж вымыслам і фактамі, якія здольныя



*Фінальная сцэна спектакля «Жыццё і смерць Янкі Купалы».*

разбурыць гэтую канструкцыю. Напрыклад, абсалютна нармальна ўспрымаецца, што на дачы ў Горкага (якая пераўтвараецца ў службовы кабінет) Купала сустракаецца з наркамам, а потым нават і са Сталіным, хоць у сапраўднасці гэтага ніколі не было. Ніякага адмаўлення не выклікае і такі сцэнічны ход, калі Купала размаўляе адразу з двума Сталінамі, якія з'яўляюцца незразумела адкуль пасля яго слоў *«Мне б са Сталіным сустрэцца!»* (так падкрэсліваецца ўсюдыіснасць правадыра). Але на гэтым фоне адбываюцца абсалютна рэальныя знакавыя падзеі, месца і час якіх дакладна вядомы (напрыклад, арышт Мядзёлкі). Толькі адзін гэты факт сведчыць аб тым, што ўсе падзеі адбываюцца ў 1930 годзе. У такім выпадку, у дзеянні не павінна быць ні першага наркама, ні тым больш другога (з якім Купала сустракаецца там жа крыху пазней), бо у гэты час яшчэ не было Народнага камісарыята ўнутраных спраў СССР (ён быў створаны ў 1934 годзе). Мядзёлку арыштоўвалі супрацоўнікі ДПУ (яна сама пра гэта піша) і Купалу дапытвалі таксама яны. У п'есе наркамы нават персаніфікаваны: Ягода і Яжоў (першы займаў гэтую пасаду з 1934 года, другі — з 1936-га). У лібрэта ўжо ўзніклі больш асцярожныя азначэнні: наркам першы, наркам другі. Гэта згладжвае храналагічныя нестыкоўкі на ўзроўні глядацкага ўспрымання, але не здымае іх. Таму яшчэ раз хочацца падкрэсліць: розныя дапушчэнні і містыфікацыі могуць мець месца тады, калі яны лагічна ўпісваюцца ў гістарычны кантэкст.

Тым не менш, дыялогі Купалы і з першым наркамам, і з другім адлюстроўваюць сутнасць сталінскіх рэпрэсій у дачыненні да Беларусі. *«Первые стихи — на польском. Шляхтич, католик. Значит, поляк?»* — пытаецца першы наркам, гуляючы з Купалам у шахматы. — *«Мы ні польскія, ні рускія. Мы — беларусы, нашчадкі Вялікага Княства Літоўскага»*. — *«Вот как! А я полагал, что вы — советские...»* Другі наркам выказвае занепакоенасць адносна скіраванасці творчасці Паэта: *«Почему ваши стихи советского периода слабее дореволюционных?»* А пра маштаб рэпрэсій сведчыць дыялог з самім Сталіным: *«Говорят, вроде писать перестали. Неужели до революции условия были лучше, чем при советской власти? Или чем-то недовольны? Вы же знаете, как советская власть поступает*

*с недовольными». — «Але ж я, Іосіф Вісарыёнавіч… Я толькі пра рэпрэсіраваных пісьменнікаў хацеў сказаць…»*

Атмасферу рэпрэсій падкрэслівае і вобраз Лукаша Бэндэ — вульгарна-сацыялагічнага крытыка, які па заданні органаў вышуквае крамолу на Купалу. Чыста тэатральным прыёмам паказваецца, як машына смерці пажырае сама сябе: не паспеў Купала агледзецца, як на месцы першага наркама ўжо сядзіць другі. І надзвычай выразным на гэтым фоне выглядае балетны нумар — танец лейтэнантаўнкусаўцаў з жонкамі рэпрэсіраваных, якія любой цаной спрабуюць выратаваць сваіх мужоў, не ведаючы, што ўжо — удовы…

Наступны храналагічны скачок пераносіць дзеянне ў 1941 год. Хор дае тлумачэнне, што Купалу з жонкай удалося на машыне пад бамбёжкамі вырвацца з палаючага Мінска і дабрацца да Масквы. Яны часова размясціліся ў гасцініцы, дзе іх праездам наведала Паўліна (на самай справе яна пасля высылкі жыла і працавала ў Маскве). Гэта была іх апошняя сустрэча.

Апускаецца знаходжанне Купалы ў эвакуацыі пад Казанню і яго тэрміновы выклік у чэрвені 1942 года ў Маскву. Адразу ствараецца атмасфера фатальнай падзеі. Над сцэнай разносяцца водгукі афіцыйных паведамленняў: *«28 чэрвеня 1942 года, 22 гадзіны 30 хвілін. Гасцініца «Масква». Дзясяты паверх. Лесвіца.»* І ўслед як бы ад імя ўсіх суайчыннікаў гучаць словы сучаснага паэта: *«Другі ваенны год. // Ахвярны год, гаротны. // У лесвічны пралёт // Ляціць паэт народны… // Цяпер за ім глядзець // Не трэба ставіць варту. // Загадкай стала смерць, // І нам яе разгадваць».*

Фінал спектакля атрымаўся надзвычай сімвалічным і моцным. Як ужо адзначалася, у ім гучыць рэквіем і купалаўская «Малітва», прадумана задзейнічаны хор і балет, з якога вылучаецца анёлападобны вобраз дзяўчынкі-долі, які можна трактаваць і як душу Паэта, і як светлы вобраз Радзімы. Асобна трэба сказаць пра сцэнаграфічнае вырашэнне фінальнай сцэны і спектакля ў цэлым. Мастак-пастаноўшчык Ілья Падкапаеў галоўным сімвалам спектакля зрабіў вянок, які з купальскага ператвараецца ў цярновы вянец Паэта. Прадметы інтэр’ера вельмі лаканічныя і выкарыстоўваюцца мінімалістычна. Уся сцэнаграфічная нагрузка перакладваецца на вобразна-дакументальную відэапраекцыю. Выява вянка на праекцыі пераплятаецца з сімвалічнай выявай часу — маятнікам, што ўжо ўспрымаецца як ход жыцця і адначасова напамінае пра маладыя гады Купалы і Паўліны, якія цешыліся падораным пасля прэм’еры «Паўлінкі» гадзіннікам… У фінале бег зямнога часу ўліваецца ў касмічную прастору, з якой выплывае планета Зямля, па ёй крочыць Паэт з кнігай у руцэ — такія яркія асацыяцыі выклікае праекцыя вядомай карціны Міхаіла Савіцкага. Дзякуючы гэтаму вобраз Купалы набывае незвычайную велічнасць — ён ужо належыць не толькі Беларусі, але і ўсяму свету.

***Фота Сяргея ЧЫГІРА.***



**Алена ГЕ**

# ВІЦЕБСК: ГОРАД У КОЛЕРАХ

*Жывапісныя пленэры, прысвечаныя Марку Шагалу, пачалі праводзіць у Віцебску неўзабаве пасля адкрыцця музея мастака. Але, на жаль, традыцыя мела 19-гадовы перапынак у сваёй гісторыі. І вось пленэры вярнуліся ў горад над Дзвіной…*

I і II Міжнародныя Шагалаўскія пленэры прайшлі ў Віцебску ў 1994 і 1997 гадах. Першы аб'яднаў 37 мастакоў з дзевяці краін, і яго вынікі мусілі паўплываць на фарміраванне гарадской калекцыі твораў сучаснага мастацтва (Віцебскага цэнтра сучаснага мастацтва тады яшчэ не існавала). У другім пленэры, прысвечаным 110-годдзю Марка Шагала, прынялі ўдзел 27 мастакоў з дзесяці краін.

III Шагалаўскі пленэр быў арганізаваны толькі ў 2016 годзе, ён прысвячаўся 25-годдзю стварэння Музея Марка Шагала ў Віцебску. Арганізатары — Музей Марка Шагала і аддзел культуры Віцебскага гарвыканкама — ставілі перад сабой мэту: адрадзіць традыцыю, якая развівае міжнародныя мастацкія кантакты, ушаноўвае і папулярызуе спадчыну мастака, а таксама папаўняе калекцыю музея работамі беларускіх і замежных мастакоў.

Адноўленыя пленэры маюць крыху іншы фармат. Напрыклад, збіраюць менш удзельнікаў. І гэта акалічнасць ні ў якім разе не з'яўляецца негатыўнай зменай, бо стварае цеснае кола зносін, абмену вопытам і магчымасць знаёмства з творчым метадам кожнага мастака. Выніковая выстава страціла свой конкурсны характар. Цяпер гэта, хутчэй, роздум на тэму сучаснага жывапісу, розных сэнсаў, якія ўкладаюць мастакі ў само паняцце «праца на пленэры»: для кагосьці гэта праца з натурай, стварэнне работ на аснове папярэдніх эцюдаў, для некага — трансфармацыя натуры, для іншых — цалкам адцягненая ад натуры праца са сваімі ўнутранымі станамі і ўвасабленне асабістага ды/або калектыўнага вопыту ў мастацкія формы.

Летам 2018-га чацвёрты пленэр сабраў у Віцебску 11 мастакоў з васьмі краін (Беларусь, Германія, Ізраіль, Латвія, Нідэрланды, Расія, Румынія, Украіна). Як і заўсёды ў працэсе пленэру творцы мелі поўную мастацкую свабоду, адзінымі межамі былі толькі межы самога віду мастацтва — жывапісу.

Безумоўна, жывапіс як традыцыйны від мастацтва, зведаў значныя змены за апошнія дзесяцігоддзі. Даследчыкі лічаць тэндэнцыю ўжывання складаных камбінаваных тэхнік, якія ўключаюць жывапіс, фатаграфію, калаж, тыповай для сітуацыі канца XX — пачатку XXI стагоддзя, эпохі адраджэння цікавасці да жывапісу. На пленэры мастакі даследуюць умовы, звязаныя з сучаснай маляўнічай практыкай. Плюралізм падыходаў да сённяшняга стану жывапісу, рознае стаўленне да фігуратыўнасці і абстракцыі дазваляе стварыць дыялог паміж традыцыйным жывапісам і пашыранай практыкай, якая ўключае камбінаваныя тэхнікі.

Актыўна выкарыстоўвае спалучэнне розных тэхнік мастачка з Латвіі *Анцэ Грыцмане*. У сваёй творчасці, а таксама ў навуковых даследаваннях, Грыцмане цікавіцца сінэстэзіяй — еднасцю і ўзаемадзеяннем розных відаў мастацтва. Яна супрацоўнічае з сучаснымі кампазітарамі, натхняецца музыкай, танцам, сакраль-



*Анатоль Жураўлёў. «Далягляды».*

ным мастацтвам, уводзячы ў шматпластавы жывапіс знакі, элементы калажу, цытаты з розных узроўняў культурнага тэксту. Мастачка характарызуе свае карціны як «спалучэнне музычнага рытму і гучання колеру». Абстрактны жывапіс, згодна з яе меркаваннем, «падобны да люстэрка, дзе вы сустракаеце сваю ўласную душу». У дыптыху, створаным на пленэры, Анцэ Грыцмане цытуе Марка Шагала, выкарыстоўваючы вобраз скрыжаляў Запавету, пры гэтым змяшчае іх не толькі ў новы кантэкст, але і надае ім абсалютна іншае фармальнае гучанне з дапамогай аўтарскіх тэхнік. Трансфармуючы вобразы, мастачка паслядоўна (хоць і выкарыстоўвае прыёмы ў чымсьці блізкія дэканструкцыі) узнаўляе, адраджае аўру міфа, адлюстроўваючы свой філасофскі светапогляд.

Рытм стварае вобраз часу і прасторы ў працах *Анатоля Жураўлёва* (Беларусь). У серыі «Далягляды» канкрэтыка прыродных рэалій шмат у чым абстрагуецца, ачышчаючыся ад залішніх дэталяў, знаходзячы тым самым узнёслую адлучанасць і спецыфічны касмізм. Актыўны каларыт надае ўмоўным краявідам, што выклікаюць адчуванне бясконцасці, пачуццё эмацыйнай персанальнасці. Па словах мастака, «жывапіс — гэта паглыбленне ва ўнутраны стан, звязанае з сузіраннем сапраўды існуючага свету ў яго натуральнай прыгажосці, што дазваляе ствараць суб’ектыўныя, «ідэалізаваныя» вобразы, якія становяцца не менш рэальнымі, чым сама аб’ектыўная рэальнасць».

*Рэнэ дэ Розэ* (Нідэрланды) таксама аддае перавагу серыйнасці перад адзінкавымі выказваннямі. Ён выкарыстоўвае метад выпадковасці для стварэння серыі «Galaxis Coincidentia», прасторы работ у якой запоўнены шматлікімі пластамі актыўнага, экспрэсіўнага абстрактнага жывапісу. З пункту погляду Рэнэ дэ Розэ, «…свядомы адыход ад канцэпцый можа падацца дзіўным, але вельмі прадуктыўным у сучаснай мастацкай сітуацыі, у якой робіцца акцэнт на распрацоўцы канцэпцый».

Асаблівую атмасферу жыцця мастака, не мітуслівую, персанальную, называе крыніцай творчасці *Алег Ладзісаў* (Беларусь). Яго беспрадметныя жывапісныя працы пабудаваныя на далікатных адносінах нюансаў колеру і святла. Яны як



*Вольга Кузняцова. «Над Віцебскам».*

быццам бы накіроўваюць гледача на свой тон і рытм. Адчуваеш настрой, пра які кажа мастак: «Цішыня, няспешнасць пражывання, нежаданне выходзіць за межы створанага табой свету атаясамліваюцца з багаццем, што недаступна для іншых, і з кожным адыходзячым днём развітваешся з пачуццём лёгкага смутку».

Камбінаванне тэхнік традыцыйнага жывапісу з аэразольнымі фарбамі ў працах *Беатэ Гардзінг-Шуберт* (Германія), дазваляе гледачу пагрузіцца ў сюррэалістычныя прасторы ззяючых колераў. Графічны характар выявам знакавых вобразаў горада ў дыптыху «Назаўжды ў маім сэрцы» надае выкарыстанне акварэльных алоўкаў. У атуляючых гэтыя выявы прасторах шмат святла, што адлюстроўвае пазітыўны светапогляд. «Мэта маёй працы — з'яўляцца носьбітам надзеі... Мастацтва для мяне, згодна з філасофіяй Эрнста Блоха, пераадольвае рэчаіснасць, якая сціскае і палохае, і стварае зусім новую, цалкам незалежную форму рэальнасці», — адзначае мастачка.

*Тарыел Дзямчынскі* (Ізраіль) паспяхова працуе не толькі ў жывапісе, але і ў скульптуры. Як для жывапісца, для яго характэрныя фармальныя пошукі, праца з абстрактнай кампазіцыяй. У жывапісных работах, створаных на пленэры, Тарыел Дзямчынскі спалучае фігуратыўнасць — лёгка пазнавальныя, яскравыя вобразы Віцебска — з фармальнымі прыёмамі, аўтарскімі тэхнікамі працы з фарбай. Прыём «рашотка» ў гэтых работах, насуперак мадэрнісцкім уяўленням, не азначае канец наратыву, але хутчэй нейкую новую якасць прасторы.

Жывапіс *Мар'яны Абрамавай* (Украіна) спалучае відавочную дэкаратыўнасць з сацыяльна-філасофскім кірункам. Плоскасная, стылізаваная выява, яркі дэкаратыўны каларыт; але напружаны настрой, серыйнасць, тыражаванне стылізаванай выявы чалавека выклікае думкі пра асобу ў грамадстве. «У сваім жывапісе я імкнуся знайсці сімвалічны код часу, эксперыментую з колерам і фактурай, адгукаючыся на хуткія змены рэалій, убіраючы і фільтруючы шумы сучаснага соцыуму. Мастацтва — магутны інструмент зносін, які дазваляе разбураць бар'еры стэрэатыпаў. Гэта тэрыторыя свабоды і праўды», — каментуе сваю пазіцыю Мар'яна Абрамава, якая таксама з'яўляецца арганізатаркай Міжнароднага пленэру «Палітра свабоды».

Для *Алёны Драздовай* (Расія) «жывапіс — гэта, перш за ўсё, колер, дзе дэталі становяцца не такімі важнымі, формы спрашчаюцца, узнікае нейкая маляўнічая стыхія, у якой ёсць асаблівае жыццё, што адрозніваецца ад натуры, але перадае адчуванне ад убачанага». Моцны, пастозны характар жывапісу, абагульненне, гульня з плямамі колеру і святла ператвараюць працу з натурай у асобнае творчае дзейства і нараджаюць незалежны вобраз.

*Вольга Кузняцова* (Беларусь) прадэманстравала на пленэры шлях ад стварэння свабодных, лёгкіх, як спыненыя імгненні, эцюдаў да творчых работ, дзе фігуратыўнасць іх элементаў не абумоўлівае рэалізму іх сутнасці. Карціны робяць уражанне тапаграфіі нейкай краіны святла, рытму і колераў. «Я пішу так, каб атрымліваць радасць ад працы з колерам, формай. Стан прыроды ляжыць у аснове каляровага рашэння. Святло, якое ідзе ад сонца, дорыць цяпло, і жывапіс абуджае цяпло душы. Жывапіс нараджаецца ў цішыні. Жывапіс — гэта разважанне і сузіранне», — кажа мастачка.

Вобразы прыроды ў працах *Аляксандра Доласава* (Расія), нібыта сатканы з колераў на кроснах святла, носяць звышнатуральны характар. Аднак лірычны наратыў краявідаў вяртае гледача да рэальнасці, прэзентаванай праз суб'ектыўнае, цёплае ўспрыманне. Творчая пазіцыя мастака заснавана на любові да ўсяго існага: «Каханне — гэта тое, што азарае і саграввае наша жыццё. Калі мастаку ўдалося адлюстраваць у карціне хоць маленькі водбліск гэтага святла, то гэта добрая карціна».

*Міхай Кіселіцэ* (Румынія) прадставіў на выніковую выставу вялікую акадэмічную работу, на якой Віцебск паўстае, напэўна, такім, якім — будзь ён не горадам, а чалавекам — хацеў бы выглядаць у вачах гасцей і важных асоб. І таксама працы невялікага фармату, дзе Віцебск — горад-сябра, блізкі, жывы, гуляючы з фрагментамі свайго радаснага існавання. Такі горад, мог бы паўтарыць словы свайго аўтара: «Люблю жыццё ў колерах. Люблю марыць і ствараць...»

Мастакі працавалі ў імправізаваных майстэрнях залаў Арт-прасторы «Талстога, 7», тыя з іх, хто стваралі эцюды, выходзілі на натуру ў маляўнічыя куточкі старога Віцебска. Таксама яны бралі ўдзел у мерапрыемствах культурнай праграмы: экскурсіях, сустрэчах; кантактавалі з віцебскімі калегамі. У Віцебску ўдзельнікі пленэру пабачылі Дом-музей Марка Шагала, а таксама пазнаёміліся з выставамі графікі ў Шагалаўскім Арт-цэнтры. Яны любаваліся горадам з вежы ратушы, наведалі Віцебскі абласны мастацкі музей (у прыватнасці экспазіцыю Юдэля Пэна, экспазіцыю залы беларускага мастацтва), Музей Віцебскай народнай мастацкай вучэльні, віцебскую сінагогу. Мастакі пабывалі ў Лёзне, на радзіме продкаў Шагала, у Полацку.

Такім чынам, падчас пленэру, прысвечанага Марку Шагалу, мастакі з розных краін прыадчынілі для сябе гістарычны і культурны кантэкст, з якога паўстала творчасць вялікага мастака, сучасныя кандыцыі і трагічныя старонкі гісторыі беларускага яўрэйства, стан беларускай культуры і мовы, сучаснае беларускае мастацтва. Гэта адбывалася праз экскурсіі, наведванне выстаў, галерэй, гутаркі з віцебскімі мастакамі і супрацоўнікамі музея, праз нечаканыя знаёмствы з жыхарамі горада.  Новыя ўражанні мастакі ўключылі ў сваё даследаванне жывапісу як сістэмы, якая ўпарадкоўвае, інтэрпрэтуе, перакладае на пластычную мову гісторыю і вопыт.

Такім чынам, у прафесійным плане, пленэр распачаў цікавую спробу стварэння ўласнага мікрааповеду, у якім жывапіс у «эпоху постмедыяльнасці» працягвае існаваць на ўласных умовах. І, як заўсёды, найбольш каштоўнымі сталі персанальныя адкрыцці свайго ўнутранага свету і ўнутранага свету «іншага». Як пісаў Марк Шагал: «Сапраўды, недзе ўнутры кожнага з нас крыецца страх перад нараджэннем і смерцю, нянавісцю і нават каханнем. Мы часта звяртаемся да сапраўдных, вечных твораў мастацтва, каб адгадаць па ім наш уласны лёс».

***Фота Алёны Драздовай.***

Юлія АЛЕЙЧАНКА

# КРОПКІ ЛЁСУ




*Ніна ЛІСТОТА*

**КАХАННІ**

*Мн., Кнігазбор, 2017.*

Стылёвае папяровае сэрцайка на вокладцы ды назва добра прадуманая, іранічна-папсовая (нешта кшталту «Апавяданняў» Міхаіла Сегала) — большасць наведвальнікаў кнігарні пацягнуцца. Дэбютная празаічная кніга Ніны Лістоты — спроба правесці чытача «не толькі ў мастацкі свет, але і нібыта ў рэаліці-шоу». Гэта дваццаць гісторый рэальных людзей, часам смешных, часам абсурдных, часам пасапраўднаму сумных.

Мастакі, тэатралы, музыкі, прадпрымальнікі, працоўныя харчовага камбіната… Героі зборніка — людзі досыць розныя. Як і матывы іх паводзін. Малады хлопец абірае жанчыну з процьмай праблем ды дзяцей, дзяўчына збягае ад заможных бацькоў у пошуках сапраўдных сямейных каштоўнасцей, прыгажуня не можа пакінуць мужа-гуляку, маладых закаханых бацькі прымушаюць падаць на развод… Даўно заўважана, што менавіта тое, што падаецца найменш верагодным — і ёсць праўда. Тым больш, што ў гісторыях зборніка так шмат «пазлаў» нашай паўсядзённасці. Урбаністычныя пейзажы, інтэр'еры кавярняў, гукі музыкі і пахі гарбаты. Зрэдку дэталёвасць у прозе падаецца нават залішняй, не матываванай… Але аўтарка, відавочна, мае асаблівыя адносіны да свету рэчаў. Яскравую індывідуальнасць сваёй гераіні з апавядання «Дзяўчына спявала ў царкоўным хоры» пісьменніца раскрывае пры дапамозе падрабязнага апісання адзення: «Вета саскочыла з падаконніка. На крэмавую сукенку яна накінула белы плецены кардыган. Нацягнула на ногі светлыя валёначкі з вышыўкай, на абцасах. Наверх апранула куртку з каляровым эльфійскім капюшонам, аздобленую карункамі, — усё незвычайнае, як яна сама». Атмасферу ў сям'і — праз начынне жытла: «…Неяк я жыла ў кватэры Лесі і Кірыла, пакуль яны ўсёй сям'ёй з'ехалі на адпачынак у Чарнагорыю. Даглядала котку, палівала лімон, карміла рыбку. Слухала David Arkenstone і казкі Андэрсена на CD-прайгравальніку ў кухні. Чытала савецкія літаратурныя часопісы, якія вялікім стосам ляжалі на прыгожых паліцах з чырвонага дрэва».

Насычаны колеравы код кнігі. Фіялетавае мора чарніц, сіняе зорнае неба, смарагдавая зеляніна, залатое ранішняе свячэнне над гарадскімі высотка-

мі. Карціна як бы наўмысна напісаная менавіта чыстымі фарбамі, амаль без паўтонаў. Можа таму, што і развіццё падзей у апавяданнях кнігі часта рэзкае, нечаканае…

Несумненным дасягненнем Ніны Лістоты бачыцца ўменне стварэння прыцягальных, арыгінальных завязак гісторый. «Пачало закручвацца яно ў той час, калі ўсе мы ўдавалі з сябе малекул, якія змяніліся пасля чарнобыльскай катастрофы. Бязважкія, распластаныя ў прасторы. Пазбаўленыя гравітацыі. Часам мянялі аблічча на кроплі дажджу Фукусімы. Нібы наліваліся нуклідамі. Апускалі ўніз галаву і рукі. Усё ўнутры пералівалася, перакатвалася з боку ў бок. Расслабленасць. Нішто не стрымлівала ў звыклых межах адчуванняў. Малекула, кропля Фукусімы», — так метафізічна, абстрактна падсвечваецца гісторыя рамана сярод дэкарацый эксперыментальнага тэатра… Аповеды кнігі часцяком пачынаюцца і як будзённыя размовы. У цягніку, на масажным стале, на кухні здымнай кватэры. Мы здольныя дзяліцца самым шчырым і балючым з незнаёмымі. Так прасцей… Адметныя і партрэты, лакацыі, дыялогі апавяданняў. Запамінальныя вобразы-сімвалы: веташок у цёмным небе, купальскае вогнішча, музычны куфэрак, крывое люстэрка. Што цікава, удаецца аўтарцы па-філасофску перадаць і светаадчуванне сучаснае, і подых мінулай, савецкай эпохі: «…краіна сяброў. Няма межаў, няма перашкодаў братэрству. <…> Ляці, куды хочаш, вольная птушка. І не сумуй па сваім гняздзе. А вы, што засталіся, і не думайце смуткаваць па тых, каго выправілі з утульнага дома ў чужы свет. Яны не пералётныя. Яны не вернуцца».

Аднак часам сустракаюцца выпадкі штучнай вобразнасці, па-мастацку не абумоўленых параўнанняў: «Я зірнула ўгару. Неверагодна стройныя сосны кружылі галаву. Можна было б пазайздросціць іх танклявасці. Ды я з фігурай таксама не мела праблемаў». Як і выпадкі павярхоўнай прамалёўкі сюжэта: «Ён першым прамовіў запаветнае “кахаю”. Яна адказала тым жа. Неўзабаве згулялі вяселле. Сэрца мастачкі атрымала прытулак, а ў душы інжынера з’явіўся новы палёт».

Дзевятнаццаць апавяданняў зборніка кропкава адзначаюць на карце лёсу адметныя чалавечыя гісторыі. А вось дваццатае, заключнае, закранае і гісторыю краіны, змену культурных парадыгмаў. Найбольш эпічнае маштабнае апавяданне «Як прыручыць багемнага мастака» — крыху і пра фармаванне нашай агульнай нацыянальнай ідэі, якая жыве нячутна ў кожным яшчэ да нараджэння: «Кажуць, што перадаецца гэта з крывёю. Ты, што з’явіўся на свет у палёх пасярод чабору, ці між заечай капусты ў хваёвым лесе, ці дзесьці блізу чыгуначных рэек на ўскрайку спальнага раёна, ужо маеш адмысловы код. Толькі ён не актываваны да часу».

«Каханні» Ніны Лістоты — цікавая стракатая галерэя. Кніга патрэбная часу, бо мае самыя яўныя яго прыкметы. Жыццё папярэдніх пакаленняў і жыццё сучаснай моладзі паказана даволі аб’ёмна, каб скласці ўражанне. Гэта вынік журналісцкай уважлівасці і мастацкага пераасэнсавання. Вы гутарылі неяк з Нінай? Калі так — то і ваша гісторыя магла патрапіць пад кніжную вокладку.



